УДК 821.161.3-3
ББК 64(4Беи)
С11

**Сцебурака, У.**
С11 Сцебуракаў лёс : гісторыя роду / Усевалад Сцебурака, Анатоль Сцебурака. — Мінск : Кнігазбор, 2022. — 300 с.
ISBN 978-985-883-046-5.

Кніга «Сцебуракаў лёс» — летапіс роду праз прызму ўспамінаў і гісторыі паўсядзённасці. Асноўная ўвага нададзеная падзеям другой паловы XIX — сярэдзіны XX стагоддзя. Выданне прадстаўляе сабой спалучэнне мастацкай літаратуры і гістарычнага даследавання, утрымлівае цікавыя архіўныя і фотаматэрыялы. У кнізе асвятляюцца знакавыя падзеі гісторыі Беларусі гэтага перыяду, якія дапаўняюцца краязнаўчымі і этнаграфічнымі звесткамі.

Прызначаецца для шырокага кола чытачоў, а таксама для знаўцаў і аматараў гісторыі.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(Беи)**

**ISBN 978-985-886-046-5**



# Ад аўтараў

Кніга, якую вы трымаеце ў руках, складаецца з дзвюх частак. У першай частцы занатаваная вусная гісторыя нашага роду. Яна грунтуецца на ўспамінах і ўражаннях дзеда Анатоля і бацькі Міколы Сцебуракаў.

У другой частцы падаюцца навуковыя росшукі адносна таго кавалка сямейнай гісторыі, які не захавала памяць, але які па драбніцах удалося сабраць падчас працы ў архівах Вільні, Менска, Гародні, Кракава, Варшавы, Санкт-Пецярбурга. Яна дапаўняе першую частку адкрыццямі і фактамі, што дадаюць гэтай кнізе элемент даследчы і навуковы.

Такім чынам, на старонках кнігі разгортваецца гісторыя працягласцю ў некалькі стагоддзяў, дзе сцэны сусветнага маштабу адцяняюцца дробнымі здарэннямі мястэчковага значэння, дзе лёсы нашых сямейнікаў сплятаюцца з лёсамі краінаў, дзе на нашых палетках пакідаюць сляды сваіх ботаў войскі розных дзяржаваў і эканамічныя парадкі розных сістэмаў, дзе ўлады змяняюцца з калейдаскапічнай хуткасцю, іншымі словамі — доўгая гісторыя, у якой насуперак усяму жыў і выжываў беларус.

Аўтары выказваюць шчырую падзяку:

Дзянісу Лісейчыкаву, Алесю Казакову, Міколу Волкаву, Алёне Любай, Алесю Радзюку, Сяргею Грынцэвічу, Уладзіславу Паморскаму, Сяргею Касмачу, Зміцеру Юркевічу, Андрэю Каркотку — за неацэнную дапамогу і сяброўскае спрыянне ў архіўных росшуках; Эдварду Зайкоўскаму і Андрэю Прохараву — за падказкі ў расшыфроўцы прозвішча; Міхасю Казлоўскаму — за каштоўную і эксклюзіўную інфармацыю; Сяргею Макарэвічу — за супрацу ў «Вілейскім павеце»; Міхасю Куляшу — за рэстаўрацыю старых здымкаў; Вользе Вінаградскай — за працу з фотаархівам; Веры Сцебурака — за працы па дызайне; Алесю Пашкевічу і Барысу Пятровічу — за спрыянне і дапамогу ў канчатковай рэалізацыі задуманага; Ірыне Сцебурака — за парады і цярпенне.






*Раздзел I*

# У Вялікім Княстве і Расейскай імперыі

## Пачатак

Гісторыя нашага роду пачынаецца ў далёкіх 1730-х гадах, калі першы вядомы прадстаўнік нашага роду Пракоп Сцебурака (Шчэберака) упершыню згадваецца ў архіўных дакументах.

У тыя далёкія часы Шчэберакі жылі ва ўступах Іжанскай пушчы*, што ўваходзіла разам з іншымі абшарамі ва ўладанні князёў Агінскіх. Зараз гэта тэрыторыя Смургонскага, Вялейскага і Мядзельскага раёнаў.

Звесткі пра іх побыт у тыя гады зусім нешматлікія, аднак нам дакладна вядома, што Сцебуракі і за часамі Аўгуста III Саса** былі людзьмі асабіста вольнымі, карысталіся зямлёй на асадным праве, а потым атрымалі статус зямянаў — ваенна-служылага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага, што мусіла збройна ахоўваць межы панскіх уладанняў, дастаўляць пасланні і несці іншую службу. У выпадку паспалітага рушэння выступаць пад харугвай князя са сваім канём і зброяй.

---

* Лясны масіў, што атрымаў назву ад паселішча Іжа. Існаваў яшчэ ў XVII–XVIII стст. на тэрыторыі сучасных Вялейскага і Мядзельскага раёнаў, а пазней быў фактычна высечаны.

** Сасы — назва кіруючай дынастыі саксонскіх князёў на троне Рэчы Паспалітай. Аўгуст III (1733–1763).

Зямяне ў тыя часы паступова страчвалі свае першапачатковыя функцыі і знікалі з арэны гісторыі. У заможнай сваёй частцы яны зліваліся са шляхтай, а ў збяднелай — далучаліся да сялянаў. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і разбору шляхты бальшыня зямянаў, захаваўшы асабістую вольнасць, была запісаная ў катэгорыю сялянаў і мяшчанаў і знікла назаўжды.

Але гэта будзе наперадзе, пакуль што, напрыканцы XVIII стагоддзя, за апошнім каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Панятоўскім Шчэберакі маюць засценак, што называецца па прозвішчы ўладальнікаў — Іжанка-Шчэберакі.

У пазнейшыя часы род Шчэберакаў, падзяляючы лёс усяго краю, перанёс ліхалецце падзелаў Рэчы Паспалітай і вайну 1812 года, збяднеў і страціў многіх сямейнікаў, але, упарта чапляючыся за жыццё, даваў чарговыя парасткі. Новыя пакаленні роду стваралі свае сем'і і гаспадаркі ды рассяляліся па навакольных землях. *(Падрабязна пра падзеі гэтых часоў гл. гістарычны дадатак.)*

Прадстаўнікі нашай галіны роду зрабіліся арандатарамі, але захавалі адвечную мару стаць адзінаўладнымі гаспадарамі на сваёй гасподзе, і ажыццявіцца гэтая мара магла толькі адным спосабам — праз набыццё зямлі ў прыватную ўласнасць.

Дзесяцігоддзі арандатарства не змяншалі, а толькі ўзмацнялі гэтую прагу. Дзеля дасягнення пастаўленай мэты Шчэберакі ўпарта збіралі грошы: нястомна гадамі абраблялі свае надзелы і адкладалі кожную капейчыну. Праца на палетках была асноўнай, але не адзінай крыніцай прыбытку. Былі ў сям'і дапаможныя заняткі, якія істотна папаўнялі скарбонку, — пчалярства і фурманства. Успаміны пра іх захавала сямейная гісторыя.

Захоўваючы старадаўнюю традыцыю зямянскага стану, Шчэберакі заўсёды трымалі добрых коней. Нягледзячы на тое, што ў XIX ст. служба зямянаў ужо сталася гісторыяй, валоданне навукай трымаць моцных і дагледжаных коней прыдалася ў новых рэаліях: па́ра ламавікоў дазволіла гаспадарам заняцца цяжкай, але і прыбытковай справай — фурманствам, ці балагольствам*. Узімку, па заканчэнні палявых працаў, запрэжаная парай коней фурманка Шчэберакаў вазіла тавары па гасцінцах і прасёлках па лініі Вільня — Даўгінава — Плешчаніцы — Барысаў. Доўгія дарогі і цяжкія грузы забяспечвалі неблагі прыбытак.

Асобнага расповеду заслугоўваюць і тыя коні, што цягалі вазы. Належалі яны да слаўнай ва ўсім краі Ашмянскай пароды. Ашмянскі конь (а сёння Беларускі вупражны конь) быў прадстаўніком моцнай абарыгеннай пароды, універсальнай у выкарыстанні. Ён быў нечым сярэднім паміж цяжкавозам і верхавым, пры патрэбе лёгка і хадзіў пад сядлом, і запрагаўся для любых мэтаў — ад перавозкі грузаў да незлічоных гаспадарчых працаў. Прыхільныя да чалавека і лёгкія ў навучанні коні гэтай пароды стагоддзямі жылі ў гаспадарках беларусаў. Прызвычаеныя да мясцовага клімату, яны не баяліся ні зімовага холаду, ні спёкі. Ашмянскія коні не адрозніваліся асаблівай прыгажосцю, хуткасцю ці вытанчанасцю ўсходніх аргамакаў, але кампенсавалі гэтыя недахопы трываласцю і цягавітасцю.

Гаспадар рупліва даглядаў такіх памочнікаў і шкадаваў больш, чым сябе. У сям'і захавалася памятка пра тое, як Мікалай Васільеў Шчэберака, збіраючыся ў дарогу, браў у торбы коням лепшага аўса, а сабе — жур**…

Такі прыработак сям'я мела доўгія гады і прыпыніла толькі з пабудовай Лібава-Роменскай і Маскоўска-Варшаўскай чыгунак, калі большую частку вялікіх грузаў павезлі па рэйках.

---

* Адыходны занятак па перавозцы тавараў і грузаў на ламавых конях.

** Негусты аўсяны кісель.

Пакаленні Шчэберакаў, што жылі побач з Іжанскай пушчай, асвоілі і яшчэ адзін шырока распаўсюджаны занятак — пчалярства. Мёд і воск таксама істотна папаўнялі грашовы запас. У гаспадарцы была адмысловая прылада для вырабу свечак. Тэхналогія была простай: у формачкі нацягваліся кноцікі, ёмістасць залівалася гарачым воскам, астывала, разнімалася, і адтуль выбіраліся гатовыя свечкі. Саматужная прадукцыя ішла на продаж, і ў тым ліку на самую Вільню, бо на вёсцы сяляне найчасцей карысталіся лучынай. Вырабам свечак, немудрагелістай у тэхнічным сэнсе справай, у вольны ад асноўнай працы час займаліся жанчыны ды падлеткі.

Паціху збіралася неабходная сума. Захаваўся ўспамін, як на вялікія святы гаспадар даставаў з патаемнага кутка палатняны мяшэчак, у які складалі срэбныя і залатыя манеты на куплю зямлі, і прапаноўваў маленькім сынам выпрабаванне — закінуць яго як ношку на плечы. Калі тое атрымлівалася ў каго з дзяцей, то бацька пастанаўляў — «мала, трэ яшчэ збіраць» і зноў хаваў грошы ў схованішча. Так было аж пакуль ніхто з малых не змог закінуць важкі мяшэчак за плечы. Сума ад таго часу лічылася сабранай — настаў час набываць зямлю. Так у пераказе выглядала легенда. Ці было тое насамрэч — невядома, але нейкі мех грошай так ці іначай мусіў быць на самай справе, бо сабраная на набыццё зямлі сума была сапраўды вялікая, прычым настолькі, што і зараз да канца не зразумела, як дакладна яна была сабраная і колькі часу на гэта спатрэбілася…



# Фальварак Субачы

У пачатку 1870-х сям'я на правах арандатараў жыла на зямлі пана Мікульскага ў маёнтку Субачы. Даведаўшыся, што гаспадар мае намер выставіць фальварак на продаж, Мікола Шчэберака выказаў ахвоту прыдбаць яго, пра што і дамовіўся з уласнікам. Па ўсіх правілах тагачаснай юрыдычнай практыкі быў складзены адпаведны дакумент — «купчая крэпасць» *(фота гэтага і іншых дакументаў гл. у дадатку)*. Згодна з ёй «99 дзесяцін і 480 квадратных сажняў з жылым домам, гаспадарчымі пабудовамі і з усімі землямі, лясамі, садамі і ўсялякага кшталту ўгоддзямі» перайшлі ва ўласнасць «Мікалая Васільева Шчэберакі за суму 1590 рублёў срэбрам». Сям'я спраўдзіла мару — займела вялікі ўласны надзел, двор Субачы стаўся котлішчам для наступных пакаленняў. Так з'явіліся нашыя «сто гектараў»*.

Дарэчы, прыведзеная вышэй дакладная цытата з купчай з'явілася ў тэксце не праз упартыя архіўныя росшукі, а праз тое, што сам арыгінал той «крэпасці» і зараз захоўваецца ў нашай сям'і. Ад самага моманту свайго з'яўлення на свет у 1875 годзе з-пад пяра крапасных справаў пісара Яновіча і да сёння ён перадаваўся па спадчыне. Спачатку — як неабходная ў юрыдычным сэнсе папера, пазней — як найважнейшая рэліквія, што была галоўным сведчаннем пра гэтак цяжка прыдбаную, а потым гвалтоўна забраную маёмасць роду.

Наш субацкі фальварак па памеры (каля 100 гектараў) быў роўны легендарнай зямельнай адзінцы часоў Вялікага Княства, з якой шляхта і зямяне павінныя былі выстаўляць у войска аднаго ўзброенага вершніка і якая насіла адпаведную назву — «*конь*». Гэтая адзінка, роўная пяці валокам

* Пра гэтыя 100 га быў напісаны верш Усевалада Сцебуракі, які стаў папулярным і амаль народным: «Ад прадзедаў спакон вякоў / мне б засталося сто гектараў, / каб не было бальшавікоў / ды іхніх сраных камісараў».

(107 гектараў), доўгі час захоўвалася ў магнацкіх латыфундыях і давалася служыламу саслоўю менавіта такім кавалкам, застаючыся непадзельнай. Сімвалічна, што ў другой палове XIX ст., нават стаўшы сялянамі, былыя зямяне Шчэберакі набылі сабе ва ўладанне менавіта «каня», нібы вяртаючы належнае свайму страчанаму стану.

Так, у сярэдзіне 1870-х Шчэберакі сталі паўнапраўнымі гаспадарамі субацкага фальварка, месца, якое дало жыццё некалькім пакаленням нашай фаміліі.

Варта сказаць колькі словаў пра назву «Субачы» (зараз гэта маленечкая вёска ў Вялейскім раёне). Паходжанне яе вынікае з самога размяшчэння паселішча — трохі ўбаку ад наезджанага шляху, побач з мястэчкамі Крывічы і Княгінін. «Субач» значыць узбоч, побач, наўзбоч. Тапонім Субачы не ўнікальны і досыць пашыраны: існуе вялікая вёска Субачы каля Ваўкавыска ў баку ад шляху Індура — Ваўкавыск, ёсць невялікае паселішча Субачы каля Лынтупаў ля дарогі Лынтупы — Паставы, яшчэ адныя Субачы стаяць каля бальшака Дзісна — Празарокі, а таксама на ўсходзе, каля Смалянаў, пры дарозе Лепель — Орша. У суседняй Літоўскай рэспубліцы такую назву носіць невялікі гарадок, а ў колішняй сталіцы краю Вільні існавалі вуліца і гарадская брама з назвай «Субач».

Ворная зямля была ўрадлівай. Размешчаная ў зацішнай лагчыне між пагоркамі, яна была прыдатнай для вырошчвання розных культураў. Сенажаці на берагах ракі Сэрвач забяспечвалі добрым сенам вялікі статак свойскай жывёлы і птушкі. А ў перспектыве, згодна з тагачаснымі законамі (калі валодаеш зямлёй на абодвух берагах ракі), давалі гаспадару магчымасць будаваць на рацэ запруду і вадзяны млын. Асобна ад нашага маёнтка ва ўрочышчы Кудра (каля вёсак Хуртаі і Лёткі) стаяла пяць дзесяцінаў гатовага для выкарыстання спелага лесу. У тым лесе ляжаў вялікі камень з высечанымі



на ім прыступкамі і ямкай для вады. Відаць, гэта быў адзін з тых валуноў, да якіх у паганскія часы людзі прыносілі свае ахвяры…

Першы гаспадар Субачаў вольны хлебапашац* Мікалай Васільевіч Шчэберака пакінуў фальварак у спадчыну двум сынам — Данілу і Канстанціну. Менавіта на час супольнага гаспадарання братоў прыпадае росквіт гаспадаркі.

## Першыя субацкія Сцебуракі

Сын першага гаспадара, Канстанцін Мікалаевіч Шчэберака меў неблагую адукацыю і вылучаўся тым, што быў адзіным у наваколлі, хто выпісваў газеты. Жонкай Канстанціна была Ксенія Міхайлаўна. Канстанцін і Ксенія мелі двух сыноў — Герасіма і Міколу. Абодва сыны вучыліся ў вялейскім гарадскім вучылішчы, а Герасім, які меў добрыя здольнасці, паступіў нават у гімназію. Жыццё хлопца ў 1908 годзе перарваў трагічны выпадак, калі ён катаўся на гарадской коўзанцы ў Вялейцы, упаў патыліцай на лёд і загінуў. Галоўным памочнікам Канстанціна застаўся адзіны сын Мікола ад якога пайшло нашае цяперашняе адгалінаванне роду.

Варта згадаць і брата Канстанціна Данілу, які пражыў вельмі доўгае жыццё (1869–1957). Сваякам ён запомніўся дбайным гаспадаром ды надзвычай руплівым працаўнікам. Нават у глыбокай старасці ён не сядзеў у хаце, а знаходзіў сабе занятак па сілах — пасвіў жывёлу, на полі збіраў у куччкі камяні, прыгаворваючы, што робіць гэта як бы і не ў лік працы, а толькі «час маючы, гуляючы». Як многія іншыя Шчэберакі, ён праз гады захоўваў пашану да царквы і рабіў ахвяраванні. Пра адзін такі ягоны чын захавалася згадка і

---

* Стан грамадзянаў, у які паводле Указа ад 01.08.1857 трапіла шляхта, якая арандавала памешчыцкую зямлю, але не магла давесці свайго шляхецкага паходжання.

ў тагачаснай прэсе. «Літоўскія епархіяльныя ведамасці» за 1900 год паведамляюць, што «Даніла Шчэберака ахвяраваў Крывіцкай царкве 100 рублёў на каменную агароджу». Тая мураваная агароджа і зараз атачае царкоўны падворак, прастаяўшы непарушнай ужо 120 гадоў.

Яго прыхільнасць да царквы перадалася і дзецям — двое з трох сыноў абралі шлях служэння Богу і сталі святарамі. Айцец Сергій доўгі час служыў на Віленшчыне і скончыў зямны шлях у абшчыне вёскі Міхнова пад Вільняй. Другі сын, айцец Аляксандр, быў расстраляны бальшавікамі ў рэвалюцыйным Петраградзе. Толькі трэці не звязаў лёс з царквой і застаўся на гаспадарцы.

Апроч сыноў Герасіма і Міколы, Канстанцін з жонкай Ксеніяй мелі дзевяць дачок. Як часта бывала ў тыя часы, некаторыя з іх памерлі ў раннім маленстве ад дзіцячых інфекцыйных хваробаў (Стэфаніда, Улляна, Вольга, Тацццяна, Ксенія). Да сталага веку дажылі Ганна, Лізавета, Алена і Хрысціна. Прыгожыя дзяўчаты з не абы-якім пасагам былі зайздроснымі выданніцамі, і для іх знаходзіліся добрыя партыі. Яны ішлі замуж за хлопцаў таксама з заможных сем'яў у недалёкія ваколіцы. Лёс іх сем'яў склаўся па-рознаму, але ў бальшыні выпадкаў досыць трагічна — усе яны зазналі і савецкія рэпрэсіі, і цяжар абедзвюх сусветных войнаў.

Выйшаўшы замуж, яны разляцеліся з родавага гнязда. Ганна пабралася з Васілём Львовічам Дубягам з Асінаўкі Крывіцкай воласці, мела сына Юльяна. Хрысціна ўзяла шлюб з К. А. Разанцавым з Яцкавічаў, нарадзіла трох сыноў: Івана, Валодзю, Міхася і дачку Ніну. Іван і Міхась загінулі ў ІІ сусветную. Адзін ад рук саветаў, другі — напрыканцы вайны ці то ад нямецкай, ці то ад савецкай кулі.

Лізавета выйшла за Міколу Гайлу, які напярэдадні з'явіўся ў вёсцы Няверы маладым зайздросным кавалерам. Неўзабаве пасля шлюбу іх сям'я перабралася ў в. Паграбішча Хаценчыцкай воласці. У іх было тры сыны: Пётра, Павел, Мікалай, і тры дачкі: Марыя, Кацярына, Клава. Павел і Мікалай таксама сталі ахвярамі ІІ сусветнай вайны.

Алену выдалі за Васіля Вараўку ў засценак Ванцоўшчына, што каля вёскі Асцюковічы.

Але ўсё гэта здарыцца пазней, а пакуль у калейдаскопе родавай памяці ўсплываюць іншыя карцінкі з таго даўняга мінулага — абразкі светлага часу, дзе жыццё ішло па звыклым коле і панаваў дабрабыт. Усе падзеі насілі лакальны характар і не прэтэндавалі на тое, каб быць згаданымі больш чым праз стагоддзе. Хіба за выключэннем такой, пра якую асобным артыкулам адгукнуўся нават «Віленскі веснік», — вялікі жыдоўскі* пагром на Даўгінаўскім кірмашы. Ён адбыўся за царом Аляксандрам ІІІ у 1886 годзе, і яго сведкамі сталі браты Даніла і Канстанцін Шчэбракі, якія ў той дзень былі на кірмашы ў мястэчку Даўгінава.

Тады, як сведчыў «Віленскі веснік» за памянёны год, жыхары, абураныя «*рытуальным забойствам*» жыдамі хрысціянскага дзіцяці, кінуліся помсціць, знішчаючы лаўкі, крамы, збіваючы без разбору ўсіх іўдзеяў, што трапляліся пад гарачую руку. Хваляванні, што пачаліся на кірмашы, ахапілі ўсё паселішча. Мясцовая паліцыя не дала рады з раз'юшаным натоўпам, з'явіліся нават забітыя. У мястэчка была тэрмінова адкамандзіраваная вайсковая каманда. Прыехаў сам віленскі губернатар барон Грэвеніц. Памалу ўсё сціхшылася… Той вялікі закалот на свае вочы бачылі і браты Шчэбракі. Выпадак у Даўгінаве быў досыць рэдкім для нашых зямель, у адрозненне ад Бесарабіі, Украіны, Каўказа і іншых ускраін імперыі, дзе такія праявы нецярпімасці былі дастаткова

---

* Слова «жыд» на беларускіх землях да прыходу саветаў не насіла адмоўнай канатацыі і выкарыстоўвалася паўсюдна. З прыходам саветаў, яно стала выключна зневажальным і яго пачало выцясняць слова «габрэй». Так і ў нашым аповедзе.

звычайнымі. Тым болей, успамін пра гэты вялікі гвалт доўга пераказваўся ў сям'і і стаў часткай жывой гісторыі, як, зрэшты, любыя важныя здарэнні, якіх у той час было не так і шмат у ціхай сельскай жытцы.

Акрамя паездак на кірмашы і ў мястэчкі, важнай часткай сацыяльнага жыцця былі і выправы на госці. Вялікая радзіна, раскіданая па абшарах Вялейскага павета, бачылася не тое каб і часта, занятая сваімі клопатамі. Але ўзімку, скончыўшы восеньскія гаспадарчыя работы, магла з лёгкім сэрцам выдаткаваць час на сямейныя сустрэчы і адпачынак.

Традыцыйна адныя з такіх гасцяванняў прыпадалі на Каляды. Вялікая радзіна на санях з'язджалася ў Субачы, каб разам правесці святочныя дні. Тады ладзіліся доўгія застоллі з добрым пачастункам, дзе ўсяму было сваё месца: і абмеркаванню навінаў, і сур'ёзным размовам, і спевам, і жартам. Апроч гульняў і танцаў, дарослыя, па тагачаснай модзе, зацята гулялі ў карты… Такія сямейныя вакацыі доўжыліся зазвычай некалькі дзён, адна кампанія змяняла другую, хлебасольныя гаспадары шчыра прымалі новых гасцей. Ад тых даўніх часоў засталася прыказка, якую, казалі, любіў паўтараць Мікола Васільевіч Шчэберака — «*Пілі-елі дзве нядзелі, праваджалі Раждзжаство!*».

Важна сказаць, што недзе ў гэты час (пачатак XX стагоддзя) нашае прозвішча атрымлівае сучаснае напісанне.

Змены ў прозвішчы могуць тлумачыцца не проста тэхнічнай памылкай пісара пэўнай інстанцыі, дзе такая форма была зафіксаваная, але і абсалютна натуральнай моўнай з'явай, вядомай у лінгвістыцы як *памякчальная рэгрэсіўная акамадацыя* (акамадацыя з лацінскай азначае прыстасаванне). Пад уздзеяннем суседніх гукаў у слове адбыліся фанетычныя змены: ШЧЭБЕРАКА, адаптоўваючыся да артыкуляцыйных законаў сучаснай беларускай мовы, пачало вымаўляцца як СЦЕБЕРАКА, бо мяккі гук Б' змякчыў цвёрдую старaславянскую лігатуру ШЧ у С'Ц' . А паколькі затым цвёрды гук Р уплываў і «ацвярджаў» мяккі Б', маглі ўзнікнуць варыянты прозвішча: СЦЕБУРАКА, СЦЕБАРАКА… (Для аналогіі можна прыгадаць трансфармацыю пад уздзеяннем гэткіх жа працэсаў такога імя як ШТЭПАН — ШТЕПАН — ШЦЕПАН — СЦЯПАН).

Такім чынам пад уплывам беларускіх фанетычных працэсаў пачатковая форма прозвішча, што прыйшла з польскай мовы, набыла цяперашняе «абеларушанае» гучанне. (Пра падрабязнасці паходжання прозвішча чытайце ў гістарычнай частцы кнігі.)

Такім чынам галіна нашага роду канчаткова становіцца **Сц**эбуракамі, а нашыя далёкія смаргонскія родзічы і да сёння застаюцца **Шч**эберакамі.

У 1910 годзе Мікола Сцебурака пабраўся з Ксеніяй з Вараўкаў.

**У гэтай сям'і нараджаецца наш дзед Анатоль Сцебурака, чые ўспаміны і працягваюць аповед.**

Успаміны дзяцінства, у якіх мае тата і матуля прысутнічаюць паўсюдна і неад'емна, як гэта ні дзіўна, не падказваюць мне нічога звышасаблівага ці незвычайнага пра іх. Бацькі былі шмат у чым тыповымі прадстаўнікамі свайго пакалення — людзьмі старых парадкаў, дысцыплінаваныя працай і выхаваныя традыцыяй.

Бацька Мікола Сцебурака (нарадзіўся ў 1879 годзе) усё жыццё займаўся нашай вялікай гаспадаркай, як і ўсе мужчыны роду, быў нястомным работнікам. Меў адукацыю і быў чалавекам пісьменным, але, здаецца, досыць прыземленым. У побыце размаўляў па-беларуску і атаясамліваў сябе толькі з мясцовай культурай ды тутэйшым народам. Пры гэтым меў відавочны сантымент да расейшчыны. Дома мелася даволі вялікая бібліятэка з класічнымі для таго часу творамі. Былі кнігі Пушкіна, Лермантава, Ляскова, Талстога. Меліся Заля, Гюго, Бальзак, Гётэ ў рускіх перакладах. Атрымліваючы веды па-руску, карыстаючыся ў штодзённым ужытку беларускай мовай і атрымліваючы духоўны кірунак ў праваслаўнай царкве, ён разам з іншымі нашымі сямейнікамі таго часу быў




• *Шлюбны здымак Міколы і Ксеніі Сцебуракаў. 1910 г.*





• *Мікола Канстанцінавіч Сцебурака. 1910 г.*




• *Ксенія Ігнатаўна Сцебурака (дзявочае прозвішча — Вараўка). 1909 г.*

тыповым прадстаўніком «беларуса рускай культуры». Ён з захапленнем збіраў календары, вёў назіранні за надвор'ем і любіў яго прагназаваць. Быў апантаны коньмі і верхавой яздой, а таксама калі-нікалі любіў моцна прыкласціся да пляшкі.

Мая маці, Ксенія Ігнатаўна Вараўка, нарадзілася ў 1888 годзе ў засценку Ванцоўшчына каля Асцюковічаў (зараз Вялейскі раён). Скончыла гарадское вучылішча, якое давала права выкладання ў сельскай пачатковай школе. Можа, праз гэта яна асабліва сур'ёзна і прынцыпова ставілася да адукацыі сваіх дзяцей. Сама вучыла нас з самых малых гадоў чытаць і лічыць, у чым дасягнула немалых поспехаў. Так, брат Косця пачаў добра чытаць ужо ў пяць гадоў. Праз гэтую ягоную раннюю навуку адбылася аднойчы вось такая гісторыя. Калі

наш мясцовы бацюшка хадзіў па Калядзе, яму нехта распавёў пра Кастусёвы поспехі ў чытанні. Святар, завітаўшы да нас, вырашыў праўдзіць чуткі: даў маламу ў рукі газету і загадаў чытаць. Кастусь хуценька прачытаў усе загалоўкі артыкулаў. *«Похвально, молодец, похвально!»* — падсумаваў задаволены святар да агульнай радасці ўсіх сямейнікаў.

У жыцці матуля была сціплай, далікатнай і вельмі працавітай. Адрознівалася міласэрнасцю — прымала ўсіх жабракоў і нікога не адпускала галодным з хаты. Маці вельмі любіла наш фальварак і ў свой час, калі сям'я меркавала прадаць зямлю і пераехаць у Вільню, дзе Кастусь прыгледзеў камяніцу, катэгарычна адмовілася стаць гараджанкай. Хто ведае, як бы склаўся наш лёс, каб яе не так моцна трымалі карані?..

Мае бацькі мелі дзевяць дзяцей. Двое памерлі зусім немаўлятамі. Засталіся чатыры сыны і тры дачкі. Самым старэйшым быў мой брат Канстанцін (1911–2005), першы сын у сям'і Міколы і Ксеніі Сцебуракаў і галоўны іх памочнік. Кастусь быў адораным хлопцам, душа якога з маленства ляжала да мастацтва. Але, заняты на гаспадарцы, ён доўгі час не меў магчымасці займацца любімай справай — жывапісам.

Рос ён рамантычным і далікатным юнаком, але гэта не замінала яму быць галоўным завадатарам у гульнях і прыгодах. Вакол яго заўсёды віравала жыццё. Аднойчы ўзімку, катаючыся з горкі, Кастусь моцна пашкодзіў нагу. Крывіцкі доктар накіраваў малога на рэнтген і лекаванне ў павятовую бальніцу ў Вялейку. Лекаванне было доўгім і



• *Кастусь Сцебурака. 1930-я гг.*



нятанным (каштавала без перабольшвання як карова), але скончылася ўдала. Праўда пасля строгая медычная камісія Войска Польскага прызнала яго непрыдатным да вайсковай службы ў мірны час. Косця паспяхова скончыў гімназію, нейкі час вучыўся ў Віленскай школе малявання, але праз сямейныя абставіны вымушаны быў вярнуцца на гаспадарку.

Брат Міхась (1914–1939) быў другім сынам у сям'і. Гэтаму майму брату выпаў самы кароткі век. Загінуў ён у шэрагах Войска Польскага, што гераічна змагалася супраць нямецкай агрэсіі ў верасні 1939 годзе. Дакладных звестак пра яго нашая сям'я не мела доўгія гады. Брат Кастусь, які рэшту жыцця пасля вайны пражыў у Польшчы, шукаў інфармацыю пра Міхася гадамі, пісаў у Чырвоны Крыж, рабіў запыты ў вайсковыя архівы і атрымліваў адзін адказ: «Звестак не маем». Толькі падчас напісання гэтай кнігі мы дазналіся пра апошнія дні жыцця Міхася і месца яго пахавання — але пра гэта расповед будзе пазней.



• *Міхась Сцебурака. 1930 г.*

Трэці брат — Яўціхій (1919–1993). За Польшчай вучыўся ў школцы, працаваў з братамі на гаспадарцы. Быў вялікім знаўцам і аматарам тэхнікі. У акупацыю працаваў у мясцовых аддзелах Беларускай народнай самапомачы. З 1945 па 1952 год жыў у Маладэчне. З 1952-га — у высылцы ў Сярэдняй Азіі. Як удзельнік вайны быў вызвалены ад высылкі ў 1954 годзе і вярнуўся ў Беларусь. Да пенсіі працаваў механікам у сельскай



• *Яўціхій Сцебурака. 1930-я гг.*



• *Ніна Сцебурака. 1937 г.*

гаспадарцы ў в. Хамутнае (зараз Чаромушкі). Апошнія гады жыў у старэйшага сына ў Маладэчне, пахаваны на маладэчанскіх могілках.

На год раней за Яўціхія нарадзілася старэйшая з маіх сёстраў — Ніна (1917–2004). Ёй напоўніцу дасталася ўсіх выпрабаванняў — і працы, і гора. Страціўшы мужа, які вымушана эміграваў на Захад, яна засталася з малымі дзецьмі на руках. Зазнала нястачу і гаротнае тулянне па чужых кутах. Разам з маці пражыла рэшту жыцця ў Іллі, дзе і памерла ў 2004 годзе.

Ужо за Польшчай пятым дзіцём у маіх бацькоў нарадзілася сястра Валянціна (1923–1977). Вучылася ў вялейскай гімназіі, якую заканчвала ўжо пры саветах. У вайну жыла з сям'ёй у Субачах і пасля ў Крывічах, дапамагаючы маці па гаспадарцы. У 1952 годзе, каб не трапіць у высылку разам з усімі, заключыла фіктыўны шлюб з інвалідам II сусветнай, што за грошы ўратаваў яе ад заганнага сваяцтва з «ворагамі народу». Дапамагала Ніне гадаваць сыноў Лёву і Мілана. Працавала на станцыі Княгінін і ў маладэчанскай друкарні.





• *Валянціна Сцебурака. 1938 г.*



• *Алена Сцебурака. 1950-я гг.*



• *Анатоль Сцебурака. 1945 г.*

Выйшла замуж за далёкага сваяка Міхася Дубягу і доўгі час жыла з ім пад Ленінградам, куды забрала пляменніка Мілана, каб дапамагчы яго вывучыць і вырваць з галечы беларускай паваеннай вёскі. Сваіх дзяцей Міхась і Валянціна не мелі. Па выхадзе на пенсію пара вярнулася ў Беларусь. Валянціна памерла ў Маладэчне ў 1977 годзе пасля няўдалай аперацыі па выдаленні жоўцевага пухіра. Пахаваная на гарадскіх могілках. Міхаіл памёр у 1988-м.

Я нарадзіўся 27 траўня 1926 года ў фальварку Субачы і быў самым малодшым з братоў.

Самай меншай была мая сястра Лена (1929–2009). Усеагульная любіміца, разумніца і прыгажуня. Але і на яе долю выпалі немалыя выпрабаванні і турботы — арышт, высылка, вяртанне…

Але да лёсу гэтых асобаў мы яшчэ вернемся. А зараз ідуць апошнія перадваенныя гады — маладая сям'я расце, папаўняецца працоўнымі рукамі, разбудоўвае гаспадарку і ўбіраецца ў сапраўдную сілу. Гэтае ціхамірнае жыццё ў фальварку перапыняе I сусветная вайна, што пачалася 1 жніўня 1914 года.



*Раздзел II*

# У часы Першай сусветнай вайны

## У прыфрантавой паласе

Напачатку вайны нашая мясцовасць была ў глыбокім тыле. Але войскі Расейскай імперыі адступалі, і праз год баявыя дзеянні перамясціліся ў Вялейскі павет. Тады фальварак Субачы апынуўся ў прыфрантавой паласе.

14 верасня 1915 года германскае імперскае войска каля Свянцянаў ажыццявіла ўдалую наступальную аперацыю. Яго часткі хуткім ударам захапілі Смургоні, Вялейку, зрабілі рэйд у бок Глыбокага, перарэзалі чыгуначную лінію Менск — Масква пад Смалявічамі, пагражалі захопам Маладэчну — стратэгічна важнаму чыгуначнаму вузлу. Так выглядаў славуты Свянцянскі прарыў на мапах стратэгаў, а для жыхароў Субачаў, якіх ні прапановы, ні прымус не схілілі да бежанства, вынікам прарыву стала дзесяцідзённае панаванне новых гаспадароў.

У той кароткі час немцы не наводзілі аніякіх сваіх парадкаў, абмежаваўшыся самым надзённым і неабходным — паборамі на карысць войска. У гаспадарцы адразу ж істотна паменшала фуражу ды свойскай жывёлы, якую кайзераўскія жаўнеры рэквізавалі ў першую чаргу. Гэта пры тым, што, апынуўшыся ў тыле царскай арміі, Субачы ўжо даўно забяспечвалі патрэбы войска натуральнымі падаткамі ды прымусовымі працамі.

Пасля ліквідацыі нямецкага прарыву ў Крывіцкую воласць вярнуліся расейкія часткі. Фронт стабілізаваўся пад Смургонямі, а ў Крывічах і Княгініне сталі тылавыя падраздзяленні. Нягледзячы на тое, што самі Субачы пазбеглі разбурэння, а ўсе члены сям'і былі дома (гаспадар Мікола меў траўму калена і не падлягаў прызыву, а сыны былі зусім маленькімі), гаспадарка ўсё ж зазнала ўсе складанасці ваеннага часу.

Насельніцтва прыцягвалася вайсковай адміністрацыяй да пагрузачна-разгрузачных працаў на чыгуначнай станцыі, брала ўдзел у цяжкай падводнай павіннасці, якая, пакуль на патрэбы фронту не з'явіліся вузкакалейкі, займала шмат часу і адрывала працоўныя рукі і коней ад гаспадаркі на многія дні.

У Княгініне з'явіўся вялікі вайсковы шпіталь. Там побач з параненымі ляжалі і пакутнікі ваенна-тэхнічнага прагрэсу — ахвяры газавых атакаў, якія харкалі крывёй і ціха касналі ад бездапаможнасці медыцыны. Сціплыя і невялікія мястэчковыя могілкі хутка папоўніліся некалькімі тысячамі нябожчыкаў, з'явілася шмат брацкіх пахаванняў. У іх ляжалі і тыя, хто загінуў ад газу, і тыя, хто памёр ад ранаў, і тыя, каго дабілі тыф і дызентэрыя. Людзі з усёй імперыі леглі побач з мясцовымі ў беларускую зямлю…

У тыя дні непасрэдна па нашых палетках праходзіў другі рубеж абароны расейскага войска з лініяй акопаў і бліндажамі, якія меркавалася заняць пры адступленні з асноўных пазіцыяў. На падворку ў Субачах таксама з'яўляліся вайскоўцы — прыбывалі на пастой. Раскватараваных штабных афіцэраў змянялі артылерысты, а іх, у сваю чаргу, — часткі забеспячэння. Дзякуючы такім няпрошаным гасцям жыхары хутара часам знаёміліся з тэхнічнымі навінкамі і іншымі вынаходніцтвамі.

Менавіта за Першай сусветнай вайной, напрыклад, вяскоўцы са здзіўленнем упершыню ўбачылі сена ў цюках, якое прывезлі для коней армейскія фуражыры. Спрасаваныя цяжкія прамавугольнікі былі ў навінку для сялянаў, якія прывыклі бачыць сена адно ў копах ды стагах. Ад гэтых цюкоў, між іншым, на нашай зямлі застаўся напамін, што і зараз буяе ў палях і гародах — трава суданка*. Раней не вядомая на беларускіх палетках, яна трапіла ў часы І сусветнай да нас з поўдня Расіі, дзе толькі пачала культывавацца ў пачатку XX стагоддзя.

Таксама ўпершыню падчас той вайны беларускія сяляне масава пабачылі людзей на роварах. Былі гэтыя дзіўныя жалезныя машыны і ў нямецкай роварнай пяхоты, і ў рускіх самакатчыкаў. Пакуль маладыя праяўлялі непрыхаваную цікавасць да тэхнікі, старыя людзі хрысціліся і войкалі, упэўнена сцвярджаючы, што чалавеку, каб ездзіць, патрэбныя чатыры колы, а на двух здольныя ўтрымацца хіба чэрці!

## Наша лазня

Яшчэ адзін, праўда, менш рамантычны ўспамін пра Першую сусветную звязаны са з'яўленнем у нашым двары натоўпу знясіленых жаўнераў, што здымаліся з фронту і адводзіліся ў тыл. Стомленыя і брудныя, яны да ўсяго моцна пакутавалі ад вошай. У адзенні і на целе корпаліся незлічоныя чароды паразітаў, пакідаючы крывавыя барозны на расчасанай да жывога мяса скуры. Аддзел, што праходзіў побач з нашай хатай, адчуў пах дыму, што ішоў ад толькі прапаленай лазні, і збочыў да нашай гасподы. Спачуваючы гаротнаму стану жаўнераў, гаспадар выгнаў з лазні жанчынаў, якія якраз пайшлі туды ў сваю чаргу, і пусціў мыцца акопных сядзельцаў. Вайсковае адзенне з крывасмокамі прапяклі на жары, вайсковыя адмыліся, і атрад рушыў далей…

---

* Суданка (сорга суданскае) — аднагадовая травяная расліна, від сорга гібрыднага паходжання з сямейства злакі, ці мятлікавыя. Каштоўная кармавая і сенакосная расліна.

Тут варта зрабіць лірычнае адступленне і некалькі словаў сказаць пра гэтую лазню. Субацкая лазня была вялікіх памераў. Яна была пабудаваная папярэднім гаспадаром фальварка панам Мікульскім. Падлога ў ёй была з клінкернай цэглы. У ёй мылася ці не палова ўсяго Субацкага насельніцтва. Гэтая лазня ўвайшла ў мясцовы фальклор адным выпадкам. Раз у лазні мылася мужчынская грамада. Седзячы на палку, дзядзькі грэліся ды вялі гаворку. Раптоўна нехта не разлічыў і занадта моцна паддаў на камяні — шуганула па́ра, і мужыкі, ратуючыся, кінуліся з палкоў уніз, дзе прахалодней. Толькі яны саскочылі, як зверху, з палка, пачуўся крык, што імгненна перайшоў у енк, — усе не на жарт спалохаліся. На гары затрымаўся адзін стары Юстын, і менавіта ён адчайна роў на палку! Кінуліся ратаваць, і выявілася, што прычынай галасу былі не апёкі, а тое, што дзед ушчаміў свае прычындалы ў шчыліну між дошак! (Пакуль пад ціскам азадкаў дошкі былі прагнутыя, узніклі шырокія шчыліны, а ўжо калі ўсе раптоўна саскочылі, дошкі выпрасталіся і шчыліны зніклі). У выніку дзед Юстын зазнаў не абы-якога сполаху ды болю, як нібы нехта ўхапіў небараку знізу!.. Дзеда выратавалі, але ўжо пасля было смеху і баек, якія разышліся на анекдоты. Распаўсюджанай у Субачах стала прыказка: «Гібкая лаўка!», калі справа тычылася нечага ненадзейнага і рызыкоўнага.

## Змены ўладаў

Напрыканцы вайны месяцы нерухомага стаяння фронту змяніліся вокамгненнымі перасоўваннямі то на ўсход, то на захад. 18 лютага 1918 года Германія скасавала часовае замірэнне з Расеяй і пачала імклівы наступ. Часткі расейскага войска, на той час амаль канчаткова дэмаралізаваныя бальшавіцкай антываеннай агітацыяй, не аказвалі істотнага супраціўлення і адступалі.



Нашыя Субачы на дзесяць месяцаў апынуліся ў глыбокім, на гэты раз ужо нямецкім, тыле. Ізноў усё пайшло па старой завядзёнцы — падаткі, паборы, рэквізіцыі.

Доўгія чатыры гады вайны спустошылі дзяржаўныя скарбніцы па абодва бакі фронту і давялі да галечы насельніцтва краінаў — удзельніцаў канфлікту. Гарады сядзелі без хлеба, не нашмат лепей было і ў вёсцы. Амаль не стала валоў і коней, без якіх немагчыма было абрабіць зямлю. Дзеля праўды варта адзначыць, што нямецкая адміністрацыя і сама бачыла крытычны стан сялянства. Не маючы магчымасці неяк паслабіць падатковы ціск, яна ўсё ж клапацілася пра жыццё насельніцтва на падкантрольных тэрыторыях. Бацька згадваў, што неяк увесну жыхароў навакольных паселішчаў прымусам сагналі на станцыю ў Княгінін. Спалоханы люд не ведаў, чаго чакаць, і збянтэжана збіўся ў купкі на чыгуначнай платформе. Іх здзіўленне яшчэ пабольшала, калі на разгрузку быў пададзены вагон, набіты рыдлёўкамі. Нямецкі афіцэр, што кіраваў працамі, скамандаваў усім сялянам разабраць інвентар і разнесці па хатах. У адсутнасць коней, гэты масава раздадзены, хай і прымітыўны, інструмент мусіў дапамагчы сялянам збольшага даць рады калі не з палеткамі, то хоць з гародамі…

У сярэдзіне снежня 1918-га на змену немцам, якія на той час самі зазналі рэвалюцыю і перажывалі палітычныя метамарфозы, на нашых землях з’явіліся новыя гаспадары — бальшавікі. На час іх прыходу прыпадае і цікавы эпізод нашай сямейнай гісторыі, а менавіта канчатковы падзел фальварка паміж стрыечнымі братамі Данілам Данілавічам і Міколам Канстанцінавічам. Справа ў тым, што зямля маёнтка паміж маім дзедам Канстанцінам і яго братам Данілам была палюбоўна падзеленая, а вось стары сядзібны дом заставаўся прадметам спрэчак. Пабудаваны ў сярэдзіне XIX стагоддзя з добрага дрэва, ён быў тыповым фальварковым будынкам нашых абшараў — з дзвюма калонамі, порцікам, высокім

ганкам і вальмавым дахам. Нават стары, ён усё ж быў зайздроснай, цікавай абодвум братам спадчынай. Не маючы перавагі ў правах на яго, браты ўпарта жылі ў доме разам са спадзевам на тое, што нехта раней страціць цярпенне ды пачне адбудоўвацца самастойна. У тыя дні, калі саветы толькі занялі Княгінін, брат Даніла выправіўся да іх з неадкладным данясеннем. Змест яго быў наступны: у сядзібным доме на хутары Субачы месціцца нямецкі штаб; чырвоны браняпоезд, што стаяў на рэйках станцыі, даў некалькі залпаў па небяспечнай кропцы; вынікі артабстрэлу былі такія: адзін снарад выбухнуў на адлегласці і нічога не пашкодзіў, другі не разарваўся і захрас у сцяне свірна, а трэці стрэл спаліў спрэчны сядзібны дом на вугаль…

Ці быў той цягнік, ці снарад прыляцеў ад іншай гарматы, зараз дакладна сказаць немагчыма, як немагчыма дазнацца, ці напраўду была тая дамова з бальшавікамі. Але неаспрэчны факт толькі ў адным — стары дом сапраўды пацярпеў ад выбуху ў часы ваеннага ліхалецця, а браты канчаткова разышліся жыць у асобныя дамы. А той другі снарад, што не выбухнуў, пасля выразалі з кавалкам сцяны свірна, расклалі вогнішча ў траншэі і падарвалі яго там.

Наступныя некалькі гадоў адзначыліся ў гісторыі нашых мясцінаў хуткай зменай сцягоў, уладаў ды парадкаў.

У 1919 годзе пачалася савецка-польская вайна. Легіёны начальніка паньства Юзафа Пілсудскага правялі імклівы наступ на ўсход. 1 ліпеня 1919-га яны занялі Вялейку. Але баявыя дзеянні ішлі з пераменным поспехам — амаль дакладна праз год, 10 ліпеня 1920 года, чырвоныя ізноў змянілі на нашых абшарах жаўнераў Другой Рэчы Паспалітай.

Бязладдзе і перманентны ваенны стан, што панавалі пасля заканчэння I сусветнай вайны на некалі спакойных і досыць заможных землях, прывялі да працяглага заняпаду гаспадаркі і істотнага падзення ўзроўню жыцця. Наша сям’я захавала скупыя ўспаміны пра тое, як, нягледзячы на вялікія зямельныя ўладанні, насельнікі Субачаў вялі напаўгалоднае існаванне, як квасілі і елі нават бурачковае бацвінне, як па наваколлі ў пошуках ежы бездапаможна цягаліся натоўпы жабракоў, якіх раней ніхто ў такой колькасці не бачыў. Як яны, кволыя, нібы здані, заходзілі ў двор, і мая маці Ксенія выносіла хоць некалькі бульбін, абы не адпускаць жабракоў без нічога. Згадвалі таксама пра тое, як даведзеныя голадам да крайнасці коні чырвонаармейцаў у пустых стайнях шчапалі зубамі на трэскі бярвенне зрубаў і елі салому са стрэх. Палеткі, некалі дагледжаныя і ўрадлівыя, гадамі стаялі некранутымі і зарасталі пустазеллем. Адсутнасць коней, недахоп працоўных рук, брак часу і насення ператварылі іх у здзічэлыя пусткі, перакапаныя траншэямі і аплеценыя, як павуціннем, калючым дротам, што шчодра, незлічонымі кіламетрамі, адмотваўся вайскоўцамі незалежна ад колеру іх мундзіраў…

## Да мірнага жыцця

У кастрычніку 1920-га вярнуліся палякі. Рыжская дамова 1921 года замацавала іх гаспадарамі на нашых землях на доўгія васямнаццаць гадоў. Жыццё пачало вяртацца ў мірнае рэчышча.

Недзе ў гэты час майму бацьку ўдалося набыць у вайсковай частцы, што стаяла ў Крывічах, сляпога на адно вока артылерыйскага каня. Выбракаваны ветэрынарам, моцны яшчэ конь абышоўся нам у дзесяць царскіх залатых. Гэта была вялікая двайная ўдача. З аднаго боку, не кожны дзень войска прадавала такіх добрых жывёлінаў, а з другога — мала хто мог пахваліцца захаванымі чырвонцамі…

Менавіта з гэтым памочнікам сям’я нанова пачала адраджаць занядбаны фальварак. Конь, а дакладней, кабылка белай масці выявілася цудоўнай памочніцай ва ўсіх сялянскіх занятках. Атрымаўшы кантузію на фронце, яна палохалася

рэзкіх гукаў, а ў астатнім была безадмоўнай працаўніцай. У пазнейшыя гады дзясятак жарэбчыкаў ад гэтай кабылы папоўнілі нашую стайню.

У гэты ж час, купіўшы тры сялянскія зрубы, мы збудавалі сабе новую вялікую хату. За руплівай працай хутка ажывала гаспадарка і ўладкоўваўся побыт. Часы ваеннага ліхалецця мінулі, і Субачы разам з усім краем уваходзілі ў новае дзесяцігоддзе імклівага развіцця і адбудовы.

Напамінамі пра перажытыя цяжкія ваенныя гады засталіся ў нашай сям'і афіцэрскі бінокль і артылерыйская лагарыфмічная лінейка, забытыя пры паспешным ад'ездзе кімсьці з пастаяльцаў у пагонах…

З 1921 года жыццё беларусаў, раптоўна падзеленых мяжой, пайшло ў розных кірунках. Бадай ніколі раней у гісторыі цывілізацыйны падзел не быў такім рэзкім і такім трагічным. Захад Беларусі трапіў у капіталістычны лад і прыстроіўся няхай і ў самым хвасце, але ж у адзінай плыні з развітымі краінамі, а ўсход апынуўся ў вялікім канцлагеры, ахутаным сталёвым дротам і камуністычнымі догмамі. І з кожным годам усё глыбей правальваўся ў прорву беспрасветнай галечы, страху і тэрору.



*Раздзел III*

# Адноўленая Рэч Паспалітая

## Новыя парадкі

Пасля заключэння Рыжскага міру наўпрост па нашых мясцінах прайшла мяжа, што дзяліла Беларусь. Сцебуракі сталі грамадзянамі Рэчы Паспалітай.

Польская адміністрацыя была сустрэтая большынёй насельніцтва спакойна. Найперш, напэўна, таму, што новая ўлада не рушыла даўніны, — было захаванае і цалкам пацверджанае права ўласнасці на зямлю і маёмасць, што былі ў валоданні грамадзянаў. Эканоміка рэгулявалася натуральнымі і зразумелымі рынкавымі адносінамі, а не ўтапічнымі ідэямі суцэльнага абагульнення. Польшча, вырваўшыся з абдымкаў трох імперый, усімі сіламі імкнулася цывілізавацца.

Вялікая ўвага надавалася мадэрнізацыі і аздараўленню архаічнай сялянскай прасторы. Уводзіліся новыя метады гаспадарання, разбітыя вуліцы і дарогі ператвараліся ў бруканкі, нават знешні выгляд вясковых падворкаў — і той зазнаў змены. Расла культура быту. Неахайны выгляд гаспадаркі не проста не вітаўся, але адразу ж станавіўся аб'ектам грашовых спагнанняў. Некалькі каліваў асоту, своечасова не ліквідаваныя нядбайным гаспадаром у гародчыку ля хаты, ацэньваліся штрафам у пяць злотых (для параўнання, два злотых плацілі жняі за поўны дзень працы). На вясковых падворках абавязкова трэба было пабудаваць прыбіральню.

Надзвычайная ўвага таксама надавалася сферы публічных паводзінаў, знешняму выгляду, этыкету і іншым вонкавым праявам культуры. Польшча не забылася на тое, што

яна частка Еўропы, і імкнулася распаўсюдзіць адпаведныя парадкі і ў самых аддаленых ад сталіцы закутках дзяржавы. Часам гэта адбывалася нязграбна і пацешна, часам — навязліва і брутальна, але фактам застаецца тое, што пры Польшчы за культурай сачылі. Прыгадваецца мне такая гісторыя, што адбылася нібы ў высокіх варшаўскіх кабінетах, калі раззлаваны непрыстойнымі паводзінамі падначаленых нейкі важны ўрадовец ускрыкнуў: *«Культура, курва, муся быць!»* Выраз так спадабаўся, што пачаў жыць сваім жыццём і штораз выкарыстоўваўся як жартоўны заклік да захавання далікатнасці і этыкету.

У паветры 20-х луналі свабода і энергія новага свету, які перажыў страшэнную вайну і хацеў хутчэй ачуняць і зажыць як ніколі раней добра. Усё гэта стварала спрыяльную глебу для гаспадарання. Адмоўнымі фактарам, якія запавольвалі эканамічнае развіццё беларускай вёскі, былі малазямелле, лішак працоўнай сілы, нізкія кошты на сельскагаспадарчую прадукцыю, якія разам з дарагоўляй прадукцыі прамысловасці стрымлівалі рост і не давалі крыніц для хуткага паляпшэння дабрабыту. Але зрухі да лепшага назіраліся і ў заходнебеларускай вёсцы. Падаткі былі амаль выключна грашовыя, абгрунтаваныя. Заставаліся хіба шарваркі* ды некаторыя іншыя адпрацоўкі.

Сітуацыя пачала заўважна змяняцца да лепшага, калі з сярэдзіны 1930-х кошты на сельскагаспадарчую прадукцыю пачалі расці.

* Працоўная павіннасць пераважна па будаўніцтве і рамонце дарогаў, мастоў, грэбляў, будоўляў.



## Фальварак і гаспадарка

У пачатку 1920-х наш фальварак Субачы складаўся з наступных частак: найперш гэта пяцьдзесят гектараўворнай зямлі з сядзібным домам, гаспадарчымі пабудовамі і садам; асобна ў некалькіх кіламетрах каля вёскі Хуртаі знаходзілася ўрочышча Кудра з пяццю гектарамі добрага будаўнічага лесу, а каля вёскі Гуркі (на абодвух берагах ракі Сэрвач) была яшчэ і сенажаць (гектар і паўгектара адпаведна) ды каля капліцы ў вёсцы Клесіна было яшчэ паўтара гектары сенажаці.

У час зямельнай рэформы сяр. 1920-х (парцэляцыя, камасацыя, ліквідацыя сервітутаў) наш фальварак пацвердзіў свой статус, замацаваў межы і нават крыху павялічыўся.

Вялікая гаспадарка вымагала штодзённай працы ўсіх членаў сям'і. Не толькі дарослыя штодня шчыравалі на палетках, але таксама старым і малым знаходзіліся заняткі па сілах. За дзевяноста гадоў жыцця я ніколі так шмат не працаваў, як тады падлеткам на сваёй гаспадарцы… Але нават і пры напружанні сілаў усёй радзіны працоўных рук не хапала. Таму штогод на сталую працу ў фальварак наймаўся чалавек, што даглядаў жывёлу, а на жніво, сенакос і іншыя сезонныя працы найжаліся яшчэ і парабкі.

Разбураючы бальшавіцкія міфы пра эксплуататараў-кулакоў, скажу, што адносіны наймальнікаў і працаўнікоў былі ў бальшыні выпадкаў абсалютна натуральнымі і прыязнымі. І для адных, і для другіх гэта былі ўзаемавыгадныя адносіны, прадыктаваныя эканамічнай неабходнасцю, без умяшання рэлігійных, сацыяльных і іншых фактараў. Ва ўзаемадзеянні панавалі павага і здаровыя добрасуседскія стасункі. Мы стараліся аддзячыць нашым работнікам не толькі заробкам, але і сяброўскім стаўленнем — наёмныя працаўнікі заўсёды харчаваліся з намі за адным сталом і наогул ніколі не ведалі крыўды. Болей за тое, калі некаму з іх увесну бракавала бульбы ці збожжа да новага ўраджаю, мы яе пазычалі ўзамен

на адно толькі вуснае абяцанне потым адпрацаваць. Але на выкананні абяцання не настойвалі, калі сам вінаваты раптам «забываўся» пра яго…

Час распавесці пра тое, як была ўладкаваная нашая гаспадарка ў тыя часы.

Асноўнай культурай на палетках нашага фальварка былі збожжавыя. Менавіта яны займалі большую частку зямлі і яны ж былі галоўнай крыніцай даходаў пры продажы ўраджаю. Больш за ўсё сеялі жыта, на другім месцы быў авёс, які ішоў на корм коням, ячмень — для птушкі, значнае месца адводзілася бульбе (яе назапашвалі вялікі склеп, а што не змяшчалася там, складалі на зіму ў капцы). Вырошчвалі грэчку, лён.

Пачэснае месца займаў вялікі сад: найбольш было яблыняў — антонаўкі, ранэт, штатын, вінныя — каля дваццаці дрэваў. Ігрушы — цукроўкі, сапежанка, зімоўка, бэры. Шмат было вішняў і сліваў — яны раслі па перыметры сядзібы.

Развіццю гаспадаркі вельмі спрыялі адукацыйныя захады польскіх уладаў. У тыя гады выдавалася шмат спецыяльнай літаратуры, якая была закліканая ліквідаваць брак ведаў у аграноміі і жывёлагадоўлі на вёсцы. Веды, набытыя ў профільных брашурах і каталогах, што выдаваліся палякамі, рэалізоўваліся намі на практыцы. Варта дадаць, што ў нашай сям'і меліся таксама і беларускамоўныя кніжачкі, выдадзеныя ў 1920–30-я беларускімі таварыствамі ў Вільні і Менску.


№ 84 СЯЛЯНСКАЯ БІБЛІОТЭКА № 84

С. М. ТУПЯНЕВІЧ

ЯК ЗДАБЫВАЦЬ КОРМ
У СЯЛЯНСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ
Беларускага Выдавецкага
Таварыства
Вільня, Вострабрамская № 1

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1928

• *Кніжачка-дапаможнік з Сялянскай бібліятэкі. 1928 г.*



Так, дзякуючы новым ведам, акрамя збожжа на нашых палетках у 1920-х пачалі пашырацца тэхнічныя культуры — сідэраты. Тое, што зараз вядома кожнаму дачніку, раней было па-сапраўднаму інавацыйным. Сырадэля і лубін першымі трапілі на палі прагрэсіўных заходнебеларускіх гаспадарак. Памятаю, што, выкарыстоўваючы новыя культуры, усё рабілі па навуцы, слова ў слова гэтак, як пісалася ў кніжках: лубін перад заворваннем трэ было на адной палове поля пакласці сцяблінамі ў адзін бок, а на другой палове — у супрацьлеглы, каб каню з плугам было зручна цалкам загортваць доўгую расліну пад глыж зямлі, ходзячы кожны раз туды-назад. Укладаўся лубін на глебу адмысловым цэпам, які клаў доўгія сцябліны, як трэба гаспадару…

З гэтых жа брашураў дазнаваліся і пра новыя культуры. Так, у гэты час на сялянскіх падворках з'явіліся цалкам звыклыя зараз і надзвычай рэдкія ў тыя часы трускаўкі. Пасаджаныя па ўсіх правілах аграноміі, абкладзеныя саломай ад пустазелля, трускаўкі займелі пачэснае месца на градах пры хаце. Досыць рэдкімі на той час былі таксама таматы, але на нашых субацкіх палетках яны з'явіліся хіба першымі ў наваколлі. Цікавай культурай у гаспадарцы быў тытунь, што вырошчваўся на свае патрэбы. Фабрычныя цыгарэты не былі рэдкасцю, але дорага каштавалі і не мелі шырокага ўжытку ў сельскай мясцовасці. Таму польскія законы дазвалялі вырошчваць тытунь у патрэбнай колькасці, але толькі з насення, набытага ў дзяржаўных крамах. Адмысловыя інспектары сачылі, каб завязь з насеннем на кустах тытуню была своечасова ліквідаваная і не пайшла на самапальнае насенне ў будучым.

Гаворачы пра тытунь, варта сказаць колькі словаў і пра алкагольнае пытанне таго часу. Адразу ж мушу адзначыць, што Польская дзяржава не заахвочвала п'янства, як гэта рабіла царская адміністрацыя, што праз казённыя шынкі ўлівала рэкі гарэлкі ў насельніцтва, пазбаўляючы апошняй

зарobленай капейкі. Выраб самагонкі (бімбару) караўся штрафам і турэмным зняволеннем, а «жандовая» гарэлка ў карчме каштавала немалых грошай. Добра памятаю, як суадносіліся кошты на гарэлку з цаной збожжа. Так, паўлітроўка «Wódka osobowa mocy 45» каштавала два злотых — столькі каштаваў і пуд жыта. Таму п'янства не было пашыранай з'явай і не мела вялікіх маштабаў у беларускай вёсцы таго часу. Нягледзячы на забароны, мы ў Субачах у невялікіх аб'ёмах часам гналі самагонку на свае патрэбы. У якасці апарата быў прыстасаваны запарнік — такі, у якім гатавалі ежу жывёле, а для ахалоджвання — самавар. Пілі толькі дарослыя людзі і збольшага на святы. Моладзь у гэта была абсалютна не ўцягнутая. Калі хто піў сярод маладых дзецюкоў, дзяўчаты з такімі не гулялі і не ішлі замуж. А вось ужо пры саветах народ моцна распіўся…

У гаспадарцы паступова з'яўляліся новыя прылады і ўдасканальваліся ўжо наяўныя. Добра памятаю наш працоўны інвентар: розныя плугі, сеялку, сенакасілку, малатарню.

Плугі былі і адналямешныя, і двухлямешныя. Найчасцей карысталіся ўдасканаленым адналямешным плугам, у якога шырэйшы адвал і ў які ўпрагалі пару коней. Была таксама і новая па тых часах конная сеялка, але ў нас адначасова з яе выкарыстаннем захоўваўся і спрадвечны спосаб засявання ўручную — з сявенькі.







• *Плугі субацкай гаспадаркі*



Была ў гаспадарцы і малатарня, што прыводзілася ў рух чатырма конямі. Пасля абмалоту зерне арфавалі. Арфа ўяўляла з сябе вялікую скрыню з некалькімі сітамі і вентылятарам. Яна патрабавала мускульнай сілы чалавека — сіты рухаліся, вентылятар гнаў паветра, зерне ачышчалася. Пасля ачысткі ўсё, што аддзялілася ад чыстага зерня, аддавалася птушкам — гэта называлася ў нас «курынае зелле».

Сярод featuresнага гаспадарчага жалеззя, што мелася на падворку, асобнага ўспаміну заслугоўвае драпак — конны культыватар, якога чакаў незвычайны лёс. У 1952 годзе падчас канфіскацыі маёмасці ён нейкім цудам не быў заўважаны і так і застаўся ляжаць на асірацелым двары за склепам. Яго пазней агледзелі субацкія жыхары і час ад часу бралі на свае патрэбы. Цікава, што, зрабіўшы працу, кожны вяртаў яго на тое ж самае месца — на затравелы схіл склепа, дзе ён і быў адшуканы. Так ішлі дзесяцігоддзі. Калі яго агледзелі ў 2020-м, ён ляжаў на тым самым месцы. У абязлюдзелых Субачах ужо не было каму ім карыстацца — жалеззе кранула ржа, але сама канструкцыя была гэткай жа моцнай, як і восемдзесят гадоў таму… Мы забралі яго на лецішча, і цяпер ветэран стаіць на пачэсным месцы*.




• *Драпак*

З тэхнічных цікавостак, што мне прыгадваюцца, былі швейцарскі сепаратар зялёнага колеру з жоўтым пасам па краі і адмысловы запарнік, у якім гатавалі ежу парсюкам.

---

* Калі гэта адбылося ў 2020 г., наш 95-гадовы дзед Анатоль Сцебурака, пачуўшы пра «вяртанне» ў гаспадарку драпака, з хваляваннем перапытаў: «Як жа вы яго забралі? Ён жа абагульнёны!» Жахі гвалтоўнага раскулачвання засталіся з ім да глыбокай старасці.




• *Запарнік*




• *Косткадрабілка*

У запарніку распальваўся агонь, і, калі змесціва заварвалася, падаваўся гукавы сігнал — свісток. Адмысловай ручкай усё выкульвалася ў карыта. Варылі ў ім збольшага бульбу, якой змяшчалася адразу дзесяць вёдраў.

Наогул у тыя часы ўсё ішло ў справу і выкарыстоўвалася вельмі рацыянальна. Нават косткі свойскай жывёлы не выкідалі — быў у нас адмысловы механізм, які драбіў іх на муку. А яна, у сваю чаргу, ізноў дадавалася ў ежу курам.

У вялікай гаспадарцы праца не спынялася і не заканчвалася. Бясконцы кругазварот сялянскай працы надзвычай добра адлюстраваны ў рускамоўным вершы нашага паэта Ігара Шкляроўскага «Жалоба счастья»:

*Руки болять! Ноги болять!*
*Клевер скосили. Жито поспело.*
*Жито собрали. Сад убирать.*
*Глянешь, а греча уже покраснела.*
*Гречу убрали. Лён колотить.*
*Лён посушили. Сено возить.*
*Сено сметали. Бульбу копать.*
*Бульбу вскопали. Хряка смолить.*
*Клюкву мочить. Дровы пилить.*
*Ульи снимать. Сад утеплять.*
*Руки болять! Ноги болять!*

Вяртаючыся да гаспадаркі, адзначу, што асобнай справай у нас было вырошчванне свойскай жывёлы. Коні, каровы, авечкі, розныя віды птушкі — усё спраўна гадавалася, даглядалася і напоўніцу скарыстоўвалася, забяспечваючы сям'ю мясам, малаком, яйкамі, скурамі, поўсцю і іншымі прадуктамі.

Галоўнымі, канечне, былі коні. У нас было сем працоўных коней, дзве кабылы з жарэбчыкамі. Трэба адзначыць, што мой тата Мікола Сцебурака любіў, ведаў і добра даглядаў коней. Рэгулярна і з вялікім задавальненнем ён ездзіў верхам. Як часта бывае, менавіта праз сваё захапленне вершніцтвам ён аднойчы ўпаў з каня і моцна пашкодзіў калена. Да канца жыцця трошкі кульгаў на левую нагу.

Апроч коней, было восем дойных кароваў, чатыры цялушкі, бык, каля дваццаці свіней і столькі ж авечак. У 1938 годзе ў панскі маёнтак Людвінова Вікенція Козел-Паклеўскага завезлі цялушак чырвонай шведскай пароды. Нягледзячы на высокі кошт, мы набылі дзве галавы са спадзевам на добрыя надоі. Але малака ад гэтых рагуляў не пакаштавалі — ужо ў 1939-м іх здалі бальшавікам у сплату падаткаў…

Частка ўраджаю ішла на патрэбы сям'і, частка заставалася для харчавання хатняй жывёле, а пэўны аб'ём ствараў непарушны запас. Не ведаю, ці існавала наконт гэтага цвёрдае правіла ва ўсіх, ці мелася толькі ў нас, але ў нас яно непахісна выконвалася ад часоў гаспадарання прадзеда Міколы Канстанцінавіча. Гэты запас зерня гарантаваў стаадсоткавую сяўбу на наступны год нават пры самым слабым сёлетнім ураджаі.

## Кірмашы

Лішкі ж, канечне, ішлі на продаж. Збывалася збожжа на кірмашах навакольных мястэчак, а найперш у Крывічах. Вядома, што сяляне не маглі надоўга адрывацца ад гаспадарак і самастойна займацца гандлем удалечыні ад дома. Таму, як правіла, яны оптам збывалі ўраджай перакупшчыкам, якія бралі танней вялікія партыі і пасля, шукаючы, дзе выгадней, прадавалі збожжа па вышэйшых цэнах. Такімі гандлярамі-перакупамі ў беларускіх мястэчках былі амаль выключна жыды. І гэта, бадай, была асноўная прычына нелюбові мясцовых сялянаў да іх. Прычым кожную восень гэтая нелюбоў абвастралася. У гэты час у жыдоў-гандляроў адбываўся хейрым — таемная дамова, што ладзілася напярэдадні збору ўраджаю. Праходзіла яна ў сінагозе, што не супярэчыла іўдзейскай рэлігійнай традыцыі і разам з тым выключала любую магчымасць пранікнення на савет чужынца, які б парушыў планы кагалу. Нарада гэтая ўзгадняла закупачныя кошты на ўсю прадукцыю, якую мясцовыя сяляне звозілі ў мястэчка на продаж. Вынікам хейрыму былі заніжаныя кошты, праз якія сяляне цярпелі страты, а габрэйскія гандляры мелі добры прыбытак.

Крывіцкі кірмаш, між іншым, апроч збожжавага, меў і яшчэ адзін профіль — вялікі асартымент ганчарных вырабаў. Асаблівым попытам у нашых краях карысталася праца ракаўскіх майстроў.

Іншыя кірмашы ў нашай мясцовасці таксама мелі свае спецыялізацыі. У Даўгінаве, напрыклад, ішоў гандаль каровамі і коньмі. Каб патрапіць на Даўгінаўскі кірмаш, субацкія жыхары ехалі праз брод на Сэрвачы паміж Малышкамі і Навасёлкамі, потым па лясной дарозе да вёскі Жары і далей выязджалі на дарогу Касцяневічы — Даўгінава…

Куранецкі кірмаш найперш славіўся свіннямі. На ім можна было прыдбаць племяннога падсвінка з Еўропы (іх прывозілі найчасцей нямецкія камерсанты), а таксама збыць свайго



гадаванца. Цэлыя вагоны першагатунковых парсюкоў з беларускіх вёсак проста з куранецкага перона адпраўляліся на захад у кілбасныя цэхі замежжа.

У Крэве быў вядомы конскі кірмаш. Па коней туды прыязджалі не толькі мясцовыя гаспадары, але і вайскоўцы. У Крэве рэманцёры* Войска Польскага набывалі на патрэбы кавалерыі коней-трохгодак. Патрабаванні, што выстаўляліся імі да жывёлы, былі надзвычай строгімі: каню мала было мець бездакорны фізічны стан, каня для войска нельга было перад тым выкарыстоўваць на сялянскай працы, нават запрагаць у воз ці спутваць на выпасе. Кошт на такіх коней быў вельмі вялікім. Адзін з нашых сваякоў — Завадскі, які жыў па суседстве, асноўнай крыніцай прыбытку меў якраз такую конегадоўлю. Прадаўшы трох-чатырох коней войску, ён меў гарантаваны даход, што забяспечваў грашыма на ўсе патрэбы цягам года.

Кірмашы, вядома, былі не толькі месцам гандлю, але з'яўляліся яшчэ месцамі сустрэчаў ды абмену навінамі. Менавіта на кірмашах адбываліся розныя дзіўныя і забаўныя гісторыі, што распаўзаліся байкамі па ваколіцах. Адну з такіх памятаю дасюль.

Неяк на Куранецкі кірмаш з вёскі Клоўсі мужык нёс прадаваць пеўня. Певень выгадаваўся ладным птахам і абяцаў гаспадару нядрэнны прыбытак. Не паспеў селянін уладкавацца, як да яго падбег жыдок, які здалёк прыкмеціў птушку і меў да яе не абы-які інтарэс. Ён з налёту, каб не ўпусціць здабычу, звярнуўся да мужыка з пагардлівым запытам, якім імкнуўся збянтэжыць яго і збіць цану: «І колькі ж каштуе тваё пісклянё?» Гэта быў фатальны промах пакупніка, бо дамогся ён зусім не таго, на што разлічваў. Абражаны селянін не разгубіўся і не стаў пераконваць у якасці тавару, а адно толькі, раз'юшаны, узяў когута за ногі і пачаў лупіць

* Вайсковыя спецыялісты, якія займаліся закупкай коней на патрэбы войска.

ім, па чым трапляў, нахабнага ворчыка. Той, не на жарт зляканы, узняўшы лямант, пабег шукаць ратунку. У хуткім часе вярнуўся з паліцыянтам з пастарунка. Калі яны разам падышлі да месца няўдалага гандлю, ахвяра, трохі хаваючыся за спінай прыстава, на выпадак паўторнай лупцоўкі пеўнем, з крыўдай у голасе прамовіла: «Во, глядзіце, ён пабіў мяне гэтым бараном!»

Месцы гандлю не толькі стваралі сваю непаўторную атмасферу, але спараджалі і адмысловыя заняткі людзей. Знайшоў сваё месца на ім і наш даўгінаўскі сваяк Міхась Кур'янчык, які быў чалавекам рынку — барышнікам. Яго праца складалася з наступных этапаў: дазнацца дзе, хто, што і па чым прадае ды купляе, потым ацаніць кан'юнктуру, збіць кошт з добрага тавару і нахваліць кепскі, звесці прадаўца і пакупніка і — з гешэфту мець свой адсотак выгады. Сталымі яго спадарожнікамі ў такіх справах былі рызыка ды авантура. Міхась меў любімую прымаўку: «На рынку два дурні — адзін прадае, другі купляе».

У атмасферы кірмашовага тлуму Кур'янчык пачуваўся як рыба ў вадзе. Апроч усяго, быў вядомым на ўсю акругу зухам і вершнікам. Апошнія ўмельствы набыў ён у Польскай кавалерыі, дзе праходзіў тэрміновую службу. Такія элементы джыгітоўкі, як, напрыклад, скачок з зямлі адразу ў сядло, не кранаючыся страмёнаў, Міхась пры нагодзе, не лянуючыся, дэманстраваў, чым выклікаў павагу і інтарэс. Нягледзячы на бліскучыя кавалерыйскія здольнасці і падафіцэрскі чын, аднойчы на манеўрах ён згубіў сваю шаблю, і маці прыйшлося выслаць сыну грошы, каб той аплаціў страчанае.

А якія хадзілі легенды пра яго карцёжніцкі запал і майстэрства блефу!..

Усё гэта, як звычайна і бывае, ураўнаважвалася пэўнай абыякавасцю да сялянскіх заняткаў — свае пяць дзесяцін ён рэгулярна здаваў некаму на запашку, і зямля часцяком стала занядбаная. Пры першых саветах Міхась быў загадчыкам райспажыўсаюза, дзе праявіў пэўны спрыт…



Цікавай акалічнасцю, датычнай яго, было тое, што ён добра ведаў ідыш. Сталася гэта праз ягоную маці Надзею, малазямельную сялянку, якая ў пошуках заработкаў наймалася працаваць прыслугай да заможных жыдоў мястэчка Даўгінава. Дзе хату прыбраць, дзе дзіцё паглядзець, дзе на кухні дапамагчы. Не маючы дзе пакінуць малога Міхася, яна цягала яго з сабой. Гуляючы з жыдзянятамі-аднагодкамі, Міхась і засвоіў ідыш. Веданне гэтай мовы прыдалося не толькі на кірмашы, але і ў II сусветную, калі Міхась Кур'янчык дапамагаў даўгінаўскім местачкоўцам камунікаваць з немцамі.

Вось такім быў непаўторны свет местачковых кірмашоў, які знік сёння разам з многімі падобнымі звыклымі рэчамі таго часу… Але працягнем.

## Рамеснікі

З нашага засценка мы выпраўляліся не толькі на гандаль, але таксама наведвалі і рамеснікаў, якім пакідалі замовы на выраб адмысловых тавараў. Напрыклад, у Навасёлкі мы ездзілі да татараў-гарбароў. Некалькі сем'яў татараў, што там жылі, займаліся традыцыйным промыслам — апрацоўвалі скуры і шылі з іх вопратку і абутак. Ім мы завозілі авечыя і каровіны скуры. Апроч добрых кажухоў, ад татарскіх гарбароў з Навасёлак у Субачы вярталіся дыхтоўныя хромавыя боты высокай якасці і добрага фасону.

На хромавыя боты ішлі цялячыя скуры. Татары былі неперапераўзыдзенымі адмыслоўцамі — працягваючы ў дзірачку дратву замест іголкі раздвоенай парсючынай шчацінкай, яны стваралі шво такой шчыльнасці, што скураны бот не прапускаў ваду. А ўкладаючы ў падэшву скуру апрацаванымі бакамі адзін да другога, яны рабілі па тагачаснай модзе боты з такім рыпеннем, што круглы год уладальнік такога абутку ступаў нібы па марозным снезе. Боты з рыпеннем каштавалі

даражэй. У такіх ботах, канечне, штодня не хадзілі. У паўсядзённым жыцці выкарыстоўвалі больш просты юхтовы* абутак.

Працягваючы размову пра адзенне, адзначу, што яно было ў значнай частцы самаробным — шарачковыя нагавіцы, кужэльная сарочка, саматканыя світкі. Але і крамныя тканіны ўваходзілі ва ўжытак. Адзеннем хатняга вырабу карысталіся штодня, але на святы ды паездкі мелі куплёнае. Старэйшае пакаленне апраналася больш традыцыйна. Старыя жанчыны дык наогул апраналіся амаль выключна ў нацыянальныя строі. Маладыя кабеты, наадварот, адсочвалі тагачасную моду. Усе мужчыны нашай сям'і мелі выходныя строі-тройкі з якаснай лодзінскай ці нават ангельскай тканіны, пашытыя на замову ў Крывічах, Вялейцы ці Вільні. На галаве былі кепкі, у фацэтаў — капялюш, пальчаткі і ляска.

Гэтак выглядалі нашая зямля, наваколле і мы — жыхары Субачаў, цяпер час завітаць да нас у двор.

## У хаце і на падворку

Хата была вялікая. Зробленая з трох зрубаў, яна мела два ўваходы — парадны і чорны. Складалася з вялікай гасцёўні, чатырох спальных пакояў (мужчынскіх і жаночых), сталовай, кухні, кладоўкі. Месца ў ёй хапала, але зробленая яна была проста, на скорую руку, адразу пасля І сусветнай вайны. Многія пакоі былі праходныя, ды і сам будынак звонку асаблівай прыгажосцю не вылучаўся.

Напрыканцы 1930-х нашая сям'я вырашыла будаваць новы прыгожы дом. Наогул задума перабудовы была глабальнай і тычылася ўсяго двара. Былі адкладзеныя грошы, пачалі збіраць каменне на падмуркі. Летам 1938 года мы распачалі

* Абутак, зроблены з бычынай ці каровінай скуры, выраблены з дапамогай квасцоў і дзёгцю.





• *Субачы. Хата і гаспадарчыя пабудовы. 1930-я гг.*

працы — пабудавалі вялікі бетонны склеп і хлеў. Склеп і сёння самотна стаіць на колішнім нашым дварышчы сярод пустых Субачаў. Ён — усё, што засталося ад сядзібы. Праўда, да апошняга часу побач з ім расла старая груша-сапяжанка, але час не пашкадаваў і яе. Зараз толькі заімшэлы цэментовы ўваход у склеп з надпісам «1938 г.» над дзвярыма нагадвае пра тую вялікую субацкую гаспадарку.

Але вернемся ў хату. У ёй была досыць звычайная абстаноўка для жытла заможных вясковых гаспадароў 1930-х: стол з крэсламі, ложкі, паліцы з кнігамі, гаспадарчыя шафкі, гардэробы і буфет. У буфеце — посуд. У паўсядзённым жыцці выкарыстоўвалі посуд ракаўскіх і івянецкіх майстроў. А на святы на стол ставілася парцаляна і прыгожыя прыборы з келіхамі. Пасярод стала над усім гарой узвышаўся вялікі вядзёрны самавар. У адным з пакояў быў невялікі хатні іканастас, некалькі старадаўніх абразоў, пісаных на дошках, рэшта — звычайныя, на паперы і блясе.

Пасля працы мы ўсёй сям'ёй з задавальненнем бавілі вольны час. І гэта не было панылае сядзенне пры лучынах. Пакоі хаты асвятляліся газоўкамі. У гасціннай вісела вялікая

«сямілінейная» лямпа*. З даўніх часоў у хаце быў грамафон. У пачатку 1930-х мы ўжо набылі чэшскі радыёпрыёмнік «Novatis», а праз некалькі год набылі ў дадатак і польскі «Elektrit» з прайгравальнікам кружэлак. Ён быў машынай высокай якасці і добра лавіў хвалі розных еўрапейскіх гарадоў. Мелася і хатняя бібліятэка, якая ў гэты час папоўнілася новымі выданнямі. Да рускай класікі дадаліся Міцкевіч, Славацкі, Сянкевіч. Асабліва палюбіўся нам Міцкевіч. «Пана Тадэвуша» ведалі вялікімі кавалкамі і з задавальненнем цытавалі. З беларускіх паэтаў больш за ўсё любілі Купалу. Былі ў нас і апальныя ў СССР Ясенін, Цвятаева, Ахматава. Вельмі любілі Зошчанку.

Нядзельнымі і святочнымі днямі ладзілі застоллі, але звычайным днём абавязкова колькі разоў збіраліся ўсе разам за адным сталом. Якія ж стравы бывалі на ім у часы майго маленства?

Заможныя беларускія сяляне ў штодзённым харчаванні мелі поўны набор смачных і спажыўных страваў нацыянальнай кухні. Яе, канечне, нацыянальнай ніхто не называў, але такой яна была не па назве, а па самой сваёй сутнасці — ад сняданку да вячэры, ад поснага перакусу да святочнага стала. Выглядала гэта прыкладна так: зранку — яечня са скваркамі, бліны ці аладкі, малако і масла. У абед — боршч, фасолевы ці гарохавы суп, крупяныя кашы, мяса, гародніна. На вечар звычайна бульба, кіслае малако, маслёнка. На перакус меліся сала, вэнджаніна і жытнёвы хлеб. Па нядзелях і святах у меню дадаваліся кілбасы, а на дэсерт какава з вяршкамі, пшанічная булка, печыва. Вы ўсміхняцеся, прачытаўшы «какава»? Не, я нічога не блытаю, у заможных гаспадароў Заходняй Беларусі гэты напой не быў вялікім дзівам.

* Шырыня кнота «7 ліній» — 18 мм, ён даваў яркае і роўнае асвятленне.



У посныя дні гатаваліся адпаведныя стравы. Жанчыны ў гэтым пытанні былі больш прынцыповымі і строгімі, а мужчыны часам дазвалялі сабе палёгку…

На дварэ канец неспакойных 1930-х, свет на парозе нечуваных і катастрафічных пераменаў, а ў нашых Субачах жыццё ідзе па завядзёнцы. І менавіта на гэты час прыпадае заўважны рост дабрабыту сям'і.

Важная роля тут належала майму старэйшаму брату Кастусю, які з вялікай цікаўнасцю ўдасканальваў гаспадарку — выпісваў па пошце новыя высокаўраджайныя гатункі насення, хімічныя ўгнаенні, вёў асабістыя назіранні, ставіў эксперыменты. Яны разам з братам Яўціхіем, вельмі здольным да тэхнічных навінак, апрабоўвалі шмат якія тэхналогіі — і гэта сапраўды давала плён. Новаўвядзеннямі, апрабаванымі на ўласным падворку, Кастусь зацікавіў шмат каго з суседзяў — навінкі разыходзіліся па наваколлі. Нягледзячы на схільнасць да малявання, Кастусь быў і добрым работнікам з вялікім патэнцыялам самаадукацыі. Ён самастойна набыў нават некаторыя ветэрынарныя навыкі: пры тымпаніце* мог траакарам прабіць бок карове, чым неаднойчы ратаваў жывёлу. Для душы займаўся пчалярствам. Ён жа адказваў за ўсё афіцыйнае справаводства фальварка, вырашаў любыя спрэчныя сітуацыі з органамі ўлады і ўстановамі…

Тут варта сказаць і пра памочніка і таварыша Кастуся ва ўсіх ягоных пачынаннях, яшчэ аднаго майго брата — Міхася.

Вучыўся ён у дарэктара**, у 1932–34 гадах прайшоў тэрміновую службу ў Войску Польскім. Першыя мае ўспаміны пра яго звязаныя якраз з гэтым часам.

* Хвароба жвачных жывёлаў, якая характарызуецца ўздуццем з прычыны накаплення газаў галоўным чынам у рубцы.

** Хатні настаўнік у беларускай вёсцы.



• *Міхась Сцебурака на тэрміновай службе ў Войску Польскім. 1932–33 гг., Варшава*

Брат Міхась служыў ва ўзводзе хімабароны 13-га пяхотнага палка, які стаяў у гарадку Пултуск, што на поўнач ад Варшавы. Мы рэгулярна атрымлівалі ад яго лісты, з якіх дазнаваліся, што апроч службы ён вывучае польскую мову, ходзіць да царквы, займаецца спортам. Разам з лістамі ішлі фотаздымкі. На іх ён у вайсковым мундзіры, на кіцелі дзяржаўная спартовая эмблема і знак 13-га палка пяхоты.

Потым нечакана ён з'яўляецца ў адпачынак пры поўным парадзе — з багнэтам (штыхом) на поясе! Я, малы хлапчук, быў вельмі ўражаны: брат — сапраўдны жаўнер, як з карцінкі! Пасля пабыўкі Міхась ізноў вярнуўся ў шэрагі Войска Польскага — служба на той час працягвалася два гады. Потым дэмабілізаваўся і прыехаў дахаты. Праз пяць гадоў ён прызываўся яшчэ раз: у 1937 годзе быў у войску на зборах.

Па вяртанні ўзяў на сябе гаспадарчыя клопаты — фальварку патрэбныя былі працоўныя рукі. Бацькаў век пераваліў за паўсотні, і Міхась вельмі шмат працаваў. Па характары брат быў чалавекам далікатным, нават мяккім. Любіў цяслярства. Яго ўмельства ў гэтай справе сягала значна далей узроўню, неабходнага гаспадарцы. Неяк раз ён зрабіў сапраўдную гітару, якую прэзентаваў брату Яўціхію. Інструмент атрымаўся ўдалым, і ў 1939 годзе Міша вырабіў усе дэталі для скрыпкі, якую меўся сабраць… Вайна, на жаль, не дала яму скончыць тую работу.





• *Міхась Сцебурака з аднапалчанамі ў Войску Польскім. 1932 г.*



• *Міхась Сцебурака на вайсковых зборах. 1937 г.*

Трэцім незаменным працаўніком у нашым маёнтку быў памянёны брат Яўціхій. Першы наш сямейны ўспамін пра Яўціхія трагікамічны. Праз тыдзень ягонага навучання ў першым класе настаўніца выклікала бацькоў у школу. Тату пабаяліся нават сказаць, таму пайшла маці. Спалоханы Яўціхій, не ведаючы, у чым вінаваты, збег з хаты і чакаў заканчэння суда на аселіцы. Настаўніца цярэшкаўскай пачатковай школы сказала разгубленай маці, што хлопчыка трэба пераводзіць у трэці клас, бо ў першым і другім яму няма чаго рабіць… Так і вырашылі. Дарэчы, і іспыты за 8–10-ы класы савецкай школы ён здаў экстэрнам. Шмат і з задавальненнем чытаў. Старонку мастацкай кнігі ўмеў хутка прабегчы па дыяганалі, невялікую кнігу адужваў за адзін вечар. Многія ставіліся недаверліва да такіх здольнасцей — спрабавалі праверыць змест прачытанага і здзіўляліся, калі хлопец падрабязна пераказваў падзеі са старонак кнігі.

У Яўціхія з малалецтва была заўважная схільнасць да тэхнікі. У дванаццаць гадоў ён сам сабраў дэтэктарны прыёмнік. Пазней нават вырабляў дэтэктарныя прыёмнікі па замове на продаж. Вельмі любіў спорт і музыку. Самастойна асвоіў гітару, якую зрабіў для яго брат Міхась. Пасля заканчэння крывіцкай «паўшэхнай» (сярэдняй) школкі застаўся на гаспадарцы, чакаючы прызыву ў Войска Польскае. Збудаваў на рачулцы Накве* па сваім праекце маленькую гідраэлектрастанцыю, ад якой зараджалі батарэі радыёпрыёмнікаў і акумулятары матацыклаў. Прынцып яе дзеяння быў наступны: плынь ракі круціла кола, ад яго ішоў вал да генератара. Да генератара былі далучаныя акумулятар і вальтметр. У той час акумулятары былі шклянымі ў драўлянай скрынцы з ручкай. Вызначыць поўную зарадку можна было і без дапамогі вальтметра: калі электраліт закіпаў — здымай, акумулятар цалкам зарадзіўся.

* Наква — правы прыток Сэрвачы, басейн Вяллі. Даўжыня 14 км, вадазбор 84 км$^2$. З фінавугорскага — «белая вада».





• *Мініэлектрастанцыя на р. Наква. 1930-я гг.*

Асабліва лёгка Яўціхій вывучаў спецыяльную тэхнічную літаратуру і мог адрамантаваць што заўгодна. У маладосці вельмі захапіўся матацыкламі і марыў набыць сабе такую машыну. Памятаю, выбраў адзін матацыкл у каталозе фірмы «Харлей». Грошай гэта, канечне, каштавала немалых, і бацька ўжо вылучыў пару коней-трохгодкаў на продаж, каб на атрыманыя сродкі сын мог набыць упадабаны матацыкл. Але прыход бальшавікоў у 1939-м не даў спраўдзіцца братавай мары.

Яшчэ адным нашым агульным захапленнем было фатаграфаванне. Набыўшы камеру «Кодак», мы здымалі краявіды, побытавыя сюжэты, але найбольш рабілі групавыя



• *Яўціхій зняў малодшых братоў і сясцёр на шпацыры ў мястэчку Крывічы. Сярэдзіна 1930-х гг.*



• *Ніна Сцебурака на шпацыры. 1930-я гг.*

здымкі родных, сяброў і аднавяскоўцаў. Фонам для такіх здымкаў выбіралі лясныя ці садовыя дрэвы, прыгожыя будынкі, а часам расцягвалі на сцяне посцілку ці капу* і рабілі здымак на яе тле.

Не менш за братоў шчыравалі на нашай гаспадарцы і мае сёстры. Ніна і Валянціна былі незаменнымі памочніцамі матулі. І толькі малодшая Леначка была яшчэ занадта малой, каб улягаць у працу па-сапраўднаму. Яна была нашай любіміцай і пестай…

* Капа — крамнае каляровае пакрывала на ложак.



# У беларускай справе

Як вядома, нягледзячы на нацыянальны ўціск польскіх уладаў у адносінах да беларусаў, нашыя землі ў 1920–30-х гадах жылі насычаным грамадска-палітычным жыццём.



дратьева—1 зл. 20 гр., Канст. Сьцебуракі—7 зл. 50 гр., Тодара Сапегі—5 зл. 30 гр., Пятра Бельскага—14 зл., Арк. Цітовіча—3 зл. 80 гр.

У справах арганізацыі на мяйсцох Гурткоў

**Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады**

• *Спіс ахвярадаўцаў ТБА. Газета «Родны край»*

Нашая сям'я не была выключэннем. Актыўным удзельнікам беларускага грамадскага жыцця ў заходнебеларускай вёсцы быў Кастусь Сцебурака. Сведчанні пра яго ўдзел захаваліся на старонках многіх тагачасных беларускіх выданняў.



8 РОДНЫ КРАЙ

Новазаложаныя бібліатэкі-чытальні Т-ва Беларускай Асьветы.

У мінулым месяцы высланы камплекты кніжак і адчынены бібліатэкі-чытальні Т. Б. А. у ніжэй пералічаных пунктах пад кіраўніцтвам наступных асобаў:

1. У в. Есьмановічах, Гарадоцк. гм; Маладзечанск. пав. Адказны кіраўнік Калюбака Язэп.

2. У в. Адамаўцы тэй жа гм., таго-ж пав.—адк. кіраўнік Рыбінскі Фадзей.

3. У фольв. Мяхоўшчына тэй-жа гм., таго-ж пав.—кіраўнік Сымановіч Міхаляй.

4 У в. Субачы Крывіцк. гм., Вялейск. пав.—кіраўнік Сьцебурака Кастусь.

• *Спіс бібліятэк ТБА. Газета «Родны край»*

Ужо ў 1926 годзе пятнаццацігадовы Кастусь фігуруе як ахвярадаўца газеты «Беларуская справа», друкаванага органа Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выглядае, што да беларушчыны хінулася і ўсё сямейства, бо сродкі, ахвяраваныя Кастусём, найхутчэй, былі выдадзеныя яму бацькамі.

Пазней Кастусь далучыўся да Таварыства беларускай асветы (ТБА). Сярод заснавальнікаў і кіраўнікоў ТБА былі Антон Луцкевіч і Радаслаў Астроўскі. Гэтая арганізацыя была створаная ў 1933 годзе, у вельмі неспрыяльных умовах, калі ўсё беларускае мэтанакіравана душылася польскімі ўладамі. ТБА адмыслова дыстанцыянавалася ад палітычнай барацьбы


• *Кастусь Сцебурака. 1930-я гг.*

і спрабавала знайсці агульную мову з урадам, пры гэтым яна непахісна трымалася беларускай пазіцыі і служыла беларускаму народу.

Дзейнасць гэтай культурна-асветніцкай арганізацыі была дастаткова асцярожнай і вялася ў падкрэслена легальным полі. Заняўшы такія пазіцыі, арганізацыя ў першыя гады мела нават пэўнае спрыянне з боку польскіх уладаў. Выдавала газету «Родны край» і разгарнула асветніцкую дзейнасць, што праўда, пераважна на Віленшчыне.

У лістападзе 1932 года ў газеце «Беларускі звон», органе Цэнтральнага саюза культурных і гаспадарчых арганізацый, пачалі пісаць пра ініцыятыву «Кніжку для вёскі!» («Арганізацыя бібліятэкаў-чытальняў — гэта цяпер наша баявая задача», «Дайце вёсцы святла — дайце вёсцы кніжку»). Тады рэдакцыя звярнулася да сваіх чытачоў, сярод якіх быў К. Сцебурака, далучацца да ініцыятывы і заяўляць пра жаданне закласці ў сябе ў вёсцы такую беларускую бібліятэчку. Кастусь стаў адным з першых прыхільнікаў гэтага асветніцкага чыну ТБА.

У студзені 1933 года таварыства прыступіла да арганізацыі «*першай серыі бібліятэчак-чытальняў на правінцыі*». Кастусь далучыўся да прапанаванага чыну. У красавіку 1933-га ў «Родным краі» шчыра дзякуюць «Сцебураку ў Крывічох» за «*гатоўнасць паслужыць поруч з намі справе роднай асветы і культуры*» і высылаюць яму статут ТБА і інструкцыі. А ў траўні сакратарыят ТБА паведаміў пра высылку кніжных камплектаў на адрасы ўжо зацверджаных уладамі асобаў, сярод якіх было імя «*Кастуся Сцебуракі — у в. Субачы*». Так Косця ўзначаліў адну з трыццаці трох вясковых бібліятэчак ТБА. Яна месцілася ў нашай хаце, пра што сведчыла адмысловая шыльда, надрукаваная на брыстолі*.

На той час Субачы ўключалі ў сябе не толькі наш фальварак, але і некалькі дзясяткаў гаспадарак у ваколіцах. Субачамі лічыліся і непасрэдна нашыя двары, і тыя, што былі раскіданыя бліжэй да вёсак Кусі і Беркаўшчына. Разам у той час жыхароў гэтых «вялікіх» Субачаў налічвалася каля 230 чалавек.

Косцева актыўнасць не абмяжоўвалася гэтай працай. Спрабаваў ён сябе і як карэспандэнт.

Ён ліставаўся з рэдакцыямі газет «Родны край», «Беларускі звон». На старонках выданняў з'яўляліся ягоныя допісы — тыповыя замалёўкі з жыцця правінцыі. Часам рэдакцыя давала зваротную сувязь на ягоныя лісты. Вось фрагмент такога ліставання з «Родным краем»:

«*Вёска Крывічы. Сябра Стабурак.*

*Вы пішаце, наступна: "Я — адзін, вясковы жыхар, сын мільённага народу (як выражаюцца некаторыя беларускія паэты), змалку прыгорнуты дзікай прыродай, а натурай — адкінуты далёка ад людзей, звяртаюся да Вас". Далей Вы пішаце, што вы — ігнарант традыцыі ані ня ўмееце паставіць нават коскі на сваім мейсцы. Вы ня знаеце цяпер: ці пісаць, ці ня пісаць. Просіця зрабіць заўвагі. Усё, аб чым вы пішаце, гэта такія рэчы, над якімі не трэба вельмі распачаць. Усяго можна навучыцца. Толькі не аддаляйцеся ад людзей — у свет выключна асабісты, а наадварот, чым болей будзьце з людзьмі, прыслухоўвайцеся да іх жыцця, падглядайце*

* Цвёрдая белая папера.

*гэтае жыццё і самі займайце нейкае “мейсца пад сонцам”. Пісаць вам радзім, але пісаць і думаць, і чуць, і перажываць. У вас шмат шчырасці, а гэта — галоўнае ў творчасці. Кіньце звычай нішчыць напісанае. Часткі з вашых твораў мы надрукуем і зробім пэўныя ўвагі. Цяпер нагул ажывіўся літаратурны рух у Зах. Беларусі. Шагайце з ім у ногу і ідзіце ўсьцяж наперад. Наперадзе — агні!*»

Невядома, як часта пісаў Кастусь і колькі яго допісаў было надрукавана, бо па тагачаснай завядзёнцы часцей за ўсё допісы хаваліся пад псеўданімамі. Важна тое, што Кастусь быў адным з актыўных прыхільнікаў беларускай справы і, працягваючы традыцыю «нашаніўскіх» карэспандэнтаў, дасылаў звесткі пра жыццё беларускай глыбінкі ў рэдакцыю беларускіх газетаў. Калі прыйшлі саветы ў верасні 1939-га, Кастусь спаліў свой вялікі нататнік з вершамі, нарысамі і апавяданнямі…

Важна адзначыць, што ліставанне брата менавіта з рэдакцыямі «Роднага краю» і «Беларускага звону» было вынікам адпаведнай палітычнай платформы. Справа ў тым, што Кастусь выпісваў і многія іншыя газеты, як, напрыклад, «Беларускую газету» (1933–34), але ён не падзяляў яе леварадыкальных поглядаў, займаючы ўзважаныя нацыянальна-дэмакратычныя пазіцыі.

## Госці і суседзі

Хоць жылі мы ў фальварку невялічкай грамадой, але нашыя дзверы былі заўсёды адчыненыя, а паколькі Кастусь да ўсяго быў нашым сувязным з далёкімі і блізкімі ваколіцамі ды галоўным пастаўнікам навінаў, праз яго да нас час ад часу траплялі цікавыя асобы. Адным з самых адметных нашых гасцей быў беларускі паэт Яўген Скурко — Максім Танк. Кастусь з ім выпадкова пазнаёміўся на станцыі Крывічы*. У іх на пэўны час склаліся прыязныя прыяцельскія стасункі, і будучы беларускі класік неяк нават гасцяваў у нашых Субачах…

Дзеля захавання справядлівасці трэба зрабіць адступленне ад расповеду пра брата і адзначыць, што ў нашых краях паэт Максім Танк быў сапраўднай зоркай, і, канечне, вакол яго асобы лунаў флёр гераічнасці, таямнічасці і славы. Нічога дзіўнага, што ўсе мясцовыя людзі, хто хоць упаўвуха чуў пра Танка ці некалі мелькам бачыў, — усе лічылі неабходным неяк падкрэсліць сваё знаёмства з класікам. Як паслухаць, дык усе паляўнічыя навакольных вароў хоць раз ды бывалі з ім на паляванні, а рыбакі Нарачанскага краю ўсе, як адзін, вазілі славутага земляка на чоўне. Да некага ён прыходзіў у хату на танцы, а недзе спыняўся на начлег. Той-сёй абавязкова меў у сваячках маладзіцу, да якой пісьменнік далікатна заляцаўся. І яшчэ болей было тых, хто браў з ім чарку ў бяседзе.

Значная частка такіх гісторый, безумоўна, не мела аніякай доказнай базы і прыдумлялася для прыгожага слоўца пад тую ж самую чарку. Часам імя Максіма Танка пагалоска далучала і да некаторых падзей больш высокага ўзроўню, чым удзел у сялянскім жыцці. Вось, напрыклад, вядомая ў нашых краях прымаўка «*Максім Танк і Прытыцкі прапілі раён Крывіцкі*» адсылае нас у тыя часы, калі чарговая адміністрацыйная рэформа скасавала статус Крывічоў як райцэнтра. Што праўда, Танк насамрэч падтрымліваў сяброўскія адносіны з Прытыцкім, які быў тады першым сакратаром Маладзечанскага абкаму, але як паўплывалі іх пасядзелкі на тыя змены, невядома…

Сярод баек пра паважанага земляка ўспамінаецца яшчэ і такая. Яўген Скурко ў старэчым веку часта пачаў звяртацца да дактароў. Аднойчы на прыёме ў доктара Аскальдовіча ў

---

* Станцыя Крывічы знаходзілася ў мястэчку Княгінін. А каля паселішча Крывічы меўся толькі паўстанак пад такой самай назвай.

Бараўлянскім шпіталі Танк паскардзіўся: «Вялікі ціск, доктар, маю». На што пачуў у адказ: «На тое ж вы і Танк!»…

Побач з намі жылі і працавалі нашыя субацкія суседзі. У блізкім суседстве жылі некалькі сем'яў: непасрэдна з намі межавалі моцныя гаспадаркі Будзькаў і Завадскіх, таксама жылі Сяліцкія — малазямельныя (усяго сем гектараў), але добрыя і працавітыя людзі.

Сусед Антось Будзька добра даглядаў зямлю, якой было ў яго каля дваццаці гектараў. З жонкай Кацярынай яны мелі шэсць дзяцей: трох сыноў — Івана, Міколу і Валодзю, і тры дачкі — Вольгу, Ніну, Соню. Валодзя быў, як мне памятаецца, добрым шаўцом.

Між іншым, Будзькі былі вельмі не супраць парадніцца з намі. Хацелі, каб іхнюю Соню ўзяў у жонкі наш Кастусь, але неяк не склалася — абраны ў жаніхі дзяцюк, здаецца, не меў



• *З субацкімі суседзямі. Злева направа: Валя Сцебурака, Зося Сувалка, Ніна Будзька, Соня Будзька, Яўціхій Сцебурака, (?), Кастусь Сцебурака. 1930-я гг.*



інтарэсу да дзяўчыны. Суседзі не на жарт пакрыўдзіліся. Помсцячы за такую няўвагу, Іван Будзька спаліў нашую пуню. Зроблена тое было таемна і, можа, ніколі б і не адкрылася, каб пра гэта ён сам не прызнаўся Яўціхію перад смерцю.

Нашымі аднагодкамі і сябрамі ў гульнях былі дзеці нашых суседзяў Завадскіх: Эдзя, Аляксандра, Франук і Рэня. Завадскія жылі недалёка і добра гаспадарылі на сваіх дваццаці пяці гектарах. Былі досыць заможнымі і да ўсяго паспяхова займаліся конегадоўляй. Франук запомніўся мне сваім вясёлым норавам і жартоўнымі прыпеўкамі ды прыгаворкамі.

*А на рэчцы тонка кладка,*
*Дзе хадзіла Бож'я Матка.*
*Кладка моцна зыбнулася,*
*Матка моцна злякнулася…*

Яшчэ адныя нашыя суседзі Радзевічы мелі зусім няшмат зямлі, таму вымушаныя былі займацца адыходнымі промысламі. У пошуках працы адзін з Радзевічаў трапіў у Піцер, дзе даслужыўся да пасады майстра на вядомым Пуцілаўскім заводзе. Яго запомнілі ў наваколлі па прыездах на радзіму паспяховым гарадскім фацэтам у паліто з каракулевым каўняром і, як казалі, «*пад гадзіннікам з залатым ланцужком*». Разам з гарадской модай ён прывозіў у беларускую вёску чужыя звычкі і песні. Адну такую прыпеўку ён часцяком паўтараў на застоллях: «*Ванька з Піцера прыехал — гармонь новую прывёз*»…

Побач з намі жылі таксама Левандоўскія. Адзін з мужчынаў іх сям'і быў солтысам навакольных вёсак падчас Другой сусветнай і быў застрэлены партызанамі.

Адносіны з суседзямі былі збольшага прыязнымі, а з аднымі з іх — сям'ёй Шорцаў — шчыра сяброўскімі. Арцём Шорац меў невялікую гаспадарку, якую, як пасталелі сыны, перадаў у іх рукі, а сам падаўся да нас у парабкі і адрабіў пры ўзаемнай згодзе і выгадзе ажно сем гадоў.

У Шорцаў была знаная на ўсю ваколіцу пасека, заведзеная ў самым пачатку XX стагоддзя. Іх пчолы перажылі ўсе напасці, нават бязлітасныя партызанскія рэквізіцыі падчас вайны, калі партызаны па-дзікунску залівалі кіпнем вуллі, каб забраць мёд. Шорцы перахоўвалі пчолаў па суседскіх гарышчах, ішлі на ўсялякія хітрыкі, але захавалі вуллі і іх насельнікаў. Ужо больш за сто гадоў іх пасека і старая хата стаяць нязрушанымі каля вёскі Субачы на адным і тым жа месцы.

Завяршаючы ўспаміны пра суседзяў, згадаю таксама сям'ю Гардзееў. Яны мелі каля чатырнаццаці гектараў, гаспадарку аднак вялі дрэнна: занядбаная зямля часцяком стаяла ў бур'яне. Затое адзін з Гардзееў быў вядомым на ўсю ваколіцу прыхільнікам ідэяў камунізму. Ці дзіва, што менавіта ён у 1945 годзе стаў аўтарам даносу ў НКУС на майго бацьку Мікалая Канстанцінавіча Сцебураку…

Няблага за Польшчай жылося і нашым сваякам. Сям'я цёткі Хрысціны, якая пабралася з Разанцавым з Яцкавічаў, была заможнай. Іх род меў каля ста сарака гектараў, але працягваў пры нагодзе прыкупляць зямлю, карыстаючыся з таго, што іх сусед, стары халасцяк шляхціц Валасевіч, часткамі распрадаваў свой вялікі маёнтак. Грошай на куплю чарговага кавалка ў канцы 1930-х яны пазычылі і ў майго таты Міколы Сцебуракі, але прыход саветаў у 1939-м і Другая сусветная вайна зрабілі пазыку нявернутай…

Вось так выглядаў наш фальварак Субачы, яго насельнікі і суседзі. Але час глянуць шырэй і выйсці за яго межы.



# Мястэчка

Сэрцам наваколля было мястэчка Крывічы. Гэта быў сусвет у мініяцюры, дзе суіснавалі традыцыі, звычаі, мовы і рэлігіі ўсіх жыхароў краю. У адміністрацыйным плане нашае мястэчка з'яўлялася цэнтрам крывіцкай гміны, дзе месціліся ўсе афіцыйныя інстытуцыі: гмінная ўправа, пастарунак, школа, аптэка, пошта, шпіталь, «dom ludowy» (Дом культуры мястэчка).

З Дома культуры і пачнём. Гэта быў сапраўдны цэнтр жыцця. У ім былі сцэна і кінаўстаноўка, якая круціла польскія і замежныя стужкі, дзейнічаў аркестр (у складзе скрыпкі, цымбалаў, бубна і баяна). Ладзіліся танцы. Вядомым баяністам быў Суднік — музыка, знакаміты на ўсю ваколіцу. Дарэчы, гэты баяніст і яго брат пасля пры саветах былі галоўнымі спецыялістамі на маладэчанскай гармонікавай фабрыцы. Інструменты, да якіх яны прыклалі руку, адрозніваліся высокай якасцю і цаніліся нават па-за межамі БССР. Побач з «домам людовым» стаяў цір з малакаліберными вінтоўкамі. Гэтае месца асабліва карысталася поспехам у мужчынскага насельніцтва гміны. Стралялі з задавальненнем усе.

Апроч таго, у Крывічах, канечне ж, меліся корчмы, крамы, майстэрні. У тым ліку майстэрня па рамонце і пракаце ровараў. А рамантаваць было што! Нельга ў размове пра тагачаснае жыццё не згадаць хоць слоўцам гэтую двухколавую машыну — любімую нашую забаўку і незаменны транспарт — ровар!

У 30-я гады гэтая машына была наколькі папулярнай, настолькі і прэстыжнай тэхнікай. Набыць яе мог дазволіць сабе далёка не кожны. А мець некалькі ровараў на сям'ю было прыкметай немалога дастатку. Кошты ваганіся ад ста васьмідзесяці да чатырохсот пяцідзесяці злотых. Спачатку ровары ў Польшчы былі імпартныя. Потым з'явіліся Львоўскі і Варшаўскі велазаводы, прадукцыя якіх карысталася добрым



• *Кастусь Сцебурака з сябрамі. 1930-я гг.*




• *Каталог польскіх ровараў*

попытам. Напрыклад, сталічная фірма PWU (Państwowe Wytwórnie Uzbrojenia) у сярэдзіне 1930-х прапаноўвала пакупнікам такія папулярныя мадэлі, як «Łucznik» і «Łucznik Extra». Яны выраблялiся ў вялікай колькасці мадыфікацый: турыстычны, дамскі, дамскі турыстычны, дзіцячы для дзяўчат і дзіцячы для хлапцоў і іншыя. Мадэлі былі абсталяваныя пярэднімі і заднімі тармазамі на стырне, а таксама тормазам «тарпеда» на педалях. За невялікі кошт замоўца мог выбраць колер свайму



жалезнаму каню — зялёны, сіні, чырвоны, аліўкавы, вішнёвы, шэры. У часы майго маленства ў нас было тры ровары. Адзін з іх быў дамскі.

У 1930-х ровары выраблялiся і ў Гародні на фабрыцы Старавольскіх. Ровары «Нёман» з гэтай фабрыкі можна было сустрэць у паштальёнаў, чыноўнікаў і звычайных грамадзянаў. Гэтая ж фабрыка выраблялa і матацыклы.

Вяртаючыся да крывіцкай сферы паслуг, адзначу ейную пярліну — рэстаран Старасцінскага. Месца, дзе, маючы грошы, можна было адчуць сябе сапраўдным панам, пакаштаваўшы прысмакаў, паслухаўшы музыкаў і кульнуўшы добрую чарку.

На варце маралі на супрацьлеглым ад корчмаў і рэстарацыі флангу стаялі касцёл, царква і сінагога. Цэнтрам мястэчка была вялікая гандлёвая плошча (зараз сквер).

## Літвакі

Беларусы, як вядома, былі ў мястэчках меншасцю і сяліліся зазвычай па ўскраінах, галоўнымі ў мястэчку былі, безумоўна, жыды. Менавіта іх дамы і лаўкі атачалі плошчу. Нашыя беларускія жыды — літвакі — адрозніваліся асаблівым флёрам, стваралі непаўторны каларыт і дух тагачаснага мястэчка. З многімі з іх у нас складаліся добрыя стасункі.

З некаторымі мы мелі нават агульныя сакрэты. Напрыклад, мой бацька Мікола, калі вэндзіў свіныя кумпякі і кілбасы, заўсёды рабіў шынку па замове млынара Моткі Ходаса. Той меў слабасць да забароненай у яго веры свініны, а проста купіць яе на кірмашы ён, па зразумелых прычынах, не мог. Таму дастаўка далікатэсу ўяўляла цэлую шпіёнскую аперацыю. Прыгатаваную шынку загортвалі, клалі ў кошык, прыкрывалі посцілкай і выпраўлялі мяне з ёй на ровары. Некашэрная пасылка была таямніцай, таму мэта майго візіту да Ходасаў не агучвалася. Я ехаў на млын як бы па

нейкай важнай справе. Калі прывозіў Мотку шынку, малы млынаровы сын Хевель, смешна картавячы, дражніўся і абзываў мяне «музыком». А я, нібы ўзлаваны, злазіў з ровара, і перахапіўшы ўпоперак, тыцкаў жыдзёнка галавой у стаў. Адносінаў гэта ніяк не псавала, а выглядала на сяброўскую гульню з узаемным даверам ды сакрэтам.

Такія гісторыі не былі выключнымі — жыды добра ведалі мясцовых беларусаў і давяралі ім. Прыгадваю выпадак, што адбыўся аднойчы ў крывіцкай краме…

Крама Сары-рэзнічыхі была лепшай у мястэчку. Набыць там можна было ўсё, ад цукерак да добрай ангельскай сукні. Акрамя таго, Сара мела адметны гандлярскі талент. Неяк, ідучы дахаты са школы, да яе завітаў малы сын аднаго заможнага селяніна. Разглядаючы цікавосткі, школьнік надта ўпадабаў новы ранец, што вісеў на гачку ў крамцы. Увішная гандлярка тут жа ласкава прапанавала хлопчыку замяніць ягоны просты палатняны хатуль на новы скураны заплечнік з бліскучымі спражкамі. Зняла, дапамагла прымераць, падцягнула лямачкі, адпусціла шчаслівага і збянтэжанага хлопчыка з абноўкай дахаты, ні словам не згадаўшы пра аплату… Праз дзень да яе завітаў тата школьніка і аплаціў незапланаваны набытак сына. Сара-рэзнічыха з прыемнасцю ўзяла грошы і спраўдзіла, ці спадабалася пакупка. Пачуўшы падзяку ў адказ, яна засталася ў найлепшым настроі, бо не сумнявалася, што так і будзе, добра ведаючы сумленнасць беларусаў…

Вобразы многіх нашых местачковых габрэяў памятаюцца мне дагэтуль. Адзін з такіх — гандляр жывёлай Хаім, што быў найбольшым таўстуном сярод крывіцкіх жыдоў. (Хаім Кацовіч пазней разам з вялікай сям'ёй загінуў падчас Халакосту.) Некалькі разоў на год ён абыходзіў ваколіцы мястэчка з мэтай дамовіцца пра куплю рознага быдла. Падчас такіх выправаў гандляр з задавальненнем спыняўся на начлег у нашай хаце. Хаім быў падкрэслена паважлівым у



абыходжанні і непатрабавальным госцем. Пры гэтым у яго паводзінах меліся адметныя дробязі, якія не дзівілі дарослых, але выклікалі жывую цікавасць у дзяцей. На вячэру Хаім ласкава прасіў гаспадыню прынесці яму кошык мытай бульбы, з якой, уважліва разгледзеўшы кожную, урэшце выбіраў сабе штук пятнаццаць. Пасля сам выкладаў яе на вуголле ў печы. Наступнай яго аперацыяй быў выбар у якасці абавязковай затаўкі дзвюх цыбулінаў, якія Хаім, не спяшаючыся, адбіраў па нейкіх аднаму яму вядомых прыкметах у вязанцы і, далікатна адшчапіўшы, клаў на стол. Да бульбы з цыбуляй ён дадаваў кавалак селядца, які прыносіў з сабой у кайстры. Павячэраўшы, дзіўнаваты таўстун клаўся адпачываць, але заўсёды прасіў гаспадароў на ноч уладкавацца не на ложку, а на звычайнай лаве каля печы. Хаім-гандляр быў шчырым іўдзеем, які выконваў патрабаванні сваёй веры нават у падарожжы, не звяртаючы на сябе лішняй увагі, не абцяжарваючы іншых і выказваючы падкрэсленую павагу да іх…

Вось такія былі яны, нашыя літвакі, добрыя суседзі і каларытныя насельнікі беларускіх земляў. Немагчыма распавядаць пра міжваенную Польшчу, не згадваючы іх прысутнасці. Тым болей што ў 1920-х — пачатку 1930-х пачуваліся яны досыць вольна і іх роля ў жыцці грамадства была заўважнай. Сітуацыя пачала змяняцца са смерцю маршалка Пілсудскага, калі ў польскай дзяржаве адчуўся подых амаль афіцыйнага антысемітызму. Адбывалася гэта найперш у ідэалогіі і высокай палітыцы — у паўсядзённым жыцці мястэчка гэта асабліва не заўважалася. Калі не лічыць гісторыі з укінутай у фортку сінагогі варонай, што нарабіла вэрхалу падчас набажэнства і папалохала ціхіх местачковых іўдзеяў…

Жыды па-ранейшаму вялі рэй у гандлі, трымалі заезныя дамы і корчмы, іхняя капэля, як і раней, грала на ўсіх вяселлях, а іх млыны малолі ўсяму наваколлю збожжа. Адзін з такіх млыноў, што стаяў на маленькай рэчцы Наква, належаў

Мэндэлю. Мэндэль лічыўся за вельмі добрага майстра, які ніколі не падводзіў з выкананнем замовы. Калі ў ставе ад напружанае працы млына часам не хапала вады, гаспадар заводзіў рухавік, што працаваў на сырой нафце (па-польску яна звалася ropa naftowa), і справа ішла далей. Дакладна апоўдні з млына даносіўся гучны гудок, што сведчыў пра няспынную працу механізма і заклікаў кліентаў… Справы ішлі сваім парадкам, толькі на сцяне млына, што глядзела на дарогу, з'явіўся плакат польскіх шавіністаў, на якім батлеечны жыд сядзеў верхам на свінні. Пад гэтай выявай вялікімі літарамі было напісана наступнае «*Бяры хварасціну і гані жыда ў Палесціну*»… Бытавы антысемітызм стаў праяўляцца больш адкрыта і ў паўсядзённым жыцці. Абразлівыя мянушкі ды крыўдныя прыказкі прамаўляліся ўголас і са смакам. Сустрэўшы жанчыну з вядром вады на вуліцы, той-сёй дасціпнік пытаўся: «*Куды нясеш ваду, на мацу? Дай я сраку памацу!*»

Дарэчы, у нашых краях быў яшчэ адзін унікальны момант, што тычыўся жыцця беларускіх жыдоў. А больш дакладна — іх рассялення і заняткаў. У вёсцы Ніўкі мелася жыдоўская грамада з дванаццаці-пятнаццаці двароў, якая жыла менавіта з земляробства, як і ўсе беларусы навокал. Як так сталася, што яны адкалоліся ад местачковага кагалу і з'ехалі на вёску, невядома, але той факт, што яны сталі жыдамі-сялянамі, сам па сабе досыць цікавы і заслугоўвае згадкі ў нашым расповедзе.

Ці думалася тады, што пройдзе колькі год — і бязлітасная хваля вялікай вайны знішчыць усю габрэйскую прысутнасць, што стагоддзямі складалася тут і стала часткай беларускай цывілізацыі? Але тады была Польшча, быў перыяд адноснага спакою, што зараз з вышыні пражытых гадоў успрымаецца мной як найлепшы, залаты час паміж двума жудаснымі ваеннымі ліхалеццямі…



## Мясцовыя ўлады

Апісваючы жыццё тагачаснага грамадства, колькі словаў хачу сказаць пра тое, кім і як яно кіравалася.

Польская адміністрацыя таго часу хоць і не была дэмакратычнай, але не была яна і настолькі таталітарнай, каб умешвацца ва ўсе бакі жыцця. Яе ўдзел быў заўважны простым людзям найперш у справе падтрымання грамадскага парадку і кантролю ў сферы падаткаабкладання. У нашых Субачах яе прысутнасць праяўлялася некалькі разоў на год, з візітамі паштара, які прыносіў лісты з адміністрацыі гміны. Звычайна яны былі двух відаў: першыя нагадвалі пра своечасовую сплату падаткаў, другія прасілі дапамогі на дабрачынную латарэю. Першыя, патрабавальныя, пачыналіся зваротам: «*Гаспадару Сцебураку ў калонію Субачы*», а другія, лагодныя, куды больш паважна: «*Панам Сцебуракам у фальварак Субачы*»…

Эканамічная свабода была амаль неабмежаванай. Сяляне на сваю рызыку абіралі, чаго і колькі сеяць, якую жывёлу гадаваць, як збываць, куды ехаць на заробкі, куды ўкладаць грошы, — усё гэта было выключна асабістай справай кожнага. А вось нагляд за настроямі ў грамадстве быў даволі пільны. Блізкасць савецка-польскай мяжы прымушала быць уважлівымі да элемента, што сімпатызаваў камуністам. У апошнім, між іншым, недахопу не было. Што і працавала спраўна ў БССР, дык гэта прапаганда. Заходнебеларускія сяляне былі праз аднаго ўпэўненыя, што нідзе так добра не жывецца, як на ўсходзе. Прыгожая хлусня моцна засядала ў галовах не толькі бедных сялянаў — многія заможныя гаспадары за чыстую манету прымалі інфармацыю з савецкага боку. Мой бацька быў у ліку такіх даверлівых беларусаў. Маючы радыё, ён рэгулярна слухаў перадачы з БССР і, як пяецца ў песні, «*чакаў з надзеяй на рускія танкі*». Здаралася, што, парабіўшы справы ў мястэчку, ён пасля наведвання карчмы

зацягваў «*Широка страна моя родная*» ці нешта падобнае і часам за тое нават трапляў у пастарунак. Пантофлевая пошта хутка даносіла вестку да фальварка, адкуль з грашыма на выкуп «рэвалюцыянера» выпраўляўся мой старэйшы брат Косця. Штраф за парушэнне грамадскага парадку складаў дваццаць злотых. Усе ўдзельнікі канфлікту разумелі, што далей спеваў справа развіцця не займее, таму да суда не даходзіла, а парушальніка парадку выпускалі на ўсе чатыры бакі. Праз нейкі час усё паўтаралася.

## Памежжа

Маштабы атручэння савецкай прапагандай павялічваліся чым далей, тым болей. Натуральна, што самыя гарачыя прыхільнікі саветаў імкнуліся збегчы з Польшчы ў савецкі рай. Звычайна гэта былі адзінкавыя пераходы, але здараліся і больш маштабныя ўцёкі. У нашых мясцінах шырока абмяркоўваўся выпадак, калі ў вёсцы Раёўка (сучасны Маладэчанскі раён) моладзь на танцах вырашыла ўсёй грамадой перайсці на савецкі бок, што неадкладна і ажыццявіла, сышоўшы проста з танцаў у чым была. Нікога з іх сваякі больш так і не ўбачылі.

Падобная гісторыя была і ў Субачах, калі малады пастух Банадысь, які быў наняты намі на лета, прыйшоў да майго бацькі з паведамленнем, што сыходзіць у Савецкую Беларусь у пошуках лепшай долі. Бацька не стаў трымаць рашучага прадстаўніка рэвалюцыйнага сялянства, адно што ўгаварыў не ісці адразу, але параіў грунтоўна сабрацца ў дарогу: «*Банадысь, ну, як ты пойдзеш да саветаў у такім адзенні? Паглядзі на сябе. Там жа спытаюць, у каго ты працаваў, што яны пра мяне падумаюць?..*»

Разам з парабкам яны паехалі ў мястэчка, дзе бацька замовіў работніку ў краўца за свае грошы добры мужчынскі касцюм, пасля цалкам разлічыў яго за працу і толькі тады дазволіў выправіцца. Гісторыя займела працяг праз тыдзень, калі ізноў на субацкім падворку з'явіўся Банадысь у зашмальцаванай старой адзежцы і з сумным выглядам. Выявілася, што, перайшоўшы ўночы мяжу, ён пагрукаў у хату да сваякоў на тым баку. Спалоханы гаспадар адразу схаваў перабежчыка на печы. Седзячы ў цёмным кутку беднай сялянскай хаты, Банадысь слухаў, глядзеў і дзівіўся. Асабліва запомнілася вячэра сям'і, у якой ён гасцяваў: чыгунок з бульбай у мундзірах і капусны расол — вось і ўсе стравы на вялікую радзіну. Нішчымніца на стале, рыззё замест адзежы і беднасць хаты хутка працверазіла ахвяру прапаганды. Пачутае і пабачанае на свае вочы было лепш за любую агітацыю бальшавікоў. Пакінуўшы гаспадару свой касцюм у падзяку за збаўленне ад ачмурэння, Банадысь тым жа шляхам вярнуўся ў панскую Польшчу, пад прыгнёт капіталістаў.

На савецкі бок хацелася і некаторым іншым жыхарам Субачаў. З нашым суседам Міколам Будзькам адбыўся вось такі кур'ёзны выпадак.

Сабраўшыся на ўсход, ён узяў з сабой залатую царскую манету ў пяць рублёў і рушыў праз мяжу. Пры пераходзе Мікола трапіўся савецкаму памежніку і папрасіўся ў БССР, даўшы хабар той самай манетай. Памежнік пяцірублёўку ўзяў, але рашуча развярнуў парушальніка назад у Польшчу… Вярнуўшыся, Мікола казаў: «*Канечне, у іх там сапраўды рай. Хто ж у рай пусціць за адну залатую пяцірублёўку? Вось ён мяне і выпер назад*».

Што праўда, былі і выпадкі пераходаў з савецкага боку. Аднойчы маладая дзяўчына з усходу ўплаў перасекла Вяллю і так трапіла ў Польшчу. Асела яна ў Даўгінаве. Неўзабаве пабралася з мясцовым дзецюком Крупскім, што прывёз з Амерыкі грошай, набыў зямлю і разбудаваў на дваццаці гектарах добрую гаспадарку… Пазней ёй усё ж давялося вярнуцца ў СССР: у 1952 годзе іх разам з мужам мы сустрэлі ў суседнім



• *Юльян Дубяга. 1920-я гг.*

вагоне нашага эшалона — цягніка з рэпрэсаванымі, што ішоў з Беларусі ў стэпы Азіі.

Яшчэ больш цікавая гісторыя адбылася і з нашым сваяком Юльянам Дубягам, сынам цёткі Ганны і Васіля Львовіча Дубягі з Асінаўкі Крывіцкай воласці. Яшчэ да рэвалюцыі Юльян адвучыўся на радзіме і ў пошуках долі паехаў у сталіцу. Скончыўшы ў Піцеры Горны інстытут і ажаніўшыся з карэннай пецярбуржанкай Вольгай, у рэвалюцыйныя часы ён імкліва падняўся да высокіх чыноў у Народным камісарыяце шляхоў зносінаў. Адразу пасля Рыжскага міру ён разышоўся з бальшавікамі ў поглядах і палічыў за лепшае ратавацца ўцёкамі. Скарыстаўшы службовае становішча, падагнаў уласны вагон у Заслаўе на станцыю Беларусь пад свежаствораную савецка-польскую мяжу, нейкім чынам падмануў памежнікаў і прарваўся на польскі бок і вярнуўся ў родную Асінаўку. У міжваенны час вёў сваю гаспадарку на трыццаці гектарах зямлі. Пасадаў не займаў, заўважнага ўдзелу ў грамадскім жыцці не браў. Спакойна і непрыкметна пражыў да самай II сусветнай вайны і ні чым асаблівым не вызначаўся. Па ваколіцы толькі хадзіла пагалоска пра яго дужа разумнага каня, што беспамылкова прывозіў падпітага і соннага гаспадара з любой карчмы дакладна на родны падворак. Рэпрэсіі пры першых саветах яго не закранулі. За немцамі Юльян стаў войтам Крывічоў, за што пасля вяртання савецкай улады атрымаў дзесяць гадоў зняволення на Поўначы. Вярнуўся ў 1954 годзе і дажываў свой век пад Крывічамі.



Яшчэ адным вядомым у нас перабежчыкам ад саветаў быў праваслаўны святар, які, уратаваўшыся ад чырвоных, застаўся служыць у Княгініне. Добра памятаю, што на ягоныя нядзельныя казані прыходзілі нават людзі з іншых прыходаў — настолькі моцныя і страшныя рэчы ён распавядаў. Пра тэрор НКУС, галадамор, калгасы, пра падман і хлусню, што панавалі ў СССР. Многія, чуючы ягоныя словы, плакалі, але многія, на жаль, працягвалі верыць у бальшавіцкае ашуканства, што бесперапынна лілося ў вушы з савецкага радыё…

Ішлі гады, край працягваў жыць, падзелены новымі межамі, якія нажыва парэзалі не толькі зямлю, але і сем'і. На савецкім баку засталіся таксама і некаторыя нашыя сваякі. Усе яны напоўніцу хапянулі новага ладу, які неслі бальшавікі з Масквы.

Пасля 1921 года сям'я маёй матулі Ксеніі Вараўкі, што жыла на Лагойшчыне, таксама апынулася на савецкім баку. У гады рэпрэсій яе родныя былі адпраўленыя ў высылку ў глыб СССР. Нагодай сталася знявага савецкай улады, якую дзед Ігнат Вараўка выказаў адкрыта, назваўшы яе «шавецкай» замест «савецкай», маючы на ўвазе, што бацька Сталіна быў шаўцом. Сам Ігнат хутка памёр на чужыне, а сыны прыстасаваліся і засталіся. Маці толькі аднойчы бачылася з адным са сваіх братоў Іванам пасля II сусветнай, у 1949-м, калі той быў у Беларусі праездам…

## Homo soveticus

Сярод нашых сваякоў, якія трапілі ў БССР, быў і дзядзька Генік па мянушцы Шарошка. У ім нібы ўвасобіўся зборны вобраз савецкага беларуса, які зазнаў на сабе ціск ідэалагічнай машыны краіны саветаў ды цяжар неспрыяльных варункаў. Ён быў вельмі душэўным, працавітым, добрым і чуллівым

чалавекам, які, аднак, сфармаваўся як homo soveticus. Увесь час ён хацеў вучыцца, але замінalі абставіны. Цяжкая праца, калектывізацыя, вайна, армія — заўсёды было нешта больш надзённае, чым адукацыя. У рэшце рэшт ён адужаў вечаровую школу працоўнай моладзі і нават завочна атрымаў дыплом сельгастэхнікума, але грунтоўных ведаў так і не здабыў, хаця нахапаўся па вярхах усяго патроху. Брак адукацыі разам з уменнем лёгка размаўляць на любую тэму з любым суразмоўцам спарадзілі процьму пацешных, кур'ёзных, а часам і проста алагічных слоўных канструкцый, якімі ён шмат каму ўспамінаецца і праз многія гады. Да ўсяго размаўляць стараўся Генік на правільнай рускай мове з элементамі канцылярызмаў, газетных штампаў, кіношнай лірыкі і партыйнага пафасу.

Напрыклад, аднойчы, зайшоўшы ў хату і ўгледзеўшы ў куце іканастас набожнай гаспадыні, запытаўся: *«Какіе тут у вас главные богі?»* Калі размаўляў з унукамі студэнтамі, хочучы падкрэсліць важнасць войска як школы жыцця, адзначаў: *«Лекцыі — эта ні то. А в арміі ідёт прыціраніе таварищей к себе!»* і дадаваў *«Образованіе — это ні планка высаты!»* Дакараючы іх за кпіны на свой адрас, казаў: *«Эх, ты, не захотел продолжіть заслуг деда дальше»*.

Калі распавядаў розныя гісторыі з жыцця (а рабіў ён гэта з вялікім імпэтам), то такія прамовы расквечваліся выразамі кшталту: *«судьба его была одінокая», «дочь одной матері», «зять покойніков», «жена подпівала, на этом фоне он влюбілся в другую», «кабана смалілі тайно»*. Дарэчы, апошні выраз нам, заходнікам, быў абсалютна незразумелы, пакуль мы не даведаліся, што сялянам у трыццатыя гады ў СССР смаліць кабаноў афіцыйна забаранялася. Трэба было лупіць скуру і здаваць яе дзяржаве. На вытворчасць хрому ў краіне саветаў ішла нават свінячая скура. Нас прыводзіла ў жах, што і попел з печы калгаснікі павінныя былі здаваць у калгас…



На заўвагі наконт сваіх фармулёвак адказваў так: *«Я прівык говоріть по-простому выраженію»*. І па гэтаму *«выраженію»* выходзіла вельмі забаўна. Каб апісаць высокую кукурузу на полі, казаў: *«Со всадніка лошаді не разглядеть»*. Калі казаў пра сваю працу (а Генік усё жыццё адрабіў шафёрам), то любіў падкрэсліць яе значнасць: *«У водителя каждый перекрёсток — стресс!»* Калі лічыў, што яго недаацэньваюць ці ўдзяляюць недастаткова ўвагі: *«Не толькі царі і генералы могут быць возвышены»* ці *«Я, может быть, глупый потому, что плохо слышу»*. Па просьбе гаспадыні схадзіў на гарод і вярнуўся: *«Я прінес корневые сістемы хрена»*. Апісваючы рамонт абутку: *«Анулірoвал старые подошвы»*. Гаворачы пра медычнае абследаванне, казаў: *«мозговая память»*.

Заўсёды нечакана кур'ёзна апісваў дробныя бытавыя дэталі: *«Слышал голос разговора», «Мы громко смотрелі телевізор»*. Апісваючы эканоміку: *«Экономім на потерях процентов двадцать»*. Размаўляючы пра літаратуру: *«Что написал в стіхотворных прозах?», «Поздравляю с первым отрезком кнігі»*. На застоллі, цікавячыся роллю вядучага: *«Как організація культуры, от ресторана ілі от себя?»*, на пытанне, як падабаецца музыка на гулянцы: *«У меня реакція песен п'яная»*. Па вяртанні з санаторыя ацэньваў кухню: *«В меню прогрессіровала куріца»*. Пераказваючы пачутыя навіны: *«Завтра в Мінске со всей республікі собіраются лошаді, і все желающие могут покататься»*. Апісваючы адносіны: *«Я всегда тебе помогал в отріцательных делах»*.

Сапраўднымі шэдэўрамі такога спецыфічнага красамоўства былі: *«люді заблуждались в лесу»* і *«пораніть можно не только зубамі, но і языком»*. Бальшыня перлаў і пярлінак не захавалася, бо толькі зрэдчас побач бываў той, хто ўтрымліваў у памяці смешныя абароты Геніка, а думка занатаваць іх прыйшла значна пазней, калі бальшыня з іх забылася.

Яшчэ адной ілюстрацыяй да гэтай драматычнай тэмы ўтварэння «чалавека савецкага» ёсць кароткі жыццяпіс

аднаго нашага далёкага сваяка Міхася Іванавіча, які пражыў даволі доўгае і, як можа падацца, някепскае жыццё…

Выхадзец з досыць заможнай сялянскай сям'і з ваколіцаў Крайска, што на Лагойшчыне, Міхась, які няблага жыў за Польшчай, з прыходам саветаў апынуўся ў спісах класавых ворагаў. Тут і пачынаецца ягонае ператварэнне.

Не чакаючы прысуду, ён уцякае з родных мясцінаў, з Дубягі робіцца Дзянісавым і губляецца на абшарах СССР. Праз які год на станцыі Вязьма, дзе ён працуе рабочым, з акна вагона яго выпадкова пазнае і здае органам колішні аднавясковец. Далей ідуць непазбежная дзясятка і лесапавал у лагерах Хабараўскага краю.

З гэтага пекла Дзянісава ратуе яшчэ больш страшная навала — вайна. З яе пачаткам ён атрымлівае шанц пайсці добраахвотнікам на фронт. Былы арыштант, а цяпер шыхтавы Дубяга-Дзянісаў каля двух гадоў сядзіць у акопах насупраць пазіцый Квантунскай арміі на Далёкім Усходзе. Калі пачаўся наступ і Чырвоная армія падышла да лагераў, дзе японцы выпрабоўвалі хімічную і бактэрыялагічную зброю, ёй спатрэбіліся добраахвотнікі каб увайсці туды і правесці дэзактывацыю. Тым, хто застанецца жывым пасля выканання задачы, паабяцалі зняць судзімасць і прыняць у шэрагі ВКП(б)*. Дзянісаў пагадзіўся, выжыў і дэмабілізаваўся героем і партыйным чалавекам з чыстым сумленнем.

Пасля вайны ўладкаваўся загадчыкам гаспадарчай часткі ў калонію пад Ленінградам, пасля выйшаў на пенсію і вярнуўся ў Беларусь. Да канца жыцця піў за Сталіна стоячы і лез біцца з пенай на вуснах, абараняючы родную партыю…

---

* ВКП(б) — Усесаюзная камуністычная партыя бальшавікоў. Назва кампартыі СССР у 1925–1952 гг.



# На заробкі

Уцёкі ў савецкі рай былі толькі адным з варыянтаў здабыцця лепшай будучыні. Больш разумныя шукалі паратунку ад безграшоўя на заробках у іншых дзяржавах. Улады гэта не толькі не забаранялі, але і наадварот — заахвочвалі. Найбольш папулярнымі кірункамі былі суседнія краіны Балтыі, Заходняя Еўропа, а таксама за акіян — у далёкую Амерыку.

З такімі вандроўнікамі часам здараліся выключныя па сваёй унікальнасці гісторыі. Ваяж за акіян і зараз выглядае не абы-якой прыгодай, а на той час гэта было без перабольшвання выправы нібы на іншую планету.

Жыхар Крывічоў па прозвішчы Высоцкі паехаў у ЗША на заработкі. Просты хлопец, які перад тым не выязджаў нікуды далей павятовага горада, самастойна дабраўся да порта Мемеля, на параходзе адолеў даўжэзны шлях праз акіян, праседзеў у каранціне на выспе Эліс ля Статуі Свабоды і быў разам з натоўпам такіх жа мігрантаў выпхнуты на Манхэтэн. Ён апынуўся ў хвалях людскога мора, над ім высіліся хмарачосы, раўлі рухавікі самаходаў, стаяў бензінавы смурод, грукаталі трамваі, гаманіў людскі натоўп. Адурэлы ад усяго, што нечакана звалілася на яго, ён да немагчымасці збянтэжыўся, не ведаючы, што рабіць і куды ісці ў гэтым новым для яго свеце, дзе ён не ведае ні мовы, ні аднае жывое душы. За хвілю да таго, як ён страціў бы прытомнасць, аднекуль зверху гукнулі: *«Высоцкі! Высоцкі!»* Небарака задзёр галаву да голасу з нябёсаў. Выявілася, што з чацвёртага паверха дома яго выпадкова ўгледзеў зямляк — крывіцкі гандляр Борух, што перабраўся сюды раней і ўжо няблага асвоіўся…

Калі б такі эпізод паказалі ў мастацкай стужцы, кожны б падумаў, што сцэнарыст моцна перабольшыў — такога ў жыцці не можа быць. Але ў сапраўдным жыцці бывае і не такое… У выніку Высоцкі не толькі не прапаў, а з дапамогай земляка добра ўладкаваўся на абутковай фабрыцы, дзе адрабіў тры гады і вярнуўся дадому з грашыма.

Што да грошай, то людзі сапраўды прывозілі іх дадому без асаблівых праблемаў. Ці то зладзеі тады былі дурнейшымі, ці сумленнасць у той час была вышэйшая за сучасную, але кепскія гісторыі здараліся рэдка. А парою наогул адбываліся такія, што ўмацоўвалі веру ў чалавецтва. Эдуард Мацюшонак, беларускі мастак, чыя сям'я паходзіць з Глыбоччыны, згадваў такую гісторыю.

Адна вясковая дзяўчына выправілася на заробкі ў Латвію. Паспяхова ўладкавалася там у баўэра і, адпрацаваўшы некалькі год, зарабіла грошай і сабралася дадому. Купіўшы білет на цягнік, сядзела ў чакальнай залі. Суседам па лаўцы быў прыстойнага выгляду мужчына, якому яна распавяла, што моцна хвалюецца, каб у дарозе не скралі заробленыя грошы. Незнаёмец, пачуўшы пра прычыну перажыванняў, засмяяўся і прапанаваў ёй не везці грошы гатоўкай, а перасланць на радзіму банкаўскім пераводам. Каб нявопытная кабета не губляла час, дабрадзей узяўся гэта зрабіць сам. Ён упэўніў жанчыну аддаць яму ўсе зберажэнні, а самой спакойна выпраўляцца ў дарогу. Дзяўчына пагадзілася, перадала грошы, напісала адрас — на тым і развіталіся. Прыехаўшы дахаты, яна распавяла пра свае прыгоды сваякам, і тыя ўпалі ў роспач, адначасова і лаючы, і шкадуючы даверлівую дурніцу. Але як усе здзівіліся, калі дзяўчына праз колькі дзён прыйшла ў банк у Паставы і ёй без пытанняў выдалі ўсе заробленыя грошы, за выняткам невялікай сумы аплаты за дасылку…

Гаворачы пра ад'езды на заробкі, хачу падкрэсліць, што галоўнае адрозненне тагачаснай працоўнай эміграцыі з Беларусі ад сённяшняй у тым, што амаль усе, хто выязджаў, ставілі першаснай задачай не ўладкаванне там на сталы побыт, а вяртанне з грашыма дадому. Мэтай было збіранне грошай на куплю зямлі ці адкрыццё сваёй справы на радзіме. Выязджалі збольшага маладыя людзі, якія не планавалі заставацца за мяжой на доўгі час. Па вяртанні яны стваралі сем'і на радзіме і ўкладалі заробленыя грошы ў тутэйшыя справы. Менавіта сродкі, заробленыя ўдалечыні ад дому, для многіх беларусаў міжваеннага часу ў Заходняй Беларусі сталі асновай дабрабыту і моцнай самастойнай гаспадаркі.

## Мяжа

Жыццё на мяжы мела свае асаблівасці. Па-першае, яно спакушала да нелегальных заняткаў — з абодвух бакоў квітнела кантрабанда. Праўда, у адрозненне ад ракаўскага кірунку, у нашай мясцовасці кантрабандыстаў асабліва не было — не мелася істотнага рынку збыту праз адсутнасць вялікага горада побач. Але пераходы мяжы з мэтай перапраўкі тавараў, канешне, здараліся. Па-другое, мяжу ў абодва бакі перасякалі шпегі і агенты. Не сакрэт, што з савецкага боку на рэгулярнай аснове ішлі дыверсанты.

Агенты, што мелі адмысловую падрыхтоўку, пранікалі ў памежныя раёны і ладзілі акцыі запалохвання — забівалі, рабавалі, учынялі падпалы. Такія выпадкі, асабліва ў 1920-х, былі досыць распаўсюджанай з'явай. З імі змагаліся памежнікі і спецыяльна створаны Корпус аховы памежжа (КАП), аддзелы якога месціліся ўздоўж усёй мяжы. Найчасцей аб'ектамі палявання савецкіх дыверсантаў станавіліся прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі і польскія землеўладальнікі. Апошнія бараніліся, як маглі. Праз такую рызыку адзінокая пані з маёнтка Баброўка за свой кошт утрымлівала дзесяць узброеных капаўцаў, якія ахоўвалі яе саму і яе гаспадарку ад чырвоных бандытаў. У нас у Субачах таксама мелася зброя для самаабароны: два рэвальверы і бельгійская паляўнічая дубальтоўка.

Паступова сітуацыя на памежжы стабілізавалася, і насельніцтва стала жыць у адносным спакоі, а КАП пачаў выконваць не толькі ахоўныя функцыі.

У Заходняй Беларусі месцы кватаравання капаўцаў сталі апірышчам новых цывілізацыйных павеваў, культуры быту

і парадку, а таксама асяродкамі распаўсюджвання польскасці. Вакол кашараў аховы памежжа ядналіся розныя гурткі, таварыствы, скаўцкія суполкі.

Памятаю, што да капаўцаў раз-пораз ладзілі экскурсіі і з нашай школы. Да кашараў мы даязджалі на роварах, там у вайсковай сталоўцы абедалі, аглядалі рыштунак і саму частку і пасля пешшу ладзілі паход да мяжы. Польскія вайскоўцы дазвалялі нам, малым, падыходзіць да самога калючага дроту, што аддзяляў нейтральную паласу. Дасюль памятаю, як, уражаны такой блізкасцю да забароненага, я неяк паддаўся імгненнаму памкненню, уклаўся на жывот і, працягнуўшы руку, сарваў кветачку на тым баку…

З савецкага боку да мяжы культпаходаў не рабілі. Больш за тое, нават калгасныя сяляне, што мусілі апрацоўваць зямлю ў непасрэднай блізкасці ад рубяжа краіны саветаў, рабілі гэта пад наглядам вайскоўцаў і вялікімі групамі (паасобку працаваць забаранялася). Цікава, што для такіх працаў навідавоку ў буржуазнай Польшчы калгаснікам выдаваліся аднолькавыя робы, каб магчымы назіральнік не ўразіўся жабрацкім выглядам лахманоў і лапцей, у якіх жыхары БССР будавалі светлую будучыню.

Хто і ставіўся да мяжы абсалютна без піетэту, дык гэта самі памежнікі з абодвух бакоў, якія штодня выпраўляліся на яе ахову. Ходзячы адзін ад аднаго на адлегласці часам у дзясятак-другі метраў, яны бачыліся, маглі перамовіцца і нават абмяняцца нейкай драбніцай. Рабілі гэта, не парушаючы тэрыторыі, — проста перакінуўшы рэч праз рачулку ці нейтральную паласу. З савецкага боку ляцелі катушкі нітак ці запалкі, а з польскага — брыкецікі тытуню.

Аднойчы на мяжы ля вёскі Пагост здарыўся выпадак, калі сялянскі конь з выпасу неяк перайшоў вузкую там Вяллю і неўпрыкмет перабраўся на савецкі бок. Гаспадар, што прыйшоў забіраць жывёлу, агледзеў страту, але пабаяўся ісці за парушальнікам. Тым больш што на іншым беразе якраз



з'явіўся савецкі памежнік. Селянін пачаў прасіць вайскоўца вярнуць кармільца. І той пасля хвіліннага вагання, агледзеўшыся па баках, падвёў каня да берага і моцным ударам дубца дэпартаваў злодзея на родны лужок. Так гаспадар не страціў памочніка, конь не трапіў у калгас, а жаўнер не ўзяў граху на душу за ўсё гэта. І ўсе з лёгкім сэрцам пайшлі сваёй дарогай. Вось такія дзівосы час ад часу адбываліся на мяжы, што існавала пасярод Беларусі доўгія васямнаццаць гадоў.

Што да паліцыі, то ў беларускай вёсцы бачылі яе зрэдку. У Субачы на маёй памяці паліцыянт заяўляўся толькі некалькі разоў. Аднойчы было гэта пры вось якіх абставінах. Разбудоўваючыся, мы пачалі рабіць вялікі бетонны склеп. Дзеля выканання будаўнічых працаў быў запрошаны адмысловец — муляр на прозвішча Камінскі. Майстар меў цікавы лёс: цягам васьмі гадоў ён працаваў каменячосам на кар'еры недзе ў Францыі і набыў там не толькі высокую кваліфікацыю (мог хутка раскалоць любы валун), але і набраўся ад тамтэйшых работнікаў рэвалюцыйных ідэяў. Набраўся так, што, вярнуўшыся на радзіму, адразу трапіў пад афіцыйны нагляд паліцыі, — гэта значыла, што ён мусіў паведамляць пра свае перамяшчэнні і быў пад адкрытым наглядам з боку ахоўнікаў парадку. Дык вось падчас працы Камінскага ў Субачах паліцыянт-куратар некалькі разоў завітваў да нас, каб апытаць пра тое, што робіць і, галоўнае, што кажа французскі марксіст. Дазнаўшыся, што аніякай падрыўной дзейнасці той не вядзе, паліцыянт вяртаўся ў мястэчка…

## Веравызнанне

Яшчэ адным важным фактарам, што ўплываў на жыццё Усходніх крэсаў, была рэлігія. Нягледзячы на тое, што афіцыйна ўлады Польшчы дэкларавалі талерантнасць, на практыцы перавага аддавалася прадстаўнікам каталіцкага веравызнання. Заўважна гэта было ў штодзённым жыцці — калі ты каталік, то і пасада знаходзілася лягчэй, і па службовай лесвіцы лацвей прасоўвацца, і судовыя спрэчкі часцей на тваю карысць вырашаліся…. Нашая сваячка Праскоўя Сцебурака, скончыўшы курсы тэлефаністак (дужа прэстыжная ў свой час праца), так і не атрымала адпаведнай пасады на маладэчанскай тэлефоннай станцыі, бо яе канкурэнткай была дзяўчына-каталічка…

Пераходы ў каталіцтва, безумоўна, заахвочваліся. Мой бацька Мікола некалькі разоў выклікаўся крывіцкім ксяндзом на гутарку, зместам якой, паміж іншым, заўсёды было настойлівае запрашэнне ў касцельную грамаду. Ксёндз апеляваў да таго, што сям'я заможная і паважаная, абяцаў усебаковую падтрымку і адступаўся толькі тады, калі бацька ў чарговы раз далікатна адкупляўся, даючы пяцьдзясят злотых — «*на развіццё парафіі*», і сыходзіў да чарговай прафілактычнай гутаркі. Таксама тата распавядаў, што аднойчы ксёндз аргументаваў сваё запрашэнне і тым, што нібы бачыў у нейкіх старадаўніх касцельных запісах, што Сцебуракі былі раней каталікамі. У нашай сям'і ўспамінаў пра прыналежнасць да касцёлу не было, ды і вядомыя метрыкі прадстаўнікоў нашага роду гэтага не пацвярджаюць. Хаця вялейскі краязнавец доктар Сяргей Грынцэвіч годзе ў 2006-м выпадкова сустрэў, працуючы ў архівах, ксяндза з прозвішчам Сцебурака, які служыў у Лебедзеўскім касцёле пад Маладэчнам. Служыў ён там недзе ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Улічваючы, што ніхто з нашых субацкіх Сцебуракаў у сваяцтве з ім не быў, то, магчыма, і была нейкая іншая лінія роду, але адгалінаваная так даўно, што яе прадстаўнік нам быў ужо простым аднафамільцам.

Падводзячы рысу пад канфесійным пытаннем, мушу дадаць яшчэ адно. Менавіта 20–30-я гады сталіся тым часам, калі ў абуджаную, але не да канца сфармаваную нацыянальную свядомасць беларусаў пранікла катэгарычная фармулёўка шавіністычнай польскай прапаганды: «*каталік — значыць паляк*». А ўсё, што не было на гэтых землях «польскім», аўтаматычна станавілася «рускім». Для беларускасці месца не было. Адну траціну насельніцтва Польшчы складалі нацыянальныя меншасці, у дачыненні да якіх праводзілася дзяржаўная палітыка асіміляцыі.

Канешне, руская царква і польскі касцёл стагоддзямі цягнулі беларусаў у розныя бакі. Але менавіта гады, праведзеныя беларусамі ў адноўленай Польшчы, канчаткова замацавалі падзел на «рускіх» і «польскіх» у масавай свядомасці. У нас з'явіліся «рускія» і «польскія» Вялікдзень і Раство, вяселлі і нават могілкі, з адпаведнымі «рускімі» і «польскімі» крыжамі. Народ, які не меў сваёй дзяржавы, не мог і ў храме прэтэндаваць на самастойнасць, вымушаны быў далучацца да некага са «старэйшых братоў».

## Polskość

Каб уявіць тагачаснае жыццё ў Заходняй Беларусі, важна сказаць яшчэ пра польскі патрыятычны дух, якім была прасякнутая ўся грамадска-палітычная прастора. Ён базаваўся на каталіцтве як адзінай веры, айчыне як цэнтры сусвету і на асобе кіраўніка дзяржавы маршалка Юзафа Пілсудскага як стваральніка Другой Рэчы Паспалітай. У Польшчы, якая па сваёй сутнасці была блізкай да аўтарытарызму, існаваў культ асобы начальніка паньства.

Прэса і школьныя падручнікі спрэс былі заштампаваныя фотаздымкамі і выявамі «лепшага будаўніка», «лепшага



• *Юзэф Пілсудскі на Каштанцы*

вайскоўца», «наймудрэйшага кіраўніка» і г. д. Мы, малыя школьнікі, ведалі нават імя яго любімай кабылы — Каштанкі, здымкі маршалка з якой таксама рэгулярна друкавала прэса.

Пры тым усім нельга не адзначыць, што нават у часы санацыі захоўваліся грамадзянскія правы, працавалі прадстаўнічыя органы, былі апазіцыйныя партыі, выходзілі газеты,



не было тэрору, не было і вялікіх палітычных рэпрэсій. Пілсудскі казаў: «*Польшча маладая і бедная. Яна павінная пазбягаць рызыкоўных эксперыментаў*». Так, ён меў абсалютную ўладу, але кіраваў без бізуна і не перашкаджаў дзеянню законаў эканомікі. Ён лёгка дэлегаваў уладныя паўнамоцтвы. Ён заставаўся чалавекам свайго часу — рэвалюцыянерам, патрыётам і прыхільнікам цвёрдай улады. Гэта не магло не спарадзіць легендарызацыі яго асобы.




• *Вокладка школьнага сшытка. 1930-я гг.*

Асабліва культ праявіўся ў апошнія гады яго жыцця і пасля смерці. Мы, малыя школьнікі, чулі пра «дзядэка» рэгулярна і ўбіралі павагу да яго разам з духам сапраўднай польскасці. Квінтэсэнцыяй яго ў школьнай праграме быў легендарны вершык, вядомы кожнаму дзіцяці, што пачынаўся словамі «— Kto ty jesteś? — Polak mały». Гэта быў славуты «Katechizm polskiego dziecka» за аўтарствам Уладзіслава Бэлзы. Вядомы і сёння мільёнам палякаў ва ўсім свеце, ён моцна трымаецца і ў галовах колішніх крэсавякаў ды іх нашчадкаў…

*— Kto ty jesteś?*
*— Polak mały.*
*— Jaki znak twój?*
*— Orzeł biały.*
*— Gdzie ty mieszkasz?*
*— Między swemi.*
*— W jakim kraju?*

*— W polskiej ziemi.*
*— Czem ta ziemia?*
*— Mą Ojczyzną.*
*— Czem zdobyta?*
*— Krwią i blizną.*
*— Czy ją kochasz?*
*— Kocham szczerze.*
*— A w co wierzysz?*
*— W Polskę wierzę!*
*— Coś ty dla niej?*
*— Wdzięczne dziecię.*
*— Coś jej winien?*
*— Oddać życie*.*

Дарэчы, існавала, хоць і не вельмі распаўсюджаная, версія для дзяўчынак з пачаткам:

*— Kto ty jesteś?*
*— Polka mała.*
*— Jaki znak twój?*
*— Lilia biała.*

Дзеля праўды дадам: нягледзячы на тое, што ўся навука ў школах ішла выключна па-польску, вяртаючыся з урокаў дахаты, беларускія дзеці размаўлялі па-свойму. Дома з бацькамі, падчас гуляў і працы мы карысталіся беларускай мовай і ніколі не лічылі сябе палякамі, ідэнтыфікуючы выключна мясцовымі — значыць, беларусамі. Сапраўдных палякаў з карэннай Польшчы мы ведалі пайменна, ды і было іх зусім мала.

---

* Кім ты ёсць? / Малы паляк. / Які знак твой? / Белы арол. / Дзе жывеш ты? / Сярод сваіх. / У якім краі? / У Польскім краі. / Што для цябе гэты край? / Гэта мая Айчына. / Чым здабыта? / Крывёй і ранамі. / Ці любіш яе? / Шчыра люблю. / У што верыш? / У Польшчу веру. / Хто ты для яе? / Удзячнае дзіцё. / Што ёй вінен? / Аддаць жыццё.



# Школа

Як вядома, польскія ўлады, напачатку дазволіўшы беларускія школы, да канца 30-х зачынілі фактычна іх усе. Гэта не значыць, што беларусы засталіся без адукацыі, проста атрымліваць яе вымушаныя былі выключна па-польску.

У нашай мясцовасці ў пачатку 20-х таксама рабіліся спробы дамагчыся адукацыі па-беларуску. У 1924 годзе жыхары крывіцкіх ваколіцаў збіралі подпісы за адкрыццё беларускай школы, але так і не дамагліся станоўчага рашэння. Школы былі толькі польскія. Стандартная структура навучальных установаў гміны выглядала наступным чынам: пачатковая школка для невялікіх паселішчаў (у нас такая была ў в. Цярэшкі), агульная ці сярэдняя школа («szkoła powszechna»), найбольш распаўсюджаная ў сельскай мясцовасці, і поўная сямікласная (існавала толькі ў Крывічах). Мелася таксама гімназія ў Вялейцы.

Са школьніцтвам на Крэсах была наогул цікавая гісторыя.

Пілсудскі даў каманду пабудаваць сто школаў на Крэсах усходніх, і іх неўзабаве пабудавалі. А вось нашая пачатковая школка ў Цярэшках тулілася ў прыстасаваным памяшканні — вялікай хаце. Мы, вучні, разам з настаўнікам наважыліся напісаць ліст маршалку, у якім папрасілі пабудаваць і для нас сапраўдную школу. У лісце пісалі, што ў вёсцы ёсць вялікі пляц, на якім збіраюць статак кароваў, каб гнаць на пашу і што ён добра пасуе для нашай школы… Адбыўся сапраўдны цуд — праз некаторы час прыйшоў дазвол і сродкі на будаўніцтва 101-й, пазапланавай школы на Крэсах усходніх, а менавіта школы ў вёсцы Цярэшкі.

Пачатковую школку павінныя былі скончыць усе дзеці без выключэння. Бацькі, якія не адпраўлялі дзяцей вучыцца, караліся штрафам.

Усе мае браты і сёстры атрымалі адукацыю. Спачатку гэта было хатняе навучанне. Мішу, Косцю, Яўціхія і Ніну вучыў дарэктар — ветэран-інвалід І сусветнай па прозвішчы За-



• *Школа ў Цярэшках. 1930-я гг.*

харэвіч. З пашкоджанымі рукой і нагой ён не вёў гаспадаркі, а зарабляў грошы навучаннем. Тры зімы ён вучыў дзяцей у асобным абсталяваным пад навучальны клас пакоі. Для гэтага ў цесляра нават замовілі дзве сапраўдныя парты, за якімі сядзелі дзеці. Выкладанне вялося на беларускай мове. (Дарэчы, нашыя парты паслужылі і пасля: калі партызаны спалілі школу ў Цярэшках, адну з іх мы завезлі ў адноўлены будынак.) Далей мы ўсе працягвалі навучанне ў польскай школе, за выняткам Мішы — той так і не давучыўся, рана пайшоўшы на гаспадарку, а потым у войска. Дарэчы, там, наведваючы гурткі, ён добра вывучыў польскую мову.

Апроч звыклых прадметаў, школа ў міжваеннай Польшчы захавала і «Закон Божы». Паколькі ў адным класе збіраліся і каталікі, і праваслаўныя, і іўдзеі, то да іх, папярэдне падзеленых на групы па веравызнанні, прыходзілі адпаведна ксёндз, праваслаўны бацюшка і рабін. Заняткі пачыналіся з малітвы. Абавязкова трэ было хадзіць да споведзі і прычашчацца.

Вялікая ўвага надавалася таксама фізкультуры і ўрокам працоўнага навучання. Таксама добра мне запомніліся вандроўкі па наваколлі, ушанаванні месцаў пахавання герояў паўстання 1863 года і легіянераў Пілсудскага. А адным з самых яркіх эпізодаў школьніцтва для мяне стаўся прыезд у Крывічы прэзідэнта рэспублікі Ігнацыя Масціцкага. Яго шыкоўны бліскучы самаход сустракала амаль усё мястэчка, і ўсе вучні нашай «паўшэхнай» школкі ў першых шэрагах…

Са школьнай пары ў мяне захавалася шмат цёплых успамінаў. Памятаю, напрыклад, як на вялікім перапынку ў крывіцкую школу заходзіў жыд з яткай свежых смачных піражкоў, да якога адразу збягаліся вучні. Тавар пекара Кайзера ведалі па мястэчку, і шкаляры з вялікай ахвотай куплялі цёплыя духмяныя піражкі. Каштавалі яны пяць грошаў, але не ўсе мелі магчымасць штодзень купляць такі ласунак. Некаторыя спрытныя хлапцы, каб не адмаўляць сабе ў асалодзе, даўмеліся абменьваць тавар пекара на курынае яйка, якое ранкам употай ад маці забіралі з-пад курыцы. За недахопам гатоўкі ў малечы гаспадарлівы Кайзер згаджаўся на такі натуральны абмен, тым больш што яйкі пасля адразу ішлі на прыгатаванне наступнай партыі піражкоў, якія ізноў гэтак жа хутка раскупляліся. Нават калі гандляра не стала, жыхары мястэчка яшчэ доўгія гады памяталі смак гэтых адмысловых вырабаў, якія называлі «кайзэркамі».

Адвучыўшыся ў пачатковай цярэшкаўскай школцы, дзе навучаліся толькі дзеці беларускіх сялянаў, я перайшоў у местачковую сямігодку, дзе, да свайго вялікага здзіўлення, пабачыў за партамі па суседстве сваіх габрэйскіх аднагодак. Здзіўленне хутка мінула, і яму на змену прыйшлі прыязныя стасункі. З адным такім крывіцкім жыдком Готлібам Кацовічам я добра пасябраваў.

Заможнасць нашай сям'і хоць і дазваляла ўсім дзецям атрымліваць адукацыю, але не вызваляла цалкам ад неабходнасці дапамагаць па гаспадарцы. У часы гарачай працы на палетках усе далучаліся да справы і аніякія іншыя заняткі ў разлік не браліся. Пра адну такую прымусовую выправу я

ўспамінаю дасюль. Неяк улетку я разам са сваімі старэйшымі братамі Кастусём, Міхасём і Яўціхіем быў адпраўлены бацькам на сенажаць зграбаць сена. Праца была неадкладная, і выкруціцца шанцаў не было. Гэта было надзвычай крыўдна, бо напярэдадні я дамовіўся з сябрамі пра нейкую сустрэчу на гэты дзень… Вычарпаўшы запас адгаворак, я сядзеў на возе, пакрыўджаны на ўвесь свет, і ехаў на сэрвацкія паплавы, бы ў высылку. Браты сядзелі спераду, я, сам-насам са сваім горам, ззаду, каля вялікага каша з ежай на ўвесь дзень. Дарога павольна выбягала з-пад колаў, а я ад няма чаго рабіць аглядаў сабраны правіянт. Натрапіўшы на свежыя яйкі, што былі сабраныя братам на дзень цяжкай працы, задумаў дыверсію — пакінуць работнікаў без харчу і так адпомсціць за нанесеную крыўду. За дарогу ў некалькі кіламетраў я здолеў выпіць ці не два дзясяткі тых яек. Калі на месцы агледзеліся, то іх ужо і знаку не было, толькі пустыя шкарлупінкі ляжалі на пыльнай дарозе… Эпізод так і застаўся вясёлай сямейнай байкай, бо працаў гэта аніяк не адмяніла, а малады арганізм ніяк асабліва не адрэагаваў на такую дыету.

Згадваючы тую сенажаць, мушу распавесці яшчэ пра адну адметную рэч. Каля вёскі Клесіна, якраз на ўскрайку нашых пакосаў, стаяла мураваная капліца — зграбны невялікі будынак, узведзены ў сярэдзіне XIX стагоддзя як панская пахавальня, потым быў па чарзе то праваслаўнай, то каталіцкай каплічкай. Прыязджаючы туды на працы, мы абавязкова прыходзілі да яе. Побач, амаль пад сцяной будынка, было пахаванне жаўнера, што загінуў у польска-савецкую вайну 1920-га. Гісторыя была такая: два чырвонаармейцы пад раніцу паехалі на разведку. У складзе коннага раз'езду былі два браты. Каля капліцы яны раздзяліліся — адзін паехаў да вёскі, другі застаўся чакаць. Неўзабаве да капліцы пад'ехалі два конныя палякі з патруля і засеклі чырвонага. Калі другі брат вярнуўся і агледзеў забітага, па следзе дагнаў палякаў і ў кароткай сутычцы шашкай засек абодвух.



Польскіх жаўнераў пахавалі ў Крывічах. Забіты чырвоны коннік быў пахаваны пад мурам капліцы. Магілку дагледзялі некалькі дзесяцігоддзяў. Толькі пасля вайны, калі паўсюль утварыліся калгасы, палеткі разаралі пад самыя сцены капліцы і магілка знікла.

## Слуцкія паясы

Яшчэ адным яркім успамінам дзяцінства ёсць гісторыя з куфрам маёй бабці Хрысціны. Баба Хрысціна (маці майго таты Міколы Сцебуракі) памерла ў 1930 годзе. Пасля пахавання яе куфар зацягнулі ў свіран і забыліся пра яго на доўгія шэсць гадоў. Калі ў 1936-м стары будынак разбіралі, куфар выцягнулі на свет Божы і пераглядзелі. Сярод іншага там знайшліся два скруткі, якія пры разглядзе выявіліся не чым іншым, як слуцкімі паясамі. Яны былі такімі доўгімі, што мяне малога абкруцілі адным з іх, памятаю, разоў дзесяць. Пазабаўляўшыся з імі, жаночая палова нашай сям'і вырашыла зрабіць з іх фіранкі. Калі гэта ўгледзелі мае старэйшыя браты, узнялі вэрхал, але было ўжо позна. Страчаная гістарычная памяць не дазволіла належна ацаніць сапраўдны скарб, што цудам захаваўся ў бабуліным куфры аж да 30-х гг. XX ст.



• *Хрысціна Сцебурака. 1920-я гг.*

Атрыбут шляхецкага стану, славуты на ўсю Еўропу, ён быў бязлітасна пакроены на ўтылітарныя патрэбы і скончыў свой век, закрываючы аканіцы вясковай сядзібы…

Вось так жыла нашая сям'я ў тыя гады. Каб завершыць апісанне побыту Сцебуракаў, застаецца дадаць хіба колькі словаў пра тое, дзе яны знаходзілі свой апошні спачын.

Па завядзёнцы ўсіх субацкіх жыхароў хавалі на кладах ля вёскі Зарэчнае, а з часу нямецкай акупацыі бліжэй — на невялічкіх могілках ля нашага субацкага лесу. Абодва могільнікі існуюць і ў наш час, праўда людзей з нашым прозвішчам там даўно не хаваюць. Адарваныя ад сваёй зямлі-карміцелькі, Сцебуракі і на скон сталі класціся цяпер у іншую зямельку.

Для нашай сям'і васямнаццаць гадоў жыцця за Польшчай былі спакойным часам, які сёння ўспрымаецца з пэўнай настальгіяй і сімпатыяй. Праўда, якім добрым быў той час, асабліва выразна мы ўсвядомілі пазней, калі на нас абрынуліся вайна, рэпрэсіі, раскулачванне і высылка.

З жыцця «за Польшчай» у спадчыну нам засталіся толькі ўспаміны, хаця часам падаецца, што засталася і «мяжа», што пралегла паміж Заходняй і Усходняй Беларуссю. Фармальна ліквідаваная ў 1939-м, яна насамрэч захоўвалася да 1941-га, а па сутнасці, існуе і да сёння. Яна глыбока пралегла па сем'ях, гаспадарках, побытавых звычках і характарах, стаўленні да працы, сям'і і веры.



*Раздзел IV*

# Пачатак II сусветнай і першыя саветы (1939–1941)

## Вераснёўскія смяротнікі

Скончылася апошняе спакойнае лета — лета 1939-га. Падзеі наступных месяцаў разбурылі звыклы свет і змянілі лёсы мільёнаў.

Сярэдзіна жніўня, гарачы жнівеньскі поўдзень, сям'я малоціць салодкі лубін, працу перарывае солтыс Антон Будзька з вёскі Лазавыя, які прывёз позву на мабілізацыю брату Міхасю. На зборы 2 гадзіны. Маці і сёстры ў слязах збіраюць Міхася. Ён выходзіць у касцюме з гальштукам і з усмешкай кажа: *«Так апрануўся, каб не было сорамна пасля вяртацца дадому ў сялянскай вопратцы, як тады ў 34-м годзе»*. Справа ў тым, што на адпачынак у Войску Польскім пускалі ў вайсковым строі, а дэмабілізоўвалі — у цывільнай адзежы, у якой прыйшоў навабранец у войска. У нашай мясцовасці быў выпадак, калі хлопец з беднай сям'і, прызваўшыся на службу, адаслаў сваю адзежу назад у вёску, бо малодшым братам не было чаго насіць. Калі ж прыйшоў час дэмабілізацыі, капцёры, не знайшоўшы ягоных апранах, выдалі два мяхі — у адным прарэзалі дзюры для галавы і рук, другі прыстасавалі пад порткі. Так ён і мусіў вяртацца дадому.

Памятаю, як, сыходзячы ў апошні раз, Міхась адмовіўся браць з сабой ежу, узяў толькі грошы. Я вызваўся праводзіць яго. Тры кіламетры да станцыі ехалі з братам адмыслова на адным ровары, каб мне пасля прыгнаць яго дахаты. Настрой

быў светлы. Памятаю Княгінін, вакзал. Цягнік пад парай, шматлюдна, плачуць жанчыны. Раптам з'яўляецца старэйшы брат Кастусь, якога не было дома падчас Міхасёвага ад'езду. Ён, добра абазнаны ў палітычнай сітуацыі ў Еўропе, моцна хвалюецца за брата — наш настрой змяняецца на трывожны. Мы зайшлі ў станцыйны буфет, дзе браты выпілі па кілішку гарэлкі, паклапаціўшыся пра сітро для мяне. Аб'явілі шыхтаванне рэзервістаў на пероне і пасадку ў вагоны, апошні раз усе абняліся… Цягнік даў працяглы развітальны гудок і крануўся.

Болей мы з Мішам ніколі не пабачыліся. Адзіны ліст мы атрымалі ад Міхася з вайсковага гарадка Гелянова, што пад Маладэчнам, дзе стаяў 86-ы пяхотны полк. З ліста дазналіся пра яго размеркаванне ў 81-ы полк стральцоў імя Стэфана Баторыя ў Гародні.

1 верасня Германія напала на Польшчу, пачалася Другая сусветная вайна. Больш ад Міхася не было ніякіх звестак. Пасля баёў 1939 года ў нашыя навакольныя вёскі сталі вяртацца жаўнеры з Войска Польскага. Кастусь абышоў шмат каго з іх, каб дазнацца пра лёс брата. Дакладна ніхто нічога не



• *Міхась Сцебурака перад пачаткам Другой сусветнай вайны. 1939 г.*



мог сказаць, і толькі адзін чалавек з Крывічоў на прозвішча Клёнтак распавёў, што апошні раз бачыў Міхася ў пачатку верасня 1939-га перад пачаткам бою пад Пётркавам, што на поўдзень ад Варшавы… Мы спадзяваліся на лепшае і працягвалі чакаць.

Калі скончылася вайна, пачалі пісаць у архівы, міжнародны Чырвоны крыж, але адказ атрымлівалі заўсёды адзін: *«Звестак не маем»*. Пазней самастойна сталі вывучаць баявы шлях 81-га палка, каб знайсці якую зачэпку, — безвынікова. Чакалі Міхася, спадзеючыся на цуд. Ішлі гады… І вось у чэрвені 2020 года ў «РГ» раптам з'яўляецца артыкул Францішка Жылкі «Вераснёвыя смертнікі», у якім распавядаецца пра шлях 86-га палка Войска Польскага ў 1939 годзе. (Гісторыяй палка аўтар артыкула зацікавіўся, шукаючы свайго зніклага без вестак дзядзьку.) У артыкуле ў спісе загінулых жаўнераў гэтай часткі пад Пётркавам-Трыбунальскім мы ўбачылі імя Міхася Сцебуракі!

Уся гісторыя нарэшце складаецца, і становіцца зразумелым, чаму мы згубілі сляды Мішы. Атрымалася, што ён так і не патрапіў у 81-ы полк, пра які пісаў нам у апошнім лісце, а застаўся ў 86-м, з якім і быў адпраўлены на фронт.

28 жніўня ягоны полк з Гелянова чыгункай быў перакінуты ў карэнную Польшчу на абарону Варшавы. Ён стаў часткай арміі «Прусы», што трымала лінію абароны на сутыку армій «Лодзь» і «Кракаў». Галоўнай задачай «Прусаў» было прадухіленне прарыву немцаў да сталіцы. Да 4 верасня 1939 года полк, прайшоўшы маршам, стаў паміж Воўбарам і Пётркавам-Трыбунальскім ды пачаў будаваць лінію абароны.

Месца пачатковай дыслакацыі было адкрытае, таму пасля першых абстрэлаў і налётаў палку загадалі пакінуць пазіцыі і пачаць будаваць новую лінію абароны бліжэй да Пётркава ў мясцовасці, зручнейшай для стрымлівання ворага. Жаўнеры не паспелі як след акапацца на новым месцы, як ужо 5 верасня на 86-ы полк абрынуліся войскі Вермахта пры

падтрымцы танкаў і авіяцыі. Нават у такой сітуацыі першую атаку полк адбіў, знішчыўшы некалькі дзясяткаў танкаў. Другой атакай немцы ўсё ж прарвалі абарону, і полк пачаў адступаць. Польскія жаўнеры адыходзілі з баямі, але ж немцы неўзабаве занялі Пётркаў.

Пасля абароны горада ад палка засталося каля 200 жаўнераў і некалькі афіцэраў… Міхась Сцебурака загінуў падчас другой атакі немцаў 5 верасня 1939 года. Сваю смерць жаўнер сустрэў у жытнёвым полі ў некалькіх дзясятках метраў ад дарогі Воўбуры — Пётркаў. Ён быў апазнаны па вайсковым медальёне і пахаваны на тым самым месцы, дзе і загінуў. Так спачатку пахавалі ўсіх забітых у тым баі — на тых месцах, дзе іх напаткала смерць…

Дарэчы, згодна з картай першапачатковых пахаванняў жаўнераў, і дзядзька сп. Жылкі быў забіты ў двух дзясятках метраў ад Міхася.

Праз два гады, увосень 1941-га, немцы перапахавалі рэшткі загінулых у тых баях на вайсковых могілках, зрабіўшы дакладнае апісанне эксгумацыі. Усе гэтыя матэрыялы захоўваюцца і зараз ў архіве мэрыі Пётркава-Трыбунальскага. Па збегу нейкіх абставінаў яны не былі ў свой час перададзеныя ў цэнтральны вайсковы архіў, што і сталася прычынай таго, што мы атрымлівалі адмоўныя адказы на свае запыты…

Так невядомасць даўжынёй у дзесяцігоддзі перарвалася… Вайна, што пачалася для нашай радзіны з мабілізацыі Мішы на фронт у 1939 годзе, скончылася ў 2020-м з гэтым артыкулам Франка Жылкі. Вялікім суцяшэннем сталася для нас нарэшце дазнацца, дзе знайшоў свой спачын Міхась Сцебурака.

На момант атрымання гэтых звестак улетку 2020 года з усёй нашай вялікай сям'і Сцебуракаў, якая праводзіла Міхася на фронт, застаўся толькі я адзін — Анатоль Сцебурака. Той самы хлапчук, што стаяў на пероне вакзала ў Княгініне, махаў на развітанне і потым гнаў ровар дадому… Вестка пра лёс брата дайшла да мяне праз 81 год…





• *Сцебурака з аданапалчанамі ў Войску Польскім. 1937 г.*

Мы вельмі ўдзячныя шаноўнаму сп. Жылку, які, шукаючы свайго дзядзьку, дапамог і нам дазнацца пра лёс без звестак зніклага сваяка.

Між тым лёс беларуса Міхася Сцебуракі, што загінуў, абараняючы Польшчу ад нямецкай агрэсіі ў самым пачатку вайны, не быў выключным. Падобных яму было шмат.

У Войска Польскае перад Другой сусветнай было мабілізавана больш за 70 тысяч беларусаў. Каля 30 тысяч з іх трапіла ў палон, яшчэ каля 10 тысяч загінула.

Варта адзначыць, што беларускія жаўнеры заставаліся ў войску і ў самыя апошнія дні змагання Польшчы, калі многія карэнныя палякі ўжо разбягаліся па хатах. Нашыя хлопцы да апошняга змагаліся за дзяржаву, у якой займалі заўсёды другое, халопскае месца. Да ўсяго, ім не было куды вяртац-

ца, бо іх родныя мясціны былі таксама захопленыя, але не немцамі, а саветамі, якія таксама жорстка абыходзіліся з польскімі вайскоўцамі…

У сваіх успамінах Янка Брыль, сам удзельнік тых падзей, згадвае эпізод пры абароне Гдыні, калі польскі маёр, падымаючы ў чарговы раз рэшткі свайго батальёна, што меў у асабовым складзе палову беларусаў, камандаваў: *«Крэсавяцы, за мной!»* і рушыў, не азіраючыся, наперад, упэўнены — за яго спінай пад нямецкія кулі падымаюцца беларускія хлопцы, верныя дадзенай прысязе…

## Вызваленчы паход

17 верасня вайна прыйшла і ў Субачы. Раніцай з усходу пачалі даносіцца гукі страляніны і рэдкіх гарматных выбухаў. Чырвоная армія пачала свой вызвольны паход на Захад. Малалікія гарнізоны Корпусу аховы памежжа і вайсковыя часткі, што дыслацыраваліся на ўсходзе, аказалі пэўны супраціў, але былі змятыя стакроць мацнейшымі сіламі саветаў. Па дарогах пацягнулася вайсковая тэхніка, кавалерыя і доўгія шэрыя калоны пяхоты.

Насельніцтва вітала «вызваліцеляў» кветкамі ды хлебамсоллю. Панавалі пазітыўныя, а часам і выразна святочныя настроі. Госці з усходу на святкаванні часу не гублялі — з першых дзён новая ўлада пачала ствараць сваю структуру кіравання. У яе шэрагі трапілі збольшага прадстаўнікі мясцовай беднаты ды прысланыя з СССР актывісты. Сімвалічнай ілюстрацыяй падзей тых дзён стала сустрэча прадстаўнікоў новай улады з жыхарамі на станцыі Княгінін.

Добра памятаю той вераснёўскі дзень, калі бацька пацягнуў усю нашую сям'ю сустракаць бальшавікоў на станцыю. На пероне каля будынка княгінінскага вакзала была ўсталяваная трыумфальная арка, упрыгожаная гірляндамі з дзеразы і кветкамі. Усе, ад малых да старых, адзеліся ў



найлепшае — дэмісезонныя палітоны, строі, капелюшы — і выйшлі з вітальнымі транспарантамі насустрач. Не шкадаваў інструментаў невялікі аркестр. На перон з грукатам і свістам прыбыў паравоз. З вагона высыпала купка таварышаў у скуранках і гімнасцёрках. Спыніліся, пачалі аглядацца. Узнікла паўза, некаторыя госці так і засталіся на прыступках, трымаючыся за парэнчы, іншыя, хто паспеў спусціцца, ледзь не сабраліся лезці назад. Сярод прыезджых пачуліся ўстрывожаныя галасы: «*Куды мы трапілі? Дзе мітынг вызваленых беларускіх сялян? Сабраліся ж адныя буржуі!*» Упаўнаважаны арганізатар сустрэчы ледзь даў рады патлумачыць, што гэты натоўп і ёсць тыя «*трудзяшчыеся*», што прагнулі вызваліцца ад панскага ярма…

Першыя тыдні на «вызваленых» землях усё, за выняткам польскіх дзяржаўных установаў, працавала ў ранейшым рэжыме. У крамах без абмежаванняў прадаваўся тавар, корчмы і кавярні паілі і кармілі гасцей, як і раней. Курс рубля быў прыраўняны да злотага, абодва яны былі ва ўжыткуадначасова*. Злоты, дарэчы, быў у абарачэнні да студзеня 1940 года, калі яго цалкам замяніў рубель.

Агледзеўшы нябачаны ў СССР асартымент, савецкія вайскоўцы і новыя кіраўнікі цывільнай адміністрацыі кінуліся па крамах, скупляючы ўсё, што можна. Гандлярам такі спрыт падабаўся, але і яны часам дзівіліся, не могучы ўцяміць, навошта скупляць самы просты тавар у неверагодных колькасцях. Крамнік, у якога адзін афіцэр Чырвонай арміі скупіў усе гузікі, здзіўляўся ўголас: «*Ну, купіў ты ў мяне дзесяць гузікаў! Добра! Але навошта сто гузікаў чалавеку?!*»

Дзіўнымі былі не толькі паводзіны прыхадняў, але і сам іх выгляд. Савецкія вайскоўцы сапраўды выглядалі дрэнна. Найперш кідалася ў вочы кепскае абмундзіраванне: доўгія

---

* Да 17 верасня за 1 злоты давалі 4 рублі, з прыходам саветаў курс штучна выраўнялі на 1 да 1.

шынялі, абмоткі на нагах, будзёнаўкі на галовах. Са слабым рыштункам, худыя, вашывыя, з пахмурнымі тварамі, яны рашуча розніліся ад звыклых нам элегантных польскіх вайскоўцаў. Яшчэ больш, чым нехлямяжыя вайскоўцы, палохалі мясцовых сялянаў іхнія коні. Знясіленыя, хворыя, са збітымі капытамі, з жахлівымі намуламі ад няправільнага запрагання, яны ледзь цягнулі ногі… Дзівіла і тое, што вызваліцелі сталі хутка вывозіць на ўсход з польскіх кашараў усё начынне, а потым пазбівалі там з негабляваных дошак двухпавярховыя нары, зрабілі на іх з мяхоў сеннікі і ў такі інтэр'ер засялілі чырвонаармейцаў.

Мы, дзеці, жылі звыклым жыццём, але некаторыя змены пачалі адчуваць і на сабе. Школьныя заняткі ў нас не прыпынялі, але мясцовых настаўнікаў хутка пачалі замяняць кадрамі з усходу — збольшага з Магілёўшчыны і Гомельшчыны. Іх манеры, паводзіны, знешні выгляд былі для нас нязвыклымі… Вось выпадак, які ілюструе на простым прыкладзе розніцу.

Брат Косця неяк пазнаёміўся з адной з такіх новых настаўніц. Ён запрасіў маладую і прывабную дзяўчыну на госці ў Субачы. Яе, канешне, запрасілі на абед і пасадзілі за стол. Паненка найперш збянтэжылася ад таго, што не ведала, як карыстацца сталовымі прыборамі, а пасля больш — калі пабачыла вялікую талерку са сметанковым маслам. Агледзеўшы гэты прадукт у такой колькасці, яна запытала ў гаспадароў: «*А што гэта вы так шмат яго паставілі на стол*?» Пабачыўшы нашае здзіўленне, дадала: «*Нам у педвучэльні казалі, што гэта небяспечна, калі яго ўжываць шмат! Лепей карыстацца камбіжырам!*»



## Пан Эймант

У гэты час адбылася яшчэ адна цікавая гісторыя, звязаная са школай. А дакладней, з яе кіраўніком — панам Эймантам. Заўсёды апрануты па мілітарнай модзе ў фрэнч, галіфэ і бліскучыя хромавыя боты, падцягнуты і бадзёры, былы легіянер Пілсудскага выкладаў у школе фізвыхаванне і вайсковую падрыхтоўку і быў фігурай паважанай ды адметнай. Уладыслаў Эймант быў этнічным палякам, нарадзіўся пад Піцерам і падлеткам запісаўся ў Легіёны Пілсудскага. Пасля вайны заняў пасаду ў адукацыі.

На дырэктарскай працы ён быў на сваім месцы. Роўна ставіўся да ўсіх дзяцей незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання. Калі ўваходзіў у клас і дзеці шумелі, ён спакойна садзіўся на крэсла і пачынаў задуменна круціць на пальцы ключы. Клас паціху змаўкаў, і ён пачынаў занятак.

Жыхары мястэчка з павагай расказвалі пра яго ўсялякія байкі. Распавядалі, як, зрабіўшы палонку на Сэрвачы і ўмарозіўшы ў яе кол, кожную раніцу прыходзіў туды, вешаў на кол кажух, колькі разоў акунаўся і зноў, накінуўшы кажух, вяртаўся дахаты. Пераказвалі, як падчас рамонту школы ён, сарваўшыся з даху, здолеў спрытна, як кот, саскочыць на зямлю. А колькі баялі пра яго перамогу ў барацьбе з самым дужым местачковым кавалём Рачкоўскім… Да ўсяго пан кіраўнік быў спрактыкаваным матацыклістам — яго часта бачылі на дарогах гміны. На гэтым матацыкле ён прыязджаў і да нас у Субачы — прывозіў на зарадку нам батарэі для прыёмніка і матацыклетныя акумулятары, плацячы за паслугу два злотых. Часам мне самому выпадала адвезці зараджаныя батарэі Эйманту дахаты…

Апошні раз я прыехаў да яго ў лістападзе 1939 года і стаў сведкам ягонага арышту. Было гэта так. Я пагрукаў у дзверы і, пачуўшы адказ, зайшоў у вітальню. На імгненне аслупянеў: у пакоі сядзеў кіраўнік школы, а побач стаялі два

чырвонаармейцы з вінтоўкамі і прымкнутымі штыхамі. Трэці, з наганам на баку, рабіў вобшук, скідаючы з паліцаў кнігі. Пан Эймант спакойна сказаў у мой бок: «*Dziękuję Ci. Połóż baterie w rogu i idź do szkoły*»*. Я пакінуў дом і пабег на заняткі.

На трэцім уроку навучанне перарвалі крыкі: *«Кіраўніка вядуць!»* Мы падбеглі да вокнаў: па вуліцы жаўнеры пад канвоем вялі нашага настаўніка. За імі ішла падвода з нейкім майном — відаць, рэчавымі доказамі, канфіскаванымі пры вобшуку, тут жа сядзеў чэкіст з наганам. Усе здранцвелі ў маўчанні. Толькі малы сын Эйманта Збышак радасна паўтараў: «*Татуся павялі, татуся павялі! Сёння ўвечары я буду вольны!*» Усе хлопцы ведалі, што строгі кіраўнік вельмі сур'ёзна ставіўся да выхавання сына — прымушаў таго шмат часу ўдзяляць урокам, заняткам музыкай і гімнастыкай…

Як стала вядома пазней, разам з Эймантам амаль адначасова арыштавалі Гейшэля і Спірыдовіча з гміннай адміністрацыі і былі з вобшукам у ксяндза Крапіўніцкага. Усе яны праходзілі па справе Obóz Zjednoczenia Narodowego, OZN (папросту — Ozon) — польская дзяржаўная палітычная арганізацыя, што дзейнічала з 1937 па 1939 год. Іх абвінавачвалі ў контррэвалюцыйнай дзейнасці супраць савецкай улады.

Тое, што адбылося далей, стала легендай, якую ў нас цішком пераказвалі яшчэ шмат гадоў.

Прайшоўшы паўз школу, канвой падвёў Эйманта да будынка НКУС, які знаходзіўся непадалёк, — у прыгожым дамку з мансардай, што раней займаў польскі пастарунак. На ганку канвойных і арыштанта сустрэў вартавы і прапусціў усярэдзіну. З калідора канвой рушыў у свой пакойчык, афіцэр — з дакладам да начальніка, а затрыманага пакінулі на лаўцы пад дзвярыма…

Зараз гмінны пастарунак ужо не быў тым ціхім месцам, як раней, калі ў ім трымалі двух-трох дробных злодзеяў ці п'янюг. За апошнія месяцы сюды на допыты перацягалі

* Пастаў акумулятары ў кут і ідзі ў школу. (Пол.)



вялікую колькасць людзей рознага веку і занятку з ліку тых, хто трапляў пад падазрэнне бальшавікоў. І няшмат каму шчасціла вяртацца дадому пасля наведвання гэтай установы. Усё часцей небаракаў адвозіў на станцыю чорны воран… Кароткая дарога па мястэчку, палахлівыя позіркі мінакоў, злавесная цішыня за чорнымі дзвярыма кабінетаў — нішто не абяцала добрай развязкі. Арыштаваны гэта адчуў і зразумеў, што ёсць адзінае выйсце. І яно вымагала дзейнічаць неадкладна. Прайшло некалькі імгненняў, як цёмны калідор апусцеў. Пан Эймант рэзка скінуў з плячэй кажух, падняўся, спрактыкаваным рухам паправіў фрэнч і цвёрдай хадой рушыў, не азіраючыся, па калідоры да выхаду. Крокі гулкім рэхам разносіліся па памяшканні пастарунка і паміралі ў цёмных кутах. Перад дзвярыма ён яшчэ раз хутка агледзеў сябе і рашуча выйшаў на ганак. Павольна, але не спыняючыся, спусціўся па прыступках паўз вартавога. Вартавы жаўнер павярнуўся да яго. На хвілю таму падалося, што чалавек нагадвае таго затрыманага, што толькі нядаўна ўводзілі пад канвоем… але не… гэты ідзе так упэўнена… Імгненне сумневу прайшло. Чаканячы крок, як на дэфілядзе па пляцы, незнаёмец з вайсковай выпраўкай прайшоў праз двор і знік за будынкам. Далей гэты дзіўны афіцэр лёгка пераскочыў праз высокі плот, прабег па вуліцы і хутка знік.

Пан Эймант знік, але чуткі пра яго ўцёкі доўга хадзілі па наваколлі. Пазней нехта нібы бачыў яго ў няўлоўных аддзелах АК, іншыя казалі, што ён служыў у Арміі Андэрса. Так было ці неяк па-іншаму, але я зараз з непрыхаваным захапленнем і павагай згадваю свайго колішняга настаўніка, які на сваім вайсковым гарнітуры на гадавыя святы з шляхецкай годнасцю насіў узнагароду легіянера Пілсудскага — крыж Virtuti Militari…

## У братэрскай сям'і савецкіх народаў

Тым часам змены ва ўсіх сферах жыцця рабіліся ўсё больш відавочнымі. Досыць хутка жыдоўскія крамкі напалову распрадалі свой тавар, напалову прыхавалі, памалу пачынаючы прадчуваць нядобрае. Зразумелі, што злоты выходзіць з абарачэння, і сталі больш патрабаваць савецкія рублі. У гэты час па Крывічах пайшла пагалоска пра з'яўленне першай у мястэчку савецкай кааператыўнай крамы. У дзень адкрыцця ля ганка новай гандлёвай кропкі сабраўся натоўп. Калі дзверы адчыніліся і натоўп трапіў усярэдзіну, яго вачам адкрыліся доўгія пустыя паліцы, на якіх з усяго асартыменту стаялі хлеб, махорка, пірамідкі запалак, мяхі солі ды горкі сумнеўнага на выгляд гаспадарчага мыла, аднолькава непрыемнага як колерам, гэтак і пахам. На тварах пакупнікоў з'явіліся расчараванне і здзіўленне — людзі даўно былі знаёмыя з пахнючым туалетным мылам розных колераў і брудныя кубікі на паліцах іх, відавочна, не скарылі. Адзіным таварам, які выклікаў інтарэс, сталіся галёшы, але і яны не маглі выправіць уражання ад новай крамы, бо былі прадстаўленыя, на жаль, адной толькі парай. Праўда, гэтыя галёшы захацелі купіць усе. Пачаліся спрэчкі і сваркі прэтэндэнтаў на іх куплю. Лямант перарваў крамнік, што выгнаў усіх на ганак, выйшаў следам і, развярнуўшыся да натоўпу спінай, шпурнуў абодва галёшы ў розныя бакі са словамі: *«Разбірайцеся цяпер самі!»* ды схаваўся ў краме…

У апошнія дні кастрычніка прайшлі выбары ў Народны Сход Заходняй Беларусі. Запомнілася тое, што новым уладам патрабавалася стапрацэнтная яўка і аднагалосная падтрымка кандыдатаў. А здзівіла іншае: тым, хто прагаласаваў, у імправізаваным буфеце выбарчага ўчастка давалі па лыжцы цукру…

Масавымі сталі арышты. Першымі пад увагу саветаў трапілі абшарнікі, паліцыянты, члены адміністрацыі, чальцы польскіх палітычных арганізацый. За імі ў пачатку 1940-х асаднікі і леснікі. Дарэчы, прычыны арышту леснікоў, як правіла, нідзе ўцямна не тлумачацца, хаця сам факт часта фігуруе ў літаратуры. А між тым арыштоўвалі іх не толькі таму, што яны добра ведалі лес і былі ўзброеныя, але і таму, што польскія леснікі праходзілі спецыяльныя ваенныя курсы дыверсійнай скіраванасці. Вывучалі асновы арыентавання, маскіроўкі, падрыўной справы і былі патэнцыйна небяспечнымі для савецкай улады.

Таксама рэпрэсіі закранулі асаднікаў. Іх сем'і вывозіліся з асаблівым цынізмам. Злая прыдумка органаў заключалася ў тым, што іх не забіралі з хатаў, а прымушалі саміх прыязджаць на станцыі з рэчамі на сваіх жа падводах. Ім нават не тлумачылі, куды дакладна яны адпраўляцца, пакідаючы надзею, што мо перасеяляць некуды недалёка. Спадзеючыся на лепшае, людзі не ўцякалі, не хавалі скарб, а збіралі самае каштоўнае і рушылі ў вызначанае месца. А вось са станцый яны траплялі наўпрост у высылку. Па прыездзе агаломшаных людзей грузілі ў эшалон, а вазы, коней і частку маёмасці тут жа канфіскоўвалі.

У нашай сям'і ніхто не браў удзелу ў польскіх арганізацыях, за выняткам хіба скаўтаў — «харцэжаў» (польск. harcerze), куды дзяцей заахвочвалі ў школе*.

Ад першай хвалі рэпрэсій гэта абараніла. Але не ўсім нашым сваякам пашанцавала гэтак жа ў тыя дні. Трагічна склаўся лёс сына цёткі Хрысціны — майго стрыечнага брата

* Скаўцкі рух з'явіўся ў Польшчы ў 1909 г. Ідэі ангельскага скаўтынгу трапілі на прыдатную глебу. Хоць Польшча тады не мела незалежнасці, але моладзь выхоўвалася ў нацыянальным духу, гартавалася пад лозунгамі аднаўлення дзяржаўнасці. Адзін з бацькоў польскага скаўтынгу Анджэй Малкоўскі сфармуляваў сэнс новага руху так: «Скаўтынг плюс незалежнасць — гэта гарцэрства». Гарцоўнікі ў польскай рыцарскай традыцыі былі авангардам, які супрацьстаяў на полі бою авангарду праціўніка — свайго роду размінка перад поўнамаштабнай бітвай. Скаўты павінны былі стаць гэтым самым авангардам і абуджаць да незалежніцкага памкнення.

Івана Разанцава. Ён сустрэў II сусветную ў шэрагах Войска Польскага, удзельнічаў у абарончых баях 1939 года і трапіў у палон да немцаў, паспяхова ўцёк і даў рады вярнуцца на радзіму. Па вяртанні ў родныя мясціны быў арыштаваны НКУС і закатаваны ў вялейскай турме ў 1940-м.

Палітычныя рэпрэсіі дапаўняліся вялікім эканамічным уціскам. Гаспадаркі абкладалі новымі натуральнымі і грашовымі паборамі. Да нас у Субачы заявіўся агент бальшавікоў з мясцовымі актывістамі — яны абмералі зямлю і правялі рэвізію ўсёй гаспадаркі. На карысць дзяржавы абрэзалі ажно трыццаць восем гектараў, пакінуўшы сям'і толькі дванаццаць. Непад'ёмнымі падаткамі абкладалася скаціна і іншая маёмасць. Нашая сям'я была вымушаная за бясцэнак распрадаць большую частку ўсяго майна, каб вызваліцца ад падатковага цяжару. У гаспадарцы засталіся два кані, карова і некалькі парсюкоў…

Фінагент Шчатыронак, які прыходзіў на наш кулацкі хутар Субачы налічваць чарговую порцыю падаткаў, быў, відаць, па-свойму спагадлівым і сумленным чалавекам, бо цішком раіў нам распрадаваць усё і ўцякаць чым далей, папярэджваючы, што новая ўлада такі кантынгент у спакоі не пакіне і аднымі падаткамі ад яе хутка будзе не адкупіцца. У выніку так яно і сталася — нас выселілі, а зямлю адабралі. Дарэчы, нашую канфіскаваную зямлю так ніхто не ўзяўся абрабляць і яна ляжала аблогай…

Пры першых саветах у нашай мясцовасці калгасы стварыць не паспелі, спрабавалі ўводзіць больш простыя формы гаспадарання.

На базе былых панскіх сядзібаў арганізавалі саўгасы. Ад сядзібаў, праўда, да таго часу мала што і засталося — яшчэ да дэкларацыі аб нацыяналізацыі банкаў і канфіскацыі памешчыцкіх земляў шмат якую маёмасць насельніцтва разрабавала самастойна, не чакаючы ніякіх дазволаў. Хутка былі расцягнутыя інвентар, жывёла, мэбля і іншыя рэчы. Засталіся самі будынкі і тое-сёе з рыштунку.



Вось у такія саўгасы ўступілі беднякі і пачалі гаспадарыць па-новаму — па-савецку. Нічога, што праўда, не атрымалася. У першую ж восень яны не паспелі прыбраць з палеткаў ураджай — пад снег пайшлі буракі, збожжа, бульба. Праеўшы ўсё, што было, і разваліўшы гаспадарку канчаткова і ў самыя кароткія тэрміны, саўгаснікі разбегліся па сваіх аднаасобных гаспадарках…

Гаворачы пра той час, я прыгадваю дзве гісторыі, якія, маючы падабенства ў месцы дзеяння і сюжэце, аднак жа прынцыпова розняцца сваімі фіналамі, проста праз тое, што адна адбылася да 17 верасня 1939 года, а другая — у хуткім часе пасля гэтай даты. Першая пра тое, як да аднаго маладэчанскага суддзі аднойчы ў госці прыехаў сваяк з недалёкага засценка і вельмі ўпадабаў племяннога к*а*чара, які меўся ў гаспадара. Папіўшы-пагуляўшы, суддзя, як заможны і шчодры пан, на расстанне прэзентаваў птушку сваяку. Той, задаволены, з'ехаў да сваёй гасподы. Праз нейкі час ужо суддзя наведаў сваяка і па прыездзе запытаўся — ці той задаволены новай птушкай, так упадабанай надоечы? У адказ засцянковец з сорамам прызнаўся, што на другі дзень ка́чар знік без следу, ці ўцёк сам, ці задушыў хто — невядома. На што суддзя са смехам распавёў, што разумны птах пару дзён як прыляцеў дахаты, рэзюмаваўшы: *«Mądra głowa! Jak sam wrócił, drugi raz nie dam — zamieszka na moim podwórku!**»

Другая гісторыя пра нашага родзіча Янчыка Яна з Малышак. Ён жыў халасцяком і меў невялікую гаспадарку, якой, аднак, яму хапала. Атрымаўшы ад саветаў прадпісанне на здачу мяса, ён вылучыў са статка казла і павёў яго на нарыхтоўчы пункт у вёску Парабкі. Здаў, атрымаў квіток і вярнуўся дахаты, а казёл застаўся ў загоне з іншай жывёлай, што чакала перагону на станцыю Княгінін. Вярнуўшыся, Янчык

* Мудрая галава! Раз сам вярнуўся, другі раз не падару, — будзе жыць у мяне на падворку! (Пол.)

лёг спаць, але быў пабуджаны сярод ночы беспардонным грукатам у дзверы. Так маглі грукаць хіба людзі, што ездзілі на чорным варанку. Падняўшыся з ложка і схапіўшы хатуль, загадзя сабраны на такі выпадак, ён з хваляваннем адчыніў дзверы. На парозе, трасучы барадой, стаяў яго казёл. Як выявілася, гераічны ўцякач пераскочыў загарадку, выбраўся з вёскі, перайшоў па крыгах Сэрвач і вярнуўся дахаты ў Малышкі. Іншы б раз гаспадар расцалаваў бы барадатага за такі ўчынак, але зараз Янчык зусім не быў рады старому сябру. Да смерці спалоханы, што будзе абвінавачаны ў выкраданні жывёлы з усімі зразумелымі наступствамі, ён узяў нож і тут жа прырэзаў скацінку, хутка схаваўшы і мяса, і сляды ліквідацыі капытнага на сваім падворку…

Пры першых саветах уся наша сям'я заставалася на сваёй гаспадарцы, толькі старэйшы брат Кастусь уладкаваўся мастаком-афарміцелем у Вялейскі абласны Дом культуры. З тых часоў цудам захаваўся просценькі алоўкавы накід, на якім Кастусь ў 1940 годзе намаляваў тое, што бачыў з акна свайго кабінета — куток гарадской забудовы з корпусам бальніцы, якая захавалася і да нашых дзён, ды лёгка пазнаецца і праз восемдзесят гадоў…

З 1939 па 1941 год Вялейка была цэнтрам вобласці з адпаведнымі такому статусу дзяржаўнымі ўстановамі, у якіх працавалі сярод іншых Пятро Машэраў, Яўген Скурко, Наталля Арсеннева. У Вялейцы тых часоў Косця пазнаёміўся з яшчэ адной знакамітасцю — мастаком Уладзіславам Стрмінскім*. Забыты неўзабаве пасля смерці і папулярны цяпер, айцец-заснавальнік унізму Уладзіслаў Стрмінскі ў час побыту ў Вялейцы працаваў мастаком і выкладчыкам малявання ў школе. З ім Косцю давялося папрацаваць у адной мастацкай брыгадзе, створанай для аздаблення горада пад Першамайскія святы ў 1940 годзе. Прыгадваю размовы ў хаце, калі брат

* Уладзіслаў Стрмінскі (1893–1952) — вядомы ва ўсім свеце мастак, авангардыст, тэарэтык унізму ў абстрактным мастацтве.





• *Від з акна працоўнага кабінета мастакоў Вялейскага Дома культуры (малюнак К. Сцебуракі)*



• *Кастусь Сцебурака за мальбертам. 1930-я гг.*

са здзіўленнем і захапленнем распавядаў пра дзіўнага майстра, што пісаў у незразумелай манеры авангардызму. Такім ён і запомніўся ў нашай сям'і — інвалід I сусветнай, чалавек з цяжкім характарам, але апантаны і энергічны творца.

У 1940 годзе Косця наважыўся адправіць пару сваіх працаў у Мінск, дзе ладзілася вялікая выстава заходнебеларускіх мастакоў.



Яму прыйшоў адказ, што творы не падыходзяць па тэматыцы, з прапановай прыехаць забраць іх. Відавочна, букалічныя сюжэты, створаныя пад уплывам польскай рамантычнай школы, не маглі выстаўляцца побач з узорамі сацрэалізму… Кастусь паперажываў, але не паехаў па тыя карціны. Назад яны так і не вярнуліся. У нас цудам захавалася некалькі акварэльных замалёвак і невялікіх карцінаў — пісаных алеем на палатне і кардоне пейзажаў *(глядзі ў дадатку)*.

Тым часам паўсядзённае жыццё імкліва змянялася. Літаральна за некалькі месяцаў савецкая ўлада перастала спрабаваць выглядаць прывабна і паказала свой сапраўдны твар: арышты, пазасудовыя пакаранні, канфіскацыя зямель і маёмасці, несувымерныя з даходамі падаткі. Вязніцы перапоўніліся арыштантамі, супраць якіх выкарыстоўваўся жорсткі фізічны гвалт, пачалася высылка шкоднага элементу ў аддаленыя мясціны СССР, сталі штампавацца вялікія тэрміны зняволення і смяротныя прысуды.

Тым часам жыццё рабілася горшым, рэзка ўпаў узровень жыцця ўсіх без выключэння слаёў насельніцтва. Як сумна жартавалі ў Заходняй Беларусі таго часу: «*Саветы прыйшлі і вызвалілі нас… ад сала, кілбасы і масла*». Ад сябе дадам, што і ад кажухоў — бо ад таго часу народ стаў хадзіць усё болей у ватоўках.

Чаканні не апраўдаліся — новая ўлада горка расчаравала людзей. Але хутка ўсё ізноў кардынальна змянілася — вялікая вайна, што грукатала ў Еўропе з 1939 года, летам 1941-га прыйшла на нашую зямлю.

# Нямецкая акупацыя

## 1941

Для жыхароў Заходняй Беларусі II сусветная пачалася 1 верасня 1939 года, але маштабныя баявыя дзеянні прыйшлі ў наш край у чэрвені 1941-га пасля нападу Германіі на СССР.

Першыя два дні вайны ў нас было ціха. На трэці дзень нямецкі самалёт скінуў колькі бомбаў на станцыю Княгінін. Яны ўпалі непадалёк ад чыгуначнага насыпу ў хмызняку, утварыўшы вялікія варонкі. Штовосень яны запаўняліся вадой і былі добра бачныя і праз дзесяцігоддзі пасля вайны.

Вайна застала мяне ў гасцях у сябра Міколы Карозы ў Вялейцы. Тут жа апынуўся і старэйшы брат Косця, які быў выкліканы на прызыўны пункт. Яго разам з іншымі мабілізаванымі пратрымалі двое сутак ў няпэўнасці, а потым далі загад разыходзіцца па хатах. Самі супрацоўнікі ваенкамата, спешна пагрузіўшыся ў машыны, збеглі на ўсход, а мы з Косцем пешшу падаліся дахаты ў Субачы.

Гэтая дарога дадому нават у дробных дэталях памятаецца мне праз дзесяцігоддзі.

Ішлі пешшу знаёмым гасцінцам. У мястэчку Куранец зайшлі ў краму — яна працавала. Праўда, паліцы былі пустыя: з ежы засталіся толькі дарагія шакаладныя цукеркі, і на самай верхняй паліцы ляжалі нікому не патрэбныя піянерскі горн і барабан… Памятаю, набылі мы цэлую кілю тых цукерак і рушылі. Шлях далей пралягаў праз Губы, Балашы, Ніўкі.



Увечары дабраліся да Княгініна. На станцыі было людна — ішоў рабунак складоў. Неслі ўсё, што траплялася пад руку, — соль, цукар, хамуты, гарэлку. Мы з братам разжыліся некалькімі бутэлькамі гарэлкі і кулём цукру. З гэтым нечаканым здабыткам мы неўзабаве і дайшлі да Субачаў.

Актыўных баявых дзеянняў летам 1941 года ў нашай мясцовасці не было. Немцы прайшлі імклівым наступам на ўсход, не сустракаючы супраціву. Адна невялікая калона нямецкай бранятэхнікі, праўда, праходзіла паўз Крывічы. Напамінам пра яе застаўся танк, што сапсаваўся і быў пакінуты на ўзбочыне. Ён адразу выклікаў жывую цікавасць насельніцтва і стаў нагодай для камічнага выпадку. Справа ў тым, што мясцовы каваль, які пару дзён прыглядаўся да пакінутага без нагляду вялікага кавалка жалеза, нарэшце не вытрымаў — узброіўся інструментам і палез усярэдзіну машыны па здабычу. Невядома як, але небарака ўмудрыўся зачыніцца ў танку, прычым наглуха. Ніякія спробы выбрацца самастойна, як і спробы дапамагчы звонку, поспеху не мелі, хоць вакол танка і сабралася паўмястэчка. Праседзеўшы дзень, бядак папрасіў паесці ды папіць. Піў праз трубачку, а ежу — тонкія блінцы — атрымліваў праз адтуліну для агляду. Толькі праз суткі ў Крывічы прыехала рамонтная брыгада, што і вызваліла каваля з пасткі. Местачкоўцы і сам вязень з перасцярогай чакалі пакарання, але ўсё абышлося — немцы, пасмяяўшыся, адпусцілі каваля, адно прымусіўшы яго перад тым прынесці гарэлкі, шпіку і яек.

У саміх Субачах першыя немцы з'явіліся на трэцім тыдні вайны. Гэта былі пяцёра салдатаў. Пакінуўшы свае карабіны каля парога, яны ўвайшлі ў хату і на ламанай польскай мове папрасілі паесці. Маці выставіла масла, яйкі, сала, хлеб. Яны паелі і разлічыліся за ежу драбязой: шакаладам, наборам нітак з іголкамі, чайнымі свечкамі, сахарынам і цыгарэтамі — і сышлі.

Тым часам у Крывічах сфармавалася новая адміністрацыя. Першымі яе зваротамі да насельніцтва сталі загад аб здачы зброі і радыёпрыёмнікаў, а таксама патрабаванне неадкладнага выхаду на працу служачых і работнікаў чыгункі.




• *Марка БНС (1941–1944)*

Брат Яўціхій са снежня 1941-га быў супрацоўнікам Крывіцкага аддзялення Беларускай народнай самапомачы. Арганізацыя, створаная ў кастрычніку 1941 года, займалася найперш дапамогай пацярпелым ад вайны, збіраючы грашовыя сродкі, адзенне і харчаванне, а таксама апекавалася пытаннямі аховы здароўя, адукацыі і культуры. Узначальваў крывіцкую БНС Уладзімір Касоўскі, які потым з прыходам савецкай улады перайшоў на нелегальнае становішча і хаваўся да 1949-га. Гэтак жа ў БНС працаваў наш сусед па Субачах Адамовіч Юльян Іванавіч, які пасля трапіў за гэта пад савецкія рэпрэсіі.

Дадамо некалькі словаў пра дзейнасць БНС у Крывічах. У Вялейскай акрузе ГАБ* сфармаваліся наступныя аддзяленні: Вялейскае, Маладэчанскае, Іллянскае, Радашковіцкае, Валожынскае, Мядзельскае, Жодзішскае, Крывіцкае. Апошняе было самым актыўным і даволі шматлікім. У ім было тры народныя дамы культуры, бібліятэка, дзейнічала вялікая колькасць гурткоў. Для распаўсюду друку былі закладзеныя шапікі — па адным-два ў кожным аддзяленні. У Крывіцкім іх было тры. Сяброў БНС у Крывіцкім аддзяленні было 463, як і ў Маладэчне. А, да прыкладу, у Вялейцы іх было 290, у Іллі — 256, Радашковічах — 420, Жодзішках — 175, у Мядзелі — 93. Болей было толькі ў Валожыне — 920. Агулам сяброў БНС у акрузе налічвалася 3070 (па стане на канец 1942 года).

Не сакрэт, што ўсе, хто хоць неяк праяўляў актыўнасць пад акупацыяй, імгненна станавіліся ворагамі для савецкай партызанкі. Не толькі чальцы БНС, але і тыя, хто проста чытаў беларускія газеты ці неяк удзельнічаў у культурніцкім жыцці, залічваліся партызанамі ў памагатыя фашыстаў і падлягалі знішчэнню…

У вайну ўся наша сям'я, апроч Яўціхія, звыкла працавала на гаспадарцы. Косця пад настрой пісаў карціны на продаж ды, маючы адпаведны досвед, час ад часу складаў па просьбах навакольных сялянаў прашэнні і звароты да адміністрацыі.

## Халакост

З усталяваннем нямецкай улады пачаў дзейнічаць сумна вядомы план вынішчэння «расава непаўнавартасных» асобаў. Па мястэчках пачыналіся аблавы на габрэяў — ствараліся гета. Мясцовае беларускае насельніцтва ў большыні сваёй ставілася да габрэяў са спачуваннем і нярэдка дапамагала ім ратавацца ад смерці, пры гэтым рызыкуючы жыццём. Не стала выключэннем і наша сям'я.

Неяк уночы напрыканцы жніўня 1941 года Яўціхій прывёў з Крывічоў да нас габрэйскую сям'ю. Тры дні пяць чалавек хаваліся ў Субачах на таку за снапамі неабмалочанага аўса. Я браў рэзгіны і кошык, хаваў у яго ежу і ішоў на ток нібы па справах — насіў ім харчаванне. Памятаю, што габрэі былі вельмі ўдзячныя за дапамогу, але ў старой бабулі, што была з імі, пашкодзіўся розум ад жаху ды мітусні, і яна бесперапынна пагражала невядома каму: «*Вось пачакайце. Прыйдзе час, і мы пойдзем па вашых галовах, як па бруку*». Гэтыя словы моцна збянтэжылі і ўразілі мяне ды заселі ў галаве на доўгія гады…

---

* Генеральная акруга Беларусь (ням.: Generalbezirk Weißruthenien) — ваенна-адміністрацыйная адзінка на занятай Германіяй тэрыторыі Беларусі падчас Другой сусветнай вайны. Была арганізаваная 17 ліпеня 1941 года і разам з генеральнымі акругамі Літва, Латвія і Эстонія ўваходзіла ў склад рэйхскамісарыята Остланд.

Здаўшы польскі прыёмнік па загадзе цывільнай нямецкай адміністрацыі, нашая сям'я апынулася фактычна ў інфармацыйнай ізаляцыі. Навіны прыносіў толькі брат Яўціхій, які часта выпраўляўся ў мястэчка па справах. Аднойчы пасля такой паездкі ў Крывічы ён прывёз да нас яшчэ аднаго пастаяльца — маладую габрэйскую дзяўчыну, сваю аднакласніцу Рыту, якая пражыла з намі да позняй восені.

Яна жыла ў хаце разам з усімі намі, дапамагала ў сялянскай працы, а нашая маці выдавала яе за родную дачку. Аднойчы сярод дня нечакана завіталі нямецкія жаўнеры, Рыта якраз дапамагала маці ў хаце, і яе не паспелі схаваць. Адзетая пасялянску, яна не прыцягвала асаблівай увагі, пакуль сама ледзь не выдала сябе, пачаўшы перакладаць пытанні немцаў. Тыя здзівіліся такой адукаванасці сялянкі і пацікавіліся, адкуль тая ведае нямецкую мову… Сітуацыю выратавала маці, якая сказала, што гэта старэйшая дачка, якая адна атрымала гарадскую адукацыю ў Вялейцы, у той час як астатнія вучыліся толькі ў вясковай польскай школцы… Такое тлумачэнне падалося дастатковым — Рыце пашанцавала. Пражыўшы некалькі месяцаў з намі, Рыта сышла. Як тое адбылося, варта распавесці асобна.

У абодвух нашых мястэчках, у Крывічах і ў Княгініне, увосень 1941 года немцы стварылі гета. Габрэі Крывічоў у большасці загінулі падчас карнай акцыі ў красавіку 1942-га, калі іх, папярэдне абліўшы бензінам, сагналі ў вялікае гумно на поплаве і падпалі. Мала каму пашчасціла выратавацца. Вязням княгініскага гета пашанцавала больш — яны выкарыстоўваліся на пагрузцы лесу ды іншых цяжкіх работах на станцыі і былі патрэбныя немцам у якасці працоўнай сілы. У княгінінскім гета былі габрэі з розных месцаў, прычым не толькі з Беларусі. Таксама не з мясцовых быў габрэй, што пры каменданце гета быў за перакладчыка. Высокі бландзін з блакітнымі вачыма, ён сваім агульным выглядам болей выдаваў арыйцам, чым прадстаўніком семіцкіх народаў. Жыў



ён разам са сваім начальнікам у дамку пры гета. Аднойчы, калі чарговы раз афіцэр быў моцна нападпітку, перакладчык пераапрануўся ў яго вайсковую вопратку, начапіў партупею, кабуру з пісталетам, накінуў плашч і выйшаў у дажджлівую ноч. Без перашкодаў прайшоў на тэрыторыю гета, хаваючы твар пад капюшонам ад непагадзі. Там гэты пераапрануты «афіцэр» прапанаваў нявольнікам бегчы разам з ім. На прапанову адгукнулася толькі дзесяць чалавек. З імі ён выйшаў з гета і пакінуў мястэчка, і перад тым, як знікнуць канчаткова, група прыйшла да нас па Рыту. Каб сабраць у нечаканую дарогу сваю «дачку», маці хутка склала торбу ежы, дала боты, швэдар і цёплы кажушок. Уцекачы пайшлі за Сэрвач праз брод каля вёскі Малышкі. Больш мы Рыту не бачылі…

Пасля вайны ў Крывічы вярнуліся толькі дзве Рыціны сястры, ад іх і мы дазналіся, што Рыта загінула падчас блакады партызанскай зоны. Нейкі час мы, памятаю, падтрымлівалі з імі стасункі. Нашая сям'я дапамагала ім па магчымасці харчамі, хаця тым часам і сама ўжо цярпела нястачу. А калі Чырвонае войска рэквізавала адзіную нашую кабылу на патрэбы фронту, Рыціна сястра Люба, якая працавала ў адной з дзяржаўных установаў мястэчка, пайшла да адказнага начальніка і здолела дамовіцца, каб жывёлу вярнулі. Увесну 1945 года, каб аддзячыць, мы ўзаралі Любе гарод і засадзілі яго сваёй бульбай. Недзе праз год сёстры выехалі ў Палесціну будаваць сваю дзяржаву…

Са з'яўленнем партызанаў рэшта ацалелых габрэяў пачала ратавацца ў лясах.

Частым госцем на нашым хутары падчас нямецкай акупацыі быў і млынар Мотка Ходас. Да вайны ён разам з сям'ёй і старой матуляй жыў у хаце пры млыне ля хутара Гуркі. Пасля знішчэння карнікамі габрэяў у мястэчку Мотка вырашыў не чакаць сваёй чаргі і ратавацца. За вялікім касцяневіцкім балотам млынар змайстраваў зямлянку, у якую за адну ноч перацягнуў самае неабходнае з рэчаў і перавёз сям'ю: дачок

Міру і Басю, сына Хевеля, жонку і старую маці. Час ад часу Ходас прыходзіў употай на хутар па ежу. Для яго адмыслова сушылі сухары, давалі гарох, крупы, бульбу. Апроч Субачаў у пошуках ежы Мотка наведваў і іншыя навакольныя паселішчы. Пазней у лесе ён зрабіў яшчэ адну, больш надзейную схованку, куды і перабраўся неўзабаве, пабачыўшы неяк на пяску паблізу сваёй зямлянкі сляды незнаёмага абутку.

Лес ратаваў Ходаса да позняй восені 1942 года, а пасля ён перайшоў на Віцебшчыну, у Бягомльскую партызанскую зону. У адным з атрадаў Ходас узначаліў партызанскую выведку. Вайну ўся ягоная сям'я перажыла без стратаў, калі стратай не лічыць тое, што пасля вайны сам Мотка стаў Міхаілам, Басяператварылася ў Соню, Хевель — у Мікалая. Недзе ў 1970-я мне давялося аднойчы сустрэцца з дзецьмі Ходаса. Дзве дачкі сталі выкладчыцамі нямецкай мовы і пражылі рэшту жыцця савецкімі настаўніцамі.

Сярод габрэяў былі і тыя, хто вырашыў не чакаць бяды і не хавацца па лясах, а самастойна выбірацца з небяспечнай зоны. Такім быў і Ёсель-рызнік. Першыя саветы ў 1939-м зрабілі Ёселя афіцыйнай службовай асобай — служачым мястэчковай нарыхтоўчай канторы. Яму былі выдзеленыя вазок і конь. Цягаючыся па наваколлі з савецкай цыдулкай у кішэні старога лапсердака, Ёсель займаўся тым жа, чым і раней, — збіраў рыззё.

З надыходам вайны ён не разгубіўся, а, хутка ўклаўшы хатні скарб на калёсы, усадзіў сям'ю і, навязаўшы на дыла казу, падаўся ў эвакуацыю. Дзе сам, дзе чыгункай — у выніку ён апынуўся ў Алма-Аце. Там, у далёкай Азіі, рызнік усю вайну адпрацаваў «па спецыяльнасці», а з усталяваннем міру здаў каня з вазком пад распіску мясцовым уладам і вярнуўся з ацалелай сям'ёй і чыстым сумленнем на радзіму — у ціхае беларускае мястэчка, дзе за праяўленую пільнасць пры захаванні сацыялістычнай маёмасці быў прызначаны



старшынёй сельсавета. Праўда, на пачэснай пасадзе Ёсель прабыў усяго некалькі гадоў і неўзабаве папрасіўся на іншую працу. Калі яго знаёмыя, здзіўленыя гэтым рашэннем, пыталіся пра прычыны, што вымусілі кінуць цёплае месца, былы рызнік адказваў наступнае: *«Ой, вы ведаеце, гэта была такая шкодная праца — у мяне увесь час балела шыя. Як я ішоў па мястэчку, то ўсе віталіся, і я мусіў ім, ківаючы, адказваць: Здрасьце! Здрасьце!»*

Нягледзячы на тое, што некаму з габрэяў цудам удалося перажыць вайну, не было такіх, на каго яна не паўплывала. Напрыклад, у нас з усяго наваколля Халакост ніяк не закрануў, бадай, толькі дзвюх прадстаўніцаў гаротнага народу — абедзве жанчыны яшчэ да вайны пабраліся шлюбам з беларусамі і прынялі хрысціянства. Яны пражылі ўсю вайну на сваёй гаспадарцы, займаючыся часаннем воўны, і немцы іх не чапалі. Пасля вайны на родныя котлішчы вярнуліся адзінкі, а большыня мясцовых габрэяў знікла без следу. Пра іх прысутнасць у мястэчках нагадваюць толькі камяніцыкрамкі, закінутыя могілкі, абеліскі на месцах расстрэлаў і жывая чалавечая памяць, якая імкліва памірае разам з апошнімі старымі. Адзінае суцяшэнне, што памяць гэтая, як правіла, добрая… Вось які ўспамін, напрыклад, захаваўся ў сям'і нашага знаёмца Рыгора Пракопчыка.

Бацька Рыгора, Мікіта Пракопчык, жыў у апошнім дамку на вуліцы, што межавала з габрэйскім канцом мястэчка. Па жыцці ён быў чалавекам праўдзівым ды разважлівым, ставячыся да людзей так, як яны таго заслугоўвалі, не падзяляючы іх на рускіх, палякаў ці габрэяў. Стасункі з суседзямі-іншаверцамі не былі нейкімі адметнымі, але роўнымі і ўзаемапаважлівымі ды нічым асаблівым не праяўляліся. Да часу.

Пачалася вайна, і над габрэямі навісла пагроза знішчэння. Да Мікіты зайшоў стары паважаны габрэй, галава вялікай сям'і, і, распачаўшы сваю гутарку словамі *«Ты ведаеш нас,*

*мы ведаем цябе*», папрасіў суседа пагадзіцца схаваць іхнія каштоўнасці ў сябе на час нямецкай навалы. Атрымаўшы згоду, ён паставіў яшчэ адну прынцыповую ўмову: захоўваць багацце дзесяць гадоў і аддаць яго любому з радзіны, старому ці малому, хто здолее вярнуцца жывым. Калі ніхто цягам гэтага тэрміну не аб'явіцца — распараджацца самому як заўгодна. На тым і разышліся.

Скончылася вайна. Згодна дамове, Мікіта чакаў вызначаны тэрмін, але ніхто так і не з'явіўся. Не маючы больш абавязкаў, новы гаспадар скарыстаўся пакінутым майном. Габрэйскае золата дазволіла беларусу Мікіту стаць на ногі і вывучыць яго чатырох сыноў, якія сталі адпаведна святаром, інжынерам, настаўнікам і доктарам…

## У глыбокім тыле

Вайна ішла на далёкіх франтах, а вёска жыла сваім жыццём. Сялянам трэ было араць, сеяць, даглядаць скаціну, весці гаспадарку. З прыходам немцаў перашкодаў гэтаму не стала больш, а ўведзеныя імі падаткі былі цалкам супастаўляльнымі з савецкімі і нават меншымі. Прынамсі, з нямецкімі нормамі мы справіліся без надзвычайных высілкаў. За своечасовую здачу сельгаспрадукцыі немцы нават выдалі ў гаспадарку двухлямешны плуг.

У вайну нам вярнулася і зямля, якая належала да прыходу саветаў. Гэта цешыла, аднак, па сутнасці, было бессэнсоўна, бо не было цяглавай сілы. Парай коней абрабіць сорак гектараў было немагчыма… Гэта разумелі і самі немцы — у якасці бясплатнай працоўнай сілы сялянам прапаноўвалі браць савецкіх ваеннапалонных, але мы ад такой дапамогі прынцыпова адмовіліся. І, як выявілася, не дарэмна. Тыя гаспадары, што бралі на працу прапанаваных «парабкаў», былі пасля жорстка пакараныя. Іх, разам з сем'ямі, без шкадавання і літасці знішчалі партызаны, прычым часта ў расправах удзельнічалі самі былыя ваеннапалонныя, якія помсцілі гаспадарам за сваё выратаванне з нямецкіх лагераў, дзе яны немінуча памерлі б праз некалькі месяцаў ад голаду і знясілення. А тым, хто неяк унікнуў партызанскага тэрору, пасля вайны «рабаўладальніцтва» прыпомніла савецкая ўлада, даўшы вялікія турэмныя тэрміны і не рэабілітаваўшы па сёння…

У акупацыю яшчэ адной істотнай праблемай быў для беларускіх сялянаў прымусовы вываз на працы ў Нямеччыну. Добраахвотны спачатку, ён хутка стаў гвалтоўным праз недахоп ахвотнікаў. Тым, хто трапляў «да баўэра» — на фермерскія гаспадаркі, — яшчэ шанцавала, а тым, хто мусіў рабіць на шахтах, шкодных вытворчасцях ці на разборы завалаў пасля бамбёжак, выжыць бывала вельмі цяжка. Многія так і не вярнуліся дадому.

Усе ваенныя гады нашая сям'я працавала на сваёй зямлі. Працы хапала ўсім, пастаўкі, якіх патрабавалі акупацыйныя ўлады, выконваліся. Гэта ратавала ад вывазу ў Нямеччыну.

З прыходам немцаў змены адбыліся не толькі ў Заходняй Беларусі, у яшчэ большай меры знікненне савецкага калгаснага прыгону адчулі сяляне на ўсходзе. У суседнім Лагойскім раёне, што быў да вайны на савецкім баку, немцы распусцілі калгасы і раздалі людзям зямлю ды прылады працы. Даведзенае да жабрацтва і голаду гадамі калектывізацыі сялянства ўздыхнула вальней. Вось як згадвае гэты час Лідзія Я.: «*Да вайны мне было шэсць гадоў, я амаль не магла хадзіць, бо ад недаядання ў мяне пухлі ногі і балелі суставы. Бацькі працавалі ад ранку да ночы ў калгасе, а есці дома не было чаго. Памятаю, як ім на зробленыя працадні за цэлы год выдалі ўсяго адзін мех — у яго сыпалі трошкі жыта, перавязвалі вяроўкай, трошкі грэчкі, зноў перавязвалі, трохі ячменю… Усё зерне было напалам з галубіным памётам. А як прыйшлі немцы, калгас разагналі і зямлю падзялілі на ўсіх. Калі мы сабралі ўраджай і заплацілі падаткі, нам упершыню засталося дастаткова збожжа самім. Была і бульба. Тата*

*трошкі выгнаў самагонкі. Памятаю, як упершыню мы паелі ўволю! Памятаю, як тата, выпіўшы кілішак, стаў вясёлы, спяваў і танцаваў у хаце. Да гэтага я ніколі не бачыла, каб ён усміхаўся, тым больш, каб танцаваў… Ад'еўшыся ў першыя гады вайны, я акрыяла і пачала хадзіць»*.

Увосень 1942 года ў нас з'явіліся цікавыя пастаяльцы — сям'я бежанцаў з-пад Вялікіх Лукаў. Пётр і Лена Івановы з малым хлопчыкам, гадоў пяці-шасці, былі вымушаныя пакінуць сваю хату ў вёсцы, што была ў непасрэднай блізкасці да лініі фронту, дзе немцы будавалі магутныя абарончыя ўмацаванні. Цывільнае насельніцтва з такіх зонаў Вермахт адсяляў і накіроўваў на сталае жыхарства ў тыл. Бежанцам давалі паперу, якая мусіла дапамагчы ім уладкавацца на новым месцы. У пошуках прытулку яны дабраліся ажно да нашых Субачаў. Мы пасялілі іх у нашую лазню, абсталяваную пад жылыя патрэбы, а самі сталі хадзіць мыцца ў лазню да Завадскіх. Апухлага ад голаду малога хлопца ўзялі за свой стол. Немцы выдзелілі Івановым матэрыяльную дапамогу, а нам, як гаспадарам, што прынялі пастаяльцаў, зменшылі падаткі, але абавязалі частку прадуктаў аддаваць на харчаванне сям'і перасяленцаў. Памалу рускія абжыліся. Першае, што пасадзіў у сваім гародчыку Іваноў, быў тытунь. Гаспадар сям'і хварэў — моцна пакутаваў на болі невядомага паходжання ў страўніку. Выратаванне прыйшло з нечаканага боку. Дапамаглі яму нямецкія дактары: зрабіўшы рэнтген і дыягнаставаўшы язву, правялі складаную па тых часах аперацыю — рэзекцыю дзвюх трацінаў страўніка. Пётр пасля аперацыі акрыяў і паздаравеў. Пасля свайго шчаслівага выратавання толькі і расказваў усім, як немцы заляпілі яму дзюрку ў жываце. Пачаў наймацца на працы ў суседнія гаспадаркі, жыццё трохі наладзілася.

З гэтым Пятром была яшчэ цікавая гісторыя. Можа, праз год пасля аперацыі, ён, вяртаючыся з чарговай падпрацоўкі, замоцна выпіў зробленай самагонкі. Тады ён спыніўся



на двары пад плотам і пачаў ванітаваць. Сцішыўшыся, ён раптам зароў уголас: «*Лена! Лена! Ратуй! А-а-а-а! Нямецкая латка вылецела!*»

Жонка, што выбегла на крык з хаты, агледзела пад нагамі мужа ваніты, у якіх ляжаў недажаваны капусны лісток… Нямецкія хірургі шылі добра.

## Шурка Манькоўскі

Да пачатку зімы 1943 года ў нашай мясцовасці было спакойна. За выключэннем гісторыі на чыгунцы ў лістападзе 1942 года. Галоўным героем яе стаў просты княгінінскі хлопец Аляксандр Манькоўскі.

Пайшоўшы па татавых слядах, Шурка (як клікалі яго ў мястэчку) скончыў Сувалкаўскую чыгуначную вучэльню і пачаў працаваць перад II сусветнай на станцыі стрэлачнікам. З прыходам немцаў, як патрэбны спецыяліст, застаўся пры сваім занятку. Нядрэнна валодаючы мовай новых гаспадароў, дваццацігадовы хлапец асвойтаўся з умовамі, прыжыўся сярод немцаў, якія напачатку акупацыі паводзілі сябе даволі прыстойна і не давалі асаблівых падставаў для антыпатыі. Паволі ішоў час: на ўсход беглі цягнікі, вярталіся, збіралі новых салдатаў і зброю і рушылі ізноў да Масквы, імкліва праносячыся праз маленькую станцыю і зрэдку спыняючыся па тэхнічных патрэбах. Стрэлачнік Шурка штодзень рабіў сваю няхітрую справу. Неўзабаве прыйшла восень 1942 года. Рухавік Вермахта ўжо скідаў абароты, ды ўсё ж з-за інерцыі, зададзенай планам «маланкавай вайны», яшчэ быў здольны на перамогі. Адна з іх і прыпала на ціхі лістападаўскі дзень. Дзе дакладна праявіліся германскія мужнасць і ваенны талент, Шура не ведаў, ды, зрэшты, вялікай розніцы не было, бо глыбокі тыл жыў жыццём, якое мала змянялася ад такіх падзеяў. Асаблівасцю было хіба тое, што персанал чыгуначнай станцыі на чале з камендантам знаходзіўся ў прыўзнятым

настроі і, не чакаючы канца змены, пачаў святкаваць перамогу. І вольныя ад працы, і тыя, хто быў на дзяжурстве, з аднолькавым імпэтам жлукцілі шнапс. Паступова размова перайшла на звыклыя тэмы пра родных, хаты і даваенныя часы, клімат мякчэў, і паводзіны разнявольваліся. Неўзабаве прапанова выпіць пастуціла і беларускаму чыгуначніку Шурку. Тым часам у пакоі ўсчаліся спевы, і пайшоў у справу выцягнуты з кішэні губны гармонік. За вокнамі па-восеньску рана сцямнела, і задымлены службовы пакойчык з няяркім святлом стаў зусім малым. Нягледзячы на гэта, у ім сабралася ўся абслуга чыгункі і, ужо не разбіраючы чыноў, балявала як у апошні раз на забытай Богам станцыі сярод чужых лясоў, падмацоўваючы сваю арыйскую годнасць мясцовым самагонам, што пайшоў у справу па досыць хуткім сканчэнні шнапсу. Нядзіўна, што зумер тэлефоннага апарата ў пакоі дзяжурнага па станцыі пачуў не адказны за яго немец, а больш цвярозы ці мо проста абраны лёсам Шурка. З нейкім няўцямным, але адначасна рашучым настроем, без папярэдніх развагаў ён падняў слухаўку і рыхтык так, як гэта рабіў шмат разоў дзяжурны, адрапартаваў па-нямецку: «*Станцыя Княгінін на дроце!*» На тым баку праз шоргат і тлум манатонна і хутка прамовілі: *«Вялейка просіць вольны праход на Полацак»*. «*Ёсць праход!*» — гэтак жа спраўна і абыякава адказаў выпадковы дзяжурны. Шурка паклаў слухаўку і выйшаў з кабінета. Усё было нібы ў сне. У калідоры па-ранейшаму чуліся гукі п'янай гутаркі, якія раз-пораз перарывалі няўдалыя запевы. Ніхто нічога не чуў. Не паспеў хлопец ачомацца, як ізноў патрабавальна цвэнькнуў тэлефон на стале ў пустым кабінеце. Шура аўтаматычна вярнуўся і паўтарыў як надоечы: «*Станцыя Княгінін слухае*». «*Будслаў патрабуе праход на Вялейку!*» — пачулася здалёк. «*Праход дазваляем*», — без ценю сумневу, суха і коратка выклаў «дзяжурны». Пасля няспешна выканаў яшчэ адзін абавязак, што выходзіў па-за яго кампетэнцыю, — адчыніў уваходныя семафоры на адзін шлях з двух бакоў…



Два эшалоны сутыкнуліся позна ўвечары паміж Княгінінам і Стражам ля вёскі Ніўкі. Абодва цягнікі разам з бальшынёй вагонаў зваліліся пад адхон. Непрыдатныя для рамантавання, яны ляжалі там да канца вайны, і да іх працяглы час хадзілі мясцовыя кавалі па вугаль, што высыпаўся з тэндараў. Яшчэ даўжэй хадзілі чуткі пра першую буйную і дужа ўдалую акцыю партызанаў у гэтых краях. Што не кажыце, а гэта быў подзвіг. Як вядома, дзе ён — там і ўзнагароды. Быў бы герой… Героі знайшліся. Першая іх частка (нямецкія служачыя станцыі) пасля хуткага расследавання спецыяльнай камісіі была адпраўленая на фронт. А беларускі герой атрымаў сваю ўзнагароду пазней, па сканчэнні вайны, у выглядзе 10 гадоў лагераў за супрацоўніцтва з ворагамі. Быў этапаваны ў Караганду, адкуль вярнуўся праз пяць гадоў дахаты і да пенсіі працаваў на роднай чыгуначнай станцыі.

З Шуркам Манькоўскім была звязаная яшчэ адна цікавая гісторыя. Нечакана нагадаў пра сябе ягоны старэйшы брат. У часе хрушчоўскай адлігі на імя Аляксандра Пракопавіча Манькоўскага сталі некалі разоў на год прыходзіць пасылкі са Злучаных Штатаў з ежай і вопраткай. Гэта былі шыкоўныя па мерках СССР рэчы. Зразумела, што такія зносіны не засталіся без увагі КДБ. Прадстаўнікі органаў наведалі Шурку і прымусілі напісаць адпраўніку пасылак ліст з такім тэкстам: *«Дарагі брат, у пасылках, якія ты мне шлеш, няма патрэбы, бо жывецца нам у СССР добра. Ёсць і чарка, і шкварка, так што не шлі мне болей нічога»*. На гэтым сувязь з братам перарвалася назаўсёды…

Тым амерыканскім братам, які дасылаў пасылкі, быў вядомы дзеяч беларускай эміграцыі і публіцыст Пётра Манькоўскі (1916, Тарапец, Цвярская губерня — 2002, Нью-Джэрсі, ЗША). У час акупацыі ён служыў у цывільнай адміністрацыі і з надыходам саветаў эвакуяваўся на Захад. Вывучаў юрыспрудэнцыю ў Вільні, Мюнхене, Нью-Ёрку. Ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША. Быў радным БНР, некаторы

час узначальваў урад БНР. У 1980–90-х быў скарбнікам Кансісторыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, рэдагаваў часопіс «Голас царквы». Памёр ад хваробы ў доме састарэлых.

## Партызаны і паліцаі

Што да сапраўднай актыўнасці партызанаў, напачатку яна ўвасаблялася найперш у малазаўважных лакальных акцыях супраць паліцыі і ў шырокім, добра арганізаваным рабаўніцтве мясцовага насельніцтва. Першай дзейнасць партызанаў на сабе зазнала беларуская адміністрацыя. Чырвоныя партызаны забівалі старастаў, солтысаў, іх сямейнікаў і сваякоў. Ды і тое, што пасляваенная прапаганда малявала як маштабныя акцыі партызан супраць немцаў, найчасцей выглядала куды больш сціпла. Далёка не заўсёды ў партызанаў была выбухоўка, таму звычайнай дыверсіяй на чыгунцы было скручванне і сцягванне рэек — пазбаўленыя нейкага фрагменту шляхі рабіліся небяспечнымі. Праўда, яны і вярталіся ў строй гэтак жа хутка, калі вартаўнікі своечасова выяўлялі дэфект. Такімі ж прымітыўнымі і, як правіла, не асабліва эфектыўнымі былі і іншыя аперацыі: каб перарваць сувязь, пілавалі тэлеграфныя слупы; рабілі невялікія засады каля дарог, каб забіць ці параніць якога аднаго-другога паліцая. Напады на добра ўзброеныя аддзелы, гарнізоны і важныя аб'екты былі справай рызыкоўнай, таму здараліся зрэдку, ды і тое напрыканцы вайны. Тое-сёе адбывалася і ў нас.

Адной з першых партызанскіх акцый, што адбылася ў ваколіцах Крывічоў, стаў падрыў міны на бальшаку. Ахвярай таго выбуху стала мясцовая дакторка Мікуліч, якая ехала па тэрміновай патрэбе да цяжарнай сялянкі.

З часам партызанскіх атрадаў пабольшала, яны сталі шматлюднейшымі, абзаваліся зброяй і сапраўднай гаспадаркай. Былы партызан Андрэй Новік распавядаў, што ўсю вайну ў атрадзе быў… загадчыкам вяндлярнага цэха — вэндзіў мяса і кілбасы. Яго прадукцыю выдавалі як сухі паёк і НЗ групам, што ішлі ў рэйды, і, канешне, на стол партызанскаму кіраўніцтву. У сыравіне дэфіцыту не было — жывёлу на мяса цягнулі з вёсак. Самагонка лілася ракой. Начальства ні ў чым сабе не адмаўляла. Дарэчы, яно само рэдка было з мясцовых — у асноўным з ліку прысланых з вялікай зямлі прафесійных дыверсантаў. Яны не шкадавалі ні саміх партызанаў, ні, тым больш, мірнага насельніцтва. Ды і наогул ахова мясцовага люду не ўваходзіла ў задачу партызанаў…

Калі пачалася аперацыя «Баграціён», партызанам загадалі разам з Чырвонай арміяй вызваляць гарады і мястэчкі, але з-за слабой мабільнасці партызанскія часткі нярэдка падыходзілі да іх, калі тыя ўжо былі вызваленыя. А некаторыя атрады і спецыяльна не выходзілі з лесу па два-тры тыдні пасля вызвалення — каб не патрапіць пад мабілізацыю.

Многія акцыі партызанаў былі няўзгодненымі і хаатычнымі і часам шкодзілі не немцам, а сваім жа. Так, на Вялейшчыне дасюль замоўчваецца той факт, што партызаны спалілі мост на рацэ Нарачанка пасля адступлення немцаў, якраз перад носам савецкіх перадавых частак, тым самым зрабіўшы немагчымым на нейкі час праслед ворага.

Большасць акцыяў партызанаў шкоду прыносіла толькі беларускім сялянам, бо імгненнай рэакцыяй немцаў на такія дзеянні быў тэрор у адносінах да мясцовых жыхароў. Не будзе перабольшваннем сказаць, што насельніцтва Беларусі ўсе гады II Сусветнай было паміж двух агнёў. Ды ці толькі паміж двух? Часам людзі з адной мясцовасці былі і ў Чырвонай арміі, і ў паліцыі, і ў савецкай партызанцы, і ў беларускай адміністрацыі, і ў польскай Арміі Краёвай. Існаванне насельніцтва ў такіх умовах было татальным супрацьстаяннем і насіла ярка акрэсленыя рысы грамадзянскай вайны.

Нашая сям'я не стала выключэннем. Яўціхій, які працаваў у БНС, каб ўратаваць сваё жыццё і вывесці з-пад удару

сям'ю, вымушаны быў пагадзіцца стаць яшчэ і партызанскім сувязным у атрадзе «Жалязняк».

Дапамога партызанам заключалася ў тым, што ён інфармаваў атрад пра нямецкія войскі, што праходзілі праз станцыю Княгінін. Падлік эшалонаў і іх змесціва адсочваў і перадаваў Яўціхію ў сваю чаргу яшчэ адзін супрацоўнік станцыі — Іван Юркевіч з Кусяў.

Звесткі занатоўваліся ў цыдулкі, якія Юркевіч па дамове пакідаў у дупле старой бярозы. Бяроза тая расла каля станцыі ў акопах I сусветнай вайны.

Каб апраўдаць штодзённыя візіты да бярозы, абодва хадзілі туды як бы па вялікай патрэбе. Выглядала гэта так: каб пакласці цыдулку, Юркевіч хуценька бег да бярозы, скідаў порткі, садзіўся на кукішкі, рабіў справу і, паміж іншым, запіхваў цыдулку ў дупло. Тое ж пасля паўтараў і Яўціхій, каб забраць звесткі. У абодвух страх выкрыцця быў настолькі вялікі, што прыкідвацца не даводзілася — ад кожнага візіту заставалася кучка.

З часам каля бярозы ўтварылася імправізаваная прыбіральня, агледзеўшы якую, ніхто б і не падумаў, што гэта месца сустрэчы сувязных.

Таксама па заданні партызанаў Яўціхій аднойчы выправіўся ў Вільню і прывёз для патрэбаў атрада медыкаменты — розныя лекі і два літры ёду, які ў той час быў на вагу золата. Падчас выканання гэтага задання ён моцна перамёрз і захварэў на пнеўманію… Пазней за тую віленскую вандроўку быў узнагароджаны медалём «Партызану Айчыннай вайны».

Партызанскі тэрор зазналі і нашыя сваякі. Цётка Лізавета, што выйшла за Міколу Гайлу ў вёску Паграбішча Хаценчыцкай воласці, жыла, займаючыся звычайнай сялянскай працай. Але і ў сям'і цёткі не абышлося без трагедый, тыповых для таго цяжкага часу. Нечакана атрымала працяг гісторыя, што распачалася яшчэ за Польшчай. Тады парабак Паўла Гайлы, што працаваў у яго на гаспадарцы, неяк прапіў частку



зерня, прызначанага на веснавую сяўбу. За гэтую справу яго, вядома, пакаралі, выгнаўшы на ўсе чатыры бакі. Нягеглы работнік знік, і на яго хутка забыліся. Мінула некалькі гадоў, і вось падчас нямецкай акупацыі той парабак вярнуўся чырвоным партызанам. Ён загадаў Паўлу апрануцца ў дарогу, запрэгчы каня і павезці яго ў нейкую мясціну па пільнай патрэбе. Яны выехалі з падворка, праз нейкі час за вёскай прагучаў стрэл… Усе адчулі нядобрае, але сярод ночы пабаяліся ісці глядзець, што адбылося. Толькі раніцай агледзелі за вёскай мёртвага Паўла, забітага тым адзіночным стрэлам. Ні каня з санямі, ні вопраткі пры ім не было.

Сын Лізаветы Мікола, выпускнік Віленскага камерцыйнага вучылішча, падчас вайны служыў у Іллянскай цывільнай адміністрацыі. Як наш Яўціхій, ён быў звязаны з мясцовым партызанскім атрадам і выконваў заданні па іх даручэнні. З'яўляючыся «сваім» чалавекам для лясных мсціўцаў, ён пачуваўся ў адноснай бяспецы, аж пакуль у навакольных лясах не з'явіўся яшчэ адзін «атрад». Праўда, партызанамі гэтыя людзі не з'яўляліся — гэта была звычайная кодла крымінальнікаў са зброяй, якая тэрарызавала ваколіцы. Аднойчы Мікола Гайла, упэўнены, што і гэты партызанскі атрад ведае яго як сувязнога, смела выправіўся з абозам па дарозе, дзе чакала іхная засада. Зразумела, што бандыты нічога не ведалі пра дамовы сувязнога з партызанамі. З прыдарожных кустоў грымнулі стрэлы. Мікола Гайла загінуў у выніку кароткай перастрэлкі…

Акрамя партызанаў і немцаў, са зброяй хадзіла і паліцыя. Яе аддзелы пачалі фарміравацца ў пачатку вайны. Першым часам набіралі добраахвотнікаў. Пасля — прымусова мабілізавалі. Так здаралася, што палова адной вёскі ішла ў паліцыю, а другая — у партызаны. Потым напачатку паліцаі палілі тую палову вёскі, дзе былі партызанскія хаты, пасля партызаны палілі іншы канец — паліцэйскі. Так, напрыклад, згарэла мястэчка Вязынь на Вялейшчыне…

Некаторыя паспявалі за вайну паслужыць і ў адных, і ў другіх гаспадароў, мяняючы форму па меры жыццёвай неабходнасці.

З заканчэннем вайны звядзенне рахункаў працягнулася. Тым нямецкім памагатым, якім пашчасціла перажыць вайну, савецкі ўрад даў немалыя тэрміны за калабарацыю. Але нават пры гэтым невядома, каму пашанцавала больш, бо і партызанаў не пакінулі ў спакоі. Вызваляючы заходнія вобласці Беларусі, савецкае камандаванне фактычна ўзяло курс на знішчэнне ўсіх мужчынаў прызыўнага ўзросту, што пабылі пад акупацыяй. Даверу не было ані паліцаям, ані партызанам. Усе, хто перажыў немцаў, заплямілі сябе і былі пад падазрэннем. Таму адзіным варыянтам даказаць адданасць радзіме была служба ў шэрагах Чырвонай арміі. Усе свежапрызваныя, часам зусім без баявога вопыту, байцы тут жа накіроўваліся на перадавую — Сталін па трупах ішоў на Берлін, каб апярэдзіць саюзнікаў. Адзін былы паліцай распавядаў, што пайшоў вайной у паліцыю і не прагадаў. Як вайна скончылася, атрымаў 10 гадоў лагераў, адбыў і прыехаў дадому. А ў вёсцы нікога заднагодак, што былі ў партызанах, у жывых не застаў. Вайной яны спакойна адседзеліся ў лесе, а па вызваленні іх тут жа мабілізавалі ў Чырвоную армію і адправілі пад Кёнігсберг. Адтуль ніхто з іх не вярнуўся…

Партызаны займаліся яшчэ і адкрытым рабаўніцтвам. Абсалютна ўсё, што было патрэбна для жыцця ў лесе, атрады бандытаў-куставікоў (як за вочы называлі сяляне партызанаў) забіралі ў сялянаў. Свойская жывёла і коні, інструменты, адзенне, харчы і любыя каштоўнасці — усё ўваходзіла ў сферу інтарэсаў партызанаў. Адмовіць — падпісаць сабе і сям'і смяротны прысуд… У сваіх рэквізіцыях яны перасягалі немцаў. Напрыклад, у вёсцы Качанкі (сучасны Вялейскі раён) нямецкая рэквізіцыйная каманда ў двары салдаткі Аўдоцці Качан згледзела дзесяць курэй і карову. Пабачыўшы гаротны стан гаспадаркі, немцы пакінулі ёй карову і палову курэй. Праз дзень у гэтую ж вёску наведаліся партызаны і… забралі ўсё да рэшты. Калі жанчына пачала галасіць *«Што ж вы робіце? Немцы ўсяго не забралі, а вы забіраеце?»*, партызаны проста пагразілі забіць яе разам з малым сынам і, накінуўшы на рогі каровы вяроўку, пацягнулі яе ў лес.

Мы таксама пазнаёміліся з іх «добразычлівасцю». Памятаю, у свой першы візіт на наш хутар Субачы, апроч ежы, партызаны забралі абсалютна ўсе выходныя мужчынскія строі і… патэфон — рэчы, безумоўна, неабходныя ў лесе для барацьбы з ворагам. Але перажываць не было калі — здараліся падзеі і страшнейшыя. Многія сяляне, што спрабавалі абараніць сябе ці сваю маёмасць, плацілі за гэта жыццём. Ахвярай партызанскага тэрору ў нашым краі стала таксама родная сястра Максіма Танка, якую лясныя бандыты забілі разам з дзіцём пад Касцяневічамі.

І гэта былі далёка не адзінкавыя выпадкі, і сёння ці не ў кожнай вёсцы вам прыгадаюць такія злачынствы ды шэптам назавуць нават імёны выканаўцаў…

## Смяротны прысуд

З зімы 1944-га па загадзе НКУС і Цэнтральнага штаба беларускага партызанскага руху пачаліся акцыі па ліквідацыі беларускіх актывістаў і ўдзельнікаў нацыянальнага руху на акупаваных тэрыторыях. Аперацыі насілі карны характар і недвухсэнсоўна тлумачылі стаўленне савецкай улады да любых праяваў самастойнасці, якая спрабавала пускаць парасткі на акупаваных тэрыторыях СССР.

Савецкія партызаны палілі беларускія школы, знішчалі ўстановы, забівалі настаўнікаў, удзельнікаў беларускіх арганізацый і інш. У гэты час быў беспадстаўна і жорстка забіты настаўнік з суседняй вёскі Цярэшкі — Дударэвіч Канстанцін Антонавіч. Народныя мсціўцы расстралялі яго проста на

ганку беларускай школы, якую ён спрабаваў абараніць ад падпалу. Забіўшы настаўніка, спалілі і будынак. На мове партызан гэта называлася «прафілактычнае знішчэнне».

Дадам, што акцыя ў Цярэшках не была выпадковай. Нянавісць саветаў да беларускіх школаў была абгрунтаванай. Менавіта сфера адукацыі пры немцах зазнала найбольшае развіццё і самастойнасць. Упершыню за некалькі дзесяцігоддзяў у школах загучала беларуская, а не руская ці польская мова. Маладыя беларусы на ўроках пачулі пра Усяслава Чарадзея і Вітаўта Вялікага, святых Еўфрасінню Полацкую і Кірылу Тураўскага, дазналіся пра сапраўдныя нацыянальныя сімвалы і адчулі гонар за гісторыю і народ. Актыўна фармавалася нацыянальная свядомасць.

Памятаю, што ў нас навакольныя школы пачалі працаваць з кастрычніка 1941 года. Спачатку вучыліся па савецкіх падручніках, а потым у дапамогу настаўнікам матэрыялы пачалі друкаваць у газетах. Хутка з'явіліся і дапаможныя брашуры па-беларуску. У тым ліку для пераходу на лацінку. Рускай мовы не выкладалі наогул, прадметы вывучаліся толькі па-беларуску. Уся марксісцка-ленінская лухта з навучання была выкінутая, але і нямецкая ідэалогія асабліва не пранікала ў навучальны працэс, абмяжоўваючыся партрэтам фюрара ў нейкім кабінеце. Наогул, знікненне савецкай ідэалогіі ў галіне культуры і адукацыі нават на гэтыя кароткія гады стала сапраўдным выратаваннем беларускай нацыі. Стаўшы плацдармам для барацьбы дзвюх таталітарных сістэмаў, Беларусь насуперак усяму, нават сцякаючы крывёй, здолела схапіць глыток свежага паветра. Гэты ўздых адчуваецца і дасюль. Менавіта беларусізацыя ваеннага часу стала мастком, па якім беларускасць з 1920-х пераскокнула ў адраджэнне 1990-х.

Тым часам над Субачамі таксама навісла бяда. Партызаны занеслі нашую сям'ю ў спісы на «прафілактычнае знішчэнне» праз працу Яўціхія ў БНС. Але Мотка Ходас і яго сябра Левін, што былі ўжо ў мясцовых партызанах, даведаўшыся пра карную аперацыю, прыйшлі да нас у хату і, дачакаўшыся расстрэльнай каманды, здолелі іх пераканаць адкласці выкананне задуманага. Болей не рызыкуючы блізкім суседствам з партызанамі, мы перабраліся жыць у мястэчка Крывічы…

Ацалець пры вынясенні такога прысуду было сапраўдным цудам. Нашыя габрэі зрабілі нам шматкроць больш, чым унясенне ў спіс праведнікаў свету — яны аддзячылі нам за дапамогу напоўніцу, выратаваўшы нашыя жыцці, як некалькімі гадамі раней зрабілі мы для іх…

Неўзабаве прыйшла вясна 1944-га. Завяршаліся апошнія месяцы нямецкай акупацыі. У гэты час адбылася яшчэ адна сустрэча, якая запомнілася мне на доўгія гады.

## Перад вызваленнем

Аднойчы, калі я вяртаўся дадому з Крывічоў, наперарэз майму вазку з будынка чыгуначнай станцыі, вылецеў маладзенькі нямецкі афіцэр. Я прыпыніўся і агледзеў яго. Гэта быў учарашні падлетак — худы і вуглаваты, ён аглядаўся па баках нібы ў пошуках дапамогі. Я трохі збянтэжыўся, калі ён раптоўна з'явіўся, але ягоны спалоханы і знерваваны выгляд не ўтрымліваў аніякай пагрозы для мяне, і я чакаў, што будзе далей.

Афіцэрык, відаць, у сваю чаргу, адчуў увагу і тут жа падбег да мяне. З пятага на дзясятае ён здолеў патлумачыць сваю праблему. Выявілася, што яму, лейтэнанту, далі першы адпачынак, і дома яго вельмі чакала мама, а цягнік, на якім ён меўся ехаць дадому, на праклятым прыпынку «Крывічы» не спыняўся! Вайсковец быў у роспачы — да станцыі Княгінін, дзе можна было падсесці на патрэбны цягнік, было ажно пяць кіламетраў, але часу заставалася ўсяго дваццаць хвілін, і адолець такую адлегласць пешшу не ўяўлялася магчымым. Я зразумеў, што яму была патрэбная дапамога, і я быў адзі-

ным, хто хутка мог яму дапамагчы. Тым часам лейтэнант змоўк. Ён ні пра што не прасіў і не загадваў, толькі, выклаўшы сваю бяду, стаяў ля майго вазка, трымаючы ў руках свой невялічкі фібравы чамадан, у якім быў увесь ягоны скарб… Павісла цішыня. І ў гэты момант нешта ўва мне адгукнулася на ягонае няшчасце, і я знакам паказаў закідваць рэчы і сядаць.

Не шкадуючы каня, мы ляцелі па раскіслай веснавой дарозе, пераадольвалі велізарныя лужыны і ныралі ў глыбокія каляіны. Памятаю, як на нейкім маленькім мастку ўжо недалёка ад Княгініна колы саскочылі з дошак і мы ледзь не перакуліліся. Ад моцнага штуршка чамаданчык вайскоўца паляцеў на зямлю і раскрыўся. З яго вылецеў стосік акуратна складзенай бялізны, нейкая драбяза, і, выкруціўшыся з газеціны, на зямлю выпала курыца — салдацкі гасцінец для маці… Саскочыўшы на зямлю, мы апынуліся па калена ў халоднай лужыне, перапэцкаліся, але далі рады паставіць калёсы на цвёрдае месца.

Засопшыся і змакрэўшы ўшчэнт, мы дабраліся да станцыі якраз тады, калі там ужо стаяў цягнік. Лейтэнант паспеў ускочыць на прыступку і раптам абярнуўся і нахіліўся, каб абняць… Нашыя народы ваявалі, але мы ў той момант не былі ворагамі. Ён мітусліва пачаў абмацваць сябе па кішэнях у пошуках таго, чым бы мог аддзячыць. Пошукі былі марнымі — нічога вартага не знаходзілася, і ён аддаў мне, відаць, адзіную каштоўную рэч, што меў пры сабе, — невялічкі паўпусты партсігар.

Цягнік крануўся, а я памалу рушыў у зваротны шлях… Так з'ехаў гэты малады немец. Праз некалькі месяцаў на ўсход рушыла і ўсё германскае войска.

Адступленне Вермахта было гэткім жа імклівым, як і прыход у 1941 годзе. Бясконца ішлі па чыгунцы эшалоны з тэхнікай і жаўнерамі, рушылі калоны, абозы, людзі. Усё



гэтак жа, як напачатку, — толькі ўжо ў адваротным кірунку, на Захад. Уздоўж чыгункі ізноў лёталі самалёты і скідалі бомбы на станцыі, гэтым разам ужо савецкія.

Апошнімі па дарогах ішлі невялікія нямецкія аддзелы, многія ўшчэнт разбітыя і зусім малалікія. Яны, загнаныя ў кут, часам агрызаліся, уступаючы ў апошні смяротны бой. Так, недалёка ад Субачаў патрапанае аддзяленне засела ў склепе адной хаты, захапіўшы ў закладнікі гаспадара. Савецкія жаўнеры штурмам узялі апошні прытулак немцаў, пасля перастрэлкі закідаўшы гранатамі ўкрыцце. Гаспадар страціў нагу, загінулі ўсе немцы і адзін савецкі афіцэр.

У саміх Субачах на таку ў Аўгустына Радзевіча схавалася ажно дваццаць салдатаў. Яны сядзелі тры дні, а потым папрасілі гаспадара выдаць іх месцазнаходжанне, але ні ў якім разе не партызанам (ведаючы, чым скончыцца такая капітуляцыя), а рэгулярным часткам Чырвонай арміі. Радзевіч выканаў просьбу, і немцы здаліся.

Разам з немцамі сыходзілі і тыя, хто не жадаў жыць пад Саветамі. Адзін з такіх быў і наш сваяк — сын цёткі Хрысціны, мой хросны бацька Міхаіл Разанцаў. Хросны, як і многія жыхары Заходняй Беларусі, катэгарычна не ўспрыняў савецкай улады. З прыходам немцаў служыў у беларускіх вайсковых фармаваннях. З іх адступленнем таксама пакінуў радзіму. Напрыканцы II сусветнай разам з іншымі беларускімі жаўнерамі трапіў у склад 30-й вафэн-грэнадзёрскай дывізіі СС (1-й Беларускай). Па яе ліквідацыі ў красавіку 1945 года з рэшткамі беларусаў далучыўся да частак Рускай вызваленчай арміі (1-я дывізія пад камандаваннем генерал-маёра Бунячэнкі). Загінуў падчас першага вызвалення Прагі ў баі супраць войскаў Вермахта.

Вайна бязлітасна разбурыла і яшчэ адзін лёс у нашай сям'і — вялікага гора хапанула мая сястра Ніна.

У 1940 годзе, пабедаваўшы па зніклым жаніху — польскім лётчыку, што загінуў у савецкім лагеры ў Асташкаве, — Ніна

пабралася з даўгінаўскім дзецюком Міхалам Кур'янчыкам. У 1941 годзе ў іх нарадзіўся сын Леў, у 1944-м — сын Мілецій.

Калі пачалі фарміравацца аддзелы Беларускай краёвай абароны (БКА), Міхась Кур'янчык атрымаў позву з'явіцца ў 39-ы батальён ў Даўгінава на пасаду шэфа роты. У позве пазначалася: *«З сабой узяць харчоў на чатыры дні, вопраткі і прылад да ежы. У выпадку няяўкі будуць прыняты найвастрэйшыя меры паводле ваеннага часу»*. Міхась прыбыў на месца збору… Пасля кароткага шкалення батальён быў накіраваны пад Менск на абарончыя будаўнічыя працы. Потым быў імклівы адыход на Захад, амерыканская зона акупацыі і праз нейкі час эміграцыя ў Аўстралію.

Застаўшыся без кармільца, сястра з малымі цярпела страшэнную нястачу і была на мяжы галечы. Першыя тры гады пасля вайны яна жыла ў вёсцы Паграбішча, зарабляючы на жыццё шыццём. Яшчэ некалькі гадоў жыла ў вёсцы Саколле-вугал, а потым з дапамогай братоў і сястры змагла набыць невялічкую хатку ў мястэчку Ілля. Напрыканцы 1950-х з усталяваннем сувязі з замежжам з імі нарэшце здолеў звязацца Міхась Кур'янчык. На грошы, што ён пачаў дасылаць сям'і, Ніна пазней пабудавала дом, у якім жыла сама і даглядала старую маці…

У ліпені 1944 года Вермахт адступіў з тэрыторыі Беларусі. У шматпакутнага краю ў чарговы раз мяняліся гаспадары — Чырвоная армія брала гарады, а ўладу ў іх бралі партызаны. Яны, выбраўшыся з зямлянак, заселі ва ўсіх кабінетах, ад сталічных і абкамаўскіх да найменш значных пасадаў у мястэчках ды калгасах.

Прыйшлі другія саветы — гэтым разам ужо надоўга.



*Раздзел VI*

# Паваенныя гады і дарога ў Казахстан (1944–1952)

## Пераломныя змены

Першае, што зрабіла савецкая ўлада, — пачала патрабаваць тлумачэнні ад жыхароў вызваленых тэрыторый: чаму не былі ў Чырвонай арміі? Чаму не пайшлі ў партызаны? Чым займаліся пры немцах? Па-сутнасці, кожнаму, хто жыў гэтыя гады пад нямецкай акупацыяй, трэба было апраўдацца, чаму ён не знайшоў магчымасці загінуць за бальшавікоў. Шмат каму гэта не ўдалося. Усе, хто хоць неяк быў звязаны супрацай з любымі органамі акупацыйнай адміністрацыі, траплялі ў лік здраднікаў і калабарантаў. Мерай пакарання былі заўсёды рэпрэсіі — ад лагераў і высылак да расстрэлаў. Тысячы беларусаў трапілі ў жорны НКУС-МДБ па новых справах.

Лёсавызначальныя і трагічныя падзеі адбыліся ў гэты перыяд і ў нашай сям'і. У жніўні 1944 года СМЕРШ арыштаваў майго брата Яўціхія за працу ў БНС. Ён апынуўся ў гарадзенскай вязніцы. Сем месяцаў ішло следства. Яўціхій даводзіў, што працаваў у БНС з ведама партызанаў і даваў ім каштоўныя звесткі, лічыўся іх сувязным і нават быў прадстаўлены да ўзнагароды. У пацверджанне сваіх словаў прасіў у сведкі некалькіх чалавек. Тыя людзі былі выкліканыя ў Гародню на допыт, але іх вусныя сведчанні не прынялі да ведама. Тады адзін з былых партызанаў заявіў, што пакажа месца ў лесе,

дзе пад час прарыву з акружэння была закапаная жалезная скрыня з партызанскім архівам. На месца была адпраўленая следчая група, якая сапраўды знайшла тайнік, а ў ім і згадкі пра Яўціхія…

Брат выйшаў на волю, але захварэў у зняволенні на сухоты. Гісторыя з Яўціхіем сталася толькі пачаткам трагічных зменаў. У гэты час члены нашай сям'і не па сваёй волі пачынаюць адрывацца адзін ад аднаго, многія з нас так болей ніколі і не пабачацца…

Пасля арышту Яўціхія ў небяспецы апынуліся мы ўсе, а найперш — Косця, які таксама не меў бездакорнага алібі на жыццё пры акупацыі, бо не быў ні ў падпольшчыках, ні ў партызанах.

Каб пазбегнуць магчымых рэпрэсій, ён добраахвотнікам пайшоў на фронт — у той час з былых грамадзянаў Польшчы спешна камплектаваліся часткі новага польскага войска. Кастусёва анкета, што сведчыла пра выдатную польскую адукацыю і валоданне мовай, дала магчымасць у ліпені 1944 года стаць жаўнерам Першай арміі Войска Польскага пад камандаваннем генерала Берлінга, якое, згодна з жартоўнай прыказкай «*Войска польске Берлін брала, а савецке памагала*», рыхтавалася да баявых дзеянняў у складзе Чырвонай арміі.

Трапіўшы ў польскую армію і назваўшыся афіцыйна палякам (а іншых варыянтаў і не было), Косця знік з поля зроку савецкіх карных органаў.

Яшчэ раз пашанцавала Косцю ўжо ў самой арміі — пры вызначэнні ваеннай спецыяльнасці.

Наборам і размеркаваннем навабранцаў кіраваў палкоўнік Піманаў, былы царскі афіцэр. Ён быў рускім, але прызначаны «выконваць абавязкі паляка» праз веданне мовы. Акрамя польскай, ён ведаў яшчэ сем іншых еўрапейскіх моваў і быў чалавекам адукаваным ды інтэлігентным. Пашыхтаваўшы



чарговую партыю навабранцаў, ён праводзіў пераклічку і называў патрэбныя спецыяльнасці. У розныя часткі патрабаваліся кавалі, цесляры, пекары, кухары, краўцы, шаўцы, рымары… З шэрагаў выходзілі і выходзілі людзі. Народу станавілася ўсе менш. Выйшлі ўжо і чыгуначнікі, слесары, токары, музыкі… Потым былі названыя «сяляне» — іх была асноўная маса, і траплялі яны адразу ў пяхоту, а значыць — на перадавую…

Па сканчэнні пераклічкі Косця заставаўся апошнім, хто не адгукнуўся ні на якую прафесію. Калі азадачаны афіцэр спытаўся пра спецыяльнасць, Кастусь адказаў: «*Мастак*». Афіцэр Піманаў пакінуў такога кадра пры сабе, прызначыўшы на пасаду штабнога пісара.

Так пісар і мастак Канстанцін Сцебурака і служыў да канца вайны. Па службе вёў і парадкаваў справаводства, а па-за ёй займаўся і прыкладным мастацтвам — зрабіў формачкі і адліваў з дзюралюмінію цэшкі, спражкі і іншыя знакі адрознення для польскіх жаўнераў. Іх вельмі бракавала напачатку ў наваствораных частках, і яны дужа цаніліся вайскоўцамі…

Перад дэмабілізацыяй Піманаў прысвоіў Кастусю званне сяржанта і даў апошняе заданне — размеркаваць гурт у тысячу кароваў сярод перасяленцаў на заходніх землях Польшчы, што адышлі ёй ад Нямеччыны. Кастусь справіўся з апошнім загадам і быў дэмабілізаваны.

Ведаючы сітуацыю на радзіме, у Беларусь больш не вярнуўся. Асеў пад Шчэцінам, на землях, якія Польшча атрымала ў кампенсацыю ад Германіі. Польшча стварала там пласт новых асаднікаў — давала нямецкія дамы і дзесяць гектараў зямлі. Што і казаць, гэта быў неблагі варыянт для людзей, якія мелі альтэрнатывай вяртанне ў савецкі канцлагер. Па дамове польскага і савецкага кіраўніцтва ў Польшчу маглі перасяляцца палякі з Заходняй Беларусі, а ў БССР — беларусы з Беласточчыны, якая адышла да Польшчы. Каля чвэрці мільёна жыхароў Заходняй Беларусі, якія да 1939 года

мелі польскае грамадзянства, у 1944–46 гадах пераехала ў Польшчу. З Польшчы ў БССР пераехала ў дзесяць разоў менш.

На новым месцы Кастусь стварыў сям'ю. Выпадкова сустрэў земляка Завадскага з вёскі Піліпкі і пазнаёміўся з яго дочкамі — Рэняй, Алінай і Ядзяй. Упадабаўшы Аліну, узяў з ёй шлюб і пражыў шчасліва больш за паўстагоддзя…

Адзіны з усёй нашай вялікай сям'і, ён пражыў адносна свабоднае і спакойнае жыццё. Працаваў мастаком-афарміцелем, нарадзіў дзяцей і пабачыў унукаў і праўнукаў. Праз усё жыццё ён пранёс тугу па страчанай радзіме, якую наведаў толькі адзін раз, у 1970-х. Малюючы карціны, заўсёды звяртаўся да родных краявідаў. Нават у апошнія гады жыцця не кідаў пэндзаль. Калі раптам не было пад рукой палатна, ён хапаў цырату са стала, нацягваў тканінным бокам на падрамнік і пісаў. Любоў да жывапісу была братавым захапленнем на ўсё жыццё…

Аглядаючыся на мінулыя гады, скажу, што калі жыццёвы лёс брата Косці склаўся не самым горшым чынам, то як творца ён так і не рэалізаваў сябе. Адораны і апантаны мастацтвам, ён імкнуўся быць жывапісцам і ўсе жыццё заставаўся толькі рамеснікам у гэтай справе. У ваколіцах Княгініна і Крывічоў да гэтага часу ў старых вясковых хатах вісяць яго карціны з маляўнічымі краявідамі, абразкі на біблейскія тэмы, пабытавыя замалёўкі. Частка з гэтых карцін пераехала разам з гаспадарамі ў гарады — збольшага ў Вялейку ці Маладэчна. На іх зроблены лацінкай ці кірыліцай подпіс у куце — «К. Сцебурака».

Даўно памерлі тыя, хто ведаў мастака асабіста, свой век дажываюць нешматлікія працы, што маюць амаль стагоддзе з моманту з'яўлення на свет… Творчы кон майго брата Канстанціна ў нечым паўтарае кон цэлага пакалення беларускіх творцаў таго часу, якія, маючы вялікія спадзяванні, так і сышлі ў нябыт, непатрэбныя Айчыне.



## Смерць гаспадара фальварка

На вызваленых ад немцаў тэрыторыях хутка аднавілася савецкая адміністрацыя. Адразу ж вяскоўцы зазналі і вяртанне велізарных сельгаспадаткаў. Для нас гэта стала пачаткам вялікай трагедыі. Неўзабаве ў Субачах з'явіўся фінагент з прадпісаннем ад уладаў выплаціць грашовы падатак і натурай паставіць мяса, збожжа, яйкі, малако, воўну і іншае, апроч таго — выканаць лесанарыхтоўкі ў вялікім аб'ёме. Нягледзячы на рабаўніцкія памеры падатку, ён быў сплачаны на сто працэнтаў. Праз няпоўны месяц фінагент заявіўся ізноў з патрабаваннем сплаціць падатак паўторна, прычым у павялічаных памерах. Напружыўшы ўсе сілы, сям'я задаволіла і гэтае патрабаванне. Калі трэці раз прыйшла папера з аналагічным прадпісаннем, гаспадар Мікола Сцебурака адмовіўся яго выконваць…

17 кастрычніка 1944 года на хутары з'явіліся нкусаўцы з ордарам, апісалі маёмасць, а гаспадара забралі ў турму. Небяспечнага палітычнага злачынца (сабатаж падпадаў пад сумна вядомы 58-ы артыкул) больш ніхто з родных так і не ўбачыў.

19 студзеня 1945 года ад Ваеннага трыбунала войск НКУС па Маладэчанскай вобласці ён атрымаў прысуд: *«10 год з пазбаўленнем правоў на 5 год і канфіскацыяй маёмасці за сабатаж пры нарыхтоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі»*, загінуў ад катаванняў у вялейскай турме 16 лютага 1945 года, так і не дачакаўшыся этапу. Пазней адзін знаёмы, што служыў у турме ахоўнікам, паведаміў, што Мікола Сцебурака разам з іншымі ахвярамі быў пахаваны ў безыменнай яме пад мурам турэмнага будынка. Так мы засталіся без бацькі.

Неяк незаўважна за ўсімі гэтымі трывогамі прыйшоў травень 1945 года. Памятаю, як мы з Яўціхіем паехалі ў Субачы садзіць бульбу. Па чарзе хадзілі за канём. Жанчыны з цяжкімі кашамі споўдалі па барознах. Раптам здалёк, з боку

чыгункі, пачуліся стрэлы. У паветра ўзляталі сігнальныя ракеты. Стралялі з нейкага эшалона, што ішоў на станцыю, і страляніна тая нагадвала салют. Мы здагадаліся: скончылася вайна. Праўда, паслухаўшы гэты салют, працягнулі пасадку бульбы — нам было не да святаў.



• *Апошні сямейны здымак у Субачах. Ніна, Валя, Лена і Анатоль Сцебуракі. 1945 г.*



З таго часу неяк так павялося, што дзявятага мая ніхто ў нашай сям'і не хадзіў на парады і гулянні, а найчасцей праводзіў дзень на гародзе ўдалечыні ад тлуму і пафасу афіцыйных святаў.

Па вяртанні Яўціхія з гарадзенскай турмы нашая сям'я раздзялілася: мы з Яўціхіем і Валяй перабраліся ў Маладэчна, а ў Субачах засталіся маці з малодшай сястрой Ленай.



• *Анатоль Сцебурака. 1946 г.*



• *Яўціхій Сцебурака. 1946 г.*

Мы з Яўціхіем уладкаваліся на працу ў 10-ю дыстанцыю сігналізацыі і сувязі станцыі Маладэчна Заходняй чыгункі. А Валя — у маладэчанскую друкарню.

Чыгуначная бронь гарантавала нам працу ў тыле, і мы не патрапілі на фронт. Праўда, нават гэтую афіцыйную чыгуначную бронь нам давялося падмацаваць хабарам. Ваенкаматаўскі начальнік, намякаючы на нашае з Яўціхіем небездакорнае з пункту гледжання савецкай улады мінулае, загадаў прынесці кілю сала і літр самагонкі, каб як след аформіць паперы. Давялося ляцець у Субачы і здабываць патрэбныя прадукты. Свайго ў нас ужо нічога не было, але з дапамогай суседзяў удалося разжыцца і самагонкай, і салам. Толькі атрымаўшы «падзяку», ваянком пакінуў нас у спакоі. Увосень 1946 года з перавезенага субацкага свірна на выдзеленым участку на вуліцы Сухой мы пабудавалі сабе хатку. У ёй мы і жылі да высылкі ў Сярэднюю Азію.

## Раскіданае гняздо

Хутка ў Субачах засталася адна мая маці Ксенія Сцебурака, бо сястра Алена паступіла на вучобу ў Горы-Горацкую сельгасакадэмію і з’ехала.

Ад нашага былога заможнага фальварка Субачы, што славіўся на ўсю ваколіцу сваёй узорнай гаспадаркай, на момант канчатковай ліквідацыі заставалася наступнае: дом з дваровымі пабудовамі, чатырнаццаць гектараў зямлі, конь,



карова, свіння, малатарня, веялка. Тым часам 21.11.1944 Бюро ЦК КПБ(б) прыняло пастанову «*Аб адмене ўсіх перадзелаў зямлі, праведзеных падчас нямецкай акупацыі, а таксама аб правядзенні работаў па адрэзцы лішкаў зямлі*». Згодна з нормамі новага дакумента, максімальны памер надзелу на сям’ю ў Крывіцкім раёне складаў дванаццаць гектараў. Пры ўмове, што зямля апрацоўваецца сваімі сіламі і на яе не прэтэндуюць ні калгас, ні малазямельныя сяляне, памер можа быць большы. На нашую ніхто не прэтэндаваў — у выніку засталося, што было.

Чарговым рашэннем былі вызначаныя нормы абавязковых паставак збожжа дзяржаве. Калі калгасу з гектара трэба было здаць трыццаць кіляў, калгасніку з прысядзібнага ўчастка — семдзесят, то аднаасобніку — сто сорак пяць. Правы аднаасобнікаў не былі абароненыя. У любы момант яны маглі стаць ахвярамі самавольства ўладаў. Апошняй вялікай групай класавых ворагаў, што перашкаджала калгаснаму будаўніцтву, былі «кулакі». Кулацкія спісы складаліся на сходах бядняцка-серадняцкага актыву. Паколькі ніхто не валодаў ніякімі дакладнымі ўніверсальнымі крытэрамі вызначэння кулацкага элемента, многія кіраваліся г. зв. «класавым нюхам»…

Сцебуракі трапілі ўпершыню ў такі спіс у 1947 годзе, калі не было і знаку ад колішняй заможнасці. Такія спісы складаліся і ў наступныя гады, і прозвішча Сцебурака заставалася там нават тады, калі гаспадарка была ўжо знішчаная, а палова сям’і раз’ехалася па свеце альбо загінула.

З 1947 года ў гаспадарцы аднаасобнікаў падаткам пачало абкладацца абсалютна ўсё: зямля, скаціна, птушка, садовыя дрэвы, вуллі. Такі падатковы ціск рабіў нерэнтабельным гаспадарку і зводзіў высілкі самастойнага гаспадара на нішто. З гэтага года змянілася падаткаабкладанне, якое прадугледжвала пяцідзесяціпрацэнтную надбаўку для «кулацкіх» гаспадарак у залежнасці ад іх даходнасці. Апошняя вызначалася адвольна.

У 1948 годзе Савет Міністраў БССР прыняў чарговую пастанову «*Аб парадку спагнання нядоімак з кулацкіх гаспадарак Заходніх абласцей БССР*». У ім асобна агаворвалася, што ў нядоімшчыка можа быць адабраная апошняя карова. У лік рэчаў, якія спаганяліся, уваходзіла любая маёмасць, нават сельскагаспадарчы інвентар, выключэннем былі хіба адзенне ды дробныя хатнія рэчы ў невялікай колькасці, якія уваходзілі ў мінімум, што пакідаўся ў хаце даўжніка. Усе названыя меры прывялі да таго, што на 1949 год абсалютная большасць аднаасобных гаспадарак была даведзеная да галечы і ліквідацыі. Немагчымыя ўмовы гаспадарання ў звязку з драконаўскімі падаткамі вымушалі гаспадароў уступаць у калгасы ці кідаць усё і збягаць праўдамі-няпраўдамі на заробкі ў гарады ці на будоўлі сацыялізму.

Не маючы магчымасці змагацца з савецкай сістэмай, нашая сям'я, распрадаўшы што можна, пакінула Субацкую гаспадарку. Мая маці з'ехала да дачкі Ніны ў вёску Паграбішча… Зямля, палітая потам некалькіх пакаленняў, была кінутая, але сям'я Сцебуракаў і надалей заставалася ў спісах кулакоў, а значыць — класава чужога элемента і патэнцыйных «ворагаў народа». Да канчатковага вырашэння лёсу ёй падобных заставалася некалькі гадоў.

Калі мы патрапілі ў спісы «ворагаў народа», нашая вялікая радзіна стала ад нас адварочвацца, каб, крый Божа, камуністы не засумняваліся і ў іх. Гэта было вельмі крыўдна і балюча. Потым, калі прайшлі гэтыя выклятыя гады, нашыя сваякі рабілі выгляд, што яны нас не цураліся. Толькі адзінкі папрасілі прабачэння за здраду, але цёплых стасункаў паміж намі ўжо не было ніколі.

У гэты час адбылася яшчэ адна падзея. Згарэў наш ток і іншыя гаспадарчыя пабудовы. Адбылося гэта не выпадкова, а ў выніку запланаванага падпалу, учыненага нашымі суседзямі. Прычынай стала іх нежаданне ісці ў калгас. Мы ўжо, лічы, былі ў чарзе на высяленне, а нашыя гаспадарчыя пабудовы былі гатовым калгасным падворкам. Баючыся, што калгас будзе тут і ўтвораны, нашыя добрыя суседзі, пайшлі на такі крок, нават не зважаючы на тое, што гэта пакуль было нашай уласнасцю, хоць сям'я не жыла ў Субачах…

Тое, што адбывалася ў Заходняй Беларусі пасля прыходу саветаў, было працягам агульнасавецкага гвалту і прыгнёту, што трываў ужо не першае дзесяцігоддзе ў СССР. Страшныя падзеі разгортваліся і ў Прыбалтыцы, і ва Украіне. Калектывізацыя і вайна абрынулі ўзровень жыцця мільёнаў людзей нечувана нізка. Жабрацтва і голад сталіся спадарожнікамі некалі заможных сялянаў.

Смерць бацькі і разбурэнне субацкай гаспадаркі не стала для нас завяршэннем злыбедаў. Выродліваму сталінскаму рэжыму і гэтага было мала: у верасні 1951 года Савет Міністраў СССР прыняў спецыяльную пастанову «*Аб высяленні кулакоў з Беларускай ССР*». Саўмін БССР пастановай ад 7 красавіка 1952 года зацвердзіў спісы кулацкіх сем'яў, што падлягалі высяленню ў аддаленыя раёны СССР. З Маладэчанскай вобласці падлягала высяленню 512 сем'яў (ці 2197 чалавек). Накіроўваліся яны ў Паўднёва-Казахстанскую вобласць Казахскай ССР. У гэтым спісе апынулася і нашая сям'я.

Увесну 1952 года маці атрымала позву ва ўпраўленне МДБ у Маладэчне, дзе ёй зачыталі пастанову «*Аб высяленні кулацкіх элементаў у аддаленыя раёны СССР на вечнае пасяленне*». Яна згадвала: «*Выйшаўшы з будынка разам з сяброўкамі па няшчасці, мы галасілі, спалоханыя страшным прысудам. Побач тым часам праходзіў маёр, які запытаўся: «Чаго галосіце, бабы?» Мы адказалі: «На вечнае пасяленне высылка!», а ў адказ пачулі: «Дуры вы, бабы! Няма нічога вечнага!*»

Маёр меў рацыю, але каб спраўдзіць яго словы, сям'і яшчэ спатрэбіцца пражыць доўгія і цяжкія гады ў выгнанні…

# Дарога ў выгнанне

На запасныя пуці станцыі Маладэчна, падалей ад людскіх вачэй, падалі састаў сталыпінскіх вагонаў. Да яго на пагрузку пачалі на палутарках падвозіць людзей з клункамі. Гэта былі раскулачаныя сяляне Маладэчанскай вобласці. У адной з такіх палутарак прыехала і нашая сям'я. На той момант яна складалася з маці Ксеніі Ігнатаўны, мяне і брата Яўціхія. Разам з Яўціхіем у высылку паехала яго жонка Аліна з сынам Жанам.

За трое содняў састаў укамплектавалі. Кожная сям'я мела афіцыйны дазвол на вываз тоны рэчаў, але калі пачалася спецаперацыя па высылцы, бальшыні ўдалося захапіць значна менш дазволенай нормы — найперш харчы (крупы, муку, сала), асабістыя рэчы і вопратку, інструменты і часам нешта з мэблі, кшталту невялікіх ложкаў. У цяплушку заганялі па трыццаць пяць — сорак чалавек. Некалькі тыдняў людзям трэба было правесці ў складаных умовах: двух'ярусныя нары, дзве бочкі вады ў праходзе, печка-буржуйка, у куце завешаная радном прыбіральня — латок з дзюркай. У вагоне было чатыры люкі-акенцы, толькі два з іх давалі святло і кісларод, два іншыя былі зашытыя наглуха.

Наш эшалон складаўся з трыццаці шасці цяплушак, у асобным пасажырскім вагоне ехаў начальнік саставу, ахоўнікі і лекар. Дарэчы, у спецыяльным вагоне везлі і ўвесь інструмент. Сякеры, вілы, рыдлёўкі, пілы эмдэбэшнікі пры пагрузцы часова адабралі і везлі асобна, аддаўшы толькі па прыездзе. Увечары трэцяга дня да саставу падалі паравоз, і эшалон рушыў. Перад самым адпраўленнем Яўціхій праз акенца на пуцях пабачыў знаёмага машыніста і запытаў, куды едзе цягнік. Той адказаў — Сярэднеазіяцкая чыгунка, станцыя Келес. Тады толькі мы канчаткова ўпэўніліся, што едзем не ў Сібір, а ў Казахстан.



Эшалон, у якім ехала сям'я Сцебуракаў, быў адным з чатырох саставаў, якія, пераганяючы адзін аднаго, везлі кулацкі элемент на вечнае пасяленне ў месцы высылкі. Літаральна праз некалькі месяцаў з Беларусі выправіўся апошні — пяты. Менавіта ў ім везлі яшчэ аднаго члена сям'і Сцебуракаў — маю малодшую сястру Алену, студэнтку трэцяга курса Горы-Горацкай сельгасакадэміі. Тое, што яна жыла асобна і была студэнткай інстытута, яе не выратавала. Яна распавяла нам так пра свой арышт: «*Падчас лекцыі ў аўдыторыю зайшла сакратарка і папрасіла мяне тэрмінова зайсці ў кабінет рэктара Акадэміі. Там, апроч рэктара, знаходзіліся дзве цывільныя элегантна апранутыя асобы, якія пасля некалькіх фармальных пытанняў прадставіліся супрацоўнікамі МДБ і прад'явілі ордэр на арышт. Прайшлі разам са мной на кватэру, я сабрала рэчы. Яны паднеслі маю валізу, пасадзілі ў новую бліскучую "Пабеду" і суправадзілі на станцыю Орша. Там мяне чакаў цягнік. Як стала вядома пасля, на факультэце паведамілі, што ўзялі англійскага шпіёна. Што праўда, я тады сапраўды паўсюль цягала з сабой веліччэзны ангельска-рускі слоўнік і старанна вучыла замежную мову, бо рыхтавалася па заканчэнні паступаць у аспірантуру…*»

У далейшым яе лёс склаўся так. Апынуўшыся ў высылцы, Лена пры першай магчымасці здолела працягнуць вучобу. Скончыла Сярэднеазіяцкі політэхнічны інстытут (Ташкент) па спецыяльнасці «Геадэзія і картаграфія». Атрымала дыплом і новы пашпарт і ў 1955 годзе вярнулася ў Беларусь. Па вяртанні выкладала ў Пінскім гідрамеліярацыйным тэхнікуме. Замужам не была. Усё жыццё была свядомай беларускай, адкрыта крытыкавала савецкую ўладу і яе кіраўніцтва, за што была пад наглядам КДБ. Была веруючым чалавекам. Напрыканцы жыцця далучылася да грэка-каталіцкай абшчыны ў Маладэчне, бо лічыла ўніяцтва найбольш правільнай для Беларусі версіяй хрысціянства. Памерла ў Іллі, пахаваная на могілках у Асцюковічах…

Напачатку наш цягнік рухаўся толькі па начах, а днямі адстойваўся на запасных пуцях і тупіках. Краіна саветаў не хацела, каб такія саставы лішні раз траплялі на вочы грамадзянам. У Смаленску мы рэзка змянілі кірунак — на поўдзень. Ехалі па-ранейшаму ўночы. На стаянках з вагонаў не выпускалі, вакол вагонаў дзяжурыла ахова. Праз дзень праводзілася пераклічка. У асноўным елі тое, што мелі з сабой. За ўвесь час дарогі толькі два разы было гарачае харчаванне, пяць разоў выдавалі хлеб. Па хлеб з кожнага вагона адпраўлялі толькі жанчын, што мелі дзяцей, — каб не збеглі.

Дарога давалася цяжка. У дарозе памерлі некалькі старых і немаўлятка. Трупы забіралі на станцыях, што было з імі далей — невядома. Пасля Арэнбурга мы ўсё болей рухаліся па дзікіх мясцінах — тут цягнік ішоў і ўдзень. Паравоз змяніў цеплавоз — усе бачылі такую машыну ўпершыню і былі вельмі здзіўленыя. Нашымі суседзямі па эшалоне былі рэпрэсаваныя сем'і з Вялейскага, Іллянскага, Крывіцкага, Мядзельскага, Маладзечанскага, Валожынскага, Пастаўскага, Дунілавіцкага раёнаў. Гэта былі звычайныя моцныя сяляне, вінаватыя толькі ў тым, што любілі сваю зямлю і ўмелі на ёй працаваць. Сярод тых, хто ехаў у высылку, хапала ўдзельнікаў вайны і партызанскага руху — але ні ўзнагароды, ні ўдзел у вайне, ні інваліднасць не змякчалі прысуду.

Маім суседам па нарах быў ветэран вайны Кавалевіч. Паранены ў нагу, ён пакутаваў ад астэаміэліту. З дзюркі ў назе цёк гной — патрабаваліся рэгулярныя перавязкі. Неяк яго малы сын, забраўшыся да бацькі на другі ярус, дастаў нейкую кніжку і ад няма чаго рабіць пачаў вучыць вершык. Памятаю, там былі словы: «*Слава Сталіну радному за шчаслівае жыццё*». Пачуўшы іх, узлаваны бацька штурхануў хлопца, не пашкадаваўшы хворай нагі. Той не ўтрымаўся і паляцеў долу ў бочку з вадой. Было смешна, але больш сумна.

У дарозе ўсе заняпалі, фізічныя пакуты дапаўняліся скрухай і душэўным дыскамфортам. Ненатуральныя ўмовы чалавечага статку для многіх былі амаль нясцерпнымі. Згадваю,



што нават схадзіць у прыбіральню пры іншых трыццаці чалавеках было яшчэ тым выпрабаваннем. Аднойчы я не пашкадаваў бляшанкі тушонкі, што зберагалася як НЗ, каб падкупіць канвойнага і выйсці з вагона па патрэбе. Нават такая дробязь, як апраўка ў адзіноце на свежым паветры, была здольная абудзіць прыязныя пачуцці да чырвонапагонніка, які даў на яе літасцівы дазвол.

На станцыі Кызыл-Арда людзям упершыню за ўвесь час дазволілі выйсці з вагонаў і дзве-тры гадзіны пахадзіць на свежым паветры. Затым быў Келес, дзе стаялі дзесяць гадзінаў. Пасля вельмі павольна састаў пайшоў да станцыі Пахтаарал.

Быў пачатак траўня, з акенца быў бачны стэп у чырвоных маках і яркае нязвыклае сонца! Да эшалона, які трэцяга траўня нарэшце прыйшоў на канцавы прыпынак, былі падагнаныя грузавыя машыны. Ссыльных, як некалі рабоў на рынку, пачалі размяркоўваць па гаспадарках — у бавоўнаводчыя калгасы, у вінаробчы саўгас, у МТС. Нашая сям'я трапіла ў калгас імя Жданава — на нашае новае месца жыхарства.

## На новым месцы

У глінабітным бараку нам выдзелілі адзін пакой. У суседнім пакоі ўжо жыла сям'я грэкаў, якім напярэдадні прыбыцця беларусаў сказалі, што паселяць з імі сям'ю страшэнных бандытаў. Грэкі дужа спалохаліся і для абароны паклікалі сваяка — агромністага барадатага дзядзьку, які сеў на зэдлік ля дзвярэй і не зводзіў вачэй з новапрыбылых. Некалькі гадзін ён сядзеў нерухома, прыглядаючыся. Потым мая маці падышла да яго і пачаставала кавалачкам хлеба з салам. Асілак прыняў пачастунак, з'еў і, трошкі пачакаўшы, падняўся са свайго месца, прамармытаў нешта пад нос і, махнуўшы рукой, сышоў прэч. Усе супакоіліся — гісторыі пра нашую небяспечнасць былі моцна перабольшаныя.



• *Глінабітны барак у 2-й Тугайнай МТС. 1952 г.*

Усе мы аўтаматычна зрабіліся калгаснікамі. Штодня хадзілі на палявыя працы, палолі, палівалі, збіралі бавоўну. Але Яўціхій наадрэз адмаўляўся хадзіць на такую працу. Дзяўбці зямлю матыкай на спёцы ён лічыў прыніжэннем. Ён быў добрым тэхнікам і ведаў сабе цану, але такой работы не падварочвалася. Сітуацыю змяніў выпадак.

Неяк моцна захварэў Жан, сын Яўціхія. Малога з матуляй надоўга паклалі ў раённы шпіталь. Бацька па магчымасці наведваў іх. І вось неяк, адведаўшы сына, Яўціхій пешшу вяртаўся дадому. Яго спыніўся падвезці на машыне незнаёмец. У кабіне машыны Яўціхій агледзеў паламаную рацыю і з дазволу кіроўцы на хаду здолеў яе адрамантаваць. Здзіўлены кіроўца (як высветлілася, дырэктар мясцовай МТС) распытаў Яўціхія, хто той ды адкуль і пасля рэзка развярнуў самаход назад у райцэнтр. У камендатуры, дзе мальдаваліся спецперасяленцы, ён перагаварыў з камендантам і «забраў» патрэбнага спецыяліста да сябе разам з сям'ёй, братам і матуляй.



Так, пражыўшы тры месяцы ў калгасе імя Жданава, мы пераехалі на сядзібу МТС. У МТС Яўціхій пачаў працаваць механікам, а я — загадчыкам склада.

Нягледзячы на нязвыклыя і цяжкія ўмовы жыцця, у Сярэдняй Азіі беларусы досыць хутка прыстасаваліся. Прывучаныя працаваць на зямлі, мы не галадалі. Праз тры месяцы купілі казу, потым парсюка, а праз год — карову. Развялі птушак, разбілі гароды, пачалі асвойвацца. Праўда, некаторыя рэчы падаваліся нам вельмі нязвыклымі — найперш праблемы з дровамі і вадой. Дроваў у традыцыйным разуменні не было — у печы палілі кізяком, які збіралі па стэпе, гузапаем (сцяблінамі бавоўніка), вярблюджай калючкай, трыснягом. Апошні быў буйной раслінай, якая расла па берагах каналаў і ў пойме Сырдар'і і дасягала шэсцьсем метраў у вышыню.

Найвялікшай праблемай быў недахоп вады. На ўсе патрэбы бралі яе з арыкаў (арашальных каналаў) і хаузаў (штучных вадаёмаў). Яна была мутная, з вадарасцямі, зялёнага колеру. Яе трэ было адстойваць, а для пітва яшчэ і абавязкова кіпяціць. Калі выпіць сырой вады, то была вялікая рызыка захварэць на дызентэрыю ці нават брушны



• *Анатоль Сцебуракa. 2-я Тугайная МТС. 1954 г.*

тыфус. На жаль, шмат хто з беларусаў перахварэў на гэтыя хваробы адразу ж — у першыя месяцы тамтэйшага побыту. У тым ліку і я.

Хваробе маёй папярэднічала камандзіроўка ў пустыню Кызылкум, за сто пяцьдзясят кіламетраў ад нашай МТС. Мне трэба было арганізаваць на стаянцы пастухоў пункт машыннай стрыжкі авечак. Да гэтага ў тых мясцінах стрыглі толькі ўручную.

Трэба патлумачыць, што ў Сярэдняй Азіі была традыцыйнай адгонна-пашавая жывёлагадоўля, калі авечкі, вярблюды, коні і радзей буйны рагаты скот круглы год былі на падножным корме. Вялікія статкі разам з пастухамі павольна перакачоўвалі з аднаго месца на другое. Сухія кармы не нарыхтоўваліся. Нават узімку авечкі і коні выганяліся ў заснежаны стэп. Яны капытамі расчышчалі снег і здабывалі сабе корм. Такі від выпасу называўся цебянеўкай (з казахскага «тебiндеу» — зімовая паша). За вялікай атарай прыглядвалі два чабаны з адмысловымі пастухоўскімі сабакамі. Чабаны жылі ў юртах з сем'ямі. Качавалі яны ад калодзежа да калодзежа…

Вось на адной такой стаянцы апынуўся і я. На дзясяткі кіламетраў роўная, як стол, зямля, некалькі юртаў пастухоў і вялікі статак. У статку былі авечкі каракульскай пароды. Як вядома, нованароджаных ягнятаў гэтай пароды забівалі на першы-трэці дзень на смушкі, якія карысталіся вялікім попытам, а дарослых авечак стрыглі два разы на год. І тады якраз быў час стрыжкі. Разам са мной для забеспячэння працэсу быў дастаўлены рухавік з генератарам і шасцю электранажніцамі. Гаспадарка была размешчаная пад вялікім брызентавым навесам, а побач у намёце жыў і я.

Там жа пад навесам павесілі дрот з лямпачкамі і стрыглі з вечара да позняй ночы. Дзённая спёка рабіла такую працу невыноснай, а ўвечары справа ішла лягчэй. Лямпачкі былі катэгарычна неабходныя, бо на поўдні цемра ўвечары





• *Ля калодзежа ў пустыні Кызылкум. 1956 г.*

апускалася імгненна, зусім не так, як у нашых паўночных шыротах, дзе сонца сядае доўга і павольна. У Казахстане ноч, густая, як атрамант, накрывала зямлю імгненна… Пастухам-казахам, якія жылі ў першабытных умовах далёка ад цывілізацыі, вельмі падабалася гэтае святло, і яны прасілі мяне, каб лямпачкі гарэлі як даўжэй, нават калі заканчвалася праца. Іх вочы цешыліся са штучных агеньчыкаў, якія разганялі густую цемрадзь.

Жылі мы там у абсалютна нязвыклых для еўрапейцаў умовах. Адпрацаваўшы дзень, усе разам елі з агульнага катла. Для гэтага рэзалі авечку і гатавалі плоў ды шурпу (мясны булён або суп на мясным булёне). Мяса, што заставалася, падсольвалі і развешвалі на прасушку на сонцы. За дзеньдругі мухі паспявалі ў ім адкласці яйкі. Калі праз дзень-два тое мяса клалі ў кіпень, зверху ўсплывалі белыя чарвякі, іх здымалі шумоўкай і далей гатавалі ежу. Не лепей было і з вадой. Вось пасля гэтай камандзіроўкі я і злёг з тыфам.

Па вяртанні дадому я трапіў у раённую бальніцу ў цяжкім стане. Але мне пашанцавала — дактары прызначылі пеніцылін, вельмі дэфіцытны на той час антыбіётык. Гэта і вырашыла справу. Нягледзячы на тое, што медсястра ці не палову пеніцыліну з прызначаных хворым ін'екцый прадавала на чорным рынку, мой малады арганізм здолеў перамагчы. Хвароба адступіла. Я толькі вельмі шкадаваў, што ў мяне пасля тыфу выпалі ўсе валасы на галаве, а тыя, што пасля адраслі, былі рэдкія, і ад былой фрызуры не засталося і знаку.



*Раздзел VII*

# У Сярэдняй Азіі

## Terra incognita

Землі, куды трапілі мы разам з іншымі ссыльнымі беларусамі, ужо некалькі дзесяцігоддзяў выкарыстоўваліся сталінскім рэжымам як месца знаходжання рэпрэсаваных грамадзянаў СССР. Паўднёвы Казахстан уяўляў сабой пустынныя землі з малалікім мясцовым насельніцтвам, якое пераважна займалася адгоннай жывёлагадоўляй. Земляробства тут было магчымым, але цалкам залежала ад арашэння. Усе разнастайныя глебы (шэра-бурыя, лёсавыя, такырападобныя, апроч, канешне, паўзамацаваных і развейвальных пяскоў) у гэтай мясцовасці былі прыдатнымі для гаспадаркі, але і аднолькава залежнымі ад вады.

Калі вады не было, жыццё знікала, а пры яе наяўнасці сухі стэп ператвараўся ў квітнеючы аазіс. Каналы, што адводзілі ваду з магутнай Сырдар'і, дазвалялі вырошчваць на паліўных землях каштоўную культуру тых краёў — бавоўну. А багарныя землі выкарыстоўваліся пад азімую пшаніцу.

Варта адзначыць, што асваенне гэтых земляў распачалося яшчэ да саветаў. Першыя каналы былі тут пракапаныя царскімі інжынерамі з дапамогай свабоднай працоўнай сілы ды замежнай землекапальнай тэхнікі. Яшчэ ў 1950-я гады ў МТС стаялі ангельскія такарна-вінтарэзныя станкі і пнеўматычны молат выпуску 1903 года.

Але і царскія каналы не былі тут першымі. Дзеля праўды варта сказаць, што ў Ташкенцкім аазісе арашальныя каналы існавалі яшчэ ў III стагоддзі да н. э. а потым у XVI–

XVII стагоддзях сістэма арашэння была яшчэ больш дапрацаваная. Плошча паліўных земляў працягвала паступова павялічвацца і ў XIX — пачатку XX стагоддзя. Але рэзкі рост адбыўся ў часы СССР — са з'яўленнем магутнай тэхнікі. Гэта было драпежніцкае выкарыстанне і вады, і зямлі. З Сырдар'і і Амудар'і забіралася столькі вады, што ў выніку перасохла Аральскае мора.



• *У Галодным стэпе. 1950-я гг.*



Напачатку сельская гаспадарка паказвала выдатныя вынікі. На землях, што арашаліся, апроч бавоўны, вырошчваліся садавіна, вінаград, рыс, кукуруза і бахчавыя культуры. Менавіта для гаспадарчага асваення гэтых земляў сюды шмат год высылаліся грамадзяне з усіх куткоў Саюза.

Беларусы былі далёка не першымі ссыльнымі. Сумнае першынство мелі карэйцы, высланыя сюды з Далёкага Усходу, і іранцы з Азербайджана, выселеныя ў 1938 годзе. Затым былі панційскія грэкі і туркі-месхецінцы, затым былі прывезеныя паволжскія немцы ў 1942 годзе, народы Паўночнага Каўказа — інгушы, чачэнцы, лезгіны і інш., потым — крымскія татары, украінцы, палякі, рускія, беларусы…

У кожнага народа, што апынуўся там, была свая гісторыя.



• *Высыльны інтэрнацыянал. Злева направа: Косця Калянідзі (грэк), Анатоль Сцебурака, Мікола Патурыдзі (грэк), Косця Бішлер (немец), Дзмітрый Калянідзі (грэк). 1950-я гг.*

## Карэйцы

Калі ў 1938 годзе пачаўся канфлікт СССР і Японіі, карэйцаў выселілі з родных мясцінаў, магчыма, толькі за тое, што яны мелі вялікае вонкавае падабенства да ворагаў савецкай дзяржавы.

Карэйцы ўспамінаюцца мне зараз як вельмі законапаслухмяны, цярплівы і працавіты народ. Выкарыстоўваючы ваду Сырдар'і на самых нязручных і малапрыгодных землях, якія ім выдзяляла дзяржава, яны разбівалі рысавыя чэкі і збіралі вельмі высокія ўраджаі. Вырошчвалі шмат цыбулі і іншыя агародныя культуры. Лішкі ўраджаю паспяхова прадавалі. Адметным было тое, што карэйцы-бацькі ўсімі сіламі імкнуліся даць дзецям добрую адукацыю. Многія з прадстаўнікоў гэтага народа сталі медыкамі, інжынерамі, настаўнікамі. У штодзённых стасунках карэйцы былі далікатнымі, трымаліся адасоблена і незаўважна. Цікавай асаблівасцю было тое, што многія былі вельмі азартнымі гульцамі. У карты маглі гуляць суткамі, прайграючы ўсе свае зберажэнні.

Асновай іхняга харчавання былі рыс, гародніна і рыба. У той час усе карэйцы ў нашых краях з задавальненнем ужывалі ў ежу сабачаціну. Нечакана для сябе неяк пакаштаваў яе і я. Аднойчы, калі я дапамог карэйцу ўсталяваць дома антэну, гаспадар запрасіў мяне да стала на пачастунак. Як выявілася пасля на ранак, мясной стравай, якую падалі на стол, і была менавіта сабачаціна…

Малыя і худзенькія карэйцы нагадвалі мне працалюбівых і цягавітых мурашоў. Старыя карэйцы ад бясконцай працы ў вадзе рысавых палеткаў мелі згорбленыя спіны і хворыя вузлаватыя суставы. Карэйцы па-майстэрску лавілі рыбу. Заўсёды дакладна вызначалі месца ў вадаёме, дзе яна стаяла. Былі адмыслоўцамі ў зацягванні нерата, устаноўцы сетак і іншых рыбацкіх прыладаў. Свежавылаўленую рыбу тут жа на беразе патрашылі, рэзалі на кавалачкі, салілі, пасыпалі спецыямі, палівалі воцатам. Кавалкі складвалі ў місу, накрывалі іншай місай і некалькі разоў трэслі. Згатаваную такім чынам рыбу адразу пачыналі есці. Як усе гвалтам звезеныя народы, карэйцы карысталіся ў штодзённых размовах рускай мовай. Але з пазнавальным акцэнтам: *«Ріса каса — харасо»*, а забыўшы слова «певень», казалі «*курісын жеребеса*». Беларусаў звязвалі з карэйцамі найчасцей толькі дзелавыя стасункі. Але ў справах гэтых яны былі вельмі адказнымі і ніколі не падводзілі.



## Іранцы

Яшчэ адной групай ссыльных былі іранцы (персы), якіх дэпартавалі з Азербайджана ў 1938 годзе як нядобранадзейны элемент. Апынуўшыся ў высылцы, яны пасяліліся кампактна, адной грамадой, утварыўшы асобнае паселішча.

Пабудавалі нізенькія глінабітныя мазанкі з пакатым аднасхільным дахам, накрытым чаротам і прысыпаным зямлёй. На гэтых дахах часцяком пасвіліся козы. Замест звыклых дзвярэй на ўваходзе ў такіх хацінках віселі бычыныя скуры. Аднойчы мне давялося зазірнуць у такое жытло. Усё там выглядала надзвычай дзіўна. У цэнтры мазанкі быў размешчаны прымітыўны агмень, што слугаваў для ацяплення жытла і для прыгатавання ежы. Над ім вісеў мядзяны рондаль, побач стаяў нізенькі столік (корсі). Глінабітная падлога была засланая цыноўкай (у больш заможных бывала на яе месцы кашма). У адным куце на куфры былі складзеныя коўдры, а ў іншым — на сцяне вісеў каваны медны посуд. Самі іранцы выглядалі як персанажы з казак «Тысяча і адна ноч»: абутак з задзёртымі насамі, на мужчынах шаравары, шырокія паясы з заткнутымі за іх нажамі, на галовах чалма. Жанчыны заўсёды ў цёмным адзенні, што закрывала ўсё цела, адкрытымі заставаліся толькі вузкія палоскі вачэй і кісці рук. Цікава было назіраць, як усе грузы — кашы, кумганы (ёмістасці для вады) — жанчыны-іранкі насілі ці на галаве, ці на плячы. Народ гэта быў каларытны, знешне прывабны і прыгожы.

У адносінах з іншымі асцярожны, але прыязны і сяброўскі. Карміліся з зямлі і жывёлагадоўлі, традыцыйным укладам, як і сотні гадоў таму ў сябе на радзіме. Жылі іранцы бедна, а да таго ж мелі вялікія сем'і, і таму малым усё набывалася навырост ці даставалася ад старэйшых. Выглядала гэта і сумна, і забаўна адначасова. Калі купка іранскіх дзяцей ішла па вуліцы ў школу, стаяў нязвыклы грукат і шоргат — гэта малеча, ідучы, амаль не адрывала ног ад зямлі, каб не згубіць цяжкія чобаты, на некалькі памераў большыя за патрэбныя…

Гаротны стан іранскай грамады ўскладняўся тым, што па нейкай прычыне яны не з'яўляліся савецкападданымі, жылі асобна ад усіх і як бы не заўважаліся ўладамі. У сярэдзіне 1960-х яны раптоўна зняліся і з'ехалі на гістарычную радзіму.

## Паволжскія немцы

Трэцімі з'явіліся там паволжскія немцы, у 1942 годзе. Калі Вермахт пачаў набліжацца да Волгі, амаль двухмільённая нямецкая дыяспара, што жыла ў Расіі з часоў Кацярыны II, была аператыўна і жорстка пераселеная далей ад лініі фронту. Стары немец згадваў, як гэта было: «*Ачапілі сяло, самых моцных мужыкоў забралі ў ТрудАрмію на цяжкія працы для патрэбаў фронту. А астатніх запхалі ў таварныя вагоны і павезлі на ўсход. Выгрузілі сярод голага стэпу ў мароз і завею і сказалі: "Тут і абжывайцеся". Людзі пачалі капаць норы, каб хоць неяк схавацца ад холаду. У першую ж ноч замерзлі ўсе немаўляты і старыя. У кіламетрах 10 ад нас было казахскае паселішча, мы спрабавалі падысці да іх, каб атрымаць нейкую дапамогу, але мясцовым сказалі напярэдадні, што прывезлі немцаў, не тлумачачы, што ды як. Яны, мяркуючы, што раз ідзе вайна з Германіяй, то гэтыя немцы ворагі, не падпускалі нас. Стралялі ў наш бок з паляўнічых стрэльбаў. Быў жудасны голад. Толькі ўвесну, калі пасля спячкі з нораў вылезлі чарапахі, мы пачалі іх лавіць і гатаваць з іх ежу — тым і выратаваліся*».



Тыя, хто здолеў выжыць, пачалі абжывацца на новым месцы. Праз некалькі год у стэпе з'явіліся акуратныя дамкі з дагледжанымі гародчыкамі ў атачэнні зялёных дрэваў — гэта былі сялібы немцаў, разбітыя з дакладнасцю і акуратнасцю, уласцівай гэтаму народу. Адрозніваліся немцы дысцыплінай і працавітасцю. У адносінах з іншымі народамі трымалі дыстанцыю. Да прыезду беларусаў лічыліся самымі тэхнічна адукаванымі. Але са з'яўленнем апошніх саступілі сваё першынство. Таму адносіны з беларусамі былі стрыманымі і з элементамі канкурэнцыі.

Без віны вінаватыя, яны мусілі прыстасоўвацца да новых умоваў і лёгка знаходзілі выйсце са складаных сітуацый. Мне з усмешкай прыгадваецца выпадак з нямецкага вяселля, калі на вялікую грамаду гасцей гаспадарам удалося здабыць усяго дзве бутэлькі гарэлкі. Разліць такі аб'ём хоць неяк на кампанію было немагчыма. Тады зрабілі так: налілі кожнаму ў сподак па лыжцы гарэлкі, і госці пад кожны тост мачалі кавалачак хлеба ў сподак і так падтрымлівалі весялосць і добры настрой. У выніку ўсё вяселле ў добрым гуморы смяялася і танчыла да ночы.

Былі немцы, што адрозніваліся непамернай пыхай. Напрыклад, зваршчык Ёзэф Вальтэр насіў на кожнай руцэ па гадзінніку. Пры гэтым абодва рукавы кашулі былі падкасаныя так, каб усе бачылі заможнасць уладальніка. Што праўда, адзін гадзіннік не працаваў. Вальтэр любіў, калі ў яго пыталіся, колькі часу. Ён заўсёды пры гэтым пытаўся: «А *табе на якім гадзінніку зірнуць?*» І тут у залежнасці ад таго, ці хацеў ты дагадзіць, ці пазлаваць зваршчыка, можна было абіраць — на рабочым з круглым цыферблатам або на паламаным з квадратным… Зірнуўшы на рабочы круглы, ён выдаваў дакладны час, а сам зараджаўся добрым настроем і рабіўся адкрытым да супрацы. А вось калі яго прасілі сказаць час з квадратнага, Ёзэфу даводзілася неяк выкручвацца,

хутка глядзець на сонца, цені ад дрэваў і прыдумляць лічбы… Няёмкае становішча, у якім ён апынаўся, яго бянтэжыла і злавала.

Агульны ўзровень культуры ў немцаў быў высокі. Калі аднойчы ў сельскі клуб прывезлі па разнарадцы новае піяніна, апроч старой немкі Матыльды, не знайшлося нікога, хто ведаў бы, як падступіцца да дзіўнага інструмента. Пакуль усе стаялі ў задуменні, Матыльда звыклым рухам села за піяніна і з лёгкасцю зайграла на ім…

Завяршаючы расповед пра немцаў, дададзім, што яны сталі масава выязджаць на гістарычную радзіму ў Германію ў пачатку 1990-х.

Дарэчы, пра «разнарадку» варта зрабіць асобнае адступленне. З'ява, цалкам забытая сёння, на той час была пашыранай. Працуючы па непрадказальнай схеме, менавіта яна адзін раз прыўносіла ў наш азіяцкі свет звышкарысныя і дэфіцытныя рэчы, а другі — дастаўляла штуковіны, абсалютна непрыдатныя і катэгарычна непатрэбныя.

Дзякуючы ёй, аднойчы нам прывезлі некалькі соцень чыгунных катлоў на цвёрдым паліве для арганізацыі вадзяного ацяплення. І ўсё было б добра, але жылых дамоў з батарэямі ў нас не было… Пасля многія гады яны ляжалі непатрэбнай гарой, іржавелі ды зарасталі травой. Там жа высіліся горы мінеральных угнаенняў, якія былі завезеныя ў памеры, што ў сотні разоў перавышаў рацыянальныя патрэбы гаспадаркі. У драўляным хлеўчыку, які потым разваліўся ад старасці, стаялі велізарныя скрыні з ухналямі (цвікамі для падковаў) у такой колькасці, што імі, здаецца, можна было падкаваць усіх коней СССР. Яшчэ на ўскрайку паселішча былі могілкі самаходных зернеўборачных камбайнаў, на баках якіх красаваліся надпісы СК-3*. Недзе тыя машыны былі на вагу золата, а ў нашых краях іржавелі без патрэбы…

* Самаходны камбайн СК-3 выпускаўся з 1958 па 1964 г. У ім упершыню былі выкарыстаныя прагрэсіўныя для таго часу гідраўлічныя



# Грэкі

Наступнымі ў Азію прывезлі грэкаў з Каўказа, а дакладней з Прычарнамор'я. Гэта былі гэтак званыя грэкі-піндосы — перасяленцы з горнага масіву Піндас, што ўцякалі ад уціску турэцкіх уладаў на землі Расійскай імперыі ў Прычарнамор'е. Яны ўяўлялі сабой вельмі бедную субэтнічную супольнасць, якая зазнавала ўціск і на старым, і на новым месцы жыхарства. Само слова «Піндас» стала прыніжальным і займела адмоўную канатацыю і праз сваю блізкасць са словамі навагрэцкай мовы «бядняк», «дно», «бруд».

І да высылкі, у часы побыту на Каўказе яны жылі вельмі бедна. Стары грэк Каленідзі распавядаў: «*Увесну ў заплечным кашы насілі зямлю на камяністы схіл, сеялі пшаніцу, ячмень, садзілі хвасолю. Увосень дажджы змывалі зямлю ўніз, а ўвесну яе трэба было ізноў заносіць наверх кашамі*».

Затое жылі грэкі вельмі дружна, трымаліся адзін аднаго, дапамагалі. Харчаваліся зазвычай сціпла ежай расліннага паходжання: лобія, сацыбелі, гуркі, памідоры, садавіна. Здаралася, некалькі сем'яў у складчыну куплялі пяцідзесяцілітровую бочку салёных анчоўсаў (якія ў нас зваліся хамсой), дзялілі і ўжывалі як асноўную крыніцу пратэіну ў харчаванні. З задавальненнем скуплялі залатыя ўпрыгожанні і манеты. Як мне памятаецца, сярод грэкаў амаль не было сур'ёзных спецыялістаў. Найчасцей яны працавалі на падсобных работах, дзе не патрабавалася вялікіх ведаў і навыкаў.

Найбольшы поспех мелі ў гандлі, дробным рамястве і аказанні побытавых паслугаў. Гандлявалі з лёгкасцю ўсім, чым заўгодна. Пры гэтым падмануць кагосьці чужога не лічылі заганным. Сярод іх было нямала цырульнікаў, краўцоў, прадаўцоў. Сем'і ў грэкаў зазвычай былі вялікімі. Дзеці і моладзь

сістэмы. СК-3 атрымаўся на дзіва ўдалым і нават атрымаў прэмію Гран-пры на Сусветнай выставе ў Брусэлі.

вучыліся без асаблівай ахвоты, падвышанага імкнення да ведаў не было. Грэкі самымі першымі сталі пакідаць Азію і з'язджаць у Грэцыю.

Акрамя піндосаў, асобнай групай грэкаў былі тыя, хто эміграваў у СССР пасля путчу «чорных палкоўнікаў» у 1949 годзе. Савецкі ўрад пасяліў іх у Ташкенце і ваколіцах. Гэта былі зусім іншыя людзі — адукаваныя, частка — кваліфікаваныя спецыялісты, добрыя будаўнікі. Менавіта яны пабудавалі воданапорную вежу ў пасёлку Бальшавік, якая на той час была ўзорным спалучэннем практычнасці і прыгажосці. З нашымі мясцовымі грэкамі яны стасаваліся зусім мала, мовы іх амаль не разумелі і паглядалі на іх звысоку. Новыя грэкі пабылі ў Азіі нядоўга, пасля аб'яўлення амністыі вярнуліся дадому.

У маіх адносінах з грэкамі быў цікавы эпізод. Неяк пры нагодзе ў іх кампаніі я працытаваў верш Эдуарда Багрыцкага «Кантрабандысты», што пачынаўся так:

*По рыбам, по звёздам*
*Проносит шаланду:*
*Три грека в Одессу*
*Везут контрабанду, —*

і завяршаўся радкамі:

*Ай, греческий парус!*
*Ай, Чёрное море!*
*Ай, Чёрное море!..*
*Вор на воре!*

Грэкі, на жаль, не ацанілі паэзіі Багрыцкага, а ўспрынялі гэта вельмі персанальна і пакрыўдзіліся…



# Японцы

Пасля разгрому Квантунскай арміі з Далёкага Усходу ў нашыя мясціны прывезлі палонных японскіх салдатаў. Ваеннапалонныя трапілі ў розныя рэгіёны СССР, у асноўным у Сібір, на Далёкі Усход, а таксама і ў Сярэднюю Азію — Казахстан і Узбекістан. Усяго каля шасцісот тысяч чалавек. На тэрыторыі СССР яны знаходзіліся больш за дзесяць гадоў — апошнія былі вернутыя на радзіму толькі ў 1956 годзе. Каля сямідзесяці тысяч японцаў назаўсёды засталіся на чужыне, загінуўшы ад голаду, хваробаў, скончыўшы жыццё самагубствам.

Стаўленне японскіх вайскоўцаў да сітуацыі было спецыфічным — яны сябе не лічылі справядліва захопленымі ў палон, бо ў большыні выпадкаў самі склалі зброю па закліку імператара і таму, па іх меркаванні, павінны былі быць адпушчаныя дадому. Пры гэтым яны паводзілі сябе ў палоне стаічна і дысцыплінавана.

Мясцовыя людзі да іх таксама ставіліся іначай, чым да тых жа палонных немцаў, паколькі японцы не ваявалі на тэрыторыі СССР і не асацыяваліся з жорсткімі карнымі ўчынкамі ці масавымі забойствамі.

У наш рэгіён трапіла каля дваццаці тысяч японцаў. Найбольш цяжка прыйшлося ваеннапалонным у першы год. Многія не маглі адаптавацца да новых умоваў утрымання — усё было нязвыклым, ежы не хапала, да таго ж форма японцаў абсалютна не пасавала да клімату кантынентальных зімаў у СССР…

Лагер, што быў каля нас, стаяў проста сярод стэпу. Там былі баракі, абнесеныя дротам. Мясцовыя запомнілі, як увесну ваеннапалонныя хадзілі ўздоўж арыкаў і калюжынаў з тонкай завостранай палкай-пікай на шнурку і палявалі на жабаў. Спрытна кінуўшы сваю прыладу, яны хуценька змотвалі вяровачку і хавалі здабытую істоту ў хатуль за плячыма.



• *Цэнтральная рамонтная майстэрня. Сярэдзіна 1950-х гг.*

Потым у лагеры яны елі ўпаляваных земнаводных, каб не памерці з голаду.

Пазней японцаў пачалі актыўна выкарыстоўваць на будаўніцтве. Тады і карміць іх пачалі лепей за іншых зняволеных сталінскіх лагераў — у рацыён уваходзіў нават рыс, праўда ў невялікай колькасці. Японскія жаўнеры выявіліся адказнымі працаўнікамі. Якасць выкананых імі работаў была высокай. Японскія салдаты будавалі адміністрацыйныя будынкі, жылыя дамы, дарогі, масты, плаціны, працягвалі лініі электраперадачы, працавалі на прадпрыемствах. У нас у Бальшавіку яны пабудавалі баракі, а таксама рамонтную майстэрню. Пасля па ёй лазілі мясцовыя хлапчукі і выпадкова агледзелі ў тайніку японскі пісталет і некалькі патронаў да яго. Які самурай пранёс яго і як захаваў у лагеры — гэтыя пытанні назаўсёды застануцца без адказаў…

На месцы японскага лагера пасля засталіся толькі безыменныя магілкі, але праз некалькі год і іх зааралі ды пасеялі калгасную канюшыну.



# Горцы

Напрыканцы вайны ў 1944 годзе, абвінавачаныя ў супрацоўніцтве з немцамі, у Сярэднюю Азію трапілі народы Паўночнага Каўказа: інгушы, чачэнцы, карачаеўцы, лезгіны, чаркесы і іншыя. Усе яны ў мяне персанальна пакінулі па сабе досыць кепскія ўспаміны. Працаваць не хацелі, многія займаліся крадзяжом і рабункамі. Любы канфлікт з іх удзелам заўсёды даходзіў да панажоўшчыны. Калі яны ў сярэдзіне 1950-х з'ехалі дахаты, усе астатнія ўздыхнулі з палёгкай.

# Татары

У здрадзе савецкай радзіме былі абвінавачаныя і крымскія татары. Пасля вызвалення Чырвонай арміяй Крыма іх выселілі цэлым народам.

Стаўленне савецкіх уладаў да гэтых перасяленцаў было асабліва кепскім. Супраць іх настроілі і многіх ссыльных. Стасункі з імі былі стрыманымі. Ім даручалі самыя шкодныя працы, звязаныя з ядахімікатамі, бітумам, шкодным цэментавым пылам.

Апроч крымскіх, праўда, былі ў нас і паволжскія татары. Яны вельмі адрозніваліся ад крымскіх. Сярод іх была асобная група — хрышчаных татараў, больш зразумелых нам, еўрапейцам.

Волжскія татары адрозніваліся лёгкім норавам, вясёласцю і большай прыязнасцю, чым іх крымскія суродзічы. Яны лёгка сыходзіліся з людзьмі і былі адкрытымі і добразычлівымі ў стасунках. Мне прыгадваецца такі эпізод. Неяк у цырульні сядзелі мы ў чарзе на падстрыжку. У крэсла да цырульніка Юрка Аручыдзі сеў волжскі татарын Юнус Садыкаў. Майстар рабіў сваю справу, клацалі нажніцы, са сцяны залівалася радыё — гучала песня «Ах, Самара-городок». Раптам трансляцыя перарвалася, голас замоўк. І тут, седзячы

ў крэсле, Юнус артыстычна, прыгожым тэнарам працягнуў спеў з абарванага радка. Фрызёр замоўк у захапленні з нажніцамі і грэбенем у руках. Да працы ён вярнуўся толькі па завяршэнні спеваў. Скончыўшы працу, ён адмовіўся браць грошы і сказаў: «*Ты мне ўжо заплаціў сваёй песняй!*»

## Украінцы

Яшчэ адной групай перасяленцаў былі ўкраінцы. У нашай мясцовасці іх было няшмат, і былі яны не палітычнымі ссыльнымі, а найперш сялянамі, што збеглі ад Галадамору ў 1930-я гады ці нават раней. Пад уплывам клімату і ўмоваў ужо праз пакаленне знешне яны прыпадобніліся да мясцовага насельніцтва: смуглявыя, шыракаскулыя, яны былі больш падобнымі да казахаў, чым да сваіх суайчыннікаў. Неяк, памятаю, я нават памыліўся пры знаёмстве з маладой дзяўчынай, запытаўшы яе «*Кыз, атын кым?**» — бо думаў, што знаёмлюся з казашкай. І вельмі здзівіўся, пачуўшы ў адказ: «*Я — Маша Мартыненка*». А вось уклад захавалі свой: мазанкі, плятні, адзенне, бытавыя звычкі, мова — усё ў іх было ўкраінскім. Акрамя той Машы, згадваецца мне каларытны ўкраінец Літвіненка з Жытоміршчыны, заўзяты паляўнічы, які надзвычай сакавіта апісваў свае выправы. Расповеды пачыналіся такімі словамі: «*Я хапаю стрэльбу, прыцэльваюся і — хлабысь! хлабысь! — пяць качак на зямлі адразу!*»

Адзінкамі сустракаліся таксама малдаване, армяне, аўстрыйцы. Адзін аўстрыец, былы ваеннапалонны, добраахвотна застаўся ў СССР. Абзавёўся сям'ёй і канчаткова парваў з гістарычнай радзімай. Яшчэ была адна сям'я, што называла сябе дзіўным словам «каламбош», аніяк інакш не тлумачачы свайго паходжання. Што гэта былі за людзі, і па сёння застаецца для мяне загадкай.

---

* «Дзяўчына, як вашае імя?» (Казах.)



## Рускія

Як і паўсюдна ў СССР, у нас, канешне, былі і рускія. У бальшыні выпадкаў гэта былі людзі, якія з'яўляліся і знікалі ў пошуках шчасця, доўгага рубля ці Бог ведае чаго. След ад іх хутка астываў, і толькі некаторыя заставаліся на сталы побыт.

Быў Калінін з Валдаю. Гісторыя таго, як ён патрапіў да нас, вартая асобнай згадкі.

На танцах у родным сяле ён прыраўнаваў сваю дзяўчыну да суперніка і агрэў таго аглобляю. Пабачыўшы, што супернік упаў як падсечаны, Калінін палічыў, што забіў яго насмерць. Не заходзячы дахаты, «забойца» кінуўся наўцёкі. Прайшоў па лесе 30 кіламетраў да станцыі, сеў у першы цягнік і паехаў у белы свет. Думаючы, што знаходзіцца ва ўсесаюзным вышуку, паўтара дзясятка гадоў ён туляўся па краіне, нідзе надоўга не спыняючыся, пакуль не асеў у Казахстане. Адтуль нарэшце адважыўся адазвацца — напісаў ліст сваякам. Атрымаў адказ і даведаўся, што той «забіты» ачомаўся праз гадзіну, а пасля ажаніўся з той дзеўкай, з-за якой і была спрэчка, а пра яго, уцекача, усе даўно і думаць забыліся…

Калінін быў добрым сталяром — з дрэва рабіў цуды. Але неяк на дабрабыце гэта не адбівалася — сям'я яго чамусь жыла ў пастаяннай нястачы. На сметніку сталяр збіраў бляшанкі з-пад кансерваў, прырабляў да іх тронкі — і такім посудам у гаспадарцы карысталася сям'я валдайскага майстра.

Быў Шамін, інвалід вайны. У Шаміна ў мірным часе засталіся куксы замест рук, пустыя вачніцы, і шыты-пораты жывот, у якім немаведама што ратавалі хірургі. Глыбокі калека, між тым, меў жонку і ажно пяцярых дзяцей. Жанчына, якую ён, пайшоўшы на вайну, пакінуў зусім маладой жонкай, не адмовілася ад яго скалечанага. Па вяртанні нарадзіла з ім дзяцей і даглядала яго самога, як дзіця. Прыехаўшы ў наш пасёлак, Шаміны набылі ў грэкаў занядбаную халупку

з падворкам, зарослым здзічэлымі садовымі дрэвамі, і сталі там жыць. У маёй памяці захаваліся карцінкі — жонка вядзе мужа да вадаскіду на канале, дзе купаюцца дзеці, заводзіць сляпога ў ваду, дзе ён, прысядаючы, асвяжаецца і спрытна ды няўклюдна спрабуе сябе абмываць куксамі, махаючы імі, як качка крылцамі.

Таксама быў адстаўны падпалкоўнік Разліваеў, які жыў звычайным жыццём і адкрываўся толькі нападпітку. Тады ён з зацятасцю і крыўдай заўсёды згадваў адзін-адзіны эпізод — пра свой гераічны дывізіён 152-міліметровых гарматаў на Одэры, якім ён расчысціў плацдарм і за які ўсе атрымалі ўзнагароды, а ён — нічога.

## «Палякі»

Былі ў нас і тыя, каго называлі палякамі. Насамрэч пры блізкім разглядзе амаль на сто адсоткаў гэта аказваліся беларусы-каталікі. Яны актыўна запісваліся палякамі і з’язджалі ў Польшчу ў 1956-м, пакуль працаваў дазвол на выезд. Мой сябра Юльян Зямчонак, беларус з-пад Паставаў, запісаўшыся вось так палякам, з’ехаў на «радзіму». Там яны былі чужымі для мясцовых, але, безумоўна, траплялі ў непараўнальна лепшыя ўмовы, чым у любым з куткоў Саюза. Юльян пасля мне пісаў у лісце: «*Нас тут ніхто не чакаў, супольнай працы*, дзякуй Богу, тут не атрымалася, працуем аднаасобна. Мая Марыська сумуе і па радыёпрымачы шукае хвалі Ташкента…*»

Сапраўдныя этнічныя палякі ў нашай мясцовасці таксама бывалі, праўда, і зніклі да нашага прыезду — недалёка ад нас, у Пахтаарале, у 1942 годзе фарміравалася адна з дывізій Арміі Андэрса, якая пасля была перакінутая ў Іран.

---

* Маецца на ўвазе адсутнасць калгасаў у Польскай Народнай Рэспубліцы.



## Бічы

Была яшчэ адна інтэрнацыянальная група людзей, якая качавала па краіне саветаў. Іх міграцыі залежалі хіба ад змены пары года: як цяплела — падаваліся на поўнач, як халадала — спускаліся паўднёвей. Яны не мелі сталага месца жыхарства і працы. Часта былі без сродкаў, насілі што прыйдзецца, елі што знойдуць. Гэта былі бічы (былы інтэлігентны чалавек).

Адно, што дакладна можна пра іх сказаць, — яны жылі па-за законамі тагачаснага соцыуму, наколькі гэта было магчыма. Трымаліся ў невялікіх кампаніях сабе падобных. Перабіваліся выпадковымі заробкамі, халтурамі, лавілі рыбу, нешта збіралі, недзе злёгку паджаброўвалі. Пры гэтым нічога выразна крымінальнага за імі не заўважалася.

Бічы шкоды людзям не рабілі, а малечы былі добрымі сябрамі. Мой сын Мікола распавядаў, што, калі кампанія падшыванцаў аднойчы прыбегла ў іх невялікі лагер, малых дапусцілі гуляць і глядзець, што і як. Адзін з такіх бічоў запытаўся ў Міколы: «*Ты хто?*» Той адказаў: «*Беларус*». І тут жа пачуў у працяг: «*То прынясі мне тры бульбіны!*» Ён сказаў гэта так упэўнена, бы дакладна ведаў, што папрошанае абавязкова будзе прынесена. Міколка пабег да бабулі і ў чыгунку сапраўды знайшоў тое, што прасіў дзядзька, — свежазвараную бульбу. Яна была тут жа расцёртая, перамяшаная з глінай і выкарыстаная на прыкорм — у канале добра лавілася рыба…

Такія групкі бадзягаў адносна спакойна туляліся па ўскраінах Саюза, не трапляючы пад увагу органаў. Удалечыні ад сталіц і буйных гарадоў бічы, выкінутыя сацыялістычным ладам на ўзбочыну магістральнага шляху ў светлую будучыню, ціха жылі як дзівоснае племя выгнаннікаў і валацугаў. Яны ў коле сабе падобных дэкламавалі Ясеніна, Мандэльштама, спявалі Галіча, Вярцінскага і іншых «няправільных» паэтаў, нешта спявалі пад гітару ля агню і проста жылі на свеце ў сваё

сціплае задавальненне, што ў той час само па сабе лічылася ўпадніцкім і амаральным. Ужывалі віно, гарэлку, часта былі нападпітку. Гэта быў своеасаблівы пратэст супраць камуністычнага ладу жыцця.

Тут варта сказаць, што, нягледзячы на змяшэнне народаў і звычаяў, грамадскі парадак у нас быў узорны, прынамсі зладзеяў і бандытаў ніхто не бачыў. Ні з хатаў, ні з падворкаў нічога не знікала. А часам і з нічыйнай вуліцы.

Аднойчы я троху нападпітку позна вечарам на матацыкле вяртаўся з райцэнтра — вёз мех мукі. Пасля дажджу дарога моцна раскісла, матацыкл захрас у каляіне на ўскрайку паселішча, аднаму было рады не даць, мінакоў не было, а грукаць па хатах у пошуках дапамогі не хацелася. Я ўзлаваўся, кінуў свой цяжкі «Іж-49» у каляіне і пайшоў дахаты спаць. Раніцай вярнуўся назад, каб агледзець стан рэчаў і



• *Анатоль Сцебуракаі Арнаутаў каля «Іж-49». 1954 г.*



прыступіць да выратавальнай аперацыі, і пабачыў матацыкл у поўным парадку на ўзбочыне дарогі, выцягнуты з каляіны. Упоперак на бензабаку ляжаў некрануты мех мукі.

Крымінальныя выпадкі, што мне прыгадваюцца, збольшага камічныя. Была гісторыя, як малады небарака-немец, згаладаўшыся, залез праз акно ў краму, схапіў там бохан хлеба і выскачыў вонкі. За ім пабеглі. Злодзей выбег у чыстае поле, рвануў па сцежцы, але, убачыўшы пагоню, сеў і пачаў кавалкамі глытаць хлеб. Пакуль дабеглі і схапілі, бохан быў ужо з’едзены.

## Беларусы

Але вернемся да беларусаў. Усе мы жылі досыць кампактна — у трох суседніх раёнах: Джэтысайскім, Пахтааральскім, Кіраўскім. Жылі побач, але ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі суполкамі жылі не тое каб дружна, ці, можа, мне так падавалася?..

Пінскія трымаліся асобна, вялейска-пастаўскія — сваім колам, валожынска-маладэчанскія — сваім. Былі пінчукі з прозвішчамі Казлякоўскі, Казадой, Казубоўскі, Кахнюк, Мініч, Шаламіцкі, Пратасавіцкі, Кучанюк, Якубчык. Мы з гумарам звалі іх «пінскай шляхтай». Больш за ўсё даставалася Пратасавіцкаму, чыё прозвішча мы жартам перайначвалі на Проціўсавецкі. Мясцовыя не разумелі гульні словаў і вельмі здзіўляліся, пачуўшы. Былі докшыцкія — Зямчонак, Глінскі, з Глыбоччыны — Стахоўскі (адзіны не земляроб, а гандляр), з Вялейшчыны — Дуровічы, Нарэйкі, Матошкі, Кавалевічы…

Гэтыя суполкі канкуравалі міжсобку і не асабліва сябравалі. Пры гэтым усе беларусы былі аднолькава працавітымі і тэхнічна адукаванымі. Беларусы высока цаніліся мясцовым начальствам як здольныя і надзейныя людзі. Таму многія прэстыжныя і адказныя пасады займаліся менавіта выхадцамі з Беларусі.

Вось пара прыкладаў, якія добра ілюструюць гэтае сцвярджэнне. Аднойчы беларусы грамадой паехалі ў госці ў суседні пладавінсаўгас імя Кірава. Добра там пагулялі і вярталіся на навюткім ГАЗ-51, дзе ў кузаве былі ўсталяваныя лавы для пасажыраў. Шафёр быў таксама нападпітку. На нейкім павароце машына з'ехала ў кювет і перакулілася. Ніхто не пацярпеў, але новы самаход памяўся ды падрапаўся. Неяк агульнымі высілкамі далі рады яго вярнуць на дарогу і даехаць да гаража. Трохі расчухаўшыся, мужыкі ўзяліся за тэрміновы рамонт, бо ведалі, што разбіральніцтвы за пашкоджанне сацмаёмасці не прымусяць сябе чакаць. Ноччу кіпела праца. Раніцай на мехдвары з'явіўся дырэктар саўгаса, якому добразычліўцы ўжо паведамілі пра здарэнне. Пашыхтаваўшы ўсіх работнікаў, ён запатрабаваў паказаць біты аўтамабіль — яму прад'явілі той самы ГАЗ, але ў цалкам адноўленым выглядзе, пафарбаваны і чысты. Прыемна здзіўлены дырэктар змяніў гнеў на міласць і, даведаўшыся, хто кіраваў работамі, тут жа прызначыў увішнага майстра новым начальнікам гаража.

Яшчэ адна гісторыя, якая падвысіла аўтарытэт беларускай грамады, адбылася, калі згарэла дызельная электрастанцыя С-80 (генератар на трыццаць пяць кілават) і ўвесь пасёлак застаўся без асвятлення. Гэта без перабольшвання было здарэнне раённага маштабу. Для рамонту трэба было немаведама колькі чакаць аварыйную брыгаду з цэнтра. А пакуль тое, пра паўнавартасную працу ўстановаў можна было забыцца.

Тады мы з братам Яўціхіем вызваліся адрамантаваць генератар. Да нашай прапановы паставіліся досыць прахалодна, бо ніхто не верыў у поспех саматужных спецыялістаў. Запатрабаваўшы неабходны мінімум матэрыялаў, мы ўзяліся за працу. Памятаю, працавалі суткі без сну і адпачынку і ў выніку ажывілі такі апарат — святло вярнулася. Дырэктар МТС Табіеў, пасля таго выпадку на адной з нарадаў казаў: «*За аднаго беларуса даю трох грэкаў*».



І выпадак з генератарам быў не адзіным. Усё, што было сапсаванае ці выйшла са строю ў мясцовага насельніцтва ў апошнія гады, — матацыклы, лямпавыя прыёмнікі, швейныя машынкі, стрэльбы і іншыя прылады — было хутка адрамантаванае і наладжанае прыбылымі ў высылку майстравітымі беларусамі.

Акрамя нас, раскулачаных, другой невялікай групай беларусаў былі рэпатрыянты з Заходняй Еўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, якія выехалі на заробкі за мяжу з Другой Рэчы Паспалітай. У час хрушчоўскай адлігі ў канцы 1950-х пад моцным уздзеяннем камуністычнай прапаганды пра добрае жыццё ў СССР яны вырашылі вярнуцца на Радзіму. Тых, хто здуру вярнуўся, спецслужбы сустракалі на мяжы і праводзілі, але не да родных мясцінаў, а ў аддаленыя раёны краіны саветаў, дзе ім і было ласкава дазволена пасяліцца. Побач з намі жыла адна з такіх сем'яў — Аблажэвічы, якія, як і мы, апынуліся ў Казахстане не па сваёй волі. Да гэтага яны каля трыццаці год жылі ў Аргенціне, дзе мелі сваё ранча. Там яны гадавалі быдла і хоць цяжка працавалі, але жылі ў дабрабыце.

Усё ішло сваім шляхам, пакуль не пачала нагадваць пра сябе краіна саветаў. І, канешне, гутарка пойдзе ізноў пра лепшую ў свеце агітацыю. Па ўспамінах старога Аблажэвіча, іх за акіянам спакушалі адмысловымі агітфільмамі пра тое, як цудоўна жывецца ў СССР. Пранікшыся даверам, Аблажэвіч пачаў адкрыта выказваць сімпатыі савецкаму ладу. Мясцовая ўлада папрасіла яго ці супакоіцца, ці ехаць туды, дзе так добра. Падумаўшы, аргенцінскі беларус сабраў скарб і сям'ю ды паехаў на радзіму.

Заакіянскія беларусы вельмі вылучаліся сярод мясцовых. Шыкоўна апраналіся — мелі касцюмы-тройкі, модныя капелюшы… Аблажэвіч ездзіў на ровары з адмысловым прыстасаваннем — раменьчыкамі на калашыне, каб тканіна не трапляла ў ланцуг. Памятаю, што яны былі ў споласу і скрусе ад таго, куды патрапілі, зрабіўшы свой выбар…

Праз некалькі гадоў нашую МТС ліквідавалі і людзям, якія жылі пры ёй, прапанавалі ехаць на іншае месца. Новае паселішча, куды перабраліся многія, і мы ў тым ліку, афіцыйна звалася «Цэнтральная сядзіба саўгаса “Бальшавік”». Гаспадарка гэтая спецыялізавалася на вырошчванні бавоўны. Адметнасцю было тое, што землі нашага раёна былі прадметам спрэчак — за кароткі час яны паспелі пабыць і ў Паўднёва-Казахстанскай вобласці Казахскай ССР, і ў Сырдар'інскай вобласці Узбекскай ССР, і потым зноў у Казахскай ССР, але ўжо ў складзе іншай, Чымкенцкай вобласці. Наш раён быў самай паўднёвай кропкай Казахстана.

## Пасёлак «Бальшавік»

Само паселішча ўзнікла літаральна на пустым месцы, сярод урадлівых палiўн*ых* земляў. Глебы там былі гліністыя, часам лёсавыя. На паўднёвым цёплым сонцы — вельмі ўраджайныя. Усё залежала там, як і паўсюль, толькі ад вады — крыві зямлі, як казалі ў Сярэдняй Азіі. Без вады гэтая зямля была пустэльняй, а з вадой рабілася скарбніцай.

«Бальшавік» быў закладзены ў некалькіх дзясятках кіламетраў ад асноўнага канала, што браў свой пачатак ад Сырдар'і. Той вялікі канал нёс свае воды ў засмяглы стэп і дзяліўся на каналы другога і трэцяга парадку. Ад дробных каналаў ішлі арыкі, што арашалі палеткі бавоўніку, рысавыя чэкі, бахчы і гароды. Увесну і летам пасадкі патрабавалі тры-чатыры палівы, каб забяспечыць добры ўраджай. Лішкі вады з палеткаў адводзіліся ў скідныя каналы, што зноў гналі ваду ў Сырдар'ю.

Паліўное земляробства давала добры эфект, але і несла пагрозу. У тых мясцінах празмерны паліў зямлі выклікаў распусканне мінеральных соляў у глыбокіх пластах глебы. Солі падымаліся на паверхню і стваралі саланчакі — зямлю, цалкам непрыдатную не толькі для вядзення гаспадаркі, але і для жыцця як такога. У нашай мясцовасці гаспадаркі, што былі арганізаваныя ў 1930-х гг., за тры дзясяткі год гаспадарання прывялі свае землі ў поўную непрыдатнасць праз засольванне глебаў. Даводзілася кідаць усё і пачынаць на новым месцы. На закінутых палетках заставалася рэдкая расліннасць — салянка і ёй падобныя унікумы, што маглі выжыць у саланчаку.

Непасрэдны пачатак нашаму паселішчу паклаў беларус з вёскі Порплішча Докшыцкага раёна Венька Глінскі, што на сваім трактары Т-100 рэзаў арыкі ў чыстым полі. Коўш ягонай машыны зрабіў першую яміну на цаліку бязмежнага стэпу. Пасля ад арыкаў намецілі вуліцы, пазначылі зямельныя ўчасткі для будаўніцтва. У сярэдзіне 1950-х будаўнічыя брыгады вахтавым метадам адбудавалі спачатку невялікі інтэрнат, сталоўку, краму, лазню, кантору, рамонтныя майстэрні і некалькі дамкоў. Потым пачалі з'яўляцца навасёлы. Некага пасялілі ў інтэрнат і пабудаваныя дамкі, а большыня капала сабе зямлянкі і пачынала будавацца самастойна.

Нам, як спецыялістам, выдзелілі свежапабудаваны фінскі домік.

У некалькіх кіламетрах ад цэнтральнай сядзібы працавала старая цагельня, вакол якой таксама пачаў расці пасёлак. Яго так і называлі — Кірпічны. Блізкасць цагельні, праўда, не ўплывала на будоўлю ў Бальшавіку, цэгла ішла на патрэбы дзяржаўнага будаўніцтва, а мясцовым даводзілася абыходзіцца самім. Усе хаты ў нас рабіліся з цэглы-сырцу, ці прасцей — з саману. Тэхналогія яго вырабу мала змянілася за стагоддзі — побач з падмуркам новабудоўлі капалі яміну і залівалі вадой, мясілі гліну, дадавалі пясок і салому. Сумессю запаўнялі формы, ушчыльнялі, перакульвалі і вільготны саман выкладвалі на сонца. Праз колькі тыдняў будматэрыял высыхаў і можна было пачынаць муроўку. Цэгла з завода ішла хіба толькі на выраб печаў у хатах.



• *Фінскі домік. Сярэдзіна 1950-х гг.*



• *Будаўніцтва дома з саману. 1960 г.*





• *На ганку новай хаты. Сядзяць злева направа: Зміцер Якубчык з унукам Міколам, яго жонка Зінаіда Якубчык з унучкай Таццянай, Аляксей Лукашэвіч; стаяць: Васіль Захарчук, Ніна Сцебурака, Анатоль Сцебурака. 1 студзеня 1962 г.*

Не было там і свайго дрэва. Драўніна на будоўлю і іншыя патрэбы прывозіліся з Сібіры. Хвоя, лістоўніца, елка… Але дастаўшы завезенага матэрыялу, мы рабілі ўсё, што патрабавалася. У нашай хаце ўсе цяслярскія вырабы былі выдатнай якасці. Сталярку рабілі нам сваякі: Аляксей Лукашэвіч, родны брат маёй цешчы, і Васіль Захарчук, мужык жончынай сястры — Евы. Захарчук Васіль Мікітавіч быў патомным цеслем з-пад Пінска. Каб дапамагчы нам пабудавацца, яны з Аляксеем адмыслова прыехалі з Беларусі амаль за 5 тысяч кіламетраў і, зрабіўшы нам усе працы, вярнуліся дадому.

Рос наш пасёлак, з'яўляліся новыя і новыя дамы. Афарміўся цэнтр паселішча. Ён складаўся з некалькіх адміністрацыйных пабудоваў, якія сумяшчалі ўстановы кіравання, гандлю і культуры. Напрыклад, у будынку канторы размяшчаліся

яшчэ бібліятэка, більярдная і цырульня. Таксама меліся сталоўка і шапік, дзе прадавалася газіраваная вада з сіропам, а таксама піва і гарэлка на разліў.

З памянёнай пасялковай бібліятэкай адбылася адметная гісторыя. У часы адлігі, пасля выкрыцця культу асобы, у бібліятэкі краіны паступіў загад выдаліць з фондаў усе працы Сталіна, закрэсліць згадкі яго імя ў іншых кніжках і выразаць твар са здымкаў. Недзе так, відаць, і рабілі, а ў нас нудотнай працай вырашылі не займацца, а проста вывезлі ўсю бібліятэку ў стэп і падпалілі. Кніг было шкада, але ніхто асабліва не кінуўся іх ратаваць — ці мала, падумаюць, што сталініст. Але я неяк наважыўся і вырataваў з вогнішча томік свайго любімага Лермантава, а разам з ім яшчэ пару выпадковых кніжак. Так у нас на паліцы з'явіліся трохтомнік Пушкіна, раман Вальтэра Скота «Роб Рой» і «Жэрміналь» Эміля Заля.

Была ў пасёлку і воданапорная вежа. Яна была ўзведзеная для атрымання якаснай пітной вады. Вада ішла з артэзіянскай свідравіны з глыбіні восемдзесят метраў і была цудоўнай па якасці і смаку. Вежа была самым высокім будынкам у паселішчы з цаглянай муроўкай узорнай якасці, з машыкулямі, рустоўкай, часткова атынкаваная і пафарбаваная.



• *Воданапорная вежа. На пярэднім плане тэхагляд саўгаснай тэхнікі. Пачатак 1960-х гг.*



Чырвонай фарбай над уваходам было выведзена «*Слава КПСС*», а сама канструкцыя і без надпісаў услаўляла добрых будаўнікоў — грэкаў, якіх, як апавядалася вышэй, лёс закінуў да нас пасля перавароту «чорных палкоўнікаў» на іхняй радзіме ў Эладзе.

Гандаль быў прадстаўлены дзвюма крамамі: прамтаварнай і харчовай. У прадуктовай краме прадавалася самае неабходнае: хлеб, мука, цукар, алей, макароны, мясныя і рыбныя кансервы, згушчонка і цукеркі. Прадавачкай была ўзбечка, якая кепска валодала рускай мовай і часам смешна тлумачыла свой асартымент. Да прыкладу, казала: «*У мяне дзве скрыні пернікаў пустыя і тры парожнія*» (маючы на ўвазе пад «парожнімі» якраз «поўныя»). У краме заўсёды і ў добрым асартыменце былі прадстаўленыя віны і гарэлка. Гарэлка ў шклянцы зялёнага колеру ёмістасцю 0,5 літра з сургучнай галоўкай каштавала 2 рублі 83 капейкі, а потым з'явілася бутэлька светлага шкла з «бесказыркай» за 4 рублі 12 капеек. Кагор набывалі людзям, якія моцна перахварэлі, і, каб справа ішла на папраўку, ім раілі выпіваць келіх перад ядой. Каньяк у продажы быў таксама, але яго набывалі ў выключных выпадках, напрыклад для пачосткі начальства ці каб уладзіць справу — атрымаць лепшае месца, перасесці на іншую машыну ці трактар. Лічылася, што каньяк патыхае клапамі, таму гарэлку піць лепей.

Людзі гарэлку пілі часцяком, але алкаголікаў былі лічаныя адзінкі. У тыя часы, калі збіраліся трое мужчынаў і дамаўляліся выпіць, то бралі адну паўлітроўку гарэлкі на трох, ішлі на бераг канала і там у няспешных размовах выпівалі яе і разыходзіліся па хатах. Ніякіх працягаў, «шліфовак» і «дагонаў» не было. Карэннае насельніцтва, пра якое яшчэ пойдзе гаворка ніжэй, гарэлкай амаль не цікавілася, а традыцыйна ўжывала насвай. А старыя, каб менеі пакутаваць ад боляў ды хваробаў, часам карысталіся анашой. Моладзі, аднак, і гэтага рабіць не дазвалялася.

Вяртаючыся да асартыменту кропак гандлю, скажу, што, акрамя названых вышэй паўсядзённа неабходных тавараў, нічога ў тыя часы ў крамах не прадавалася. Не бывала свежага мяса, рыбы, малочнай прадукцыі ці садавіны з гароднінай. Для гэтага існаваў базар.

## Усходні базар

Як ні змагалася савецкая ўлада з мясцовым укладам і традыцыямі, перамагчы многія з іх так і не здолела. У тым ліку не змагла яна цалкам кантраляваць гандаль на традыцыйных усходніх базарах, якія былі не проста месцам продажу тавараў, але элементам бытавой культуры. У маіх успамінах паездкі на базар засталіся аднымі з самых яскравых эпізодаў — казачнымі і таямнічымі.

У нашым райцэнтры, сяле Кіраўскае, базары ладзіліся штовыходныя на адмысловым пляцы. Пачыналіся яны вельмі рана. Калі трэба было штосьці прадаць, гандлёвае месца трэ было заняць а пятай-шостай раніцы. Месца куплялася ў дырэктара базару — найчасцей гэта быў прылавак пад навесам. На прылаўку раскладаўся тавар. Гандлявалі гароднінай, садавіной, саматужнымі вырабамі, скабяным, маскатэльным таварам, метызамі, мядзяным і бляшаным посудам, былі шэрагі з вопраткай, вырабамі з воўны і самаробным абуткам. Каму не хапала месца за прылаўкам, рассцілалі посцілкі на зямлі. Калі хто прадаваў мяса, таму на нашым кірмашы выдаваліся сякера, калода і фартух. Гаспадар павінен быў сам адсякаць кавалкі па замове пакупнікоў. На вялікіх базарах былі свае прафесійныя рубшчыкі. Калі мы з цесцем Дзмітрыем аднойчы вырашылі паехаць і прадаць тушу быка ў Ташкент на Алайскі базар, там нам дапамагаў прафесіянал — мяснік-габрэй з-пад Вінніцы родам, што рабіў сваю справу віртуозна і хутка.





• *Анатоль Сцебурака і Стась Кабак на Кіраўскім базары. 1956 г.*

Абавязкова ў нейкім месцы на базары стаяў вялізны казан, у якім гатаваўся плоў на продаж. Побач з ім некалькі майстроў гатавалі шашлык. Ад таго месца заўсёды ішоў такі цудоўны пах, што сліна бегла цуркам. Шампур шашлыку каштаваў дваццаць пяць капеек. Трохі воддаль — карэйцы на пары гатавалі манты. У некалькіх кропках прадаваліся віно і гарэлка на разліў. Калі рабіўся добры гешэфт — пакупнік і прадавец ішлі піць магарыч.

Дзеці імкнуліся трапіць у шэрагі, дзе прадаваліся тахан-халва, пахлава, парварда, цукровыя пеўнікі, рахат-лукум, цукаты, фісташкі, арахіс. Смак гэтых традыцыйных усходніх слодычаў я памятаю дасюль. Цікава было і ў тым месцы гандлёвага пляца, дзе быў адмысловы вялізны загон для гандлю жывёлай. Там стаялі прыведзеныя на продаж авечкі, каровы, козы і коні.

Вакол базару таксама было шмат цікавага. Стаялі запрэжаныя коні, наўючаныя ішакі, вярблюды, на якіх людзі прыязджалі да месца гандлю.

Вярблюды былі для нас, беларусаў, сапраўдным дзівам! Ад іх дзеці гатовыя былі не адыходзіцца гадзінамі. У нашай мясцовасці сустракаліся вярблюды абодвух відаў — і драмедары, і бактрыяны. Елі яны ўсё, што іншыя жывёлы не маглі ўжываць у ежу: палын, калючку, салянку. Загатоўку харчоў для вярблюдаў наогул ніхто не рабіў — яны ўсё жыццё праводзілі на падножным корме. І нават у такіх спартанскіх умовах яны былі здольныя назапасіць да ста пяцідзесяці кіляў тлушчу ў сваіх гарбах, а самі важыць да васьмісот. Гэтыя надзвычай трывалыя жывёліны пілі нават салёную ваду. Уюкі, што грузілі на іх, маглі дасягаць паловы іх уласнай вагі. Яшчэ больш цікава, што пад сядлом вярблюд мог прайсці да ста кіламетраў за суткі, столькі ж, колькі і надзвычай трывалы казахскі конь.

Вярблюдаў пабойваліся — яны страшнавата выглядалі, голасна раўлі і слухаліся толькі гаспадара. Затое як цікава было назіраць за тым, як яны ўмелі па камандзе, склаўшы пад сябе доўгія ногі, класціся на глебу і потым, круцячы вакол галавой, задуменна жавалі сваю жвачку. Нават і баючыся, людзі, і асабліва малеча, усё ж круціліся каля іх. Калі вярблюдам зусім назалялі, здараліся выпадкі, што звяры давалі адпор — пляваліся сваёй жуйкай. Так было з беларусам Іванам Хадорчанкам з-пад Быхава. Ён нейк падышоў да вярблюда і выдыхнуў яму ў храпу тытунёвы дым сваёй цыгаркі. У адказ жывёла так харкнула зялёнай кашай, што заляпіла курцу і твар, і грудзі. Курэц з сораму, каб хутчэй абмыцца, тут жа развярнуўся і з разбегу даў нырца ў канал…



Завяршаючы ўспаміны пра гандаль, хочацца ўзгадаць і такую акалічнасць. Часам, каб нешта прадаць ці купіць, даводзілася ехаць за многія сотні кіламетраў — Казахстан быў вялікім, і тое, што, напрыклад, на поўдні было масавым, на поўначы лічылася дэфіцытам. Гэтым карысталіся некаторыя жыхары. Так, калі ў нас саспявалі персікі, гаспадары садоў аб'ядноўваліся, акуратна здымалі ўраджай у скрынкі, праўдамі-няпраўдамі ў саўгасе выбівалі машыну і везлі персікі праз усю рэспубліку ў Карагандзінскую вобласць. Там у шахцёрскіх пасёлках дэфіцытную паўднёвую садавіну імгненна раскупалі, і нашыя гандляры вярталіся назад з гатоўкай.

## Вінаградарства

Жывучы ў пасёлку і працуючы хто дзе, усе так ці інакш займаліся і падсобнай сельскай гаспадаркай. Беларусы нашага пасёлка хутка пераnялі ад узбекаў і грэкаў асновы земляробства на паліўн*ых* землях. Вакол хатаў разбілі сады. Апроч звыклых нам яблыняў, ігрушаў, сліваў ды вішняў, там цудоўна раслі персікі, алыча, айва, гранат, смакоўніца, абрыкосы, вінаград. У нас было пяцьдзясят кустоў вінаграду. Большая частка вінаграду была вінных гатункаў: «алеацікa», «сaпераві», «васарга», «ркацытэлі», мускаты. З іх рабілі выдатнае віно, бо вінаград быў з высокай колькасцю цукру і невялікай кіслотнасцю. Было некалькі кустоў кішмішна-разынкавых гатункаў — іх плады сушылі. Маім любімым вінаградам былі два кусты гатунку «дамскі пальчык» — салодкі, смачны, з выдатным водарам. Калі ён выспяваў, я садзіўся проста пад кустом і еў ад пуза. Пасля мяне было не даклікацца на абед ці вячэру.

Многія беларусы сталі не абы-якімі вінаробамі. Віно ў нас атрымлівалася цудоўнае, хоць рабілі мы яго без уліку гатункаў, складаючы ўвесь ураджай пад прэс. Тэхналогія была такой: вінаградны сок выціскаўся, заліваўся ў бочкі, дадавалася дражджавая культура, якую рабілі загадзя. Пачыналася бурлівае браджэнне; калі яно сціхала, вінаматэрыял здымаўся з асадку ў іншую бочку. Яе герметычна забівалі коркам, віно даброджвала і праз два месяцы было гатовае да ўжывання. Атрымліваліся цудоўныя, як бы зараз сказалі, сталовыя віны, дзесяць-дванаццаць градусаў мацунку, паўсухія і нават паўсалодкія. Ставілі некалькі сталітровых бочак віна, і да наступнага ўраджаю ўсё выпівалася як у святы, так і ў звычайныя дні.

Але, безумоўна, сапраўднымі адмыслоўцамі ў гэтай справе былі грэкі. Яны рабілі віно і іншым метадам. Ціснулі вінаград у спецыяльным чане нагамі. Вінаматэрыял брадзіў на мязге, і толькі пасля яго выціскалі на прэсе і разлівалі ў бочкі. Сярод грэкаў, праўда, трапляліся і несумленныя вінаробы, якія ў адціснутую мязгу дадавалі вады і цукру і зноў запускалі працэс браджэння. Такое віно атрымлівалася благой якасці. Яго пілі самі ды прадавалі неразборлівым п'янтосам. Дарэчы, у апошніх быў свой пароль — на запыт «Куды ідзеш?», калі чалавек хацеў каротка патлумачыць мэту свайго паходу, казаў: «То красі» (το κρασί), што перакладалася з грэцкай як «віно» ці «гарэлка».

Вінаробствам займаліся не толькі саматужна. У недалёкім ад нас вінсаўгасе імя Кірава рабілі выдатныя дэсертныя віны, асабліва кагоры. Таксама мацнейшыя гатункі — партвейн, мадэру і херас.

У тым вінсаўгасе працавалі браты Нарэйкі — нашыя блізкія землякі, беларусы з Вялейшчыны. Я, здаралася, ездзіў да іх у госці, і яны часам завітвалі да нас. Цікава, што пры сустрэчы яны частавалі не добрымі вінамі, а разлівалі спіртрэктыфікат, які «пазычалі» ў тым жа саўгасе, бо лічылі спірт лепшым за нейкае там віно…



З тамтэйшым віном звязаная яшчэ адна гісторыя, што адбылася ў асецінаў, адной з нешматлікіх сем'яў горцаў, што не вярнуліся на Каўказ пасля амністыі. Паводле традыцыі яны пры нараджэнні хлопчыка закапалі ў садзе невялікую бочачку з віном і вынялі яе на ягоны дваццаць першы год нараджэння. Выкапаўшы, пабачылі, што бочка развалілася — абручы падгнілі, а клёпкі рассыпаліся. Пры гэтым віно так і засталося ў ёмістасці, якую ўтварыў вінны камень. Ён раўнамерна вырас на сценках бочкі і такім чынам захаваў вадкасць. Калі пакаштавалі тое, што было ўсярэдзіне, то мясцовыя знаўцы, адзначылі цудоўныя букет, пах, смак — гэта значыць, аднеслі віно ў разрад калекцыйных…

За некалькі гадоў наш наваствораны пасёлак набыў абжыты выгляд. Але і ў новым паселішчы захаваліся нацыянальныя адметнасці. Ідучы па вуліцы, можна было здагадацца, каму які дом належыць. Калі дагледжана, зелена, пабелена — беспамылкова можна было сцвярджаць, што жыве беларус, украінец ці немец. Трохі сціплей і не так акуратна, але гэтак жа дбайна глядзеліся падворкі карэйцаў ды грэкаў. Калі вакол хаты шмат загонаў для скаціны, стагоў саломы і сена ды ходзіць жывёла — жывуць казахі. Калі каля дома разбітая вялікая бахча — дакладна ўзбекі.

Праз нейкі час многія беларусы і на новым месцы змаглі стварыць моцныя гаспадаркі ды стаць заможнымі сялянамі. Таму, калі ўвосень 1957-га пасля рэабілітацыі з нас былі знятыя абмежаванні ў перасоўванні, толькі нямногія адразу скарысталіся гэтым. Туга па радзіме была, але матэрыяльны аспект вяртання не быў просты. Справа ў тым, што канфіскаваная пры раскулачванні маёмасць і нерухомасць не вярталіся, пачынаць ізноў з нуля было цяжка, таму адразу ў родныя мясціны паехалі адзінкі. Акрамя таго, мы ведалі, што на радзіме па-ранейшаму гаспадарылі тыя, хто ссылаў і пісаў даносы — яны не чакалі нас і ставіліся да тых, хто вяртаўся, варожа, па-сталінску. Аднавяскоўцы, асабліва з ліку тых, хто

атрымаў нешта з канфіскаванай маёмасці, таксама сустракалі былых суседзяў не вельмі добразычліва. Таму, атрымаўшы права вярнуцца, большасць са спецперасяленцаў рыхтавалася да гэтага многія гады. Працавалі, збіралі грошы, маракавалі, як наважыцца пачаць чарговы раз новае жыццё.

Так мы, а разам з намі іншыя перасяленцы перасталі быць ссыльнымі. Мы атрымалі роўныя правы з іншымі насельнікамі Сярэдняй Азіі, але, канешне, мясцовымі мы так і не сталі.

## Карэннае насельніцтва

Яго прадстаўнікамі былі казахі, узбекі і таджыкі. Распачынаючы гаворку пра іх, адразу скажу: чыстая праўда гэты вядомы выраз «Усход — справа тонкая». Разабрацца ва ўсіх асаблівасцях міжэтнічных адносінаў, характараў, звычак і паводзінаў мясцовых народаў нам, еўрапейцам, было надзвычай цяжка. Адрозненняў паміж намі было значна болей, чым падабенстваў. Нават беспамылкова ідэнтыфікаваць нацыянальнасць карэннага жыхара часам было надзвычай няпроста.

Пачнём хаця б з таго, што ў нас, напрыклад, і таджыкі, і ўзбекі размаўлялі на адной мове, а казахі і ўзбекі часта былі з аднаго роду. Гэта тлумачыцца вельмі складанай гісторыяй краю і штучна створанымі межамі савецкіх рэспублік. Апроч таго, важна разумець, што на момант утварэння СССР тамтэйшыя народы знаходзіліся на феадальным узроўні развіцця грамадства і для іх «скачок» у сацыялізм быў не толькі катастрафічным зломам укладу, але і амаль непераадольным ментальным бар’ерам.

Нягледзячы на тое, што мы былі для іх чужынцамі і няпрошанымі прыхаднямі, беларусаў прынялі добра, варажнечы і непрыязнасці ў адносінах да нас амаль не было. У цяжкую хвіліну мясцовыя дапамагалі нам чым маглі.



Можна было б і не казаць, што тамтэйшыя насельнікі наогул былі вельмі гасціннымі. Любога чалавека, які заходзіў на іх падворак, найперш садзілі за дастархан (невысокі стол), частавалі чаем з ляпёшкай і садавіной, а потым толькі распытвалі пра справу. Дзяцей частавалі куртам (сырныя катаныя шарыкі) і разынкамі. Да гасціннасці дадавалася і шчодрасць, якая нам падавалася наіўнай і дзіўнай.

Аднойчы я быў у знаёмага казаха ў гасцях і, аглядаючы сціплае ўбранне дома, дзеля ветлівасці пахваліў дыванок на сцяне. Як жа я быў здзіўлены, калі пасля традыцыйнага пачастунку гаспадар на развітанне працягнуў мне скрутак. У адказ на маё пытанне *«Што гэта?»* прагучала: *«Табе падарунак! Ты ж упадабаў»*, — у скрутку быў той самы дыванок. Я шчыра здзівіўся і збянтэжыўся: *«Як аддаваць першаму стрэчнаму ўпадабаную ім добрую рэч?»* На што пачуў у адказ: *«Каня, сабаку і стрэльбу — нельга, астатняе можна»*.

Шмат якія дробязі і ўзаемныя паслугі, што ў нас былі звычайнымі рэчамі, у мясцовых выклікалі падвышаную ўдзячнасць. Так, калі я аднаму таджыку парамантаваў швейную машынку і не ўзяў за нескладаную працу грошай, той пасля некалькі разоў прывозіў мне дахаты смачны кішміш. Калі я запытаўся, чаму столькі ўвагі, ён, не міргнуўшы вокам, шчыра адказаў: *«Як чаму? Цяпер ты мой брат»*…

Усе гэтыя рысы характару і паводзіны не былі выпадковымі. Мяркую, што законы гасціннасці, падтрымкі і добрасуседства мясцовых народаў, што дайшлі да нашых часоў у выглядзе бытавых звычак, бяруць свой пачатак ад легендарнай чынгісханаўскай Ясы.

Нягледзячы на тое, што часы тыя сталіся сівой даўнінай, пераемнасць прасачыць можна. Пасля распаду вялікага Улуса Джучы стварыліся Залатая, Белая і Сіняя Арда. Пасля разгрому Белай Арды на яе месцы афарміліся племянныя саюзы казахаў — джузы. Хаця самі манголы ў генафондзе

казахаў складалі нязначную меншасць, Яса распаўсюдзілася і тут і засталася нават пасля знікнення дзяржавы, што спарадзіла гэты звод законаў.

Яса, як і зводы законаў многіх іншых народаў, карала смерцю за забойства, крадзеж, распусту, скупку скрадзенага, невяртанне пазыкі і, што ўнікальна, забараняла каму б там ні было есці ў прысутнасці іншага, не раздзяліўшы трапезу з ім. Згодна з ёй, жорстка каралі і таго, хто адмаўляў падарожнаму ў вадзе і ежы, а неаказанне дапамогі таварышу ў бядзе прыраўноўвалася да самых цяжкіх злачынстваў.

Гэтыя законы стэпу сфармавалі стэрэатыпы паводзінаў жыхароў той зямлі. Беларусаў здзіўляла іх даверлівасць, гасціннасць і добразычлівасць. У сасланых абарыгены разбіраліся вельмі хутка — за дабро плацілі дабром, не адмаўлялі ў дапамозе, але і кепскае запаміналі. Калі іх хоць раз падманвалі ў іхнім даверы — болей з такімі не кантактавалі.

Мясцовыя былі мусульманамі-сунітамі — надзвычай мірнымі і добразычлівымі суседзямі. Воляю лёсу сутыкнуўшыся з прадстаўнікамі іншай цывілізацыі, пераймалі ад іх новае і прагрэсіўнае. Памалу сярод іх таксама пачалі з’яўляцца свае кваліфікаваныя механізатары, педагогі, інжынеры. Спрыяла гэтаму і дзяржаўная палітыка. Не абыходзілася, праўда, у гэтай справе і без кур’ёзаў. Асабліва калі партыя і ўрад высунулі прынцып каранізацыі.

У нашым раёне на хвалі яе выканання дырэктарам саўгаса прызначылі казаха Бердымкула, які скончыў сельгастэхнікум. І ўсё было б добра, але, на жаль, даручаную працу ён не асіліў. Некаму б хапіла такога фіяска да канца жыцця, але ж тут іншая сітуацыя — павінен казах быць у кіраўніцтве, і ўсё тут. Таму яго з пасады знялі, але ў кадравым рэзерве доўга не трымалі. Далі новы шанец — паставілі загадчыкам нарыхтоўчай канторы. Бердымкул і гэтую працу заваліў. Паспрабавалі ізноў — перавялі загадчыкам склада. Але і тут



кіраўнік прагарэў. Пасады скончыліся. На раённым партгаспактыве пытаюць у роспачы: *«Куды, Бердымкул, цябе яшчэ паставіць? У раённай бальніцы ёсць, канешне, вакантная пасада загадчыка хірургічнага аддзялення, але не прызначаць жа цябе туды?»* На што Бердымкул у адказ: *«А што? Пайду! Калі райкам падтрымае — пайду!»*

Лепшым маім сябрам быў казах Уцеш Уцягенаў. Гэта быў сярэдняга веку мужчына, адметны тым, што ў дзяцінстве, упаўшы з дрэва і пашкодзіўшы хрыбетнік, усё жыццё быў вымушаны перасоўвацца на мыліцах. Ён доўга, але беспаспяхова лекаваў парэз ног па абласных і сталічных клініках. У шпіталях шмат чытаў і таму быў добра абазнаны ў класічнай і сучаснай літаратуры. Менавіта гэта і стала глебай для нашага сяброўства.

Па прафесіі ён быў радыё- і тэлемайстрам. Калі тамтэйшае насельніцтва пачало набываць прыёмнікі і тэлевізары, то мы часам халтурылі разам: я рабіў антэну і лез усталёўваць яе на дах, а Уцеш унізе падключаў кабель і наладжваў прыёмнік. Зарабіўшы дзесяць-пятнаццаць рублёў, набывалі выпіўкі і закускі ды ішлі да мяне пад вінаградны навес. Размаўлялі пра жыццё, абмяркоўвалі прачытаныя кнігі, спрачаліся. Выпіўшы сто пяцьдзясят — дзвесце грамаў гарэлкі, Уцеш страчваў магчымасць перасоўвацца на мыліцах самастойна, і мне даводзілася яго несці дахаты на спіне. Едучы такім чынам, Уцеш з асалодай цытаваў мне рубаі Амара Хаяма:

*Наливай нам вина, хоть болит голова.*
*Хмель дарует нам равные с Богом права.*
*Наливай нам вина, ибо жизнь быстротечна,*
*Ибо всё остальное на свете — слова!*

У апошнія тыдні перад нашым ад’ездам Уцеш штовечар прыходзіў на наш падворак і сумна сядзеў на лаве пад вінаградам. Аднойчы ўвечары ён прыйшоў з кнігай Ільфа і Пятрова «Дванаццаць крэслаў» і «Залатое цяля», якая, трэба

адзначыць, была адзіным экзэмплярам на ўсё наваколле, і, падпісаўшы «Сцебуракам, памятайце дзядзю Уцеша», пакінуў яе на лаўцы. Апроч подпісу, там было чатырохрадкоўе:

*Мы уйдём без следа — ни имён, ни примет.*
*Этот мир простоит ещё тысячу лет.*
*Нас и раньше тут не было — после не будет.*
*Ни ущерба, ни пользы от этого нет.*

Узбек Ахунаў падчас ІІ сусветнай служыў у частцы, якая дайшла да беларускага горада Асіповічы і там стаяла некалькі месяцаў, пакуль не скончылася вайна. Пасля таго лічыў кожнага беларуса сваім сябрам і дапамагаў парадамі па земляробстве і вядзенні гаспадаркі. Калі бачыў, што нехта кепска працуе, казаў: «*Зямлю падманеш — зямля падмане*». Ахунаў быў непераўзыдзены майстар па прыгатаванні плову. Калі ладзіўся агульны пасялковы той (свята з пачастункам у цюркскамоўных народаў), яго заўжды запрашалі быць кухарам. Гэтая справа была сапраўднай містэрыяй. Прыносілі велізарны казан, на адкосе ў шчыльнай гліне выкопвалася нешта падобнае да печы, усталёўваўся казан — і пачыналася дзейства. Спачатку рабіўся зірвак — смажыліся апетытныя кавалкі бараніны, потым дадаваліся гародніна, рыс, спецыі. Пах смажанага мяса і цыбулі прыцягваў усіх. Над вялікім казаном з лыжкай, больш падобнай памерамі да вясла, шчыраваў кухар…

Болей за іншых у нас было казахаў. Казахі нашай мясцовасці адносіліся да роду Кажа Старэйшага джуса.

Жылі мясцовыя казахі па сваіх законах, сваім укладам. Законы савецкай краіны на іх паўсядзённае жыццё аказвалі толькі ўскосны ўплыў. Многія парадкі захоўваліся з даўніх часоў. Так, пра аднаго брыгадзіра-жывёлавода казалі адкрыта: «*Гэта наш бай*». Маючы на ўвазе ў тым ліку і тое, што з атары ў некалькі тысячаў галоваў значаная частка была яго ўласная.



Казахі цанілі сваіх акынаў (народныя паэты і песняры). На тоях і курултаях (агульныя сходы) іх слухалі ўсе мужчыны. Акыны гралі на домбрах і спявалі свае казані пра мінулае і сучаснае. У спевах акына захоўвалася традыцыя і парадкі несавецкага ладу карэнных жыхароў, якая перадавалася ў спадчыну новым пакаленням стэпавікоў. Пра аднаго з акынаў казалі казахі так: «*Кожнае яго слова каштуе рубель!*»

Таксама традыцыйна вялікі аўтарытэт у мясцовых мелі імамы. І наогул у іх асяродку адчуваўся вялікі ўплыў ісламу і ў абраднасці, і ў паўсядзённых стасунках. Памятаецца мне, як па ваколіцы хадзіў старэнькі сухі дзядок у белай вопратцы, што папраўляў усе масткі праз арыкі. Я запытаўся, што робіць гэты стары. На што пачуў у адказ: «*Рыхтуецца да сустрэчы з Азраілам* і хоча зрабіць як мага болей добрых справаў*»…

Зразумела, што поліэтнічная грамада пасёлка была шматканфесійнай, але стасункаў гэта не напружвала. Праслаўныя — беларусы, украінцы, грэкі, рускія — на Вялікдзень частавалі ўсіх булкамі і яйкамі, а мусульмане-суседзі, у сваю чаргу, частавалі сваімі стравамі на свае святы.

Мы ставіліся да іншаверцаў з павагай. Калі ў мусульман у месяц Рамадан пачыналася ўраза (пост), мой цесць Дзмітрый свайму напарніку-мусульманіну Маўлену пад вечар даваў лягчэйшую працу, каб яму лягчэй было датрываць да канца дня. Калі мусульмане паўлегальна будавалі мячэць і ім былі патрэбныя будматэрыялы, цесць не адмовіў у дапамозе — на тартаку па-за асноўнай працай, цішком, пілаваў ім брусы і дошкі. Больш за тое, ведаючы, на што ішлі матэрыялы, адмовіўся браць грошы за працу. За гэта яго запрасілі на той з нагоды адкрыцця бажніцы і ўрачыста падаравалі яму

---

* Азраіл — у мусульманстве адзін з чатырох анёлаў, набліжаных да Алаха. Ён апякуецца душамі памерлых: праведнікаў суправаджае ў рай, грэшнікаў адпраўляе ў пекла.



• *Таццяна і Мікола Сцебуракі. 1962 г.*

настольны гадзіннік. Памятаю як учора — на цыферблаце на тле ўзыходу сонца быў сілуэт вершніка, а пад ім надпіс «КазССР — 40 жыл» («40 гадоў КазССР»)…

Абжыўшыся і ўладкаваўшыся на працы, многія сасланыя стваралі сем'і.

У 1956 годзе я пабраўся з ураджэнкай Піншчыны Якубчык Нінай Дзмітрыеўнай, якую таксама разам з маці выслалі ў 1952 годзе з Беларусі пасля раскулачвання. Яе і матулю Зінаіду Міхайлаўну таксама пасялілі ў 2-й Тугайнай МТС. А ейны бацька Дзмітрый Васільевіч у той час адбываў дваццаціпяцігадовы тэрмін у Карэла-Фінскай ССР.

У нас з жонкай нарадзілася двое дзяцей. У 1957 годзе — сын Мікола, а ў 1960-м — дачка Таццяна.

**Далей у нашай кнізе ідуць успаміны Міколы Сцебуракі і ён робіцца галоўным апавядальнікам сямейнай гісторыі.**



*Раздзел VIII*

# Мой Казахстан

## Татусь

Прымаючы эстафету апавядання, я хацеў бы дадаць колькі рысаў да партрэта папярэдняга наратара, майго бацькі Анатоля, які, апісаўшы людзей і падзеі свайго часу, сам застаўся трошкі ў цені.

Мой бацька быў самым малодшым з братоў, таму быў пад іх аховай і ўплывам. Больш за ўсё любіў чытаць кніжкі. Ведаў на памяць шмат чаго з Лермантава, Пушкіна, Міцкевіча, сучасных яму польскіх, рускіх і беларускіх пісьменнікаў. Пры Польшчы скончыў шэсць класаў, пры Саветах зноў пайшоў у шосты клас, потым у сёмы, але пачалася вайна. У час акупацыі правучыўся некалькі месяцаў, але школу спалілі. Пасля вайны скончыў восьмы клас ШРМ (школа рабочай моладзі) і завочна — тэхнікум, атрымаўшы спецыяльнасць «Тэхнік-механік».

Да сваёй працы ставіўся адказна і быў майстрам высокай кваліфікацыі. Напрыклад, сапсаваную электраправодку і электраабсталяванне аўтамабіля ГАЗ-53 мог замяніць за адзін дзень. Як і браты, меў відавочныя схільнасці да тэхнікі, асабліва да радыё- і электраапаратуры.

Бачыў, як хутка можна страціць усё багацце, нажытае цяжкай працай, таму ўсё жыццё быў абыякавы да матэрыяльных дабротаў. Савецкую ўладу моцна не любіў, але і пабойваўся. Увесь час быў у глыбокай унутранай эміграцыі. У 1974 годзе,

калі я паступіў у медычны інстытут, ён спытаўся ў мяне: *«І што, у цябе не пыталіся, хто твой бацька?»* Адказваю: *«Не»*. — *«І цябе не клікалі на гутарку да асабіста?»* — *«Не»*.

Пасля гэтага ён неяк палагаднеў да ўладаў, але агулам трымаўся ранейшых поглядаў.

Амаль усё жыццё майго таты прайшло пры таталітарных кіраўніках і рэжымах: Пілсудскі, Сталін, Гітлер, Хрушчоў і Брэжнеў, — затым перабудова і невялікі кавалак свабоды ў 1990-х, а потым ізноў аўтарытарызм. Пры гэтым у душы ён заставаўся шчырым прыхільнікам дэмакратыі і гуманізму, што праяўлялася і ў яго характары, і ў чалавечых стасунках.

Таксама ў глыбіні душы захаваў ён пэўны сантымент да маршалка Юзафа Пілсудскага. І вось як ён пра яго разважаў: *«Па-першае, Пілсудскі — беларус, ён у маладосці сваёй рукой напісаў гэта ў анкеце. Ды і самі палякі з карэннай Польшчы называлі яго ліцвінам. Ён добра валодаў беларускай мовай і па-польску размаўляў з беларускім акцэнтам. Нарадзіўся на Свянцяншчыне — этнічных беларускіх землях. І ў планах меў адраджэнне федэрацыі Польшчы, Літвы і Беларусі»*…



• *Юзаф Пілсудскі*

Калі разваліўся СССР, ён ні хвіліны не шкадаваў пра гэта, вітаў незалежнасць Беларусі, але ў 1994-м галасаваў за Лукашэнку, які паабяцаў, што верне страчаныя ўклады на сберкніжках калі не грашыма, дык лядоўнямі і тэлевізарамі. Усур'ёз пытаўся ў мяне: *«Табе што браць? Лядоўню ці тэлевізар?»* Хутка зразумеў існасць свайго абранніка і шкадаваў



пра зроблены выбар. У восемдзесят дзевяць гадоў перанёс інфаркт міякарда, клінічную смерць, электраімпульсную тэрапію. Пасля гэтага пражыў яшчэ пяць год, чытаючы ад вокладкі да вокладкі «Народную волю», «Свабодныя навіны» і «РГ». Таксама перачытаў наноў шмат чаго з сусветнай класікі мастацкай літаратуры. Ухваляў і цікавіўся занятками ўнукаў — гісторыяй і літаратурай. Апошнія гады быў пад доглядам дачкі.

За пару дзён да смерці распавядаў, што сасніў матулю з сёстрамі ў іхняй хаце ў Субачах, якія сядзелі залітыя сонечным святлом, маладыя і вясёлыя. Яны гаманілі, смяяліся і звалі яго па імені… За некалькі гадзін да смерці прамовіў у светлай памяці: *«Хачу быць вольным»* — і адышоў у іншы свет.

Пахаваны на могілках у Лазаўцы пад Маладэчнам каля жонкі, з якой пражыў пяцьдзясят два гады.

## Матуля

Мая маці нарадзілася 23 кастрычніка 1932 года ў вёсцы Паршавічы Пінскага павета Палескага ваяводства. (У 1964 годзе саветы пераназвалі вёску ў Бярозавічы.)

Ніна была малодшай дачкой у сям'і заможных беларускіх сялянаў Дзмітрыя і Зінаіды Якубчыкаў. У маці было дзве сястры. Старэйшая была Таня, сярэдняя — Ева.

Матуліна дзяцінства было тыповым для ўсіх заходніх беларусаў: вучылася ў школцы, дапамагала бацькам па гаспадарцы. У 1-м класе школы маці вучылася па-польску, потым два гады па-беларуску (1939–41), потым вайной па-ўкраінску (у часы Другой сусветнай вайны нашае Палессе часткова ўваходзіла ў рэйхскамісарыят «Украіна»). Заканчвала сямігодку па-руску.

У 1949 годзе паступіла ў Пінскую фельчарска-акушэрскую школу. Калі заставалася толькі здаць экзамены і атрымаць дыплом, 19 красавіка 1952 года сярод ночы на кватэру, пакой



• *Ніна Сцебурака (у дзявоцтве Якубчык). Сярэдзіна 1950-х гг.*

у якой яна здымала з дзвюма сяброўкамі, прыехалі два супрацоўнікі МДБ і ў прысутнасці двух панятых зачыталі пастанову «Аб высяленні ў аддаленыя вобласці СССР». Далі на зборы паўгадзіны. А збіраць і не было чаго (вопратка, трохі бялізны ды стос кніжак, перавязаны шпагатам). Адразу павезлі на чыгуначную станцыю. Маці згадвала: «*Як ішлі ўздоўж вагонаў, з адчыненых дзвярэй чуліся галасы маладых хлопцаў: "Эй, прыгажуня, давай да нас, паедзем разам". І раптам з іншага вагона пачуўся вокліч маці: "Ніначка! Ідзі сюды, я тут!" Канваіры завялі ў вагон да матулі. У вагоне абняліся, заплакалі, але і ўсцешыліся, што хоць у такую цяжкую хвіліну, затое разам. Раніцай да саставу падбеглі развітацца мае сяброўкі, і адна з іх закінула ў акенца… маю залікоўку. Гэтая кніжачка была сведчаннем маёй адукацыі, наяўнасць якой дазволіла мне ў высылцы здаць іспыты і атрымаць дыплом*».

А напярэдадні з Паршавічаў забіралі яе матулю. Эмдэбісты зачыталі пастанову «Аб высяленні…» і далі на зборы шэсць гадзінаў. Трэба аддаць належнае паляшуцкай салідарнасці — сваякі і аднавяскоўцы-суседзі, як дазналіся пра высылку, адразу ж прыбеглі да яе на падворак. За невялікія грошы, але выкупілі ўсю маёмасць, што была ў хаце. Нехта даў у аплату



нават пару царскіх залатых манет. Кожны прынёс што змог з патрэбных у далёкай дарозе рэчаў — найперш ежу, вопратку. Дзякуючы гэтаму баба везла ў высылку грошы, адзежу, бульбу, крупы і вялікі чыгун тлушчу.

Разам з матуляй і бабай Зінай у вагоне ехала яшчэ пяць вялікіх сем'яў. Гэта былі беларусы з пінскіх вёсак і сям'я грузіна Сяргея Кабаладзэ. У вайну ён трапіў у палон, збег, быў у шэрагах французскіх макі, па сканчэнні вайны асеў у Беларусі, але ўдзячная радзіма не забылася пра героя — у 1952-м яму ўсё ж прыгадалі палон і жыццё за мяжой.

Высыльных у эшалоне кармілі рэгулярна, на абед давалі на вагон па вядру супу і кашы, разам са сваімі харчамі атрымлівалася цярпіма. Узнікла іншая праблема — у вагоне не было прыбіральні, а з вагона не выпускалі. Адгарадзілі кут коўдрамі і паставілі цэбар. Ехалі ў звычайным таварным вагоне, у якім не было нават нараў — спалі на падлозе покатам. Састаў у адрозненне ад таго, на якім ехалі Сцебуракі, ішоў надзіва хутка — да месца прызначэння дайшоў за 14 дзён. Па прыездзе далі катух у бараку і тры дні, каб уладкавацца. Пасля пагналі на палявыя працы.

Калі дазналіся, што ў маці амаль скончаная медычная адукацыя, у раённай Кіраўскай бальніцы ёй наладзілі двухтыднёвыя выпрабаванні практычных навыкаў і нават без дыплома прызначылі загадчыцай фельчарска-акушэрскага пункта 2-й Тугайнай МТС. Бабу Зіну маці прыстроіла да сябе санітаркай.

Да новай фельчаркі на ФАПе працаваў мужчына, што быў на фронце толькі санінструктарам і, апроч перавязак ды самых прымітыўных маніпуляцый, не ўмеў анічога. Што і казаць — з'яўленне медработніка з профільнай сярэднеспецыяльнай адукацыяй было выратаваннем для пацыентаў.

У 1953 годзе маці здала дзяржэкзамен за поўны курс медвучэльні. Адбылося гэта ў горадзе Джамбул, які быў аддалены на трыста кіламетраў ад месца пасялення. Значна

бліжэй была вучэльня ў горадзе Чымкенце, але там не было камендатуры, каб ссыльная штодня магла адзначацца — давялося ехаць у далечыню…

2 ліпеня 1953-га маці атрымала дыплом з кваліфікацыяй «фельчар-акушэрка» і пачала цяжкую і плённую працу, што доўжылася многія і многія гады ў Казахстане і потым на радзіме ў Беларусі.

У той час у Сярэдняй Азіі медыцына была развітая слаба. Шмат было інфекцыйных хваробаў — туберкулёз, малярыя, дызентэрыя, былі ўспышкі брушнога тыфу, шмат гельмінтозаў, трэба было на належны ўзровень падымаць прышчэпкі і простую бытавую гігіену. Хворых было шмат, адным прыёмам справа не абмяжоўвалася, маладая медычка рабіла рэгулярныя падворныя абходы.



• *Ніна Сцебурака — загадчыца ФАП. Пачатак 1960-х гг.*

Маці аб'ядноўвала ў сабе функцыі эпідэміёлага, тэрапеўта, акушэра, інфекцыяніста і г. д. Да яе звярталіся з усімі хваробамі, і з усімі яна павінная была разабрацца. Вымушана матуля пашырала свой медычны кругагляд і вучылася многаму, што пры іншым раскладзе было б далёка па-за межамі яе адукацыі і кампетэнцыі. Сапраўдным скарбам і неацэнннай дапамогай стаўся «Даведнік практыкуючага ўрача» 1952 года выдання. Гэтую кнігу ў двух тамах яе бацька (мой дзед Дзмітрый) прыслаў дачцэ ў Казахстан па парадзе прафесара Лебедзева. Унікальнасць моманту была ў тым, што дзед у той час сам сядзеў у лагеры пад Клінам. Як здолеў ён ажыццявіць тое, гісторыя не захавала — ці сам доктар выйшаў раней і змог даслаць, ці хто з іншых вольных дапамог, але так ці інакш кніга трапіла да маладой фельчаркі своечасова і выратавала жыцці многіх хворых.

Маці вывучыла той даведнік ледзь не на памяць і лекавала сваіх пацыентаў па апошнім слове тагачаснай медыцыны не горш, чым іншы дыпламаваны ўрач.

У пачатку 1950-х у медычную практыку сталі шырока ўваходзіць стрэптаміцын, пеніцылін, сульфаніламідныя прэпараты. Іх выкарыстанне пры лекаванні інфекцыйных захворванняў давала фантастычныя вынікі. Стаў паддавацца лячэнню туберкулёз, цяжкія пнеўманіі, дзіцячыя інфекцыйныя хваробы, што раней прыводзілі да высокай смяротнасці. Да маці на ФАП па дапамогу прыходзілі не толькі мясцовыя, але і людзі з далёкіх паселішчаў. Нікому не было адмовы ані ўдзень, ані ўначы. Застаючыся доўгія гады адзіным медработнікам на вялікай прасторы, маці хоцькі-няхоцькі працавала як лекары даўнейшых часоў, працягваючы гуманітарныя традыцыі медычнай прафесіі.

І ўсё ж найперш матуля была акушэркай. Сотні немаўлятаў і парадзіх прайшлі праз яе рукі.

У той час бальшыня мясцовых жанчынаў традыцыйна нараджала дома, і шмат разоў маці даводзілася прымаць такія роды. За ўвесь час працы ў маці ні разу не памерла ні парадзіха, ні дзіця. За гэта яе вельмі любілі і паважалі ў наваколлі. За васямнаццаць гадоў працы яна прыняла некалькі соцень родаў у самых складаных умовах.

Часам даводзілася рабіць і нескладаныя хірургічныя аперацыі — зашываць раны, ускрываць абсцэсы і флегмоны… За гады яе практыкі адбылося мноства цікавых гісторый, якія маглі б скласці асобны раздзел кнігі, але большасць з іх сышлі ў нябыт і забыліся. Згадаю дзеля ілюстрацыі хіба адзін адметны выпадак.

Неяк маці ехала па справах у райцэнтр. На невялікім прыпынку ў аўтобус пад рукі завялі жанчыну, якая заходзілася ад крыку — ёй у вуха ўлезла нейкае насякомае і шкрэблася, ствараючы нясцерпны дыскамфорт і боль. Жанчына пачувалася блага, і маці вырашыла паспрабаваць дапамагчы неадкладна. Спытала, ці не вязе хто раптам на продаж алею. Адшукаўся бавоўнавы. Яна крапнула пару кропляў у вуха, і неўзабаве з вуха вылезла сараканожка. Хворая імгненна ачуняла і, акрыяўшы, нават рассмяялася! Хутка ўвесь аўтобус, а пасля і ўвесь кірмаш абмяркоўвалі ўчынак знаходлівай дакторкі-чараўніцы.

## Баба Зіна

Незаменнай памочніцай маладой фельчаркі ў паўсядзённай працы на ФАПе была яе матуля — мая баба Зіна. Яна падтрымлівала ўзорную чысціню і выконвала ўсе патрабаванні санэпідрэжыму. Баба была непісьменная, але надзеленая ад нараджэння розумам, стрыманасцю і далікатнасцю. Яна лёгка сходзілася з людзьмі і магла залагодзіць любога ды прыцішыць канфлікт. Да сябе была вельмі патрабавальнай і ўважлівай да людскога меркавання. Перад тым, як нешта зрабіць, часта запытвалася: *«А што скажуць людзі?»*

Мне ўспамінаецца выпадак, які добра характарызуе асобу маёй бабулі Зіны.

Гэта было ў першы год высылкі. З акна барака, у якім жылі баба Зіна з маці, было відаць саўгаснае зернясховішча, якое ахоўваў вялізны глухі казах Кажмахан. Была глыбокая восень з ветрам і дажджом. Глуханямы, паклаўшы стрэльбу на калені, хутаўся ў ірваны чапан (кафтан) і дрыжэў ад холаду. Баба Зіна заварыла чайнік, адрэзала лусту хлеба, узяла кавалак пілаванага цукру і панесла гэтаму грознаму ахоўніку… Што яна сказала яму і наогул — на якой мове можна было паразумецца з глуханямым казахам? Думаю, на мове дабрыні…





• *Дзед Зміцер і баба Зіна Якубчыкі. Пачатак 1970-х гг.*

Праз гадзіну Кажмахан пагрукаў у дзверы, вярнуў чайнік і жэстам папрасіў падаць пустую ёмістасць, у якую высыпаў вядро пшаніцы, пры гэтым замычэў і заўсміхаўся.

У далейшыя гады гэты глуханямы гігант, калі з'яўляўся ў нашым пасёлку, заўсёды заходзіў да бабы Зіны. Яна яму нешта распавядала, частавала чым-небудзь (асабліва ён любіў салодкае), а ён лагодна хітаў галавой і мычэў нешта ласкавае ў адказ. Мы, дзеці, вельмі баяліся ягонага суворага выгляду, а баба заўсёды казала, што гэта добрая і бяскрыўдная душа.

Вось так пачалося жыццё ў высылцы маёй матулі з бабай Зінай.

Сёстры маёй маці засталіся на Палессі — яны былі замужам, мелі свае сем'і і пазбеглі раскулачвання. Праз некалькі гадоў да жонкі і дачкі ў Сярэдняй Азіі далучыўся бацька (мой дзед Зміцер). Адбылося гэта ў 1954 годзе, і яго гісторыя вартая асобнага расказу.

# Дзед Зміцер

Мой адзіны дзед Зміцер (другі мой дзед Мікола, у гонар якога мяне назвалі, быў закатаваны задоўга да майго нараджэння) нарадзіўся на Вадохрышча ў 1900 годзе ў палескай вёсцы Паршавічы пад Пінскам. На выдатна скончыў царкоўнапрыходскую школу, працаваў на гаспадарцы, затым у 1922 годзе патрапіў у першы афіцыйны прызыў у Войска Польскае.

Праз свой малы рост і сціплую вагу трапіў у кавалерыю. Служыў пад Варшавай. У тыя часы маладая польская дзяржава яшчэ не была ахопленая такімі шавіністычнымі настроямі, як пазней у 30-х, але дзед згадваў, што і ў час яго службы адносіны да беларусаў і палякаў у Войску Польскім усё ж не былі роўнымі. Ён расказваў, напрыклад, што на разгрузку сена на станцыю з часткі камандзір адпраўляў штораз толькі крэсавякаў, даючы карэнным палякам адпачынак. Аднойчы дзед, узлаваны такім стаўленнем, знарок падцялежыў воз з сенам, той перакуліўся на рэйкі і перапыніў на нейкі час рух. Быў вялікі вэрхал, але камандзір зразумеў прычыны — і далей стаў прытрымлівацца чаргавання ў нарадах на разгрузку, адпраўляючы з часткі на станцыю і жаўнераў-палякаў… Агулам школа польскай кавалерыі згадвалася дзедам і праз шмат гадоў. Часам у добрым настроі ці кульнуўшы чарку, ён паказваў мне кавалерыйскія баявыя прыёмы — як адбівацца доўгай пікай ад пяхоты, як біць ёй уперад і ў бакі…

З войска дзед вярнуўся з добрай польскай мовай і карыснымі ведамі па прыкладной ветэрынарыі і доглядзе коней, якіх моцна любіў. Веды, што ён атрымаў падчас службы ў адмысловых адукацыйных гуртках для жаўнераў, прыдаліся яму неаднойчы ў мірным жыцці.

Пасля службы Зміцер Якубчык пасватаўся да Зінаіды Лукашэвіч з суседніх Выжлавічаў, прывабнай і працавітай дзяўчынай з добрым пасагам — бацька яе быў восем гадоў у Амерыцы і прывёз даляраў. Пажаніўшыся, маладыя набылі дванаццаць гектараў зямлі ў асадніка. Зямля была кепская, прынамсі папярэдні гаспадар так і не здолеў з ёй нічога зрабіць. Пачалася штодзённая цяжкая праца — трэба было з кепскай пясчанай глебы зрабіць урадлівую раллю. Дзед прыгадваў, што пачынаў працу ад чацвёртай раніцы і рабіў, не ведаючы адпачынку да ночы. Ні ў будні, ні ў прысвяткі не сядзеў без справы — і даў рады: зямля пачала даваць неблагія ўраджаі, асабліва добра рос лён. Ураджаю з палеткаў ставала і сабе, і на продаж.

Сабраўшы грошай, дзед праз нейкі час рэалізаваў сваю даўнюю мару — набыў двух пародзістых племянных жарабцоў — огераў. Звалі іх Шэрай і Ас. За тое, што яны пакрывалі мясцовых кабылак, дзед браў па сем злотых. Яны былі неверагодна моцнымі і разумнымі, выдатна хадзілі пад сядлом. Канешне, з тымі пародзістымі коньмі быў і клопат: варта было ім пабачыць кабылу, як яны пачыналі хваляваццa, іржаць, не слухаліся камандаў і ўрэшце, расхадзіўшыся, часам нават вырываліся і ўцякалі ад гаспадара…

З гэтымі дзедавымі коньмі было шмат прыгодаў. У ІІ сусветную партызаны рэквізавалі іх на свае патрэбы, але огеры не слухаліся новых уладальнікаў, бязлітасна дэмаскіравалі іх сваім буйным норавам, па-здрадніцку адмаўляючыся падпарадкоўвацца. Нейкім цудам яны не трапілі на кілбасу, а былі выгнаныя з атрада і вярнуліся назад у вёску, дзе ізноў служылі гаспадару. Пасля вайны на іх паклаў вока і забраў сабе старшыня Малоткавіцкага райвыканкама. Але і тут коні паказалі нораў — узбунтаваўшыся, разбілі брычку і выкінулі старшыню на дарогу. Да гаспадара гэтым разам яны не вярнуліся — упартых жарабцоў аддалі на бойню.

Аднойчы дзедава любоў да коней ледзь не каштавала яму жыцця. Здарылася гэта ў вайну. Неяк удзень па доўгай вясковай вуліцы пад людскі лямант і брэх сабакаў конь панёс калёсы. Выкінуў вазніцу, раскідаў рэчы, разбіў калёсы і

ляцеў, не разбіраючы дарогі, з аднымі аглоблямі. Ніхто не рызыкаваў спыніць жывёліну, аж пакуль напярэймы не выйшаў дзед-кавалерыст. Ён схітрыўся неяк скокнуць збоку і павіснуць на збруі каня, але той не сцішыўся, а наадварот, ірвануўся яшчэ мацней, дзед атрымаў удар аглобляй у падбароддзе, адляцеў убок, а конь пабег далей. Выявілася, што конь быў хворы на шаленства. Яго давялося застрэліць. Дзед абышоўся толькі гузакамі і разбітым тварам, пашанцавала, што шалёная жывёла не куснула і не абслініла героя, бо чым бы тое скончылася, невядома…

У сярэдзіне 1930-х дзед Зміцер у спулку з братамі Якавам і Іванам (½ долі на траіх) і дзядзькам Кахнюком Барысам (½ долі) пабудавалі ў Паршавічах млын. Ён быў абсталяваны па апошнім слове тагачаснай інжынернай навукі — газагенератарным рухавіком германскай вытворчасці, наладжваць які адмыслова прыязджалі два майстры з Нямеччыны. Рухавік працаваў на дровах цвёрдых парод — з дубу, грабу, ясеню. Сілавая ўстаноўка выконвала шмат аперацый: малола зерне ад грубага памолу да пушкі, мела крупарушку, ваўначоску, сукнамялку, маслабойку, а ў дадатак — тартак. Усе чатыры дольнікі самі і працавалі на гэтым міні-прадпрыемстве. Дзед Зміцер, які асвоіў навыкі механіка, даглядаў механізмы млына.

Млын даваў добры трывалы даход, але значная частка грошай ішла на выплату пазыкі, што ўзялі ў банку на яго пабудову, таму сям'я жыла вельмі эканомна. Працы млынарам хапала круглы год. На пытанне, як ідзе праца на млыне, яны коратка казалі: *«Завозна, братка, завозна»*.

Спакойнае жыццё перарвала вайна. У 1939 годзе дзеда мабілізавалі ў Войска Польскае. Але да ўдзелу ў баявых дзеяннях справа так і не дайшла. Каманда мабілізаваных, што ішла ў кірунку Кобрына, трапіла ў палон да чырвонаармейцаў. Пад канвоем яны рушылі далей. Невядома, як бы павярнулася жыццё дзеда, але дапамог выпадак. На нейкім прыпынку сталі ля ракі. У гэты час побач таксама спынілася нейкая вайсковая частка і салдаты з яе пайшлі да вады абмыцца. Тут дзеду паспрыяла смеласць і шацунак — ён скінуў верхняе адзенне, застаўся ў вайсковых нагавіцах і белай сарочцы. Так, цішком падышоўшы, зліўся з кампаніяй паўголых вайкаў, якія бавіліся на беразе. Зайшоў у ваду, потым цішком прайшоў паўз кусты і абозы і ўцёк у лес. Пасля вярнуўся ў родную вёску…

Дома дзеда чакалі змены — першыя саветы млын нацыяналізавалі, праўда, гаспадароў не кранулі.

Хутка пачалася вайна, і за немцамі млын ізноў вярнуўся старым гаспадарам. Праўда, спакою гэта не прынесла, бо ўдзень малолі зерне немцам, уночы — партызанам. І адмовіць ні тым, ні другім не выпадала.

Па вяртанні саветаў шматпакутны млын ізноў стаў «народнай гаспадаркай». З колішніх уладальнікаў пры млыне пакінулі толькі дзеда, бо лепш за яго ніхто не ведаў ягонага механізма. На савецкім мукамольным прадпрыемстве працавала цяпер ажно восем чалавек. У штаце з'явіўся дырэктар млына, яго намеснік — партарг, загадчык склада, возчык (конюх) і тры рабочыя.

## Карэльскі лесапавал

Паколькі млын стаў дзяржаўным, новыя работнікі мала клапаціліся пра якасць прадукцыі і рэпутацыю прадпрыемства. Сталі паціху красці збожжа і муку, гнаць самагонку ды выпіваць проста на млыне пасля працы. Пасля адной з такіх гулянак млын згарэў. Каб выйсці сухім з вады, партарг абвінаваціў дзеда, абгрунтаваўшы гэта тым, што, маўляў, былы гаспадар-эксплуататар сам спаліў млын, не могучы трываць таго, што яго былая ўласнасць служыць працоўнаму народу. Наладзілі паказальны суд…

У 1947-м дзеду далі дваццаць пяць год лагераў і адправілі ў Карэла-Фінскую ССР на лесапавал пад Кандапогу. З іх дзед адбыў сем гадоў — смерць Сталіна скасавала вырак…

Сем гадоў карэльскіх лагераў былі сапраўдным пеклам, з тым адрозненнем, што ў пекле горача, а там было пераважна халодна. Дзед быў палітычным зняволеным, а ў лагеры было поўна звычайных крымінальнікаў. Ён згадваў, як яны на вачах ва ўсіх лёгка забівалі чалавека за буханку хлеба ці абутак, калі той сам яго не здымаў. Кожны дзень без перабольшвання быў барацьбой за жыццё, і толькі сялянская звычка да цяжкай працы дазволіла яму пратрымацца даўжэй за бальшыню іншых. Людзі больш далікатныя ці слабейшыя фізічна паміралі цягам першых гадоў…

У тым лагеры напачатку чамусь было многа малдаванаў, якія хутка паміралі ад непасільнай працы і жудаснага клімату. Многія з іх прасілі дзеда пахаваць іх «па-праваслаўнаму» — прачытаўшы малітву і паставіўшы хоць які сімвалічны крыж. Знясіленыя, яны клаліся жывымі на зямлю, каб дзед пазначыў памер ямы пад магілу адразу і пасля не капаў лішняга…

Першыя два гады дзед пратрываў на самым цяжкім месцы — на лесапавале. Пасля захварэў на жаўтуху і трапіў у лазарэт — барак, дзе ніхто нікога асабліва не лячыў, але дзе хворым давалася галоўнае: трохі харчу і вызваленне ад штодзённай знясільвальнай працы. Праляжаўшы колькі дзён і трошку ачомаўшыся, дзед падняўся і першае, што зрабіў, — чыста прыбраў лазарэтную палату, дзе ляжаў разам з іншымі дзесяццю дахадзягамі. Гэты ягоны інтуітыўны ўчынак меў лёсавызначальныя наступствы. На абходзе лагерны доктар, прафесар Лебедзеў з Ленінграда, спытаў: «*Хто так прыбраў палату?*» Паказалі на дзеда. Прафесару спадабаўся дзедаў учынак, і ён дабіўся ў адміністрацыі лагера пераводу Дзмітрыя Якубчыка з агульных работ у сваё распараджэнне — у санітары. Так выпадак выратаваў дзедава жыццё. Што падштурхнула тады дзеда? Муштроўка польскага войска, бытавая культура заходнебеларускага селяніна ці простае нежаданне паміраць у брудзе, невядома, але так ці інакш на валку ён не вярнуся, рэшту часу прабыўшы ў распараджэнні доктара Лебедзева, ленінградскага прафесара, які сам адбываў тэрмін у карэльскім лагеры. Свой прысуд лекар атрымаў за падпольны спарон, які ён зрабіў палюбоўніцы нейкага вялікага партыйнага кіраўніка. Аперацыя прайшла ўдала, і ўсё было б добра, каб пацыентка не прагаварылася сяброўцы, якая, у сваю чаргу, і паведаміла пра пачутае ў органы. У тыя гады спароны былі афіцыйна забароненыя, таму вынікам стала шматгадовая практыка прафесара ў лазарэце лесапавалу.

Дзед Зміцер часта і з удзячнасцю згадваў і самога доктара, і ягоную прыгаворку, калі той злаваўся: «*Эх, Митюша, Митюша, деревенщина ты неотёсанная*». Яны блізка сышліся і па-свойму нават пасябравалі. Менавіта па парадзе доктара Лебедзева дзед неяк здабыў для сасланай дачкі той «Даведнік практыкуючага ўрача», што гэтак дапамог маладой фельчарцы ў Казахстане.

Пасля смерці Сталіна дзед Дзмітрый выйшаў па амністыі, але, паколькі падлягаў новаму пакаранню па прысудзе аб раскулачванні, быў тут жа этапаваны на новае месца жыхарства сям'і — у Сярэднюю Азію…

Але ўз'яднанне з сям'ёй прыйдзе пазней. Пакуль яны мусілі перажыць самы складаны час без бацькі.

## Разам

Пра той поўны трывогаў час баба Зіна з маці згадвалі так. Калі на этапе ссыльныя палешукі дазналіся, што едуць не ў Сібір, а на Поўдзень, яны спачатку ўзрадаваліся, а потым расхваляваліся: што за зямля, дзе прыйдзецца нанова пачынаць жыццё?

У пачатку траўня, калі цягнікі прыйшлі на пункты прызначэння, іх сустрэў палаючы макамі і буйным зелянівам стэп. Прызвычаеныя да лясоў беларусы адчувалі сябе няўтульна на неахопных прасторах, дзе буяла нязвыклая эфемерная расліннасць. Асабліва не хапала ў новых краявідах дрэваў. Асвоіўшыся, яны паступова пачалі ствараць вакол сябе звыклы ўтульны сусвет, які пачынаўся на падворку, выходзіў на вуліцу і ў выніку атачаў усё паселішча — найперш садзілі дрэвы, што ратавалі ад пякучага сонца і затулялі ад вятроў. Садзілі таполі, што хутка вырасталі пад неба, таксама карагач, чынары, акацыі. Гэтыя расліны ўпрыгожылі паселішчы перасяленцаў. Купкі зеляніны адзначалі абжытыя людзьмі месцы ў бязмежным стэпе. У Кызылкуме самі сабой раслі рэдкія саксаул, грэбеншчык, джыда.

Дзіўным было і тое, што ў садах і гародах усё расло з неверагоднай хуткасцю і ўраджайнасцю. Цудоўна раслі бахчавыя культуры — дыні, кавуны. Садавіна і гародніна пачыналі паспяваць ужо напачатку лета. Многія беларусы, што трапілі ў Азію, былі здзіўленыя: каб вырасціць добры ўраджай, тут патрабавалася значна менш высілкаў, чым на радзіме з яе больш халодным кліматам і беднымі глебамі.

Іншымі былі і працоўныя стасункі. Калі ў 1950-я гады ў беларускіх калгасах з сялянамі разлічваліся працаднямі і натурай, то тут усё мералася грашыма. За кошт выкачвання сродкаў з цэнтральных раёнаў СССР для асваення ўскраінаў у апошнія траплялі лепшая тэхніка, тавары і тэхналогіі.



Працавітыя беларусы напоўніцу скарысталіся гэтым, і напачатку 1960-х многія з іх абзавяліся моцнымі гаспадаркамі, добрымі працоўнымі месцамі, пасадамі і трывала аселі на новай зямлі.

Дзед Зміцер, калі далучыўся да сям'і, таксама ўсе сілы аддаў звыклай сялянскай працы. Паспяхова заняўся жывёлагадоўляй. Бычкоў, якіх дзед гадаваў на продаж, здаралася, не мог давесці да кірмашу, бо яшчэ на падыходзе іх з рукамі вырывалі пакупнікі — так выдатна тыя выглядалі. Гонарам ягонай гаспадаркі была Маліна — карова чырвонай стэпавай пароды вішнёва-чырвонай масці з вялікімі прыгожымі рагамі, скіраванымі ўверх і ўперад. Яна давала амаль трыццаць літраў малака ў суткі. Сакрэт быў просты: дбайны гаспадар пасля пасьбы ў хляве яе падкормліваў яшчэ канюшынна-люцэрнавым сенам, кукурузнай і пшанічнай саломай, кукурузным зернем, жмыхам бавоўніку, буракамі, а таксама кавунамі і дынямі, што не паспявалі з'есці мы самі. Не дзіва, што яна давала амаль дзесяць тон малака ў год.

У яслях у Маліны ляжаў вялікі кавалак солі — лізунец. Ён быў адпаліраваны каровіным языком да алмазнага бляску. Калі дзед выводзіў Маліну на пашу, я ціхком прабіраўся ў хлеў і, беручы прыклад з Маліны, нахіляўся ў яслі і пару разоў праводзіў языком па гэтым дзівосным кавалку солі…

## Першыя крокі

Вось у гэтых краях у сям'і высланых беларусаў у 1957 годзе нарадзіўся і я — Мікола Сцебурака.

Быў хрышчаны ў горадзе Мірзачуль* праваслаўным бацюшкам-грэкам, які запомніўся тым, што падчас пачастунку казаў: *«Выпьем троично!»*

---

* Мірзачуль (з узб. «галодны стэп»), зараз горад Гулістан (з узб. «месца, якое квітнее») — цэнтр Сырдар'інскай вобл. Узбекістана.



• *Мікола Сцебурака. 1961 г.*

Першы мой успамін — мне тры гады, я прыстаўляю ўслончык да акна, чапляюся рукамі за падваконне, прыціскаюся лбом да шыбы і нема крычу — заву бабу Зіну, якая ў двары займаецца нашай каровай Малінай. Крычу таму, што мне патрэбны гаршчок, сам знайсці яго я не магу, не магу таксама і выйсці, бо хата зачыненая. Мае спробы дакрычацца бабы поспеху не прыносяць, і капцюжок пачынае паўзці і падае мне ў шаравары. Мне крыўдна, але крыўда перарастае ў жах, калі вывальваецца другі капцюг, а потым і трэці. У мяне поўныя штонікі, і я ў слязах і ў роспачы — вось першыя мае ўспаміны.

Канчаткова я пачаў сябе ўсведамляць праз такі выпадак. У садок я ніколі не хадзіў, хаця ён і быў у нашым пасёлку. Гадаваўся я пад наглядам бабы Зіны, але ж у яе, акрамя мяне, былі таксама карова, свінні, птушка, сад, гарод, кухня і розныя бясконцыя справы па гаспадарцы. Таму шмат у чым я быў пакінуты на самога сябе. Так, вольны ў сваіх учынках, я, гуляючы ў хаце, угледзеў рэч, што прыцягнула маю ўвагу, — нізку перцаў. Прыгожыя, ярка-чырвоныя, яны віселі на шнурку ля печы. За свой кароткі век я не меў доседу сустрэчы з гэтымі прыгожымі струкамі і не ведаў, што, акрамя салодкага балгарскага, бывае яшчэ і востры перац. Залезшы на зэдлік, я зняў нізку, адарваў адзін струк і пачаў яго грызці. Праз імгненне рот абпаліла полымя, заняло дух, вочы напоўніліся слязьмі. Я паваліўся на падлогу і зароў! У хату прыбегла баба, я крычу: *«Баба, родненькая, ратуй! Я паміраю!»* Баба Зіна сапраўды моцна налякалася, але калі пабачыла побач са мной надкусаны перац, пачала смяяцца. Дала мне кубак халоднага малака з хлебам… Так я і аджыў, і асвядомеў. Дарэчы, налякаць бабулю ледзь не да смерці я здолеў яшчэ раней.

Аднойчы, калі я навучыўся шпарка, як чарапаха па стэпе, лётаць па падлозе на карачках, я хуценька падпоўз да шафкі, расчыніў яе і, схапіўшы першае, што трапілася ў рукі, — бутэлечку з нейкай вадкасцю, — зрабіў пару глыткоў адтуль. У той шафе стаялі рэактывы, патрэбныя для праяўкі стужкі (бацька якраз у той час захапіўся фатаграфіяй і меў усе неабходныя рэчы для хатняй фоталабараторыі). Баба Зіна падбегла і адабрала бутэлечку, але было позна. Спалоханая, што не паспела прадухіліць мае раптоўныя дзеянні, яна ў роспачы сама выпіла рэшту таго, што я не паспеў. Пасля ўзяла мяне на рукі, і мы разам пачалі чакаць смерці. Але смерць ніяк не прыходзіла. За тое з працы прыйшоў бацька, які, агледзеўшы пузырок з-пад замацавальніка — гіпасульфіду натрыю, запэўніў, што ад такой бясшкоднай атруты мы не памром дакладна. А вось каб мы пачаставаліся тым, што стаяла побач, — праяўляльнікам, то было б значна горш…

Перад тым як рэзюмаваць усе небяспечныя выпадкі, што адбыліся ў часе майго ранняга дзяцінства, скажу, што збаўца наш Ісус Хрыстос быў, відавочна, вельмі літасцівы да мяне малога, бо толькі ўтапіцца я павінен быў сама мала двойчы.

Першы раз было так. Калі мне споўнілася пяць гадоў, бацька змайстраваў мне вуду, а старэйшыя хлапцы навучылі лавіць рыбу. У тыя дні рыба добра бралася на дажджавога чарвяка. Клявалі плотка і пячкур. Я наклаў у бляшанку чарвякоў, узяў вуду, маці абула мяне ў новыя скураныя сандалікі, і я выправіўся на «сброс» — месца на арашальным канале, дзе лішкі вады адводзіліся назад у раку. На гэтым вадаскідзе берагі, каб не размывала вада, на некаторых участках былі ўмацаваныя бетоннымі плітамі. Босыя ногі па такіх

нахіленых плітах хадзілі лёгка, а вось цвёрдыя падэшвы сандалікаў счаплення з паверхняй не мелі. Смела ступіўшы на бетон, я паехаў прама ў ваду, а потым, не збаўляючы хуткасці, і ў кірунку дна, нават не паспеўшы спалохацца. Добра, што на беразе былі старэйшыя хлопцы, якія кінуліся мяне ратаваць і выцягнулі на бераг. Да свайго гонару дадам, што калі мяне паставілі на цвёрдую глебу, я па-ранейшаму ў адной руцэ трымаў бляшанку з чарвякамі, а ў другой вуду…

Другая гісторыя з тапельствам адбылася на гэтым жа месцы на наступны год. Узімку, не дачакаўшыся па-сапраўднаму моцнага лёду, пайшоў па ім коўзацца і праваліўся ў палонку. На гэты раз выратавала тое, што я цягнуў з сабой санкі і, нават боўтнуўшы, не выпусціў вяроўку. За вяроўку і санкі мяне і выцягнулі хлопцы, што былі побач.

З часам ад водных рызыкаў я перайшоў да сухапутных. Чарговым варыянтам развітацца з жыццём сталася гульня на будоўлі, дзе мне на галаву звалілася сапраўдная цагліна. Гойсаючы па будпляцоўцы, пасля таго як сышлі работнікі, мы мала клапаціліся пра бяспеку. І вось, сарваўшыся з недабудаванага ўчастка сцяны, цагліна паляцела на сустрэчу з маёй галавой. Выратавала тое, што на сваім шляху яна некалькі разоў чаплялася за нейкія перашкоды і істотна збавіла хуткасць. Але ўсё адно ў выніку яе ўдару на галаве з'явіўся нават не гузак, а здаравенная мяккая пухліна. Прытомнасць я не страціў, а больш за тое, адчайна спалохаўшыся, стаў маланкава меркаваць, што рабіць. Успомніў, што трэба прыкладаць халоднае — паляцеў у арык і ўткнуўся галавой у ваду так глыбока, як змог. Мне падалося мала, і я стаў браць халодную гліну з дна і прыкладаць яе да галавы. Гліна, відаць, была не толькі халодная, але і гаючая — галава балець перастала, а праз тыдзень і пухліна цалкам сышла…



# Мае прыгоды

Згадваючы прыгоды дзяцінства, скажу адразу, што мае выпадкі былі далёка не ўнікальнымі і не выключнымі. У нашым пасёлку было багата дзяцей. Многія сем'і былі шматдзетнымі, і сяброў-аднагодкаў у мяне было шмат. Дарослыя былі на працы, а ніякіх піянерскіх лагераў там, на шчасце, не існавала, і мы, дзеці, увесь вольны час праводзілі самастойна. Не дзіва, што час ад часу мы траплялі ў рызыкоўныя сітуацыі, якія сучаснаму збэшчанаму звышапекай пакаленню могуць падацца задужа небяспечнымі, хаця насамрэч мы проста жылі поўным жыццём шчаслівага дзікунскага кшталту. Пазбаўленыя прымусовых гурткоў і секцыяў, мы самі прыдумлялі сабе забаўкі.

З ранняй вясны пачыналіся гульні ў ножыкі. Гульня простая: на зямлі малявалі круг, яго дзялілі на палову, па чарзе ўдзельнікі кідалі ножык на зямлю саперніка. Калі ножык утыркаўся лязом у глебу, то кідок лічыўся рэзультатыўным і ад «зямлі» саперніка адразалі кавалак. Але тут трэба было быць асцярожным і адразаць ад чужой зямлі невялікія кавалкі, бо калі ножык утыркаўся далёка і да яго нельга было дацягнуцца, ход пераходзіў саперніку. Так адзін павялічваў сваю тэрыторыю, а той, хто цярпеў паразу, страчваў, ажно пакуль не заставаўся стаяць на адной ножцы.

Ад мясцовых мы перанялі гульню ў алчышкі. Алчышка — гэта костка з каленнага сустава авечкі. Калі кідаеш костку, яна, спыняючыся, становіцца ў нейкае пэўнае палажэнне. Кожнае мела назву і адпаведны ранг у гульні. Зваліся станы: алчы, табан, чыка, пука. Самае лепшае палажэнне — алчы, яно перамагала ўсе астатнія. За ім ішоў табан, які браў чыку і пуку, а чыка біла толькі пуку. Былі адмысловыя методыкі падрыхтоўкі гэтых гульнявых костак. Ідэальна падагнаная костка з уцяжарвальнікам у выглядзе свінцовай пласцінкі звалася кірпан. Для таго каб займець такі якасны прадмет,

аматары гульні ішлі на розныя хітрыкі: шліфавалі косткі аб цэмент для надання правільнай формы, фарбавалі іх і г. д. Уладальнік неперраможнага кірпана быў паважаным чалавекам. Костачкі можна было купіць за дзве-тры капейкі, многія хлопцы нажывалі сабе сапраўдны капітал, выйграючы косткі сапернікаў і пасля прадаючы іх. Праўда, выйгрышны кірпан быў бясцэнны, з ім рэдка хто развітваўся па добрай волі.

Лянга — яшчэ адна гульня, што яднала нас незалежна ад узросту і нацыянальнасці. З авечай шкуры рабілася нешта кшталту валанчыка. Ён адмыслова ўцяжарваўся свінцом з аднаго боку і трымаў пэўную раўнавагу ў палёце і пры падзенні. Гэты снарад падбіваўся ўнутраным бокам ступака. Падбівалі так, каб валан быў заўсёды ў паветры. З кожным турам рухі, што рабіў гулец, ускладняліся.

Летам, калі наступала пара сухмені і гарачыні, мы гадзінамі не вылазілі з вады. Купаліся ад красавіка да кастрычніка. Месцаў для купання малечы мелася шмат, але было некалькі нашых улюбёных, дзе заўсёды збіраліся хлопцы. Плавалі мы ўсе як мінімум добра, а некаторыя дык і выкшталцона. Выхваляючыся адзін перад адным, мы скакалі ў ваду з высокага берага, плавалі на хуткасць, спаборнічалі, хто даўжэй пратрымаецца пад вадой ці пранырне большую адлегласць. Такія нашыя ўменні ніяк не ацэньваліся са спартовага боку, там не існавала секцый і спартшколаў, ніхто нас не падымаў на п'едэстал і не даваў граматаў, усё гэта лічылася звычайнай справай для падшпаркаў майго часу. Толькі па вяртанні ў Беларусь у 1973 годзе мне давялося неяк ацаніць свае навыкі, калі, пабачыўшы ўпершыню ў маладзечанскай спартшколе дваццаціпяціметровы басейн, я на спор пранырнуў яго туды-назад чатыры разы. А калі быў заплыў на 100 метраў на хуткасць, я адразу выканаў нарматыў першага дарослага разраду.

Згадваючы нашыя гульні, адзначу, што дзяўчатаў у нашыя хлапечыя кампаніі мы не бралі, бо ў нас ішлі мужчынскія размовы і сур'ёзныя высвятленні стасункаў. Канешне, і



кампанія была не адна, а некалькі. Нельга сказаць, што яны варагавалі між сабой, але саперніцтва існавала дакладна. Бойкі здараліся зрэдку, больш высвятлялі перавагі па-іншаму: хто пераможа ў футбольным матчы, хто зловіць больш рыбы і гэтак далей. Тэмы такіх спаборніцтваў часта ўзнікалі спантанна. Безумоўна, існаваў і свой кодэкс гонару. Не любілі тых, хто скардзіўся бацькам ці даносіў пра нейкія выпадкі настаўнікам. Даносчыку маглі ўпіхнуць у заплечнік вужаку ці ў той час, як ён купаецца, завязаць пакінутае на беразе трыко вузлом. Гэта было не абы-якое пакаранне! Моцна завязанае і туга зацягнутае парай хлопцаў трыко развязванню без старонняй дапамогі не паддавалася катэгарычна. У выніку некаторым небаракам даводзілася ісці дахаты без штаноў. Дарэчы, асабліва злоснаму ворагу на гэты туга зацягнуты вузел яшчэ і сікалі, каб не было магчымасці справіцца з вузлом з дапамогай зубоў…

Дзеля праўды варта адзначыць, што, варагуючы ці сябруючы, мы былі роўнымі. Амаль усе жылі ў адных умовах, і не было вялікай розніцы ў дастатку. У 1960-х большасць сем'яў жыла надзвычай сціпла, а некаторыя дык і зусім бедна.

Не дзіва, што многія нашыя гульні і забавы мелі практычную скіраванасць, а калі сказаць прасцей — былі пошукамі ежы. То мы лазілі па дрэвах і елі кветачкі акацыі, то дзяўблі ягады шаўкавіцы і джыды, то жавалі маладыя парасткі рагозу, то лавілі рыбу, а то рабілі рабаўнічыя набегі на бахчы ды кукурузныя палеткі. Ранняй вясной баба Зіна рвала лебяду і гатавала суп ці збірала паслён на варэнікі. Ежы ўжо хапала, але ў побыце заставаліся звычкі, што раней дапамагалі выжываць.

Паколькі ніхто з нас нічога не чуў пра паляўнічую інспекцыю ў нашых краях, у дванаццаць-чатырнаццаць гадоў многія з нас добра стралялі і хадзілі на паляванне са старэйшымі ці нават самастойна. У майго таты была курковая дубальтоўка ТОЗ-16, а ў мяне — аднаствольная ІЖ-17. Паляванне было яшчэ адным нашым вялікім захапленнем.

Звычайна мы хадзілі на вадаплаўную птушку: крыжанку, чырка, лысуху на вечаровых пералётах. Бацька страляў трапна, але і мне часам удавалася падстрэліць крыжанку, якая, у адрозненне ад чырка, лётала невысока і не так хутка. Палявалі і на фазана, але яго імклівы ўзлёт проста з-пад ног і хуткі лёт нізка над зямлёй пакідаў неспрактыкаванаму стралку не шмат шанцаў. Паляваць на гусей мяне не бралі… Дарослыя хадзілі яшчэ на больш адказныя і складаныя тэхнічна паляванні: на дзіка ў тугайных зарасніках і на сайгака ў далёкі стэп, — але гэта былі выправы толькі для сапраўдных дарослых адмыслоўцаў.

Куды больш даступнай была рыбалка. Рыбу лавілі круглы год, прычым усімі вядомымі прыладамі і спосабамі. Вудамі, донкамі, восцямі, брадніком, ставілі нераты ўсіх відаў. Рыбы было багата і на любы густ. Вадзіліся ў тамтэйшых вадаёмах сазан, шчупак, сом, жэрах, лешч, вусач. Дробнай рыбы, такой як плотка, краснапёрка, пячкур, было безліч.

Што і казаць — тамтэйшая рыбалка была цудоўнай, як і нашыя рыбалоўныя ўгоддзі. Каналы, арыкі, сажалкі, старыя рачныя рукавы.

Сама магутная Сырдар'я была ад нас прыблізна ў пятнаццаці кіламетрах, але пойма яе была зарослая тугайным лесам і трыснягом. Дабрацца да яе берагоў было вельмі цяжка, а месцамі і немагчыма. Паколькі вытокі ракі знаходзіліся высока ў гарах Цянь-Шаня, разлівы пачыналіся вельмі позна: у канцы вясны — пачатку лета, калі раставалі леднікі ў гарах. Рака пачынала несці вялікую ваду, падобную па колеры і кансістэнцыі да шакаладу. Вада разлівалася па пойме — запаўняла старыцы, нізкія месцы, лагчыны, — і тады ў нас пачыналася паляванне з восцямі. Кожны меў іх некалькі, з пяццю, сямю, а некаторыя нават з дзевяццю зубцамі. Але справа была не ў зубцах, а ў спрыце! І яго нам не бракавала. Мы хадзілі па плытkіх месцах і сачылі, ці не зварухнецца дзе чароціна. Калі рух назіраўся, вызначалі, што там ёсць рыба. Павольна падыходзілі і кідалі восць. Траплялі, канешне, не так і часта, але адрэналіну было звыш меры! Мы пачуваліся (ды і былі) сапраўднымі першабытнымі паляўнічымі на прасторах некранутай прыроды.

Улоў з гонарам неслі дадому. Рыба была добрым дадаткам да стала. Для некаторых бедных сем'яў яна складала значную частку рацыёну. Здабыць яе было не проста пачэсна, але і неабходна. Памятаю, як вечна галодныя Кучынюковы хлопцы, калі бацька з балтухай хадзіў па канале, суправаджалі яго па беразе з мехам. Старэйшыя дапамагалі, а самы малы хадзіў па беразе і ныў. Яго дражнілі: *«Саня — гэта наша рыба!»* Ён нерваваўся, злаваўся, урэшце пачынаў усхліпваць і паўтараў з выклікам, шморгаючы носам: *«Гэта наса іййба! Мы паймайі, мы забіём!»*

Малыя пачыналі спасцігаць навуку рыбалоўства з печкуроў і гамбузіі. Гамбузія — акліматызаваная ў Сярэдняй Азіі рыбка з Амерыкі, якая з'ядае лічынак малярыйных камароў. Для чысткі каналаў ад расліннасці там быў акліматызаваны таксама і белы амур — рыба з Далёкага Усходу. У 1960-х у нашых мясцінах з'явіўся жудасны драпежнік — змеегалоў. Ён лёгка перамагаў усе аўтахтонныя віды і хутка замацаваўся на вяршыні харчовага ланцужка, адолеўшы ўсіх канкурэнтаў. Сама рыба расла хутка і была смачнай, таму здабыць такую істоту лічылася рыбалоўскім поспехам і праявай спрыту. Са змеегалова, які амаль не меў дробных костак, да ўсяго атрымліваліся добрыя катлеты. Мы, малыя хлопцы, асабліва цікавіліся гэтай рыбінай яшчэ і таму, што нас дзівілі і палохалі ягоныя нязвыклыя ўласцівасці. Справа ў тым, што змеегалоў быў жывучы, лёгка пераносіў прабыванне ў любой лужыне, калі тая высыхала, перапаўзаў з месца на месца і наогул быў надзвычай непатрабавальным ды да ўсяго падобным да вялікай змяі…

Будучы блізкімі да прыроды, мы, хлопцы тых далёкіх шасцідзясятых, усе ў той ці іншай ступені былі заолагамі і батанікамі. Адарваныя ад тагачаснай гарадской цывілізацыі, мы праводзілі ўвесь вольны час ва ўлонні прыроды і з самых малых гадоў спасцігалі свет вакол сябе не па падручніках, а бралі веды з непасрэднага ўласнага жывога вопыту, непаўторнай асалоды штодзённага назірання і ўзаемадзеяння з прыродай. Мы былі адначасова ахоўнікамі і браканьерамі, першаадкрывальнікамі і знішчальнікамі дзікай прыроды Сярэдняй Азіі, мы былі ў нечым нават яе часткай, і таму ўспаміны пра яе жывуць у маім сэрцы дасюль.

Працягну гэтак блізкую мне тэму жывёльнага свету і расповед пра прыроду Сярэдняй Азіі, якая засталася ў маёй памяці яркай старонкай, да якой я неаднойчы вяртаўся ў сваіх успамінах і якой хачу падзяліцца з вамі.

Сярод істотаў, што ўдала акліматызаваліся ў Сярэдняй Азіі, апроч рыбінаў, былі і многія млекакормячыя. Напрыклад, андатра і нутрыя. Яны лёгка прыжыліся і сталі шматлікімі насельнікамі берагоў вадаёмаў. Прафесійнай здабычай гэтых звяркоў займаўся адзін тамтэйшы паляўнічы — беларус Мініч з-пад Пінска. Ён нідзе афіцыйна не працаваў, але жыў са свайго промыслу. З дапамогай пастак і іншых хітрыкаў ён адлоўліваў звяркоў і прадаваў іх шкуркі. Калі мы раптам неяк выпадкова здабывалі такога звера (яны часта траплялі ў нашыя рыбалоўныя прыстасаванні), то неслі Мінічу і атрымлівалі ад яго грошы. Такі выпадковы заробак для нас, падшыванцаў, быў вялікай удачай.

Ваколіцы нашага паселішча кішэлі змеямі. Большасць з іх была не ядавітымі — полазы, вадзяныя вужы, пясчаныя ўдаўчыкі. Зрэдку сустракаліся ядавітыя — гюрза і эфа. Гэтыя змяюкі былі вельмі небяспечнымі для чалавека. На жаль, змеі цярпелі ад нас непараўнальна больш, чым мы ад іх, бо тагачасная людская прымхлівасць мела на ўвазе абавязковае знішчэнне сустрэтага на шляху гада.



Ці дзіва, што ў свеце людзей, якія жывуць у такіх шчыльных стасунках з дзікай прыродай, вялікае месца адводзіцца расповедам пра яе? А дзе расповеды, там і байкі, а ў тамтэйшых рыбакоў і паляўнічых меліся і свае легенды.

Адной з найбольш прыгожых і страшнаватых была легенда пра невядомую вадзяную пачвару, што вылавілі на старыцы Сырдар'і.

Было гэта так. Мужыкі аднойчы лавілі рыбу на глыбокім старыку, што згубіўся ў тугайных зарасніках непадалёк ад ракі. Атабарыліся на беразе, расклалі цяпельца і сядзелі, адпачываючы, як раптам з глыбіні пачалі падымацца дробныя бурбалкі газу ды пачало ўсплываць нешта накшталт вялікага карча. Прадмет ці істота была як бервяно з нейкай страшнай штукай наверсе — аплеценая водарасцямі і цінай, яна не была падобная ні на што вядомае ў фаўне тых краёў. У здранцвенні мужыкі назіралі за тым, як істота павольна ўсплыла, пабыла на паверхні і гэтак жа павольна пачала апускацца на дно. Апомніўшыся, нехта зрабіў стрэл у яе бок, але было позна — шрот пырснуў па паверхні, не закрануўшы невядомае страшыдла. Назаўтра да вадаёма сабралася грамада, узброеная сеткамі, восцямі, стрэльбамі, і стала пільнаваць. Ізноў пад вечар пачвара ўсплыла. Усе кінуліся на яе і ўпалявалі!

Выявілася, што гэта быў велічэзны стары шчупак, на спіне якога сядзеў памерлы арол. Сталася так, што калі рыбіна адпачывала недалёка ад паверхні, драпежнік вырашыў атакаваць яе, кінуўся ўніз, упіўся кіпцюрамі ў спіну, але… не разлічыў сілаў і не даў рады падняць здабычу ў паветра. Наадварот, рыбіна, што выявілася мацнейшай за нападніка, здолела зацягнуць яго пад ваду. Птушка задыхнулася, але кіпцяў вызваліць не здолела. І ахвяра, і паляўнічы засталіся разам… Праз пэўны час немагчымасць паляваць і працэсы гніення ў птушынай тушцы пачалі вымушаць знясіленую

рыбіну ўсплываць на паверхню. Гэты дзіўны выпадак і агледзелі людзі…

А колькі было гісторый пра велізарных самоў, якія былі настолькі агромністымі, што іх даводзілася выцягваць з дапамогай вярблюдаў!..

Таксама старыя паляўнічыя распавядалі, што некалькі дзесяцігоддзяў таму ў нашых тугаях жылі тыгры. Толькі пазней я дазнаўся, што і сапраўды ў савецкай Сярэдняй Азіі яшчэ да 1940–1950-х сустракаліся асобіны рэдкага, а на сёння зусім зніклага туранскага тыгра, які на мове мясцовага насельніцтва называўся «джульбарс». У маім дзяцінстве іх, канешне, там ніхто ўжо не бачыў, а «джульбарс» застаўся толькі папулярнай мянушкай мясцовых сабакаў…

Вось так мы і жылі. Схаваныя на далёкай ускраіне краіны саветаў, мы былі самі па сабе. Наш кут абміналі ўсе вялікія падзеі таго часу. Адно, што было вядома пра нашую мясцовасць, — вялікія ўраджаі бавоўны, знакамітыя гатункі дыняў, а таксама ташкенцкі землятрус 1966 года і золата Аляксандра Македонскага (пра яго колькі словаў скажу пазней).

Землятрус, які моцна пашкодзіў сталіцу савецкага Узбекістана Ташкент, адчуваўся і ў нашай мясцовасці (за семдзесят кіламетраў). Затрэслася зямля, загайдаліся будынкі, зазвінела шкло. Людзі ў сполаху выбеглі на вуліцу. Вялікіх разбурэнняў наш пасёлак не зазнаў, але ў нашай хаце над уваходнымі дзвярыма з'явілася вялікая расколіна…



# Школа

Якім захапляльным ні быў свет азіяцкай прыроды, час ад часу нам, малым, даводзілася адрывацца ад яго і ісці вучыцца. Таму згадаю колькімі словамі маю школу, вучняў і настаўнікаў.

Школьным будынкам у нашым пасёлку была перароблeная саўгасная кантора. Гэта быў каркасна-шчытавы г-падобны ў плане будынак з уваходам у цэнтры, з невялікім



• *Таццяна Сцебурака, вучаніца 3-га класа. 1969 г.*

фае, настаўніцкай, доўгім калідорам і вучэбнымі класамі на два бакі. Самы вялікі па памерах клас рабіўся часам і актавай залай, калі парты ссоўвалі ў кут і ставілі адна на адну. Спартовай залы не было, і такога прадмета, як фізвыхаванне, не было. Як, дарэчы, і працоўнага навучання ды малявання. На тое былі свае прычыны: вучні атрымлівалі азы працы і спорту на саўгасных палетках.

На школьным ганку, які падтрымлівалі дзве драўляныя калоны, вучняў у пачатку дня сустракала прыбіральшчыца Тэрэза Гесэль — паволжская немка, жанчына перадпенсійнага ўзросту. Яе цікавіў найперш наш абутак: калі ён бываў запэцканы глінай, прымушала ісці мыць пад калонку — як усе немкі, яна была ўзорнай чысцёхай. Спраўдзіўшы чысціню абутку, яна сачыла за тым, каб мы не бадзяліся па школе да заняткаў.

У школьны калідор і класы яна запускала нас за пяць хвілін да званка. Да гэтага мы лёталі па двары. Хто прыходзіў вельмі рана, атрымліваў вымову: *«Чаму вы так рана папрыходзілі? Вы што, думаеце, я тут вас мармеладам карміць буду?»* Калі адчыняліся дзверы, мы, як статак бізонаў, урываліся ў калідор з такім ровам, што ледзь не сыпалася тынкоўка са сценаў… Вучыліся ў дзве змены. Старэйшыя — зранку, малодшыя — у другую змену.

## Аднакласнікі

Вучнямі ў маім класе былі як мясцовыя — казахі, таджыкі, узбекі, — так і рускія, украінцы, беларусы, грэкі, немцы, карэйцы. Жылі па-сяброўску, вучыліся і гулялі разам, але кожны меў свой пах. У прамым сэнсе. Валасы дзяўчат казашак і ўзбечак, што адмыслова запляталіся ў маленькія коскі, пахлі малочнай сыроваткай, бо яны абмывалі ёй валасы пасля мыцця. Ад карэйцаў патыхала сырой рыбай. Грэкі пахлі фасоляй, а таджыкі — дымам ад адкрытых агменяў сваіх жытлаў.





• *Аднакласнікі. Рудольф Шумахер, Мікола Сцебурака, Бахан Абіеў. (Жартам наша кампанія звалася США — па першых літарах прозвішчаў.) 1967 г.*

Грэкі вучыліся зазвычай досыць слаба. Таджыкам наогул савецкая адукацыя амаль не давалася, а ў школу яны хадзілі толькі таму, што «так было трэба». Астатнія вучыліся па-рознаму.

Выкладанне ў нашым Вавілоне вялося, канешне, па-руску. У пачатковых класах у нас было дзве настаўніцы. Спачатку выкладала Скачкова Паліна Лаўрэнцьеўна, руская, патомная настаўніца і добры чалавек, а затым грачанка Соф'я Анастасаўна Папандопула. Яна выкладала і завочна вучылася ў педвучэльні. Была, як памятаецца мне, жанчынай нервовай, з вучнямі не цырымонілася — давала поўхі і біла лінаркай. Згадваючы гэтую настаўніцу, прыпамінаю такі эпізод.

У той час у школе вучні павінны былі абгортваць не толькі кнігі, але і сшыткі. На абгортках трэба было пісаць, напрыклад: «Тетрадь по арифметике ученика второго класса Вовы Гаряева». Дык вось дзяўчынка, што сядзела перада мной, грачанка Нопіца Петрыдзі, напісала на сшытку так: «*Петрадь* по арифметике ученицы второго класса Нопіцы *Тетриди*». Разгледзеўшы смешную памылку, я без задняй думкі паведаміў пра гэта настаўніцы. Раззлаваная вучыцелька парвала абгортку сшытка беднай дзяўчынкі, а тая расплакалася… Гэты выпадак адвучыў мяне быць даносчыкам назаўсёды.

Пісалі мы пёравымі ручкамі, абмакваючы пяро ў каламарневылівачку. Вучням школы па тагачасных правілах патрабавалася мець пяро з зорачкай. Але некаторыя даставалі «нерэкамендаваныя» пёры з крыжыкам ці ромбікам, якія пісалі танчэй. Пяро з крыжыкам было ў Хрыстафора Цульфы. Да таго ж атрамант быў у яго фіялетавы, але з залатым адлівам! Ён сядзеў другі год у другім класе і ад нуды на ўроках да літар і лічбаў выдумляў адмысловыя закаручкі. Лічбу «9» ён рабіў падобнай да прапіснай загалоўнай **Р**, а націск пяра рабіў дзе заўгодна, таму знакі атрымліваліся дзіўныя і цікавыя. Лічба «2» у яго наогул нагадвала вензель і выклікала ўсеагульнае захапленне.

Незвычайныя пёры рабіліся аб'ектам цікавасці і прагі валодання. Паколькі проста купіць іх не было дзе, то іх трэба было здабываць. Напрыклад, пяро можна было выйграць.

Гульня ў пёры была простай. Пяро клалі на край стала і іншым паддзявалі так, каб яно падляцела і, перакуліўшыся, упала дагары нагамі. Перакуленае пяро лічылася выйграным і забіралася.

Непаўторным майстрам такой гульні быў Сафін Рым. За ім, як нітачка за іголачкай, бегала сястра-блізнятка Рыма Сафіна. Яны вучыліся з намі адзін год. Былі заўсёды аднолькава брудныя, вясёлыя і галодныя. На нагах у абаіх былі



ссохлыя пакарабачаныя кірзачы з дзюрамі на насах і на ўсіх складках. Гэтыя іхнія боты ніколі не бачылі ані гуталіну, ані шчоткі.

У разгар эпідэміі гульні ў пёры ў Рыма і Рымы былі поўныя кішэні выйграных трафеяў. Яны іх ахвотна прадавалі па дзве капейкі за штуку, а грошы адразу ж пускалі на пончыкі і піражкі. Дарэчы, піражкі гэтыя рабіліся тут жа ў школе. У бакоўцы стаяла цётка пры казане, у якім кіпеў алей. Адразу ж на вачах школьнікаў яна кідала цеста ў казан, праз некалькі хвілінаў даставала, пасыпала трошкі цукровай пудрай і прадавала. Свежыя, з пылу з жару, яны мелі непаўторны смак і пах.

Каларытным персанажам быў у маім класе і Коля Галавін (патомак хапёрскіх казакоў). Ён быў адметны тым, што мог давесці да шаленства нервовую настаўніцу толькі адной фразай. Спазняючыся на ўрок, ён грукаў у дзверы і пытаўся: *«Можно присесть?»* Соф'я Анастасаўна закіпала як імбрык: *«Что такое присесть? Как это присесть! Нужно сидеть и учиться! Марш на место!»*

Да хлопчыка-грэка Іраклія прыляпілася мянушка Ірыкпарсючок. Не з-за паводзінаў і манераў — хлопец ён быў цалкам неблагі. Але знешне ён быў пульхны і чырванатвары — гэтая асаблівасць выгляду і стала прычынай «парсючынасці» ягонай мянушкі. На яе Ірык адгукаўся і не крыўдаваў, але яго тата ў мужчынскай кампаніі часам задаваў рытарычнае пытанне: *«Калі мой сын парсючок, то хто тады яго бацька?»*

Апроч вучобы, у нашай школцы кожны павінны быў браць удзел у мастацкай самадзейнасці. Развучвалі і выконвалі песні ды танцы народаў СССР. Часцей чамусьці ўкраінскія, малдаўскія і мясцовыя. Напрыклад, у абавязковай праграме была андзіжанская полька. Таксама амаль заўсёды дэкламавалі вершы. Здольныя вучылі на памяць вялікія творы, а для астатніх, каб уцягнуць у працэс максімальную колькасць вучняў, існаваў літмантаж.

Была ў той час у асаблівай модзе тэма космасу. Бралі касмічны верш, кожнаму раздавалі па страфе і прымушалі вучыць. Мы з Рудзікам Шумахерам лёгка вывучвалі і свае страфы, і чужыя. А вось Воля Семыкіна не магла даць рады нават сваім радкам. Пры адным прагоне яна забывалася іх, пры другім блытала радкі месцамі, пры наступным вымаўляла словы з усімі магчымымі памылкамі. Чамусьці замест «родная» ў яе атрымлівалася «роднава», замест «поздравляю» — «поздравлява» і г. д. Гэтыя смешныя памылкі выклікалі нястрымны рогат у класе, істэрыку Соф'і Анастасаўны і бясконцыя прагоны літмантажу.

Часта праводзіліся агульнашкольныя і піянерскія лінейкі, на якіх мы ўрачыста абяцалі вучыцца, працаваць і жыць, як «завяшчаў вялікі Ленін і вучыць родная камуністычная партыя». На гэтых мерапрыемствах біць у барабаны, несці піянерскі сцяг і асіставаць сцяганосцу давяралі самым лепшым. А вось у горн заўсёды дудзеў двоечнік Кулдас Джумабаеў толькі праз тое, што ў аднаго яго хапала сілы выводзіць мелодыю. У моманты выканання твар дудара пунсавеў, на стрыжанай налыса галаве надзімаліся вены, і нам штораз рабілася страшна — ці не лопне Кулдасава галава?

Апроч дудзення, Кулдас меў яшчэ адзін адметны талент — умеў праколваць іголкай шчаку, глытаць суровую нітку і далей высморкваць яе праз нос…



## Бавоўна

З пятага класа мы, вучні, набывалі новы статус — «джардэмшы» (з узбекскага — «памочнікі»), і ў пацвярджэнне гэтага ў першай чвэрці — верасень–кастрычнік — нас цалкам здымалі з заняткаў на ручную ўборку бавоўны.

У нашым саўгасе раслі мексіканскі і індакітайскі гатункі. Гэта былі кусты метр — метр сорак вышынёй з цёмна-зялёнымі трох-пяціканцовымі лістамі. З вялікімі кветкамі крэмавага колеру, што распускаліся знізу ўверх, ад каранёў да макушкі. Расліна квітнела толькі адзін дзень, а праз месяц на ёй саспявала першая каробачка. На кусце такіх каробачак было некалькі дзясяткаў. Каробачка раскрывалася, у ёй выспявала восем-дзевяць семачак, пакрытых бавоўняным валакном, — вось яго мы і збіралі.

Кожнаму навучэнцу выдаваўся адмысловы фартух, што падвязваўся на шыі і поясе і меў выгляд вялікай торбы-кенгуру. Прысвойваўся асабісты нумар зборшчыка. І мы ішлі на палеткі. Праца была нуднай і надзвычай аднастайнай: зборшчык ішоў паміж доўгімі радамі і збіраў бавоўну, складаў у фартух — і так цэлы дзень без канца.

Калі набіраўся поўны фартух, неслі на вагавую. Яго ўзважвалі, вынік запісвалі на асабісты нумар. Я свае нумары запомніў на ўсе жыццё: у пятым класе — «алпыс торт» — шэсцьдзясят чатыры; а ў шостым — «токсам быр» — дзевяноста адзін.

Ручны збор даваў самую высакаякасную бавоўну. Была і ўборка камбайнамі, але яна саступала ручной працы па якасці, і да таго для механічнай уборкі палі напярэдадні трэ было апрацоўваць дэфаліянтамі, каб ліст ападаў і не трапляў разам з бавоўнай у машыны. Машыны па ўборцы бавоўны выраблялiся на заводзе «Ташсельмаш». Гэта былі вертыкальна-шпіндальныя двух- і чатырохрадныя самаходныя бавоўнаўборачныя камбайны. Кожная такая машына



• *Ручны збор бавоўны. 1960-я гг.*

замяняла працу трохсот зборшчыкаў, але праходзіла яна не вельмі чыста. За камбайнам паўторна ішлі зноў-такі мы і збіралі «курак» — рэшту.

Дадам, што за ўсе гэтыя пакуты ў дзень можна было зарабіць каля аднаго рубля.

Так мы «вучыліся» ўсю першую чвэрць. Гэтак жа з навучальнага працэсу знікала і чацвёртая чвэрць — нас здымалі на праполку і прараджванне бавоўны. Апроч таго, мы нарыхтоўвалі тутавыя галінкі для харчавання шаўкапрада. Тутаўнікам, ці шаўкоўніцай, была абсаджаная большасць арашальных каналаў.

Калі нашая школа атрымала разнарадку па развядзенні гэтага вусеня на патрэбы новай задачы, былі вызваленыя два класы ў будынку школы. З іх выкінулі парты і ўсё начынне, па сценах зрабілі паліцы, на іх расклалі тутавыя галінкі і пасялілі вусеня. Ён еў-еў-еў, а галінкі падкладаліся. У выніку на самых верхніх сыты вусень ствараў кокан з той самай каштоўнай шаўковай ніткі. Коканы збіралі і здавалі.



У выніку вучыліся мы толькі палову адведзенага часу і за дзве чвэрці павінныя былі адолець усю гадавую праграму. Канешне, гэта было нерэальна. Таму мы ўсе вучыліся па вярхах і прапускалі цэлыя тэмы.

## Настаўнікі

Педкалектыў нашай школы таксама заслугоўваў асобнай увагі. Ён быў надзвычай стракатым: ад учарашняй выпускніцы нашай жа школы да кандыдата фізіка-матэматычных навук.

Рускую мову і літаратуру выкладаў сам дырэктар школы. Ён быў добрым і справядлівым чалавекам. Адно што паруску ён размаўляў з вялікім акцэнтам, бо быў з мясцовых казахаў. Геаграфію выкладала тэхнолаг-кандытар. Аднойчы яна выгнала мяне з класа за спрэчку наконт таго, якая гара ў свеце самая высокая — Джамалунгма ці Эверэст. Настаўніца не ведала другой назвы, а я вычытаў яе ў энцыклапедыі і вырашыў пахваліцца сваімі ведамі…

Батаніку вёў карэец Кім Іван Васільевіч. Выдатны спецыяліст з сапраўдным універсітэцкім дыпломам. Фізіку выкладаў Чудзінаў Уладлен Пятровіч. Выкладаў добра, але меў папулярнасць у нас найперш не за веды, а за тое, што ўмеў на гімнастычных снарадах выконваць амаль цыркавыя трукі. Матэматыкам быў Уцягенаў Ісраіл Ікматавіч, казах. У мінулым выкладчык Ташкенцкага ўніверсітэта, кандыдат фізіка-матэматычных навук. Калі матэматыка была першым урокам, гэта быў поўны жах — двойкі сыпаліся налева і направа. Але потым сітуацыя кардынальна мянялася, бо ў восем трыццаць адкрываўся шапік, дзе на разліў прадавалі спіртное. На першым перапынку Ісраіл Ікматавіч спяшаўся туды, выпіваў сто грамаў гарэлкі, і пачынаючы з другога ўрока матэматыка губляла сваю небяспечнасць. Настаўнік рабіўся лагодным, бліскуча тлумачыў матэрыял, дасціпна жартаваў і выпісваў

складаныя формулы, стоячы амаль спінай да дошкі. Нават калі вучань не мог прамовіць ніводнага слова ў адказ на зададзенае пытанне, ставіў тры балы. Калі пыталіся, чаму так паблажліва, тлумачыў: *«Ну, вучань выйшаў да дошкі, стаяў, думаў. Проста не змог сфармуляваць»*.

У пятым класе мы пачалі вучыць нямецкую мову. Прадмет выкладала Венера Кім, піянерважатая, што правaліла экзамены ў педінстытут. У шостым класе мова змянілася на французскую, бо настаўніца нямецкай з'ехала, а Алайдараў, дыпламаваны спецыяліст, якога нейкія сямейныя звадкі зрабілі перакаці-полем і закінулі выпадкова ў нашую глухмень, валодаў гішпанскай і французскай. Ён часцяком складаў кампанію Ісраілу Ікматавічу каля піўнога шапіка. Праз год і ён гэтак жа хутка знік, як і з'явіўся.

Узровень атрыманых мной за першыя шэсць гадоў ведаў канчаткова ўпэўніў маіх бацькоў, што ніякай добрай адукацыі ні я, ні мая сястра не атрымаем і далейшы наш лёс наўрад ці складзецца ўдала. Гэтая сітуацыя са школай была адной з прычынаў, якія паўплывалі на рашэнне вяртацца ў Беларусь…

## Вяртанне

Пасля рэабілітацыі нашая сям'я дванаццаць гадоў пражыла ў Сярэдняй Азіі. Нельга сказаць, што мы не хацелі вяртацца. Але пачаць усё нанова было няпростай справай. Мы доўга раіліся, пісалі сваякам на радзіму, пыталіся, як і што там. У 1963 годзе бацькі, узяўшы мяне, паехалі ў БССР, каб пабачыць усё на свае вочы.

Адолеўшы доўгую дарогу, мы ўпэўніліся ў тым, што і так ведалі: на жаль, нас тут ніхто не чакаў. Пра вяртанне канфіскаванага ці пра нейкія кампенсацыі не ішло і гутаркі. Пабыўшы пэўны час у гасцях у сваякоў і родных, мы вярнуліся назад. Але думка пра пераезд ужо не пакідала бацькоў.



Яны меркавалі, як найлепей уладкаваць жыццё на новым месцы, а я вёз у Казахстан незабыўныя ўражанні ад першай сустрэчы з Беларуссю.

Усе гады, праведзеныя на чужыне, Беларусь для мяне была нечым легендарным, прыцягальным і дзіўным, хоць і ў значна большай ступені эфемерным, чым рэальным. Рыхтаваўся я да сустрэчы з ёй з трывогай. Чым больш я дазнаваўся пра яе, тым больш незвычайным краем яна мне падавалася. У інфармацыі пра Беларусь мяне здзіўляла літаральна ўсё: шматлікія чыстыя і, галоўнае, празрыстыя рэкі, неабсяжныя векавыя лясы, непраходныя балоты. Палохалі і аповеды пра суровыя беларускія зімы. Так, баба Зіна аднойчы ўзарвала маю свядомасць такой выпадковай рэмаркай: *«У Беларусі як начысціў боты раз — так усю зіму і прахадзіў у бліскучых!»* Я здзіўлена спытаўся: *«Як гэта? А пыл і бруд?»* На што баба адказала: *«Дурны ты, які ж пыл і бруд? Там жа снег увесь час ляжыць узімку!»*

Не давалі спакою думкі — як сустрэнуць мяне ў новай школе, ці завяду новых сяброў? На зробленыя на ўборцы бавоўны грошы я купіў храміраваны круглы кітайскі ліхтарык на дзвюх батарэйках, гадзіннік з металічным бранзалетам і кітайскія кеды, якім не было зносу (нават у канцы шасцідзясятых у Сярэдняй Азіі было шмат кітайскіх тавараў — махровыя ручнікі, тэрмасы і інш.).

Увесь гэты хлапечы скарб я склаў у тумбачку каля ложка і не дакранаўся. Толькі час ад часу паглядаў, ці ўсё на месцы. Калі пыталіся, чаму я гэтым не карыстаюся, казаў — гэта для Беларусі. Я рыхтаваўся да вяртання на гістарычную радзіму.

Тым часам пра пераезд падумалі не адныя мы.

Першымі, масава параязджаць на гістарычную радзіму пачалі грэкі. Выглядаў ад'езд грэчаскіх сем'яў урачыста і запамінальна. Перад ад'ездам чарговай сям'і яны выносілі пад дрэвы на вуліцу сталы, выстаўлялі закускі і віно, спя-

валі, а потым ладзілі нацыянальныя танцы. Тут я ўпершыню пачуў славутую мелодыю сіртакі Мікіса Тэадаракіса. Ён напісаў яе ў 1964 годзе, і гэтая мелодыя імкліва абляцела свет ды ў хуткім часе патрапіла ў тым ліку і ў нашыя Богам забытыя мясціны.

Грэкі сардэчна развітваліся з усімі і з'язджалі. Ехалі спачатку ў Адэсу, а адтуль на параходах — у Грэцыю. Адным з першых з'язджаў Міця-валацуга. У яго было восем дзяцей. Мянушку такую ён займеў пасля дэманстрацыі ў нашым клубе аднайменнага індыйскага кіно з Раджам Капурам у галоўнай ролі. Міця ў агульных рысах вывучыў песню з гэтага фільма, дзе быў прыпеў «абарая валацуга — я» і з задавальненнем паўсюль напяваў яе. У Адэсе, чакаючы параходу да Пірэя, ён змайстраваў нейкую харугву, пашыхтаваў пад яе сваіх дзяцей і, напяваючы песні, дэфіляваў па вуліцах Адэсы, рабіў прадстаўленні і так збіраў пачатковы капітал для новага месца. У нашых мясцінах ён быў самым бедным, а на новым месцы, казалі, яму ўдалося адкрыць кавярню.

Тыя, хто ад'язджаў, мала што маглі забраць з сабой. Пакідаючы СССР, людзі здавалі дзяржаве нават усе ордэны і медалі, калі такія меліся. Станоўчым момантам было тое, што аблігацыі ўнутранай дзяржпазыкі, якія добраахвотна-прымусова распаўсюджваліся сярод насельніцтва, можна было нарэшце памяняць на грошы. Аблігацый у грэкаў было мала, а ў нас багата. Частку з іх нам удалося памяняць праз іх за працэнт за паслугу…

За грэкамі паехалі ўкраінцы, за імі — беларусы. Пасля нас масава рушылі немцы.

Ад'езд у Беларусь мы прызначылі на чэрвень 1970 года. Нерухомасць і жывёлу прадалі, замовілі некалькі кантэйнераў, у якія і спакавалі маёмасць. Па чыгунцы яны выправіліся ў Беларусь. Частку рэчаў раздалі сябрам і суседзям.



У дзень перад ад'ездам зладзілі развітальны пачастунак. Нас праводзіў увесь пасёлак. З суседзямі і сябрамі развітваліся мае бацькі, да мяне таксама падышлі мае казахстанскія дружбакі. Я быў у прыўзнятым настроі — наперадзе мяне чакалі прыгоды: дарога, цягнік, прыезд у Беларусь. А мае сябры былі, наадварот, зусім без настрою, з вачамі поўнымі слёз. Я не мог пазнаць іх — сябрукі, якія ніколі не плакалі, абдзіраючы скуру з кален і локцяў пры падзенні з ровара, пры апёках ад вогнішча, пры гузаках ад боек, тут гатовыя былі расплакацца, як дзяўчаткі. Чаму?..

Гэта я зразумеў толькі праз тыдзень, калі, прыехаўшы на новае месца, агледзеўся і не пабачыў побач маіх дарагіх сяброў. Тады і я, у сваю чаргу, праплакаў два дні.

Потым адаптацыя пайшла досыць лёгка. Не сакрэт, што ўсе бакі жыцця ў СССР былі максімальна ўніфікаваныя: адны і тыя ж школьныя праграмы, падручнікі, кнігі, фільмы, нават адзенне і прадукты ў крамах былі амаль тыя ж. Нават у класе маладэчанскай СШ № 8, куды я трапіў, мяне сустрэў суцэльны інтэрнацыянал. Напярэдадні каля школы пабудавалі некалькі новых пяціпавярховікаў, у якія засялілі сем'і вайскоўцаў, што служылі ў краінах Варшаўскай дамовы. Таму ў нас вучыліся рускія, украінцы, татары, чувашы, мардвіны, літоўцы, эстонцы, комі-пермякі, габрэі, і толькі Цярэшка, Ліхтаровіч, Пятроўскі, Валасковіч, Вярынскі, як і я, былі беларусамі.

У Беларусі нас захапілі новыя справы і клопаты. Сябры і прыяцелі з далёкай Сярэдняй Азіі засталіся ў мінулым. Мы абжываліся, абзаводзіліся новымі знаёмымі, і лісты ў абодва бакі ішлі ўсё радзей.

## Замест эпілога

Гады праз тры пасля нашага ад'езду, у сярэдзіне 70-х, у нашым сярэднеазіяцкім пасёлку адбылася апошняя падзея, якая ўзрушыла і ўсхвалявала нашую сям'ю. Зусім недалёка ад Бальшавіка ў высокім падмытым беразе Сырдар'і абвал выявіў багатае на скарбы пахаванне ваяроў Аляксандра Македонскага. Менавіта ў тых мясцінах, як выявілася, легендарны палкаводзец вызначыўся не ісці на поўнач, а прыняў рашэнне рушыць на поўдзень у Індыю.

Пакуль справа дайшла да афіцыйных археалагічных даследаванняў, мясцовыя расцягнулі большую частку каштоўнасцей. Улады, дазнаўшыся пра гэта, выставілі нават вайсковае ачапленне ў тым раёне, але было позна…

Сярэдняя Азія паступова, аддаліўшыся ў прасторы і часе, аддалялася і ў нашых думках. Людзі, з якімі мы жылі побач доўгія гады там, тут, у Беларусі, рабіліся ўсё менш рэальнымі, а тое, што было часткай нашага жыцця, неяк няўлоўна і хутка станавілася толькі далёкім успамінам. Перагарнулася вялікая старонка кнігі жыцця, усё сталася іншым.

З часам нават назвы тых мясцінаў цалкам змяніліся: нашая вобласць стала Туркестанскай, райцэнтр Кіраўскае пераўтварыўся ў Асык-Ата і страціў статус райцэнтра, раён атрымаў назву Мактааральскі. Райцэнтры суседніх раёнаў таксама змянілі назвы: Ілліч стаў Атакентам, Славянка — Марзакентам, нашая цэнтральная сядзіба саўгаса «Бальшавік» стала звацца Зардэлі, пасёлак Кірпічны стаў Кемерам. Што тычыцца самой Туркестанскай вобласці — ёй стала надавацца ўвага як культурнаму цэнтру Казахстана, дзе некалі брала свой пачатак казахская дзяржаўнасць.

Іншай за гэты час зрабілася і нашая Беларусь.

Незваротна мінулі часы самастойнай і заможнай жыткі гаспадароў Сцебуракаў у фальварку Субачы. Абагуленая зямля трапіла ў калгас, будынкі большасцю былі разабраныя,



а ацалелыя трапілі ў чужыя рукі, на нашых сенажацях і лужках пасвіліся чужыя коні. Тутэйшых нашых сяброў і прыяцеляў раскідаў лёс — сувязі з многімі былі страчаныя назаўсёды. Мы вярнуліся ў іншую раку, якая несла ваду па новым рэчышчы…

У 2020 годзе ў час напісання гэтай кнігі ў Субачах застаўся апошні карэнны жыхар. Разбурыліся некалі моцныя хаты нашых суседзяў, здзічэлі і зніклі сады, палі сталі зарастаць хмызамі. Ад усёй нашай вялікай гаспадаркі напамінам на падворку застаўся мураваны склеп ды засохлая старая груша сапяжанка. Не стала і мясцовых людзей, што памяталі гаспадароў тамтэйшага фальварка. Толькі недалёка ад сядзібы застаўся прыгожы барок, які некалі гадаваўся і бярогся намі на меркаванае набыццё камянічкі ў Вільні. Людзі з суседніх вёсак і па сёння ходзяць туды ў грыбы і ягады. І, не памятаючы паходжання назвы, усё ж завуць яго, як і раней, — Сцебуракаў лес.

# На ўскрайку Іжанскай пушчы

## Паходжанне прозвішча

Паходжанне нашага прозвішча выклікае шэраг пытанняў. Яго небеларускае гучанне штораз выклікае шматлікія варыяцыі ці скажэнні ў яго вымаўленні і напісанні як зараз, так і ў мінулым. Гістарычныя дакументы зафіксавалі шмат варыяцый: Чэберак, Чэберака, Шчэберак, Шчэберка, Щеберака, Сцебурака, Сьцебурака, Сцеберака, Стебурако і інш. Самыя раннія з іх, сярэдзіны XVIII ст., гучалі наступным чынам — Szczebieraka (Шчэберака) і Czebieraka (Чеберака). Вывучэнне этымалогіі гэтага слова патрабуе асобнай гутаркі. Тым больш што яна дазволіць звязаць вытокі роду з магчымымі месцамі паходжання.

## *Балцкі след*

Так, археолаг і знаўца паганскіх камянёў Э. М. Зайкоўскі, лічыць, што прозвішча паходзіць з латгальскай мовы. У латышскім эпасе «Лачплэсіс» апетая скала Стабурагас, якая знаходзілася на беразе Дзвіны*. Гэтая вапняковая мыс-скала была сакральным месцам, з якім звязана шмат народных песняў і паданняў.




* Скала Стабурагас, затопленая падчас стварэння буйного вадасховішча на Даўгаве ў 1966 г.



Слова Стабурагас складаецца з дзвюх частак: «*stab*» — слуп, камень і «*ragas*» — рог.

У Мядзельскім раёне існуе вёска Сцебяракі, побач з якой знаходзіцца комплекс культавых камянёў. У прыватнасці, гісторык А. А. Прохараў прытрымліваецца думкі, што ў лесе каля в. Сцебярак схаваўся сапраўдны беларускі «*Стоўнхэндж*» — паганскае капішча, звязанае з салярным культам яцвягаў [6, с. 274]. Пра гэта сведчаць выявы рога-рытона і выразная арыентацыя валуноў на Нябесны кол (Палярную зорку)* [70; 69]. А. А. Прохараў таксама разглядае некалькі варыянтаў этымалогіі назвы в. Сцебяракі, сярод якіх ёсць агучаная намі латышская версія. (*«Название деревни Стебераки можно связать с латышским Staburags, мн. ч. Staburagi со сквозной этимологией от лат. stabs “столб” и rags “рог”. Следует указать и на лит. stabas “сакральный камень, идол”.*



• *Культавыя камяні каля в. Сцебяракі. 2007 г.*

* Паводле гіпотэзы А. А. Прохарава, гэты знак сімвалізуе Сусветны слуп, звязаны з Палярнай зоркаю, які трымаў нябесную гару балцкай міфалогіі, а таксама пазначаў рух душы памерлага ў верхні нябесны свет. «Першапачаткова знак меў паганскае паходжанне, а пасля мог суадносіцца з выявай крыжа на Галгофе ды ідэяй узнясення. Падобныя святыя або надмагільныя камяні з выявай нябеснай сферы станавіліся элементам, які звязваў розныя светы, умацоўваючы і адначасна ўвасабляючы касмічную суцэльнасць». (Скварчэўскі Д. Камяні з выявай знака ў выглядзе восі з паўсферай: да праблемы паходжання, арэала, класіфікацыі і датавання // Беларускі фальклор. Матэрыялы і даследаванні. — 2017. — Вып. 4. — С. 41–42).

*Весь семантический слой как раз соответствует каменному комплексу и его изображениям. Камни со сложными композиционными образами, частью которых был шест с полукругом, можно отнести к ряду сакральных камней стабосов у балтов»* [69].) Ускосна латгальскі характар назвы паселішча падтрымлівае балцкае прозвішча аднаго з першых жыхароў в. Сцебяракі яшчэ ў момант яе заснавання ў пачатку XVIII ст. — Згрунды [79].

## *Польскі след*

Аднак частае напісанне прозвішча ў XVIII ст. як Чэберака скіроўвае і яшчэ да аднаго следу. Бясспрэчная яго непасрэдная распаўсюджанасць у Польшчы. Фіксуюцца і супадзенні з назвамі тапонімаў, што прымушае ўсур'ёз разглядаць адпаведны кірунак*.

Польскі след вельмі праўдападобны, бо відавочна шырокае распаўсюджанне гэтага слова. Пра паходжанне прозвішча Чэберак разважае Л. Дацэвіч і прыходзіць да высновы, што яно хутчэй сялянскае, і, адпаведна, ставіць пад сумненне магчымасць з'яўлення сугучных тапонімаў ад яго: «*Носьбітамі прозвішчаў Чэбэрак, Гарошка былі сяляне, адтуль і адваротнае сцверджанне, што гэта назвы мясцовасцей Чэбэракі (Czeberaki) і Гарошкі паходзяць ад тых уласных прозвішчаў, можа абуджаць сумненні*» [5, с. 50]. Якое значэнне мела гэта слова? Адзін з магчымых варыянтаў — «*ceberak*» ад слова цэбар (від пасудзіны пляскатай формы з дзвюма ручкамі). Так, паводле даведніка «*Nazwy miejscowe Polski*» тапонім *Чеберак*/ *Чеберакі* паходзіць ад паланізаванага вымаўлення слова цэбар (маленькі цэбар — цэбарок («*ceberak — mały ceber*»)) [49, с. 203–204].

* Магчымы і чэшскі след. Так, *Šeberák*»— назва возера ў паўднёвым раёне Прагі, які з XIV ст. быў асобным паселішчам (па-нямецку Scheberau). Таксама прозвішча Сцефурак фіксуецца ва Украіне.



Як тапонім слова Czeberaki фіксуецца на Беласточчыне яшчэ ў XVII ст. У спісе парафій Падляскага ваяводства 1673 г. двойчы трапляюцца аднайменныя паселішчы (парафія Гуркі (Górki) — Czeberaki; парафія Росош (Rososz) — Czeberaki) [20, с. 105, 109]. Уладальнікамі аднайменнага паселішча на Беласточчыне былі шляхцічы Арэшкі, якія так і трапілі на старонкі дакументаў аб элекцыйных соймах Рэчы Паспалітай з прыдомкам Чэберакі («*Orzeszka z Czeberak Jan*») ці ў іншыя гістарычныя крыніцы («*Antoni Czeberak Orzeszko podstoli i marszałek piński*») [47, с. 256].

Як тапонім, так і прозвішча Czeberaki масава сустракаюцца і на Любельшчыне (у парафіі Востраў Любельскі)*. А на Сувалкаўшчыне існаваў гістарычны абшар — так званая губерня Шчэберска [11].



Згодна з гербоўнікам Т. Гайла, існавалі шляхецкія роды з прозвішчам Чэберака (Czeberako, Czebieraka), якія карысталіся гербам Кораб [9]. Ён выглядаў наступным чынам: у чырвоным полі залаты карабель з ільвінымі галовамі спераду і ззаду і мураванай вежай з зубцамі; клейнод — над прылбіцай з каронай такі ж карабель з вежай.

Але не толькі на Любельшчыне ды Беласточчыне фіксуецца ў мінулым і зараз прозвішча Чэберака. І на сучасных беларускіх абшарах гэта прозвішча сустракаецца з даўніх часоў. Яшчэ ў гарадзенскай пісцовай кнізе 1558 г. сказана пра Сымона ды Андрэя Чэберакаў (Czebierak), якія жылі ў Гродзенскай эканоміі ў вёсцы Новаволя (Шэмбелеўскай воласці (Nowowola, włość szembelewska))

* Фіксуюцца сугучныя тапонімы на Браслаўшчыне (Браслаўскі павет, гміна Рымшаны, в. Чэбэракі (Czeberaki)).

на асадным праве, сплачваючы за валоку 21 грош на год [67, с. 437]. А ў м. Палонка на Слонімшчыне ў часы Рэчы Паспалітай жыло шмат сямей з прозвішчам Чэберачкі.

Безумоўна, балцкі і польскі варыянты паходжання прозвішча з'яўляюцца ўзаемавыключальнымі. Аднак без дадатковых гістарычных крыніц немагчыма адназначна спыніцца толькі на адным з іх.

## Накіды да радаводу: згадкі, лакацыі, супярэчнасці

Гістарычныя крыніцы пра нашых продкаў на ранніх этапах, на жаль, досыць сціплыя. Першы выяўлены дакумент, дзе сустракаецца згадка пра Сцебуракаў, — «Пасямейныя спісы прыхаджан Іжанскай парафіі Даўгінаўскага дэканата Ашмянскага павета» 1765 г. [71, арк. 34 адв.]. Праведзены перапіс зафіксаваў імёны гаспадароў асобных хат і колькасць дарослых і малых жыхароў. Адпаведна яму, у невялікай вёсцы Пукалы было шэсць падворкаў. Чатыры належалі Пукалам (Мацею, Максіму, Пятру і Васілю), а два — Сцебуракам (Іллюку і Пракопу). Менавіта ад Пракопа пачынаецца наша галіна роду.

Дзе была гэта вёска? Яна знаходзілася зусім побач з Засценкамі, што фіксуюць мапы XIX ст. Адметна, што ў метрычных кнігах Іжанскай царквы 1760-х гг. фігуруе не толькі

| | | | |
|---|---|---|---|
| Wieś Pukały | Maciey Pukała | 4 | 6 |
| | Maxim Pukała | 5 | 5 |
| | Piotr Pukała | 3 | 4 |
| | Wasil Pukała | 3 | 3 |
| | Prakop Ściebieraka | 4 | 2 |
| | Illuk Ściebieraka | 3 | 2 |

• *Фрагмент Пасямейнага спісу прыхаджанаў Даўгінаўскага дэканата Ашмянскага павета 1765 г.*



тапонім Пукалы, а яшчэ іншы варыянт назвы — Юдзкі ці Юдзікі*. (Так, напрыклад, 23 ліпеня 1767 г. адбыўся хрост сына Рамана ў бацькоў Давыда і Ганны Сцебуракаў з вёскі Юдзкі.)

У шэрагу іншых крыніц рознага кшталту захавалася шмат варыяцый назваў паселішча, дзе жылі Сцебуракі. Магчыма, гэта было звязана з перасяленнем недзе ў 1770-х гг. сем'яў на асобны ўступ Іжанскай пушчы, што выклікала нараджэнне новага тапоніма. А магчыма, крыніцы зафіксавалі існаванне некалькіх варыянтаў тапонімаў населеных пунктаў, што знаходзіліся па-суседству. Так, у самых ранніх метрыках Іжанскай царквы фігуруе вёска Юдзкі (Юдзікі), крыху пазней паралельна ўжываецца назва Юдзікі і Пукелы, а яшчэ пазней, на мяжы XIX ст., тапонім Юдзкі знікае з апісанняў парафіі і застаецца вёска Пукелы і засценак Шчэберакі.




У эканамічных дакументах князёў Агінскіх месца пражывання роду Сцебуракаў завецца то Іжа, то Іжанка, то Іжанка-Шчэберакі, то проста засценак Шчэберакі. Самы ранні выпадак ужывання тапоніма Шчэберакі фіксуецца ў канцы 1770-х гг. Прымаючы да ўвагі характэрную шматварыянтнасць назваў, а часам проста блытаніну,

* Паходжанне назвы вёскі Юцкі (Юдзкі, Юдзікі), верагодна, звязана са старадаўнім беларускім імем Юцка.

можна падсумаваць сітуацыю наступным чынам. Спачатку, у 1760–80 гг., існавала невялічкая вёска Пукалы з засценкам Юдзкі. Часам гэтыя назвы атаясамліваліся, часам блыталіся, часам размяжоўваліся як «вёска Пукалы з засценкам Юдзкі». Тут жыло некалькі сем'яў з прозвішчамі Пукалы і Шчэберакі, а зямля, на якой жылі першыя, належала каталіцкай Войстамскай плябаніі, а другія — маёнтку князёў Агінскіх. Тапонім Юдзкі ў канцы XVIII ст. пакрысе перастаў фіксавацца, а ў паперах стала пачалі фігураваць вёска Пукелы ды засценак Шчэберакі. Выглядае, што некалі існы засценак Юдзкі проста змяніў назву ў гонар гаспадароў — Шчэберакаў. Гэтае родавае котлішча праіснавала аж да 1830–40-х гг. [40]. Вёска Пукелы працягвала жыць яшчэ стагоддзе, пакуль у канцы 1940-х гг. не адбылося ўмоўнае аб'яднанне трох паселішчаў (Грэлікаў, Пукелаў, Засценкаў) у адзіную вёску Засценкі [41].

Адметна, што эканамічныя дакументы той эпохі пазбаўленыя блытаніны з назвамі, якая так характэрна паперам Іжанскай грэка-каталіцкай царквы. Відавочна, што метрыкі і візітацыі Іжанскай парафіі вельмі чуйна рэагавалі на вусную практыку мясцовых мікратапонімаў. У інвентарах Ганугы сям'я Шчэберакаў зафіксаваная ў засценку Іжа ці Іжанка-Шчэберакі (Чэберакі), а на старонках рэвізскіх сказак у 1795–1850 гг. нязменна фігуруе ў вёсцы Іжа. Менавіта пад такой назвай у 1795 г. засценак унесены ў падатковыя паперы Расійскай імперыі. Няма ніякіх сумненняў, што маецца на ўвазе менавіта засценак Шчэберакі князёў Агінскіх, бо і ў рэвізскай сказцы 1795 г., і ў інвентарах маёнтка Ганута гутарка ідзе аб дзвюх гаспадарках — Сымона і Давыда Сцебуракаў, якія жывуць на той час асобна ў гэтым засценку.



## Зямянскі засценак Шчэберакі

Засценак Шчэберакі ўпершыню згадваецца ў інвентары маёнтка Ганута* князя Тадэвуша Агінскага, трокскага кашталяна, у 1780 г. як *«засценак Чэберакі»*, а ў 1783 г. у аналагічным дакуменце — як *«засценак Іжанка Шчэберакі»*. У *«тарыфе падымнага падатку»* наогул вядзецца пра *«засценак Шчэберакі»* (*«Шчэбератки»*) яшчэ ў 1777 г. [23, арк. 46]. Гэта, бадай, самае ранняя выяўленая на сёння згадка пра наш засценак.

На той момант там жылі два гаспадары — *Сымон і Давыд Шчэберакі.* Гэты засценак першапачаткова меў адну валоку і адзін морг не самай лепшай зямлі і быў самым далёка адлеглым ад ганупкага двара, бо ляжаў аж за пяць літоўскіх міляў**. Ён быў найбольш паўночнай кропкай маёнтка Ганута, ляжаў ва ўступах у Іжанскую пушчу разам з *«ганупкімі сенажацямі»*. У гэтага засценка, мяркуючы па дакументах, прыналежнасць да маёнтка Ганута зусім не выпадковая. Яшчэ паводле інвентару Ганугы 1674 г. прадпісвалася, што тыя з баяраў, хто пажадае пасяліцца ва ўступах Іжанскай пушчы, мусяць выконваць пэўныя абавязкі. Старасвецкі інвентар сцісла акрэсліў падаткі баяр, якія абмяжоўваліся трыма капамі грошай з валокі ды *«пасылкай з лістамі і на ловы»*. Відаць,

* Адлік існавання Ганугы пачынаецца ў 1501 г. як уладання князёў Гальшанскіх. Далей яно неаднаразова змяняла гаспадароў. Сярод уладароў і арандатараў прамільгнулі Пацы, Осцікі, Садоўскія, Вільчакі, Райскія, Сангушкі, Славенскія, Зяновічы, Коцелы. У 1723 г. Ганута перайшла да роду Агінскіх, з якімі звязаны росквіт гэтага ўладання. Асабліва любіў Гануту Тадэвуш Францішак Агінскі, які тут збудаваў сабе летнюю рэзідэнцыю з шыкоўным палацам. У гэты перыяд у маёнтак Ганута ўваходзіла некалькі асобных фальваркаў (Груздзяніца, Забалацце, Рабінава) з тузінам вёсак і засценкаў, у тым ліку засценкам Шчэберакі.

** 1 літоўская міля = 7,798 км.

гаспадары ўладання былі зацікаўленыя ў прыцягненні новых баяраў на свае землі, бо прадугледжвалі наступнае: *«Іншыя баяры, якія на грунце Гануцкім і на ўрочышчы Іжы асядаюць, да той жа павіннасці падлягаць мусяць»* [64]. Імаверна, *«урочышча Іжа»*, яшчэ не заселенае ў 1674 г., — гэта і ёсць будучы засценак Іжа-Шчэберакі, які для аканомаў Гануцкага маёнтка нязменна заставаўся вёскай Іжай, не зважаючы на вышэйапісаныя частыя змены тапонімаў і блытаніну ў метрычных кнігах Іжанскай парафіі.

Для аднаўлення храналогіі засялення тых мясцін выдатна слугуе інвентар суседняга маёнтка Войстам 1619 г. (напісаны, дарэчы, беларускай мовай лацінскай графікай). Так, разлеглыя землі тамтэйшых паноў Пятрашкаў межавалі наўпрост з *«gruntami Hanuckimi Pana Jana Wilczka»* і мелі свой *«…ustup do lesu y Puszczy Hanuckoie a osobliwie de liesu y Puszczy Jzskoie ustup az do Hranicy miadelskoie z puszczaniem Plytow Rekoiu Naroczoiu y Rekoyiu Wielyoju…»** То-бок у дакуменце зафіксаваны працэс з'яўлення ўступу (вызваленай ад лесу зямлі) у Іжанскай пушчы ў выніку высякання і сплаву лесу (*«пушчання плытоў»*) па рацэ. Аналагічным чынам выкарыстоўвалі Іжанскую пушчу ўсе мясцовыя паны, у чые ўладанні патраплялі зручныя для продажу дзялкі лесу ўздоўж даплыва Віллі — р. Нарачанкі.

У XVII–XVIII стст. яшчэ існавала Іжанская пушча, якая бязлітасна высякалася, і на вызваленых дзялянках імкліва паўставалі новыя вёскі і шматлікія засценкі. Пра гэта добра распавядае «Апісанне крыўдаў Маркаўскага старостваа», дзе прыведзеныя дзясяткі парушэнняў і злоўжыванняў, якія прывялі да фактычнай ліквідацыі пушчы ў сярэдзіне XVIII ст. [20]. Можна меркаваць, што перасяленне роду Сцебуракаў на землі ўрочышча Іжы гануцкага маёнтка адбылося ў перыяд

* LVIA. Ф. 1177. Воп. 1. Спр. 3193. — Інвентар маёнтка Войстам, 1619.



з канца 1670-х да пачатку 1760-х гг.* Бо ў інвентары 1674 г. іх прозвішча яшчэ не фіксуецца, а ў 1760-я гг. яны ўжо стала жывуць на ўскрайку Іжанскай пушчы. Другая выснова, якую можна ўскосна зрабіць паводле дэклараваных умоваў запрашэння на перасяленне ў Іжанскае ўрочышча 1674 г., — гэта баярскі сацыяльны статус Сцебуракаў (бо прадугледжвалася замацаванне тут менавіта баяраў з умовай іх кур'ерскай службы і ўдзелу ў паляваннях).

Адзначым, што засценак Шчэберакі, аддалены ад кампактнай часткі маёнтка Ганута больш як на 30 км, паўстае на абшары вялікага Маркаўскага староства. Яму складалі кампанію аналагічныя зямянскія засценкі, падпарадкаваныя гэтаму скарбоваму ўладанню, то-бок дзяржаве. Калі ў 1730-х гг. тут былі пераважна вёскі, то ў другой палове XVIII ст. на яго тэрыторыі выраслі зямянскія засценкі Зімодры, Красніца, Сцюдзёнкі, Ходні, Сутокі-Мянтыня, Курнікі, Зевін, Ямы, Задні Бор, Дубава і інш., дзе было няшмат зямлі (на гаспадарку па ½ валокі), а асноўным падаткам быў чынш: *«зямянам па засценках мешкаючым вызначана плата стасоўна з якасцю зямлі»* [17, арк. 21 адв]. І, верагодна, гэта не проста чыншавыя сяляне, якія сталі звацца зямянамі пасля рэформы дзяржаўных уладанняў Рэчы Паспалітай 1760-х гг. [52]. Доказ таму мы знаходзім у інвентары Маркаўскага староства 1760-х гг.: тутэйшыя зямяне мусілі *«з лістамі і іншымі пасылкамі падводамі, ці конна, куды двор загадае сваім коштам ездзіць…»* [20, арк. 19]. Але літаральна праз некалькі дзесяцігоддзяў гэтыя зямяне губляюць свой старажытны абавязак, які, бясспрэчна, іх радніць з путнымі баярамі. Інвентары 1780-х гг. ужо не прыгадваюць пра *«лістоўную службу»*, а прадпісваюць ім плаціць па 30 грошаў падатку з *«паўвлочка»* і інш. [22].

* На жаль, існуе лакуна ў інвертарах Ганyты першай паловы XVIII ст. У іх адсутнасці першы дакумент, які інфармуе аб жыцці Сцебуракаў ва ўступе Іжанскай пушчы, датуецца 1765 г.

Тут назіраецца з’ява, якую Д. Пахілевіч дакладна акрэсліў наступным чынам: *«Их военные услуги уже в значительной степени сделались анахронизмом, а их курьерская служба — слишком дорогой. В то же время их довольно значительные ещё наделы представляли немалую ценность. С них можно было бы получить и дани, и работу для фольварка»* [68, с. 95].

## Засценак Шчэберакі і наваколлі

## *Іжанская парафія*

Засценак Шчэберакі ляжаў у Іжанскай грэка-каталіцкай парафіі. Дзякуючы рэгулярным візітацыям храма з сярэдзіны XVIII ст. да 1839 г. у нашым карыстанні ёсць шмат справаздачаў, якія зафіксавалі працэс з’яўлення новых паселішчаў у наваколлі (і ўласна самога засценка Шчэберакі). Старажытная Іжанская царква ў XVIII ст. прыйшла ў поўны заняпад, і яе адраджэнне звязана з ахвяраваннем Яна Дамініка Лапацінскага, будучага жмудскага біскупа*. У 1754 г. ён фундаваў аднаўленне храма ў гонар Барыса і Глеба *«ў вёсцы Кішчыцы Іжанскага войтаўства»* на старых могілках, бо ранейшы храм быў цалкам зруйнаваны і абрынуўся [42, арк. 5 адв.]. У наступныя дзесяцігоддзі царква будзе знаходзіцца ў каляцыі (пад апекай) жмудскай каталіцкай капітулы.

Памер Іжанскай парафіі пакрысе рос разам з павелічэннем насельніцтва і частковым пераразмеркаваннем вёсак з суседніх прыходаў.

Паводле першай візітацыі аднаўленай царквы, у 1763 г. у парафіі лічыліся *«Кішчыцы, Слабада, Засценкі, Вуткі. Парафіі дамоў — 62. Вёска Старынкі адабраная да Крывічоў,*

* Я. Д. Лапацінскі (1708–1778), калятар (апякун) Іжанскай царквы, трымаў на той час Лоскі маёнтак. Неардынарная асоба, ён пакінуў некалькі арыгінальных твораў і перакладаў, трымаў мастацкую галерэю, удзельнічаў не толькі ў рэлігійным, але і ў палітычным жыцці.





• *Царква ў Іжы, 1917 г. (здымак Б. Мігачова)*

*Талуць адабраная да Куранца»* [42, арк. 6]. Такі нязначны памер парафіі і ўсяго дзве валокі зямлі пры царкве рабіла жыццё пароха* дастаткова сціплым. «*Шчуплы*» стан быў зафіксаваны ў тагачасным дакуменце: *«Іжанская царква вельмі небагатая… падданых няма, шпіталіка няма таксама. Сам плябан ад алтара да плуга мусіць пасспяваць»* [42, арк. 2].

У 1765 г. апісанне прыхода змяняецца нязначна: да Іжы, Засценка, Слабады і Вутак дапасоўваецца вёска Пукалы. Праўда, у візітацыях 1766, 1767, 1773 гг. яна зноў знікае. Затое ў 1784 г. падрабязная візітацыя прыгадвае пра вёску Юцкі з 6 хатамі, дзе жыве 39 чалавек [42, арк. 13 адв.]. У 1791 г. у апісанні парафіі з нябыту зноў паўстае вёска Пукелы з 7 дамамі. У дадатку да гэтага дакумента прыкладзеная табліца са статыстычнымі дадзенымі пра жыхароў парафіі. Менавіта яна ставіць кропку ў блытаніне з назвамі. Пад нумарам 5 у

* Парох — уніяцкі святар.




• *Ян Дамінік Лапацінскі (1708–1778)*

табліцы занатаваная «Вёска Пукалы з засценкам Юдзкі». Прычым агульная колькасць гаспадарак — 7, але колькасць жыхароў павялічваецца да 58, з якіх 28 — дзеці да 15 год. Адпаведна, мы назіраем дэмаграфічны выбух, які прыводзіць да канчатковага адасаблення двух паселішчаў. Далей і назва Юдзкі зусім знікае, а яе месца займае засценак Шчэбеespecially. Гэта дазваляе меркаваць, што адбылося цалкам лагічнае замацаванне новай назвы, якая паходзіла ад прозвішча адзіных жыхароў засценка. Як адзначалася вышэй, у інвентарах маёнтка Ганута гэта фіксацыя адбылася яшчэ ў 1780-я гг. У 1807 г. колькасць паселішчаў Іжанскай парафіі дасягае амаль двух дзясяткаў, з якіх большасць — невялікія засценкі. Засценак Пукалы працягваў быць ва ўласнасці войстамскага пробашча Грынеўскага. Тут жыло ў чатырох хатах 27 чалавек. Засценак Шчэберакі на той час перайшоў да Лапацінскай, у дзявоцтве Агінскай. У ім было два дамы і ўсяго 12 жыхароў. У 1819 г. у візітацыі мы маем амаль тыя ж дадзеныя, толькі на гэты раз у Шчэбераках, што належаць да Ганугы князя Агінскага, жыве 17, а ў Пукелах — 29 чалавек [42, арк. 50]. Адметна, што ў гэтай візітацыі ўпершыню вызначана адлегласць ад плябаніі Іжанскай царквы да паселішчаў. І Пукелы, і Шчэберакі знаходзяцца, паводле дакумента, у адной вярсце ад яе ў Завілейскім павеце Віленскай губерні.



**_Апісанне Іжанскай уніяцкай парафіі 1819 г. [42, арк. 50]_**

| Wsie i zaścianki | Domy | Zgodnych | | Niezgodnych | | Ogółem |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Męzkiej | Żęskiej | Męzkiej | Żęskiej | |
| Iża wieś | 31 | 146 | 127 | 39 | 25 | 337 |
| Słoboda | 32 | 135 | 129 | 46 | 36 | 346 |
| Tałuc | 21 | 63 | 39 | 19 | 15 | 136 |
| Starzynki | 20 | 67 | 60 | 15 | 18 | 160 |
| Korolewcy | 35 | 145 | 145 | 35 | 36 | 361 |
| Jamy | 1 | 4 | 3 | 1 | 2 | 10 |
| Ziewino | 1 | 3 | 4 | 2 | 1 | 10 |
| Dubowo | 3 | 14 | 13 | 5 | 6 | 38 |
| Kurniki | 3 | 9 | 6 | 5 | 4 | 24 |
| Ludzimy | 1 | 13 | 11 | 5 | 5 | 34 |
| Zawiortki | 2 | 6 | 7 | 3 | 4 | 20 |
| Zadnibor | 2 | 9 | 8 | 1 | 3 | 21 |
| Greliki | 2 | 9 | 6 | 5 | 3 | 23 |
| Pukały | 4 | 11 | 11 | 3 | 4 | 29 |
| Szczebieraki | 2 | 7 | 6 | 1 | 3 | 17 |
| Zaścianek Iżański | 11 | 36 | 36 | 15 | 10 | 97 |
| Michaliszki | 1 | 4 | 3 | 2 | 2 | 11 |
| Kunacicha | 1 | 3 | 4 | 2 | 1 | 10 |
| Kulicha | 1 | 6 | 4 | 3 | 2 | 19 |
| | 174 | 690 | 622 | 207 | 180 | 1699 |

Разам з тым маёнтак Ганута і наваколлі мястэчка Іжа здаўна ўваходзілі ў каталіцкую Войстамскую парафію Свірскага дэканата [50, с. 57–58; 51]. У яе апісанні 1784 г. занатавана вельмі цікавае назіранне за Іжай і прылеглай мясцовасцю: *«Іжа з вялікай ваколіцай circum circa* каля трох міль, якая знаходзіцца паміж палямі і зараснікамі, шмат у сабе мае вёсак рускага абраду, што да розных гаспадароў належыць»*

* Circum circa (лац.) — колам, вакол.

• *План мясцовасці ў плыні р. Нарачанка (з кнігі «Нарачанка і яе берагі». Мінск, 2013)*

[6, с. 95]. Праз гэтую іжанскую «агламерацыю» ідзе дарога з в. Папоўцы (належала ў той час Віленскай капітуле) да Мядзеля. Адметна, што і сёння гэты шлях захаваўся і наўпрост злучае мястэчка Іжа і Каралеўцы з мясцовасцю Войстама і далей з цэнтрам маёнтка — Ганутай.

## «Адабраная Талуцъ» і вёска Сцебяракі

Вёска Талуць — адна з найбольш старых у наваколлі. Паводле краязнаўца А. Рогача, у канцы XVI ст. ад Маркаўскага староства было аддзелена Іжскае войтаўства, куды ўвайшоў фальварак Іжа са Старынкамі і Талуццю. Гэта войтаўства было далучанае да маёнтка Лоск ва ўладаннях вядомага роду Кішкаў, пры якіх Лоск быў цэнтрам арыянскага руху на Беларусі. У 1639 г. маёнтак Лоск разам з Іжанскім войтаўствам перайшоў да віленскага біскупа Абрахама Войны, а Іжанская царква стала ўніяцкай на землях Віленскай капітулы. Далей



войтаўства пераходзіла ў рукі віленскага каноніка Юрыя Копаца, затым — да Я. Д. Лапацінскага. Пасля паўстання 1794 г. Іжскае войтаўства было канфіскавана ў капітулы з-за іх падтрымкі Т. Касцюшкі і трапіла ў імперскую казну. Не абышлі бокам падзеі паўстання і царкву ў Іжы. У метрычнай кнізе, што зараз захоўваецца РДГА ў Пецярбурзе, ёсць цікавая нататка пра прычыну адсутнасці рэгістрацыі шлюбаў, хросту і адпяванняў: «*...метрыкі знойдзеныя па загаду ягамосці генерала Германа* ў 1794 г. былі забраныя і падзёртыя*» [73, арк. 323]**. Аналагічную згадку ўтрымлівае візітацыя царквы, якая адбылася ў кастрычніку 1794 г. Адсутнасць шэрагу прадметаў для адпраўлення набажэнства тлумачыцца дзеяннямі *«салдатаў каманды Ягамосці Германа часу рабунку царквы Іжанскай у гэтым годзе ў чэрвені»* [42, арк. 18 адв.].

• *Вёска Сцебяракі, карта 1910 г.*

Відаць, першапачаткова прыход Іжанскай царквы строга адпавядаў межам Іжанскага войтаўства [54, с. 330]. Выкарыстаны ў візітацыі храма 1763 г. прыметніка «*адабраны*»

---

* Герман І. І. (1740–1801) — расійскі генерал, які ў 1792–94 гг. кіраваў войскамі ў Віленскім краі. У 1793 годзе вызначыўся падчас бою ў Кабыльніках, а ў час паўстання Т. Касцюшкі браў удзел у штурме Вільні — непасрэдна кіраваў атакай на Вострую браму.

** Самыя раннія метрыкі з Іжы другой паловы XVIII ст. захоўваюцца сёння ў Вільні ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх і ў РДГА ў Санкт-Пецярбургу (гл. спіс крыніцаў). У Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільні захоўваюцца метрычныя кнігі Іжанскай грэка-каталіцкай царквы за: 1805 г. (ф. 634, воп. 2, спр. 720), 1818 г. (ф. 634, воп. 2, спр. 721), 1812–1826 гг. (ф. 634, воп. 4, спр. 1). За перыяд 1866–1900 гг. — у НГАБ у Гародні, а за 1900–1920-я гг. — у НГАБ у Мінску.




• *Згадка Іжанскага войтаўства ў інвентары Лоска 1620 г.*

ў дачыненні да Талуцi сведчыць пра тое, што некалі гэтая вёска была ў прыходзе Іжанскай царквы і новы стан рэчаў успрымаўся як несправядлівы*.

У метрыках 1760–70-х гг. дастаткова часта фіксуюцца цесныя побытавыя стасункі жыхароў Іжанскай парафіі з вяскоўцамі з «*Талуці капітульнай*» і вёскі Сцеберакі (прыпісанай да далёкай Нароцкай царквы), што знаходзіцца побач праз раку Чорную. Яны праяўляюцца ў шлюбах, ва ўдзеле ў вяселлях у якасці сведак ці ў абрадзе бежмавання немаўляці як хросных бацькоў. Верагодна, такія кантакты абумоўленыя геаграфічнай блізкасцю і зручнасцю перамяшчэння па рачулцы Вузлянка і далей па Нарачанцы з Іжай. У канцы XVIII ст. Іжанская царква верне сабе Талуць і дадасць Іжу каралеўскую (сёння — Каралеўцы), матывуючы гэта найперш зручнасцю для веруючых.

Улічваючы гэтыя факты, можна меркаваць, што з'яўленне ў наваколлях Іжы носьбітаў прозвішча Сцебурака магло быць абумоўлена перамяшчэннем выхадцаў з аднайменнай вёскі блізу Талуці. Такім чынам, для перасяленцаў тапонім Сцеберакі пачаў адыгрываць ролю прозвішча ў новым месцы іх жыцця. Значна складаней уявіць і даказаць верагоднасць таго, што сям'я Сцебуракаў дала назву аднайменнай вёсцы, а пазней сама перасялілася па пэўных прычынах бліжэй да мястэчка Іжы. Такі шанц праверыць гэтую версію мог даць інвентар уладання Лоск 1620 г., які ўключае апісанне

---

* Вядома, што ў канцы XVII ст. да аднаўлення Іжанскай парафіі прыхаджане Талуці і Іжы належалі да грэка-каталіцкай царквы Св. Юры у мястэчку Вілейка. (Уніяцкія цэрквы Вялікага Княства Літоўскага XVII ст.: матэрыялы генеральных візітацый / уклад. Д. В. Лісейчыкаў. — Мінск: НГАБ, 2021. — 320 с.)



| | Wies Sczebiaraki | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Dawid Kauryha | 8 | 1 |
| 2 | Iurka Izgrunt | 5 | 2 |
| 3 | Illa Izgrunt | 8 | 2 |
| 4 | Iakow Izgrunt | 5 | 3 |
| 5 | Ikul Nazaruk | 3 | 3 |
| 6 | Iakim Kuluki | 2 | 3 |
| 7 | Ianka Izgrunt | 4 | 1 |
| 8 | Piatrok Iankowicz | 3 | 3 |
| 9 | Iaska Nazdruk | 8 | 5 |

• *Спіс жыхароў в. Сцебяракі. 1765 г.*

Іжанскага войтаўства. Аднак знаёмства з гэтым дакументам не дазволіла пацвердзіць гіпотэзу. Ні ў Іжы, ні ў Талуці, на жаль, сярод гаспадароў не згадваецца прозвішча Сцебурака, затое ў спісе трапляюцца шматлікія іншыя мясцовыя сем'і: Шорцы, Дземідовічы, Жыхары, Зянкевічы, Засценкі і інш. [2, арк. 34–37] У гэтым старадаўнім інвентары тапонім Сцеберакі таксама адсутнічае, што не дае нам права ставіць кропку ў гэтым пытанні.

Калі ж магло адбыцца гэта гіпатэтычнае перасяленне з вёскі Сцеберакі носьбітаў аналагічнага прозвішча, сказаць дакладна немагчыма. Тут можна правесці толькі ўмоўную храналагічную мяжу — не раней за 1630-х гг. і не пазней за 1738 год. Бо ў першым выяўленым гістарычным дакуменце з апісаннем дзесяці гаспадарак вёскі Сцеберакі трапляюцца шэсць




• *Першая згадка*



• *Палац у Гануце (фота J. Hoppen, 1920–30-я гг.)*

гаспадаў — носьбітаў іншых прозвішчаў: Згрунды (Якаў, Сямён, Фёдар, Васіль, Сяргей і Давыд), Цімох Крычонак, Радзівон Камар, Васіль Каўрыга, Даніла Дземідовіч. Агулам насельніцтва вёскі тады складала 44 асобы — досыць шмат, каб меркаваць пра яе ўжо дастаткова доўгае існаванне. Уявіць, што цяглыя сяляне з дзяржаўных уладанняў Маркаўскага староства маглі перасяліцца на прыватныя землі князёў Агінскіх на асадным праве, дастаткова складана. Аднак немагчыма абстрагавацца ад факта абсалютна ідэнтычнага напісання прозвішча «*Сцеберакі*» і назвы гэтай вёскі*. Зараз дату 1738 г. можна лічыць часам першага пісьмовага выкарыстання гэтай назвы вёскі на абшарах Маркаўскага староства**. Безумоўна, далейшыя пошукі зробяць першую згадку тапоніма яшчэ больш старажытнай [31, арк. 63].

* У крыніцах XVIII ст. выкарыстоўваецца час ад часу варыянт назвы вёскі Шчэберакі. (Шчэбяракі / Szczebiaraki — 1765 г. (Пасямейныя спісы прыхаджан Даўгінаўскага дэканата Ашмянскага пав.); Шчэберакі / Szczebieraki — 1784 г. Dekanat świrski, Parafia Kurzeniec).)

** Паходжанне назвы вёскі Сцебяракі найбольш імаверна звязанае з існаваннем паганскіх культавых камянёў побач з ёй. Ад іх назвы мог утварыцца мікратапонім і найменне найбліжэйшага паселішча. Семантыка назвы і яе балцкія карані абгрунтаваныя ў пачатку нарыса.



# Шчэберакі: баяры, асадныя ці зямяне?

Удакладненне сацыяльнага стану продкаў падаецца не такой простай справай, якой выглядае на першы погляд. Кім былі жыхары засценка Шчэберакі? Этнографы сцвярджаюць, што сам менталітэт засцянкоўцаў быў своеасаблівым, адлюстроўваў адметны стан у вопратцы, звычаях, уяўленнях адрознасці ад вяскоўцаў.

У пачатку 1780-х гг. было створана дастаткова шмат інвентароў і планаў з апісаннямі ўладання Ганута. Адзін з планаў зафіксаваў стан справаў, які існаваў пры старым гаспадару — трокскім ваяводзе Тадэвушу Францішку Агінскім, бо быў складзены 12 снежня 1783 года адразу па смерці князя для перадачы на пажыццёвае ўладанне ўдаве (яго другой жонцы Ядвізе Тэрэзе Агінскай з роду Залускіх). Другі дакумент, інвентар, напісаны ўжо 12 красавіка 1784 г., быў звязаны з афармленнем пераходу правоў ад Ядвігі Агінскай. Смерць гаспадара маёнтка стала падставай для вырашэння пытанняў са спадчынай паміж удавой князя і яго сынамі ад першага шлюбу. Відаць, гэта стала прычынай для складання выключна падрабязнага інвентару ў красавіку 1784 г., пра які і пойдзе размова далей. Асаблівасцю дадзенага дакумента была надзвычайная дэталізацыя падатковых звестак і выверанасць інфармацыі ў параўнанні з аналагічнымі інвентарамі, складзенымі ў верасні 1780 г., снежні 1783 г.

## *Сцебуракі паводле інвентару 1780 г.*

Інвентар уладання Ганута 1780 г. быў складзены пры жыцці князя Тадэвуша Агінскага і дае ўяўленне пра заведзеныя там парадкі. Паводле яго, існавала тры катэгорыі жыхароў згодна з павіннасцямі: «*асаднікі кунічныя*», «*асаднікі баяры*» і «*асаднікі цяглыя*». У прэамбуле дакумента падкрэслена, што



• *Тадэвуш Францішак Агінскі (1712–1783)*

ўсё як раней было, так і застанецца, толькі лічба кунічных асаднікаў па *«эканамічных прычынах»* змяншаецца.

Больш за ўсё грошай за сваю зямлю (без фіксаванага памеру надзелу) сплочвалі *асадні               кі кунічныя* — 50 злотых польскіх. Да гэтага дапасоўвалася традыцыйная даніна з грыбамі, яйкамі, курамі, мёдам і ўдзел у гвалтах, талоках і г.д. Штогод яны яшчэ мусілі плаціць па два злотыя падымнага падатку скарбу Рэчы Паспалітай.

*Кунічныя баяры* за сваю зямлю мелі падатак, разлічаны па іншых крытэрах і па факце значна меншы, чым у кунічных асаднікаў (за морг — адзін злоты (за валоку — 30 злотых)). Але частка даніны і адпрацовак была аналагічнай. Падымны падатак вылічваўся з разліку 16 злотых з валокі.

Для *асаднікаў цяглых* асноўнай платай была шасцідзённая паншчына для мужчынаў і кабетаў і шэраг іншых другарадных падаткаў ды пабораў. А іх грашовыя выплаты былі мінімальнымі, бо ўключалі толькі падымны падатак.

На жаль, інвентар 1780 г. не вылучае асобнай графы ў класіфікацыі падданых з пазнакай іх статусу: асаднік, баярын, цяглы. Але ўказаныя вышэй памеры падатку дапамагаюць ідэнтыфікаваць стан жыхароў маёнтка Ганута. Сымон ды Давыд Шчэберакі сплачваюць са сваіх паўвлочкаў па 50 злотых чыншу (!) і па 4 злотых падымнага. А іх шматлікія суседзі за свае надзелы ў разы меней ці абмяжоўваюцца



толькі падымным. Адпаведна, можна рабіць выснову пра прававы стан продкаў пры старым князі Т. Агінскім — як асаднікі (*асадныя кунічныя** згодна з тэрміналогіяй гістарычнай крыніцы). Відавочна, на практыцы існавала яшчэ пэўная праўка на якасць зямлі ці працавалі пэўныя дамовы, што не траплялі ў інвентар. Паводле *«ліній інвентару»* кожны з гаспадароў засценка Шчэберакі плаціў па 54 злотых, а ў суме за засценак двор у Гануце меў 108 злотых. Відавочна, што такі падатак кажа пра іх павіннасць «асадных кунічных» [25].

## *Сцебуракі паводле інвентару 1783 г.*

Інвентар Ганута 1783 г. (у спісах для двух спадчыннікаў — Андрэя (копія 9 сакавіка 1784 г.) і Тадэвуша Агінскіх (копія 12 сакавіка 1784 г.)) падзяляе сялян на наступныя катэгорыі: цяглыя, баяры і слугі. Але ў пайменным пераліку жыхароў вёсак, на жаль, няма канкрэтнай інфармацыі, якая сям'я належыць да якой катэгорыі. Ёсць толькі графы: *чыншавыя* ці *цяглыя*. Дэфініцыя *«зямянін»* тут не сустракаецца наогул, а традыцыйныя для зямянаў службы не пераносяцца ні на адну з прысутных у дакуменце катэгорый. Цяглыя сяляне служаць шэсць кабечых і шэсць мужчынскіх дзён. Баяры, паводле гэтага інвентару таксама абавязаны служыць паншчыну (*«пешшу, ці з конем ці валом тры дні самі мужчыны паслужыць маюць абавязак…»*) [24].

Ці былі зямяне ў іншых суседніх маёнтках Агінскіх да смерці князя Тадэвуша? Бадай што не. Прынамсі, у бліжэйшых уладаннях — Залессі і Маладэчне — існуе аналагічная гануцкай сістэма з цяглымі сялянамі і баярамі. Напрыклад, у інвентарах Залесся 1760–70-х гг. сустракаецца падзел толькі на цяглых сялян ды баяраў.

---

* Кунічнікі — назва людзей, якія бралі ў арэнду ворную зямлю за пэўную плату («куніцу»). У якасці кунічнікаў у ВКЛ XV–XVII стст. былі сяляне, мяшчане, баяры, татары і інш.

Адметна, што ў розных копіях інвентару 1783 г. слова *«асаднік»* (копія інвентару ад 12.03.1784) замяняецца на *«арандатар»* (копія інвентару ад 08.03.1784). Пры гэтым ва ўводным апісанні агульных падаткаў такой катэгорыі не фігуруе. Але ў табліцах з фіксацыяй падаткаў жыхароў вёсак *асаднікі* хоць і рэдка, але сустракаюцца. Прыкладам тут можа выступаць вёска Міцкевічы, дзе зафіксаваныя адразу цяглыя, баяры і асаднікі.

Адпаведна, запісаная тут апошнім у спіску паселішчаў *вёска Іжанка Шчэберакі* трапіла ў катэгорыю чыншавых. Пры гэтым, падаткі з гаспадарак не змяніліся. Дзве гасподы — Сымона і Давыда — плацілі аднолькава: па 50 злотых чыншу (сума без падымнага падатку), па 10 яек, па 30 коп* грыбоў, палове салянкі** хмелю, тры курыцы. Вынікае, што для засценка захавалася непрадугледжанае агульным правілам падаткаабкладанне без паншчыны. Такім чынам, Шчэберакі тут дэ-факта выступаюць як асадныя-арандатары.

## Сцебуракі паводле інвентару 1784 г.

З усіх выяўленых у архіўным *фондзе Князёў Агінскіх* дакументаў асабліва вылучаецца інвентар Гануты 1784 г., бо паводле гэтага дакумента жыхары засценка Шчэберакі мелі статус зямянаў. Чым яны валодалі і якія падаткі сплачвалі? На гэтыя пытанні маецца дастаткова вычарпальны адказ. Наогул часцей за ўсё надзелы зямянаў у Ганутскім уладанні былі заўважна большымі, чым баярскія, і знаходзіліся ў палове выпадкаў не ў вёсцы, а ў асобным засценку. Адпаведна і сярэдні чынш з гаспадаркі зямяніна быў блізу 50–80 злотых, у адрозненне ад сумы ад 5 да 20 злотых у баярына. Прычым значная частка баяраў нават не плаціла грошы, а

* Капа — лікавая адзінка ў ВКЛ, роўная 60 штукам.

** Салянка — мера аб'ёму сыпкіх рэчываў у ВКЛ (памер — каля 67 літраў).



абмяжоўвалася невялікай натуральнай штогадовай данінай (в. Вайдзені і в. Хаўсты)*. Баяры, як і цяглыя сяляне, мусілі служыць паншчыну. Розніца палягала толькі ў колькасці. Цяглыя ад дня святога Юр'я да святога Марціна адпрацоўвалі тры мужчынскія і два жаночыя дні, а ўзімку — на дзень меней. Баярская паншчына была крыху меншай: *«зімой і летам… мужчына або кабета мусяць служыць па дні тры, а ў час жніва чацвёрты дзень служыць мусяць і павінны»*. Пры гэтым на старонках інвентару насупраць кожнай цяглай гаспадаркі занатавана колькасць паншчыны, а ў баяраў паўсюдна стаяць пропускі. Толькі ці можа гэта сведчыць пра пагалоўнае вызваленне баяраў ад павіннасці?

Такім чынам, зямяне — гэта адзіная катэгорыя жыхароў ганутскага маёнтка, якая не была звязаная па руках і нагах паншчынай. Але іншых падаткаў ды пабораў ім таксама хапала. Яны мусілі плаціць чынш, увосень да св. Марціна прыносіць пану дзякла (хмель, грыбы, курыцу, яйкі), даваць падымнага ў скарб Рэчы Паспалітай (*«dwóma rotami»* — у два плацяжы), выпраўляцца на шарваркі і талокі… У фрагменце тэксту інвентару з дэталізацыяй гэтых падаткаў ёсць цікавая фармулёўка, якая, відаць, тлумачыць, хто стаў зямянінам: *«№ 4 Так цяглыя як і баяры і асаднікі alias зямяне чынш у лініях інвентару гэтага запісаных …»*. Alias — лацінізм, які перакладаецца як «іншымі словамі», «іначай кажучы» ці «інакш». Можна зрабіць выснову, што зямянскі стан атрымалі ўчарашнія асаднікі — арандатары. Але змянілася не толькі назва. Новымі сталі і абавязкі. Калі раней валоданне зямлёй аплачвалася манетай ды дадатковымі спагнаннямі,

* Дарэчы, розніца ў памеры чыншу з'яўляецца бадай адзіным маркерам, які дазваляе дыферэнцыяваць зямянаў і баяраў у іншых інвентарах Гануты той эпохі. Напрыклад, у Родкавічах Пётра Садоўскі плаціў 80 злотых, а Ян Чыковіч — 15. (Інв. 1783 г.). Як сведчыць наступны інвентар 1784 г., П. Садоўскі — зямянін, а Я. Чыковіч — баярын.

то згодна з дакументам 1784 г. гэтая катэгорыя пачала выконваць вельмі адметную ролю ва ўладанні Ганута. Пры гэтым колькасць зямянскіх гаспадарак на ўсё ўладанне Ганута была вельмі абмежаванай — усяго дванаццаць, а з іх дзве ў засценку Шчэберакі. Зямяне таксама жылі ў засценках Рудня і Акушкаўшчызна, а астатнія былі размеркаваныя па вёсках Навасёлкі, Ардзяя, Родкавічы, Хаўсты, Вайдзені, Ялажычы.

Інвентар 1784 г. прад'яўляў да зямянаў наступныя адмысловыя патрабаванні, што дазваляе нам казаць пра іх спецыфічны статус і не дае іх атаясамліваць з простымі асаднымі сялянамі:

*«Зямяне воласці ганункай апроч платы, у лініях інвентару запісаных, службу конную паводле даўніх уставаў і павіннасці несці мусяць. 1. Ездзіць з лістамі па чарзе ці конна ці фурманкай паводле патрэбы скарбовай. 2. Выступаць з усёй зброяй на дыферэнцыяцыю земляў, для абароны сваіх межаў. 3. Ездзіць на экзекуцыю чыншаў, арэнды і розных данін ва ўладаннях размешчаных»* [26].



• *Паштовы 5-га палка пярэдняй стражы ў мундзіры ўзору 1776 г. (малюнак з кнігі «Войска ВКЛ ад Сасаў да Касцюшкі (1765–1794)». Мінск, 1994)*

Як мусілі выглядаць ганункія зямяне і з якой зброяй выконваць свае абавязкі? На жаль, у згаданым інвентары няма гэтага апісання (дарэчы, як і ў абсалютнай большасці такіх дакументаў). Але ў нашым распараджэнні ёсць надзвычай падрабязная інструкцыя для зямянаў іншага ўладання Ядвігі Тэрэзы Агінскай*, датаваная сакавіком 1784 г.** (То-бок паміж складаннем Ганункага інвентару і з'яўленнем дадзенай інструкцыі прайшло каля месяца.) Не настойваючы на тым, што на Гануту распаўсюджваліся тыя ж патрабаванні, можна дапусціць іх блізкасць.

Да знешняга выгляду гасподы прад'яўляліся даволі жорсткія нормы: *«Для таго, каб не быў марны тытул зямянскі і каб чымсьці ад баяр адрозніваца… як тое само імя зямянскае за сябе кажа, найперш усе павінны мець свае сядзібы ў найлепшым стане і па-гаспадарску забудаваныя, з белай хатай*** і ўсялякімі іншымі гаспадарчымі будынкамі, іх найлепей і найкшталцоней ці саломай пад рыдлёўку****, ці дранкай прыгожа пакрыць і плотам якасным абкружыць»*. То-бок зямяне пры ўпарадкаванні ўласных гаспадарак былі абавязаны браць за ўзор шляхецкія двары. Таму не дзіўна, што археолагі, якія даследавалі культурны пласт зямянскіх засценкаў, знаходзілі там зусім не характэрныя для сялянскага побыту шкло і кафлю.

---

* Ядвіга Тэрэза са славутага роду Залускіх была ўдавой рэтаўскага старасты К. Тышкевіча. У шлюбе з Т. Агінскім з 1763 г. З 1783 г. — удава, вяла актыўную дабрачынную дзейнасць і ўпарадкаванне маёнткаў.

** Інвентар Рэтаўскага двара ў Жмудскім княстве, складзены ў сакавіку 1784 г. па аналагічнай прычыне, што і вышэйпрацытаваны інвентар Ганнуты: пры пераходзе ўладання ад памерлага князя Агінскага да ўдавы. Інвентар Рэтава друкаваўся ў АВК XXV і неаднойчы аналізаваўся гісторыкамі, у прыватнасці Д. Л. Пахілевічам [24, с. 96–97]. Безумоўна, Рэтаўскі двор быў дастаткова далёка, але гэта не выключае нават найпрасцейшай сувязі. У павіннасцях для баяраў рэтаўскага ўладання сярод мясцінаў, куды яны мусяць вазіць тавары на ўласных падводах, прыгадваецца Ганута: «Баяры абавязаны даваць падводы, колькі і куды спатрэбіцца двару, напрыклад у Лібаву, Клайпеду, Тыльзіт, Рыгу ці то ў Вільню, Гануту».

*** «Белая хата» — тая, што мае комін, у адрозненне ад сялянскіх, што звычайна тапіліся па-чорнаму.

**** «Саломай пад рыдлёўку» — методыка ўкладкі даху, якая гарантавала ахайнасць і геаметрычнасць лініям абрысу будынка.

Не менш дэталёва рэгламентаваўся знешні выгляд зямяніна: «*...усе мусяць мець парадак конны, то-бок добрага каня ад дваццаці талераў, добрае каляровае вайсковае скуранае сядло з ольстрамі*, пару пісталетаў, шаблю, дзіду з харугаўкай**, ладунку***, катанку****, шаравары***** і шапку з кіткай******»* [53, с. 539].

Апісанае ўзбраенне можна назваць тыповым для таго часу. Яно вельмі нагадвае ўзбраенне пярэдняй стражы ВКЛ, зацверджанае арданансам Вайсковага дэпартамента [56, с. 133]. Магчыма, такія мадэрныя патрабаванні да зброі і выгляду зямянаў тлумачацца непасрэдным удзелам Т. Ф. Агінскага ў працы Вайсковага дэпартамента Пастаяннай рады з 1777 г.

Досыць важнае пытанне палягае ў тым, як разумець з'яўленне зямянаў у Ганупе ў 1784 г. Ці ёсць гэта працягам існавання баярскай «*лістоўнай павіннасці*» з інвентару 1674 года? Але чаму тады папярэднія інвентары часу Тадэвуша Агінскага не фіксуюць гэтых заняткаў баяраў? Або гэта вынік папулярных у позняй Рэчы Паспалітай эксперыментаў па дасканалым упарадкаванні прыватных маёнткаў у духу вышэйапісанага Рэтаўскага староства ці «Паўлаўскай рэспублікі» П. Бжастоўскага*? А раптам не трэба хадзіць па адлеглыя ад Ганупы прыклады? Магчыма, узорам для рэарганізацыі гаспадаркі сталі суседскія смаргонскія ўладанні Радзівілаў, дзе зямяне фіксуюцца ў інвентарах на працягу XVII–XVIII стст. Так, паводле інструкцый 1672 і 1689 гг. тамтэйшыя зямяне мусілі ўдзельнічаць у паспалітым рушэнні або плаціць падатак каняўшчыну па 50 злотых. Дадаткова іх абавязкам была дастаўка лістоў на адлегласць да 30 міль [57, с. 74]. А інвентар 1755 г. фіксаваў новыя змены ў іх стане: «*Раз в неделю должны являться по одному в господскую резиденцию верхом, в полном вооружении и в форменной одежде... Эти земяне должны иметь хороших лошадей, надлежащее обмундирование и полное снаряжение, и по приказанию господского двора должны либо присутствовать на ярмарках в г. Сморгони в количестве более 10 человек для поддержания порядка, либо отражать нападающих на границы владения*». Апошні інвентар 1788 г. пералічвае шэраг дадатковых падаткаў, згадвае пра наяўнасць зямянскіх харунжых, чыёй функцыяй было размеркаванне службы між зямянамі і нагляд за яе выкананнем. Падкрэслівалася і




• *Фрагмент мяжы Менскай і Віленскай губ. па рацэ Нарач (мапа 1821 г.)*

---

* Ольстра — кабура. Дзве ольстры размяшчаліся па баках у пярэдняй лукі сядла. Ольстры ў паходзе прыкрываліся чахлом з тканіны.

** Харугаўка — шаўковы сцяжок, які мацаваўся да кавалерыйскага кап'я або пікі. Мела два локці даўжынёй і разрэзаная пасярэдзіне наўскос, утвараючы «ластаўчын хвост».

*** Ладунка — скураная торба для набояў.

**** Катанка — куртка з кароткімі крысамі, распаўсюджаная сярод вайскоўцаў Рэчы Паспалітай XVIII ст.

***** Шаравары — кавалерыйскія штаны з разрэзамі і стрэмечкамі ўнізе калашын.

****** Кітка — султан для ўпрыгожвання вайсковых галаўных убораў. Рабілася звычайна з пер'я ці конскага воласа.

* Паўлаўская рэспубліка — уладанне П. К. Бжастоўскага на Віленшчыне, дзе было арганізаванае самакіраванне і праведзеныя рэформы ў духу Асветніцтва ў 1760–80 гг. (Падрабязней: Пазднякоў В. Паўлаўская рэспубліка // Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя. — Мінск: БелЭн, 2005. — Т. 2. — С. 410–411.)

неабходнасць сачыць за іх знешнім выглядам і рыштункам: «*Все земяне, особенно из застенков, согласно привилегии, пожалованной им светлейшими владетельными князьями, обязаны, под угрозой утраты землянства, иметь и содержать хороших лошадей, надлежащую одежду и полное военное снаряжение*» [57, с. 233].

Трэці падзел Рэчы Паспалітай і захоп Расійскай імперыяй Віленшчыны быў канчаткова завершаны ў канцы 1795 г. Засценак Шчэбераki, што ляжаў на заходнім баку ракі Нарачанкі, згубіў свой памежны стан, бо паміж 1793 і 1795 гадамі мяжа Рэчы Паспалітай прайшла ўсяго ў некалькіх кіламетрах ад паселішча (!). У адрозненне ад Маркаўскага староства, якое трапіла ў расейскую казну і неўзабаве было падоранае рускаму генерал-маёру П. Б. Слізаву, Гануцкі маёнтак застаўся ў руках старых гаспадароў. Але новыя ўмовы жыцця ў імперыі хутка адбіліся на статусе тутэйшых жыхароў, а іх баярскі ды зямянскі стан канчаткова пераўтварыўся ў анахранізм, ад якога з часам нічога не засталося, апроч успамінаў.

У 1795 г. Шчэбераki трапляюць на старонкі першай рэвізіі, што праводзіла ўлада Расійскай імперыі на захопленых землях Віленшчыны. Паселішча пад назвай «*вёска Іжа*» ў Войстамскай парафіі фальварка Забалацце складаецца з дзвюх гаспадарак — Сымона і Давыда Шчэберакаў. У Сымона Пракопавіча Шчэбераki ў хаце жыве адразу адзінаццаць чалавек з трох пакаленняў. Жонка Сымона Кацярына, сын Марцін, дачка Аляксандра. І малодшы брат Сымона Гжэгаш з жонкай Настассяй. У сям'і Гжэгаша на той момант было тры дачкі (Крысціна, Тэдора, Ганна) і два сыны Васіль ды Гжэгаш. Якраз старэйшы сын Васіль (Базыль) з'яўляецца непасрэдным продкам галіны роду аўтараў гэтай кнігі. У другой хаце было менеі насельнікаў: Давыд, сын Элляша, з жонкай Ганнай, ды іх сыны — старэйшы Раман і малодшы Ежы. На жаль, ужо ў 1797 г. паміраюць бацька Давыд і сын Раман.



# Жыццё ў Расійскай імперыі

## *Стан засценка Шчэбераki паводле інвентароў 1802–04 гг.*

У самым пачатку XIX ст. засценак Шчэбераki складаўся з дзвюх гаспадарак, у якіх жылі пяць мужчынаў і шэсць жанчын. Каб апрацоўваць 26 моргаў (18,46 га) зямлі, мелася тры кані і чатыры валы. У хляве было чатыры каровы і пяць падцёлкаў, статак з сямі авечак і чатыры парсюкі. Абапал стаяла пяць вуллёў.

За валоданне засценкам гаспадары штогод выплачвалі 120 злотых чыншу, 28 злотых падымнага падатку, тры дзясяткі яек, дзве гусі, шэсць курэй і хмель. У графе інвентару «*паншчына*» — пуста, што дазваляе канстатаваць захаванне пераемнасці ў падаткаабкладанні з часамі Рэчы Паспалітай. Але тэрміна «*зямяне*» інвентар 1802 г. ужо не прыгадвае.

За наступныя некалькі гадоў гаспадарка крыху падрасла. Пад засценкам Іжа-Шчэбераki ў 1804 г. ужо была адна валока (30 моргаў) пашы сярэдняй якасці і 8 моргаў мурожных лугоў. Фармуляр дакумента прадугледжваў градацыю гаспадарак на цяглых, баяр, агароднікаў і кутнікаў. Шчэбераki тут аднесеныя да цяглых і павінны былі адбываць паншчыну. Ці было гэта памылкай справаводства, ці сапраўды некалькі гадоў

• *Склад сям'і Шчэберакаў паводле рэвізскай сказкі 1811 г.*

яны былі змушаныя несці службу на панскіх палетках? [27] Прынамсі, паводле пазнейшага інвентару 1814 г. засценак Шчэберакі зноў запісаны ў ліку чыншавых [28, арк.19].

## *Вайна 1812*

Засценак Шчэберакі пастунова мацнеў. Павялічваліся сем'і ды раслі гаспадаркі. Так было да вайны 1812 г., якая стала прычынай сур'ёзнага заняпаду паселішча. Нагодаў для крызісу ў той год было дастаткова: баявыя дзеянні, рэквізіцыі, вялікі рэкруцкі набор ды пошасці, якія неад'емна суправаджалі рух войска французаў ды рускіх.

Па дакладных і ўскосных крыніцах можна канстатаваць уплыў усіх гэтых чыннікаў на жыццё Шчэберакаў. Рух «*Вялікага войска*» Напалеона па Віленскім краі як наперад, так і асабліва ў зваротным кірунку суправаджаўся рабаваннямі. Пры наступленні войскі кепска забяспечваліся фуражом, што правакавала на марадзёрства звыклых да такога выжывання жаўнераў. Пры адступленні французаў гэтакі варыянт здабывання ежы стаў фактычна адзіным варыянтам для рэшткі галодных і абмарожаных вайскоўцаў захаваць сваё жыццё.

У эканамічных дакументах, якія складаліся ўжо праз паўтара года пасля вайны, прысутнічала прыпіска, якая тлумачыла неплацежаздольнасць гаспадароў: «*Засценак Іжа або Чэберакі… Nota: у тым засценку прыгаданыя гаспадары праз агульны заняпад страцілі кароваў з валамі 32 шт., 15 авечак, коней французы забралі 4…*». Гэты каштоўны запіс дае канкрэтныя звесткі аб «рэквізіцыі» войскам Напалеона [28].

З адшуканых крыніцаў вынікае, што вайна 1812 г. прынесла цяжкія матэрыяльныя страты гаспадарцы. У 1812 г. таксама катастрафічна паменшала насельніцтва засценка. Ці не стала таму віной забойства ў час рабавання? У 1807 г., паводле падлікаў пароха іжанскага Сніткі, у дзвюх хатах засценка жыло 27 чалавек (12 жанчын і 11 мужчынаў, 4 дзяцей (3 хлопчыкі, 1 дзяўчынка)), а ў 1818 г. іх было ўсяго 17 (6 жанчын, 7 мужчынаў, 4 дзяцей (1 хлопчык, 3 дзяўчынкі)). [42, арк. 33 адв., 50] Яшчэ больш несуцяшальныя лічбы дае ранейшы інвентар траўня 1814 г. У дзвюх хатах засценка жыло ўсяго 7 чалавек (4 мужчыны і 3 жанчыны). Адметна, што ў пазнейшай рэвізскай сказцы 1816 г. гутарка ўжо ідзе толькі аб адным доме, дзе туліцца ацалелая частка сям'і. Магчыма, гэта не памылка, а сапраўды сем чалавек размясціліся пад адным дахам.

Трэцяй прычынай заняпаду засценка стаў рэкруцкі набор. У 1812 г. царскім рэкрутам стаў Ежы (Юзаф), апошні прадстаўнік мужчынскай галіны Давыда Шчэберакі. Адметна, што ён не загінуў у баі і не затрымаўся ў войску на 25 год. Вядома, што ён вярнуўся пасля 1816 г. і па нейкіх прычынах нават няўдала спрабаваў збегчы з маёнтка Ганута, пра што сведчыць дадатак да рэвізскай сказкі 1818 г. з пералікам злоўленых беглых людзей. У другі раз Ежы не выпрабоўваў фартуну і жыў у сваім засценку, раз-пораз трапляючы на старонкі метрык Іжанскай царквы то як сведка на вяселлі, то як кум…

У 1812 г. (паводле дадзеных сказкі 1816 г.) памірае Васіль (Базыль) Шчэберака. Яго лёс нам найбольш цікавы, бо ён з'яўляецца прамым нашым продкам. На 1812 г. ён меў крыху больш за трыццаць гадоў. На жаль, акалічнасці ўдакладніць не дазваляе недахоп крыніцаў, а наяўныя звесткі досыць супярэчлівыя. Вядома, што ён не пайшоў у рэкруты. Не фігуруе Васіль і ў спісах памерлых мясцовай уніяцкай парафіі. Аднак у інвентары маёнтку Ганута, складзенага ў траўні 1814 г., ён ужо не запісаны, а яго сын Мікола Васільеў жыве ў сваякоў — у хаце роднага дзядзькі Грышкі Шчэберакі. Але ці сапраўды Васіль загінуў у 1812 годзе? Інфармацыі інвентару і рэвізскай сказкі супярэчыць два факты, занатаваныя ў метрычнай кнізе Іжанскай царквы. Так, 25 жніўня 1812 г. у Васіля з жонкай



• *Фрагмент метрычнага запісу аб хрышчэнні дачкі ў сям'і Базыля і Алены Шчэберакаў. 1813 г.*

Аленай нарадзіўся сын Дамінік-Барыс. А 22 кастрычніка 1813 г. адбыўся хрост іх дачкі Ганны-Мар'яны. З метрык вынікае, што прынамсі ў пачатку 1813 г. Васіль яшчэ не памёр, ці немаўляткі былі хрышчаныя са спазненнем. Зрэшты, гэта апошнія радкі гістарычных крыніцаў, у якіх Васіль выступае як жывая асоба [45].

Пра абставіны знікнення Васіля можна толькі рабіць здагадкі. Адна з іх — гэта смерць ад эпідэміі 1812–13 гг., што лютавала ў наваколлях. Вядомы факт вялікай колькасці кантамінаваных тыфам у французскім і расійскім войску ў восень–зіму 1812 года. Распаўсюджванне пошасці сярод жыхароў краю непазбежна адбывалася шляхам кантактаў, пастояў жаўнераў у вёсках, пакідання хворых у хатах, утрымання палонных, лекавання хворых рускіх і г.д. Паводле нядаўніх даследаванняў смяротнасці ў суседніх Крывіцкім ды Беркаўскім прыходах 1813 г., у рэгіёне адбывалася сапраўдная гуманітарная катастрофа. Людзі паміралі падворкамі, а ў царкве «*трунаў было да столі*»… [75] Аналагічныя падлікі ў Іжанскай парафіі могуць сведчыць, што хвароба закранула пераважна Каралеўцы, Іжу ды Слабаду — найбуйнейшыя паселішчы парафіі (у 1807 г. іх памер складаў адпаведна: 37 дамоў (261 чал.), 35 дамоў (191 чал.), 36 дамоў (252 чал.)). На жаль, парох Базыль Снітка не абцяжарваў сябе запісам на старонках метрыкі пра прычыну смерці [74, с. 485]. Таму нашыя заключэнні маюць дастаткова гіпатэтычны характар.



**Дынаміка смяротнасці ў Іжанскай парафіі ў 1812–1816 гг.**

| Год | 1812 | 1813 | 1814 | 1815 | 1816 |
|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць нябожчыкаў | 40 | 98 | 19 | 27 | 30 |

Пры гэтым сам засценак Шчэберакі ў ім не фігуруе, як няма ў спісах 1812–13 гадоў зніклага Васіля Шчэберакі. Відавочна адно: яго лёс быў трагічна звязаны з падзеямі 1812 года. Яго жонка Алена з дзецьмі засталіся жыць па вайне ў засценку ўжо без яго. З гэтага моманту лінія нашага радаводу стала працягвацца праз Мікалая Васільевіча, чый лёс аказаўся таксама досыць цікавым.

Відавочны эканамічны заняпад засценка красамоўна апісвае падрабязны інвентар 1814 г. Ён фіксуе паваенны стан родавага котлішча, якому па-ранейшаму належала 30 моргаў зямлі (адна валока). На дзве гаспадаркі, Марціна і Грышкі Шчэберакаў, засталося ўсяго 3 кані і 1 вол, 2 каровы, 7 авечак, 8 парсюкоў і 7 вуллёў. Як ужо адзначалася, абрабаваныя вайной жыхары засценка не маглі даць рады чыншу ды традыцыйнай натуральнай даніне. На той момант маёнткам Ганута валодаў сенатар Міхаіл Клеафас Агінскі. Менавіта яму Шчэберакі недаплочвалі падаткі… У 1832 г., амаль праз дзесяцігоддзе пасля ад'езду кампазітара ў Еўропу, частка маёнтка Ганута адыходзіць да яго старэйшай сястры Юзэфы Лапацінскай з вёскамі Кавалі, Роткавічы, Ярмолічы, Ялажычы і засценкам Іжа. У гэтым засценку ў адным двары працягвае жыць сям'я Шчэберакаў [54, с. 184]. У 1834 г. ад пані Ю. Лапацінскай зямля перайшла да Лямберта Ржэвускага.

Відавочна чарговая змена гаспадароў маёнтку Ганута ў сярэдзіне 1830-х гг. негатыўна паўплывала на лёс нашага засценка. Рэвізская сказка 1834 г. фіксуе змены ў складзе жыхароў засценка. Пад адным дахам жывуць усе пакаленні Шчэберакаў з некалькіх адгалінаванняў роду. Тут дажываў свой век стары Марцін Сымонавіч з жонкай Мар'янай. У Рыгора Рыгоравіча ў сям'і падрасталі тры дачкі і сыны-падлеткі:

Аляксей, Мацей, Сямён. А вось родны старэйшы брат Міколы Юзаф-Ян Васілевіч Шчэберака (1805–1830) памёр, пакінуўшы ўдаву Мар'янку. Мікола Васільеў на момант рэвізіі меў уласную сям'ю: жонку Францішку і дачку Агату. Усяго ў засценку жыло 15 чалавек (6 мужчынаў і 9 жанчынаў) [36, арк. 27 адв. — 28].

Драматычны фінал існавання ўласнага засценка роду Шчэберакаў фіксуецца на старонках наступнай рэвізіі 1850 года. Тут *засценак Іжа* яшчэ натуецца як асобнае паселішча, але са зместу робіцца відавочным, што ён ужо пусты. У графе, дзе звычайна пазначаецца ўзрост асобаў, зроблены запіс «*пераведзеныя ў вёску Забалацце*». З дакумента вынікае, што Рыгор Рыгоравіч Шчэберака і тры сыны (Аляксей, Мацей, Сямён) разам з жанчынамі перасяліліся ў названую вёску пад Ганути. (Стары Марцін, згодна з рэвізскай сказкай, памёр яшчэ ў 1840 г.)

У які час адбылося гэта перасяленне і адпаведна знікненне засценка Шчэберакі? Трэба ўлічыць, што на момант продажу Ганути пану Ржэвускаму і ў час рэвізіі 1834 г. засценак яшчэ адназначна існаваў. Верагодна, гэты сумны для роду Шчэберакаў факт адбыўся ў самым канцы 1830-х гг. На карысць такой версіі сведчыць, што першыя запісы ў метрычных кнігах Ганутскай царквы фіксуюць у 1839 г. носьбітаў прозвішча Шчэберакі з новай «прапіскай» у Забалацці, Ялажычах. У 1840–50 гг. на старонках царкоўных дакументаў адлюстроўваецца карціна паступовага павелічэння сем'яў вышэйзгаданых перасяленцаў, іх сацыяльнай актыўнасці ў ролі хросных, сведак, жаніхоў, бацькоў*.

Канкрэтызаваць лаканічныя радкі рэвізскай сказкі дазваляе «*Статыстычнае апісанне маёнтка Ганута*» пана В. Ржэвускага 1847 г. Сярод пераліку ўладанняў Ганути больш не фігуруе засценак Іжа-Шчэберакі. Відавочна, што зямля была прададзеная, а жыхары засценка пераселеныя на новыя месцы. Верагодна, пазней зямля засценка была далучаная да бліжэйшай суседняй вёскі Пукалы, якая працягвала існаваць аж да сярэдзіны XX ст.

У пасямейным спісе 1847 г. мы знаходзім дакладныя лакацыі, дзе апынуліся перасяленцы. У вёсцы Ялажычы ў хаце пяцідзесяцігадовага Тамаша Садоўскага жыў трыццацігадовы Іван Шчэберака «палавін» (што значыць — у чужым доме без сваёй сям'і)*. Селянін Т. Садоўскі — удавец, мае пяць дачок (Ева — 17 гадоў, Хрысціна — 16 гадоў, Юстына — 12 гадоў, Езафата — 6 гадоў, Цэцылія — 4 гады). Гаспадарка ж Т. Садоўскага, паводле «*Статыстычнага апісання…*», мае аж 16 дзесяцінаў зямлі. Магчыма, задача І. Шчэберакі была дапамагаць апрацоўваць такі значны надзел? Дарэчы, ва ўсіх гаспадарак уладання Ганута на той момант пазначаны аднолькавы памер палеткаў: «*… общество крестьян … пользующееся одинаковыми земли участками и угодиями…*» [29, арк. 6].

У Забалацці асядае стары «*Грышка сын Івана Шчэберака з жонкай Палюхай, сынамі Сымонам і Мацеем, дочкамі Кацярынай і Ганнай*»**. Старэйшы сын — Ляксей — на той момант у рэкрутах (але пазней вернецца ў Забалацце і ў 1842 г. пабярэцца з Францішкай Садоўскай з в. Родзевічы). Гаспадарка мае 16 дзесяцінаў, 2 кані і 2 валы, 2 каровы, 5 авечак, 2 парсюкі і інш. За гэта выпадае служыць тры дні прыгону на тыдзень пешых (ці жаночых) і тры з канём. Апроч

---

* Частка метрычных кніг і шлюбных вобшукаў Ганутскай царквы пачатку 1850-х гг., дзе згадваюцца Шчэберакі, знаходзіцца дагэтуль у Вілейскім краязнаўчым музеі.

* Адметна, што яго імя не фігуравала ў рэвізскіх сказках і, на жаль, немагчыма суаднесці асобу такога ўзросту з вядомымі прадстаўнікамі галінаў роду. Адзіны, хто быў носьбітам гэтага імя — Юзаф — Ян Васільевіч Шчэберака (нар. 1805 г.), але, паводле рэвізскіх сказак, ён памёр яшчэ ў 1830 годзе…

** Тут відавочная памылка, бо яго сапраўднае імя па бацьку — Рыгоравіч.




• *Засценак і вёска Курнікі (карта Шуберта, 1860-я гг.)*

гэтага — згоны і натуральная даніна. Іншымі словамі, перасяленцы канчаткова развітваюцца са сваім засцянковым зямянска-асадніцкім мінулым і ўліваюцца ў панную групу цяглых сялянаў.

Сёння ўсе Шчэберакі Смаргоншчыны (а яны захавалі менавіта такую форму напісання прозвішча дагэтуль) могуць упэўнена весці свой радавод з ліквідаванага Ржавускім уласнага засценка пад Іжай…* На Ганупкіх могілках захаваліся дзясяткі пахаванняў Шчэберакаў, што пайшлі ад пералічаных вышэй перасяленцаў**.

---

* Дадзеная частка роду Шчэберакаў стала дастаткова разгалінаванай. У Сямёна былі сыны — Аляксей (яго дзеці: Вікенцій, Марыя, Дамініка, Ганна), Сцяпан (яго дзеці: Іван, Варвара, Надзея), Аляксандр (дачка: Ганна), Восіп (дзеці: Пётр, Міхаіл, Надзея). Былі нашчадкі ў малодшых братоў Сямёна — Аляксея і Мацея. (Паводле метрычных кнігаў Ганупкай царквы. Звесткі няпоўныя.)

** На старых могілках Ганупы (Ручыцы) выяўленыя пераважна пахаванні Шчэберакаў ужо XX ст.: «Игнатий Осипович Щеберако 1898–15.12.1957 (з в. Роткавічы); Анатолий Игнатьевич Щеберако 1928–1947 (з в. Роткавічы); Евгений Алексеевич Щеберако 1898–1967 (з в. Роткавічы); Александр Александрович Щебирако 1934–2002; Елена Яковлевна Щебирака 1934–?; Анастасия Павловна Щебирако 1902–1989; Николай Алексанрович Щеберако 09.02.1962–2010; Людмила Викторовна Щеберако 1964–2002; Софья Алексеевна Щеберако 1902–1961; Анна Мартыновна Щеберако 1900–1974; Мария Ивановна Щебирако 1915–1991; Викентий Алексеевич Щеберако 14.09.1908–1962;



Пра лад вядзення справаў у Ганупе ў 1840-х гг. вядома дастаткова шмат са статыстычнага апісання: «*Хлебопашество ведётся простое, зерновое, трёхпольное с возвращением на первое поле через третий год. Земля обрабатывается сохою, обыкновенно двуволовою и бороною одна-конною*». Сярод самых прыбытковых заняткаў сялян — сплаў лесу па Віллі: «*Только некоторые из них нанимаются на сплав леса по реке Вилии в город Ковно, Вильно ценою по руб. 3 серебром, а некоторые и за границу до Крулевца ценою по руб. 7 серебром. Заработки остаются в полном распоряжении Крестьян*». [29, арк. 3 адв.]

Вернемся да пошукаў слядоў Мікалая Васільевіча Шчэберакі. Як адзначалася вышэй, у спісе рэвізскай сказкі 1850 г. ён займае адпаведны радок і насупраць яго імя ёсць той самы запіс наконт перамяшчэння з засценка Іжа ў Забалацце [37]. Але ці быў ён таксама пераселены? Гэта версія не пацвердзілася ні падрабязным «*Статыстычным апісаннем Ганупы 1847 г.*», ні доўгімі пошукамі згадак Мікалая сярод жыхароў уладання па метрычных кнігах тамтэйшай царквы. Толькі ў 1860-х гг. зноў знаходзіцца яго імя ў дакументах Іжанскай праваслаўнай царквы (на жаль, існуе вялікая лакуна ў крыніцах 1840–50 гг. па гэтым прыходзе). З іх вынікае, што сям'я Міколы, нягледзячы на сваё «раскіданае гняздо», не пакінула таго кутка Завілейскага павета, не падзяліўшы лёс асноўнай часткі Шчэберакаў, пераселеных у Ялажычы ды Забалацце ля Ганупы.

Нагадаем, што ў 1834 г. Мікола ўжо быў жанаты і меў дачку. З гэтага моманту ён знікае з дасяжных нам зараз дакументаў. Пакуль не высветлены дэталёвы лёс яго сям'і пасля ліквідацыі засценка Шчэберакі. Але прынамсі на 1865 г. яна значна павялічылася і жыла ў засценку Курнікі. Старэйшая

---

Виктор Викентьевич Щеберако 1949–2016; Анна Ивановна Щеберако 19?9–1983».

дачка Мікалая Агата выйшла за каталіка Стэфана Зянковіча з мястэчка Спягла. Старэйшы сын Даніла завёў уласную сям'ю і жыў, як і бацька, у Курніках [43, арк. 105, 115]. У 1867 г. у Курніках памірае жонка Міколы Васільевіча Шчэберакі — Францішка (*«28/30 генваря 1867 г. Сельского обывателя застенка Курников Николая Стебораки жена Францишка Владимирова, 56 лет, от нервозной горячки»)* [60, арк. 205 адв.]. Паводле царкоўных дакументаў Шчэберакі стала жылі ў засценку Курнікі да 1873 г. уключна*.

Аднак існуе пэўная складнасць з вызначэннем паселішча, бо на сярэдзіну XIX ст. побач існавала двое Курнікаў (вёска і засценак), размешчаныя ў некалькіх вёрстах на поўнач па дарозе на Засвір ад ранейшага радавога котлішча — засценка Шчэберакі. Яшчэ ў другой палове XVIII ст. засценак Курнікі ўваходзіў у Маркаўскае староства і ўтварыўся, паводле дадзеных краязнаўцы А. Рогача, побач з фальваркам Курнікі Чурлёнскага маёнтку [54, с. 365]. Курнікі былі часткай значнай групы зямянскіх засценкаў, пра якія гутарка вялася вышэй. У падатковых і парафіяльных крыніцах першай паловы XIX ст. апісвацца «*скарбовы засценак Курнікі*» ці «*Курнікі Каралеўскія*» з усяго некалькімі сем'ямі (на 1799 г. — 3, на 1817 г. — 3 (24 жыхары)). У 1866 годзе паселішча не дужа павялічылася, але ўжо стала лічыцца вёскай. Яе апісвае «*Польскі слоўнік геаграфічны*»: *«дзяржаўная вёска над ракой Нарач у павеце Свянцянскім, …у 72 км. ад Свянцянаў, 4 дамы, 24 жыхары»* [14]. Менавіта як былая казённая вёска Маркаўскага маёнтка ўнесеныя Курнікі ў даведнік «*Спіс валасцей і сельскіх грамад Віленскай губ.*» 1874 г. (насельніцтва — 13 рэвізскіх душаў) [76, с. 47].

* У метрычных кнігах Спяглянскай, Беркаўскай, Крывіцкай царкваў 1860–70-х гг. сустракаюцца недарэчныя скажэнні прозвішча: Суббарокі, Сцебарокі, Себерякі. Варыянт «Себерякі» адпавядае памылковаму напісанню назвы вёскі Сцеберакі на мапе генеральнага межавання 1797 г.



Пры гэтым недзе ў 1830–40 гг. побач, але крыху далей ад дарогі, паўстаюць другія Курнікі, набытыя Гурыновічамі ў 1857 г. Гэты засценак вылучыўся з ваколіцаў аднайменнай вёскі і раней належаў Леапольду і Венядзікту Галкам. Курнікі сталі часткай невялікага маёнтка Крыстынопаль, куды яшчэ ўваходзілі вёскі Муляры і Леснікі. Паводле даведніка 1874 г., у Курніках пана Гурыновіча было ўсяго 4 рэвізскія душы [76, с. 44].

Ва *ўстаўных граматах* і справах па выкупе зямлі часоваабавязанымі сялянамі 1860–70 гг. у абодвух Курніках прозвішча Сцебурак адсутнічае, хоць яны там у гэты час дакладна жывуць немалой грамадой [30]. Сведчыць гэта, хутчэй за ўсё, пра тое, што яны ў гэтыя дзесяцігоддзі там толькі арандавалі зямлю. Паводле дакументаў Спяглянскай і Іжанскай царкваў, Сцебуракі жывуць менавіта ў засценку, а не ў вёсцы Курнікі. Гэта дазваляе больш дакладна вызначыць іх лакацыю і звязаць з маёнткам Крыстынопаль Гурыновічаў.

## Сцебуракаў фальварак Субачы

Выглядае, што Мікола яшчэ ў канцы 1830-х гг. знайшоў спосаб застацца ў блізкіх наваколлях Іжы і весці паспяховую гаспадарку, у выніку чаго назапасіць вялікія сродкі для набыцця ўласнай зямлі на схіле жыцця ў 1870-я гг. Калі ўзяць пад увагу сямейную легенду пра тое, што Сцебуракі ніколі не былі ў прыгоне і да набыцця ўласнай арандавалі зямлю, то можна меркаваць (бо пакуль не адшуканыя дакументы), што гэта гісторыя якраз адносіцца да «курніцкага» эпізоду жыцця.

Цікава, што яшчэ да моманту заключэння ўгоды аб набыцці зямлі і сядзібы ў Субачах Сцебуракі ўжо туды пераехалі. У метрычных кнігах Беркаўскай, а пазней і Крывіцкай царкваў з 1874 г. пачалі згадвацца «Сцебуракі з Субачаў». Нават калі Беркаўская царква страціла статус прыходскай і знікла,




• *Фальварак Субачы (другая пал. XIX ст.)*

Сцебуракі працягнулі хаваць сваіх памерлых на могілках каля яе ў Зарэчным. Там захаваўся да сёння куток з каменнымі помнікамі пяці асобам, у тым ліку самому Міколу Васільевічу Шчэбераку.

Нарэшце ў 1875 г. Сцебуракі набылі сабе «новую зямлю» ў Субачах — фальварак, які ўключаў былы панскі дом, вялікі абшар з ворывам ды лесам — разам 100 дзесяцінаў! Ён знаходзіўся недалёка ад мястэчка Крывічы і непасрэдна перад набыццём належаў да маёнтка Стары Княгінін пана Л. Мікульскага.

458. Okręgowy Urząd Ziemski w Wilnie podaje do publicznej wiadomości, że Okręgowa Komisja Ziemska w Wilnie na posiedzeniu w dniu 19 sierpnia 1925 roku postanowiła wdrożyć postępowanie scaleniowe: 1) na obszarze około 141,96 ha gruntów nadziałowych, należących do gospodarzy wsi Subocze I, gminy Krzywickiej, powiatu Wilejskiego, 2) na obszarze około 125 ha gruntów nagziałowych, należących do gospodarzy wsi Subocze II, 3) na obszarze około 109,25 ha gruntów folwarku Subocze, należącego do Mikołaja i Daniela Sciebruków, 4) na obszarze 5,20 ha gruntów wspólnego pastwiska wsi Subocze I, Subocze II i folwarku Subocze, 5) na obszarze około 53,54 ha gruntów z państwowego majątku Kniahinin, przeznaczonych decyzją Prezesa Okręgowego Urzędu Ziemskiego w Wilnie z dnia 19 czerwca 1925 r. na upełnorolnienie gospodarzy wsi Subocze I, łącznie na obszarze około 434,95 ha.

• *Абвестка аб камасацыі зямлі вёскі і фальварка Субачы. 1926 г.*



Менавіта з Субачамі быў звязаны наступны працяглы паспяховы этап сямейнай гісторыі, з 1870-х да трагічнага 1939 г. [78]. Пасля І сусветнай вайны гэты фальварак працягваў быць фамільным котлішчам Сцебуракаў, хоць ужо страціў старасвецкі дом і быў падзелены паміж братамі Міколай і Данілам. У час зямельнай рэформы (парцэляцыі) сярэдзіны 1920-х гг. фальварак замацаваў свае межы і нават крыху павялічыўся (110 га) побач з вёскамі Субачы-І (141 га) і Субачы-ІІ (125 га) [8]. Таму Сцебуракі да 1939 г. уносіліся ў спісы асноўных землеўласнікаў Крывіцкай гміны Вілейскага павета [13].

## *Гісторыя фальварка Субачы*

Што вядома пра фальварак Субачы, набыты Сцебуракамі? Непасрэдна сам фальварак з'явіўся, мяркуючы па наяўных звестках, напрыканцы XVIII ст. і ўжо быў адлюстраваны на плане генеральнага межавання 1797 г., а ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. стаў раз-пораз згадвацца ў сувязі са зменай гаспадароў і здачай у арэнду.




• *Фальварак Субачы на плане 1797 г.*

Больш складана суаднесці землі фальварка з іх уласнікамі за часамі ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Вядома, што ў двары Крывічы паноў Кішак існавала сяло Субачэвічы яшчэ ў першай палове XVI ст. (на 1546 г. — дзве службы і пяць дымоў). Пазней на падзеленых паміж рознымі гаспадарамі землямі маёнтка фіксуецца некалькі аднолькавых тапонімаў.

Так, «Падымны рэестр віленскага ваяводства» 1690 г. канстатуе адначасовае існаванне трох Субачаў у адной мясцовасці ў руках розных паноў. Субачы (Siebacze) пана А. Есьмана, Субачы Зарэчныя К. Дамброўскага і Субачы-Падкрывічы

К. Глухоўскага [46, с. 116, 128]. Адзначым, што названыя апошнімі Субачы-Падкрывічы можна з упэўненасцю звязаць з адпаведным тамтэйшым маёнткам. *«Маёнткі пад назвай Падкрывічы ўтварыліся ў канцы XVI ст. шляхам атрымання шляхцічамі Навагрудскага ваяводства Пантусовічамі і Полацкага ваяводства С. Глухоўскім пэўных зямель Яна Кішкі ў маетнасці Крывічы Ашмянскага павета ўзамен за свае колішнія ўладанні»* [55, с. 5].

Паводле царкоўных дакументаў Беркаўскай уніяцкай парафіі 1766 г., у Субачах «*знаходзяцца падданыя трох паноў*»: Аскеркаў, Вазгірдаў і Радзевічаў [44, арк. 1 адв.]. Паводле дадатку да генеральнага межавання Вілейскага павета 1798 г., Субачы былі падзеленыя ўжо паміж трыма іншымі гаспадарамі: Слізнямі, Аскеркамі, Цывінскімі [72, арк. 362].

Якраз з Субачамі Цывінскіх звязанае з'яўленне асобнага **фальварка Субачы**. Іх Субачы былі дастаткова невялікімі. Паводле рэвізскіх сказак 1795 г. у іх было ўсяго чатыры гаспадаркі (у трох жылі сем'і Ярчаковічаў і ў адной — Дземідовічы). У Субачах Цывінскіх таксама жылі «наследные подданые коренные владельческие», чыёй справай было «служить во дворе Подкривичах на черновой работе». Відаць, праца была не з лёгкіх, бо неўзабаве двое служак памерлі, а двое збеглі. Служба жыхароў гэтых Субачаў Цывінскіх у двары Падкрывічах дазваляе меркаваць, што гутарка ідзе пра колішнія Субачы Падкрывічы, апісаныя ў *«Падымным рэестры 1690 г.»*.

У 1808 г. з Субачаў Цывінскіх страцілі яшчэ дзве гасподы (Дземідовічаў і Ярчковічаў), бо іх набыў пэўны «*памешчык Тышка*». А яшчэ некалькі сялян збеглі ці памерлі… Неўзабаве Францішак Цывінскі прадаў свае амаль апусцелыя Субачы ўдаве Людвіцы Вазгірадавай*. Ападведна, былыя Субачы

* Людвіка Вазгірдава паходзіла з роду Радзевічаў. На 1816 г. маладой удаве было 32 гады, і яна сабрала ва ўладанні Жары значныя землі, якія складаліся з трох частак (Жары, Сухібор, Сэрвач) — разам 190 рэвізскіх душ мужчынскага полу.



Цывінскіх былі далучаныя да вялікага ўладання Жары (дакладней, да адной з яго складовых частак — маёнтка Сухі Бор).

На 1811 г. у в. Субачы Л. Вазгірдавай жылі ўсяго чатыры асобы мужчынскага полу [32]. У 1816 г. сяляне Субачаў змяшчаліся ў дзве хаты (першая — Іван і Рыгор Марцінавы сыны Ярчаковічы з жонкамі; другая — Рыгор Мікалаеў Ярчаковіч і яго пляменніца).

У рэвізскіх сказках 1816 г. нарэшце згадваецца і *фальварак Субачы* пані Л. Вазгірдавай, якім па закладным праве валодае і там непасрэдна жыве дваранін Клеменс Пятровіч Цішкевіч з жонкай Апалоніяй. Пры фальварку маецца ўсяго тры рэвізскія душы мужчынскага полу [34].

Наступны раз фальварак Субачы ўсплывае ў 1820-я гг. як уласнасць ужо Францішка Цішкевіча. У 1824 г. ён селіць там дваровых людзей, набытых для фальварка з маёнтка Жары ў Лявона Корсака [38]. Адметна, што гэтымі дваровымі людзьмі выявіліся не хто іншы, як ужо знаёмыя нам нешматлікія жыхары той самай вёскі Субачы, якія прайшлі праз рукі паноў Цывінскіх, Вазгірдаў і Корсакаў*.

У 1820–1850 гг. фальварак Субачы быў месцам жыцця некалькіх пакаленняў паноў Цішкевічаў. Ад згаданага Францішка фальварак перайшоў яго сыну — Феліксу (1807–1836). Ён у сваю чаргу меў двух сыноў (Францішка і Каятана) і дачку Камілу ў шлюбе з Тэрэзай з роду Мацкевічаў, *«рэгентаў павета Вілейскага»***. Жыццё гаспадара Субачаў заўчасна перарвала хвароба. У снежні 1836 г. ён сканаў ад сухотаў і быў адпеты ва ўніяцкай плябаніі ў Плашыне каля мястэчка Крывічы і аддадзены зямлі на царкоўных могілках. Цікава, што каталікі Цішкевічы найперш звярталіся да грэка-каталіцкіх святароў.

* Пры гэтым прозвішча Ярчаковіч трансфармавалася ў Юрчак, доказам чаму з'яўляецца поўнае супадзенне імёнаў і ўзросту сялян у дакументах паслядоўных рэвізій 1795, 1811, 1816 і 1834 гг.

** Рэгент павета — невысокая судовая пасада.

Так, калі ў красавіку 1834 г. у сям'і нарадзіўся Францішак, то яго хрысціў беркаўскі парох Якуб Пракаповіч у прысутнасці павятовай шляхты*. А праз два гады ў фальварак Субачы быў запрошаны ксёндз Мельхіёр Касінскі, адміністратар крывіцкай рымска-каталіцкай парафіі. Ён правёў дадатковы абрад над Францішкам Цішкевічам ужо па каталіцкай традыцыі [63, арк. 3–4].

Перад самай смерцю, у канцы лістапада 1836 г., Фелікс Цішкевіч склаў тастамент, паводле якога *«фольварк свой наследственный Субочи в Вилейском уезде состоящий с тремя крестьянскими душами и всеми вообще принадлежностями записан и отдан вечным даром детям своим»*. І наступныя два дзесяцігоддзі маладое пакаленне Цішкевічаў гадавалася ў сваім фальварку. Адмысловая камісія вілейскага земскага суда ў сакавіку 1857 г. наведала фальварак, у якім жылі Францішак** і Каміла Цішкевічы. Чыноўнікі засведчылі існаванне фальварка на абшары ў пяць валок з сенакосам, падзеленага на часткі цераспалосіцай побач з землямі суседзяў — паноў Казелы ды Мікульскага. Фальварак валодаў, як і раней, усяго некалькімі прыгоннымі (*«по последней ревизии дворовых тремя душами мужского полу и одною новорожденною»*). Праверка суду канстатавала, што фальварак рэальна існуе і пры гэтым ён вольны ад судовых спрэчак, а тастамент Фелікса Цішкевіча выкананы дакладна [61, арк. 487, 488 — 488 адв.].

Ад Цішкевічаў фальварак Субачы перайшоў у 1857 г. да Льва Мікульскага, гаспадара суседняга маёнтка Стары Княгінін, у які ўваходзілі вёскі Студзёнка, Выгалавічы і Субачы. Адметна, што фальварак быў прададзены роўнымі

* Хросныя — Антоні Сергоф, Паўліна Ялінская; асістэнты — Ян Ходзька, прэзідэнт другога дэпартамента галоўнага Мінскага суда; Віктарына Казела, Ганна Шышкова, Віктарына Марашэўская.

** Вядома, што былы гаспадар фальварка Субачы, Франц Цішкевіч, атрымаў у спадчыну частку значанага маёнтка Крынічын у Вілейскім павеце, пасля смерці ў 1869 г. яго бяздзетнага роднага дзядзькі, адстаўнога паручніка Калясанція Францавіча Цішкевіча.



часткамі памерам па 40 дзесяцін без сялян (куды падзелася яшчэ 20 дзесяцін?). Дзве сям'і Ярчаковічаў папярэдне былі прададзеныя пану Восіпу Янушэўскаму, а іх *сядзібныя пусткі* засталіся ў складзе фальварка. Сенажаці былі раскіданыя ў чатырох месцах: пры самім фальварку, ва ўрочышчы каля в. Малышкі (у трох дзялках), каля Беркаўскай плябані ля в. Кусі і, самая аддаленая сенажаць, каля в. Ельжуткі за мястэчкам Крывічы. Дзве ўгоды на зямлю ў канцы сакавіка і пачатку ліпеня 1857 г. суправаджаліся аплатай па 300 рублёў срэбрам і замацоўваліся купчымі ў Вілейскім павятовым судзе [62, арк. 25 адв. — 28, 38–40].

Нарэшце, у 1875 г. фальварак быў набыты за 1590 руб. срэбрам Мікалаем Васільевым Шчэберакам. Жылы дом, больш за 99 дзесяцінаў ворыва, лугоў і лесу сталі ўласнасцю сям'і.

З вышэйсказанага вынікае, што да Сцебуракаў фальваркам Субачы валодалі Мікульскія, Цішкевічы, Вазгірды, Цывінскія. А сам фальварак быў заснаваны на зямлі вёскі, вядомай ў XVII–XVIII стст. як Субачы-Падкрывічы паноў Глухоўскіх… Можна яшчэ больш занурвацца ў тонкасці спадчынных правоў на тую зямлю, але гэта дастаткова няўдзячная справа і вялікая рызыка ўпасці ў блытаніну. Як падкрэсліў Герман Брэгер, ужо *«напачатку XVII ст. канчаткова сфарміраваліся два маёнткі Падкрывічы, якія на працягу XVII–XVIII стст. неаднаразова мянялі не толькі гаспадароў, але і свае назвы»* [55, с. 5]. Таму абмяжуемся сціслымі прыведзенымі звесткамі, якія пры неабходнасці можна ўдасканаліць дзякуючы цудам захаванаму архіву маёнтка Падрывічы XV–XIX ст. (Люблін) і маёмасным дакументам па маёнтку Крывічы Кішкаў XVI–XVII стст. (Варшава) [3; 55].

# Нашыя суседзі і сваякі

Ваколіцы мястэчка Іжы былі густа пакрытыя пераважна невялікімі паселішчамі, якія належалі розным гаспадарам. У межах уніяцкай парафіі былі значныя скарбовыя (дзяржаўныя) уладанні, а таксама зямля паноў Любанскіх, Ваньковічаў, Невяровічаў, Казакевічаў, Сулістроўскіх, Агінскіх, Загорскіх, Гурыновічаў, Войстамскай каталіцкай плябаніі, Віленскай каталіцкай капітулы і інш. Як ужо адзначалася вышэй, засценак Шчэберакі быў на зямлі Агінскіх, але пры гэтым ён размяшчаўся дастаткова далёка ад самога маёнтка Ганута, і яго з усіх бакоў атачалі пасяленні іншых уласнікаў. Праблематычна дэталёва акрэсліць колы знаёмстваў і стасункаў Шчэберакаў у той час. Тым не менш пэўныя дэталі аднавіць можна, узяўшы пад увагу сваяцкія сувязі і сяброўскія кантакты, зафіксаваныя ў метрычных кнігах. Шчэберакі былі сведкамі на вяселлях і хроснымі на бежмаваннях. Ацалелыя метрычныя кнігі Іжанскай царквы, падзеленыя сёння паміж архівамі і бібліятэкамі Вільні і Санкт-Пецярбурга, дазваляюць скласці пэўнае меркаванне пра кола і геаграфію сямейных стасункаў за перыяд з 1767 па 1826 гг. (з пэўнымі пярэрвамі).

*Сцебуракі былі хроснымі* ў **Жыхараў** з Кішчыцаў (1768), у Данілы і Ганны **Пукалаў** з Пукалаў (1787, 1790); у Андрэя і Мар'яны **Касякоў** з Засценка (1767, 1771, 1774); у Міхала і Аўксінні **Касякоў** з Засценка (1787, 1790, 1792, 1794, 1799); у Ежы і Мар'яны **Касякоў** (1805, 1821); у Міхала і Марыі **Жыхараў** з Кішчыцаў (1793); у Яна і Хвесі **Трубачоў** з Засценка (1773); у Аляксандра і Барбары **Дзямідкаў** з Кішчыцаў (1770, 1773, 1776); у Яна і Хрысціны **Місюлёў** з Засценка (1774); у Гжэгаша і Ганны **Місюлёў** з Засценка (1826); у Міхала і Ганны **Палачанскіх** з Вутак (1822); у Сымона і Пракседы **Грэлікаў** з Засценка (1823).



*Хроснымі былі ў Сцебуракаў* **Камары** (1767), **Місюлі** (1767, 1812, 1813), **Жыхары** (1788, 1791, 1796), **Дэйнеровы** (1788, 1791), **Касякі** (1773, 1788, 1796, 1812), **Дзямідавы** (1773), **Дзівіцкія** («Ягамасць пані Агата Дзівіцкая») (1788); **Шайко** (1805); **Палачанскія** (Яўдохія Палачанская з Пукалаў) (1805), Францішак Палачанскі (1813); **Ермалаевы** («Фёдар Ермалаеў салдат гвардзейскага палка») (1821), **Загорскія** («Ягамосць пані Марцыяна Загурская») (1821).

*Сцебуракі парадніліся з* **Верамеямі** са Слабады (1789) г.; **Місюлямі** з Засценка (?) (1798); **Місюлямі** са Слабады (1805); **Гілямі** з Талуці (1813).

*Сцебуракі былі сведкамі* ў Аляксея **Касяка** і Марыі **Місюлёвай** з Засценка (1790); **Гіля** і Анастасіі **Пукала** з Пукалаў (1813); Ёзэфа **Пукалы** з Пукал і Соф'і **Сергіевіч** з Іжы (1814).

*Сведкамі былі ў Сцебурак* **Касякі** (1789), **Верамеі** (1789, 1798), **Місюлі** (1798, 1805), **Жыхары** (1798), **Рогачы** (1805), **Гілі** (1813), **Руткоўскія** (1813), **Занкавічы** (1813), **Згрунды** (1813).

Такім чынам, у перыяд жыцця Сцебуракаў ва ўласным засценку склалася сетка сваяцкія сувязяў і кумаўскіх кантактаў з дастаткова канкрэтным абмежаваным колам радоў. У першую чаргу гэта прадстаўнікі простага стану: Верамеі, Гілі, Жыхары, Касякі, Місюлі, Пукалы*. Гэтыя кантакты пачалі пакрысе затухаць толькі ў 1870-я разам з пераездам пад мястэчка Крывічы. Але, па ўспамінах Анатоля Сцебуракі

---

* Са згаданага роду Касякоў паходзіць вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху і паўночнаамерыканскай дыяспары Іван Касяк (1909–1989). З роду Місюлёў — Васіль Місюль (1889–1984) настаўнік, дзеяч беларускай эміграцыі, аўтар даклада на Кангрэсе ЗША аб злачынствах савецкіх уладаў у Вілейскай турме ў 1941 г. З суседніх з засценкам Шчэберакаў Грэлікаў выйшаў Мікалай Лапіцкі (1907–1976) — праваслаўны святар, вядомы руплівец беларускага жыцця ў ЗША. З в. Пукелы знітаваны род Боханаў, з якога паходзіла некалькі цікавых мастакоў-прымітывістаў (у тым ліку папулярная сёння Ніна Бохан).

(1926–2020), пэўныя сувязі працягвалі падтрымлівацца нават у другой палове XX ст., напрыклад з Пукеламі, якіх працягвалі лічыць аддаленымі сваякамі.

У некалькіх выпадках нашымі хроснымі выступала шляхта. Так, 1 верасня 1788 г. адбыўся хрост дачкі Давыда і Ганны Шчэберакаў Марысі. Кумамі былі Андрэй Касяк і пані Агата Дзівіцкая, якая, мяркуючы па ўсім, была з сям'і пароха Іжанскага — Станіслава Дзівіцкага [74, с. 232]. Больш трывалыя сувязі ў нашых продкаў былі з родам Палачанскіх.

Палачанскія, ці Шэмет-Палачанскія, вядомыя дзякуючы асобе аднаго з пачынальнікаў новай беларускай паэзіі XIX ст. — Яну Шэмету-Палачанскаму (1826–1905). На жаль, фактычна не захавалася саміх твораў аўтара, але вядомыя іх назвы і сюжэты (паэмы «*Ашмянская рэзь*» — пра знішчэнне паўстанцаў і жыхароў горада рускімі войскамі ў 1831 г., «*Даўгінаўскі пагром*» — верагодна, пра адпаведныя падзеі 1880-х гг. у мястэчку на Вялейшчыне, вершы «*Да братоў у пакоях*», «*За чаркай*», «*На дзяды*», «*Думы ў полі*», «*Барысаў камень*» і інш.). Пошукамі яго твораў пачалі займацца ў пачатку XX ст. яшчэ легендарныя В. Ластоўскі, Я. Карскі, Р. Зямкевіч, пацягнуў справу А. Мальдзіс, але безвынікова.

Вядомы знаўца літаратуры Г. Кісялёў у нарысе «*Слядамі Шэмет-Палачанскага*» занурыўся ў архівы і высветліў імавернае месца нараджэння паэта, абапіраючыся пераважна на справу аб доказе шляхецтва роду. «*Шматлікія Шэметы-Палачанскія жылі на чыншавым праве ў шляхецкіх засценках на памешчыцкай зямлі. Галоўнае іх гняздо было вакол мястэчка Іжа на мяжы Свянцянскага і Вілейскага паветаў*» [58, с. 246]. Паводле версіі Г. Кісялёва, паэтам мог быць найімаверней «*…Іван Міхайлавіч Шэмет-Палачанскі, хрышчоны ў Іжанскай уніяцкай царкве. Ён нарадзіўся 24 чэрвеня 1827 г. у засценку Утак (Уткі) Свянцянскага павета…*». Паводле другой версіі Г. Кісялёва, беларускім паэтам можа быць іншы прадстаўнік таго ж роду з блізкіх ад Вутак Грэлікаў — Іван Міхайлавіч Шэмет-Палачанскі (ахрышчаны 15.02.1824, бацькі — Міхал і Анастасія Палачанскія) [19, арк. 353 адв.]. Ён прыходзіўся стрыечным дзядзькам свайму поўнаму цёзку з Вутак, зрабіў удалую вайсковую кар'еру і вярнуўся ў родныя мясціны пасля Крымскай вайны. Яго родны пляменнік, Андрэй-Пётр Палачанскі, быў інсургентам у 1863 г. і выгнанцам у Сібір…



У любым выпадку, паэт Ян Шэмет-Палачанскі паходзіў з суседняга паселішча з засценкам Шчэбераki (Вутак ці Грэлікаў). Але менавіта з Палачанскімі з Вутак былі кумамі прадстаўнікі нашай прамой галіны Шчэберак. Стан Палачанскіх, паводле крыніцаў, быў таксама не дужа заможны, бо яны не мелі падданых, займаліся земляробствам на арандаванай зямлі і сплачвалі чынш пані Сулістроўскай — пасэсарцы Вутак [65, арк. 104].

Верагодна, жонка Базыля Шчэберакі Алена паходзіла з Палачанскіх ці, прынамсі, вельмі блізка з імі сябравала на працягу ўсяго жыцця*. Пры нараджэнні дваіх яе дзяцей хроснымі былі якраз Палачанскія (1805 г. — нарадзіўся Ёзэф-Ян, хроснай стала Еўдахія Палачанская з Вутак; 1813 г. — нарадзілася Ганна-Мар'яна, хросны — Францішак Палачанскі). А 16 жніўня 1822 г. ужо ўдава Алена Шчэберака была запрошаная хроснай да Міхала і Ганны Палачанскіх з Вутак на хрышчэнне-бежмаванне дачкі Вінцэнты-Караліны [45, арк. 345 адв.]. Пры гэтым хросным бацькам немаўляці стаў «Ягамосць пан Лукаш Палачанскі». На жаль, метрычных кнігаў Іжанскай царквы за 1827 і пазнейшыя гады не захавалася, а выкарыстаныя Г. Кісялёвым дакументы аб нараджэнні Яна Міхайлавіча Палачанскага паходзяць, хутчэй за ўсё, з ужо цытаванай дваранскай справы і з'яўляюцца скарочанымі выпіскамі з метрык, што не дазваляе назваць імёны кмотраў

---

* Алена Сцебурака — маці Міколы Васільевіча, які ў 1870-х гг. набыў фальварак Субачы.

• *Фрагмент метрычнага запісу аб хрышчэнні дачкі ў Палачанскіх, дзе Алена Шчэберака была хроснай. 1822 г.*

(хросных). Але відавочна, што бацькамі будучага паэта Яна Шэмета-Палачанскага былі згаданыя Міхал ды Ганна, даўнія суседзі-кумы Шчэберакаў.

Яшчэ адной цікавай постаццю сярод кумоў Шчэберакаў была пані Марцыяна Загорская, прадстаўніца мясцовай шляхты. Гэтаму роду належаў фальварак Тэклямір (Teklomir) з сядзібай у Старым Дубаве ў дастаткова блізкай адлегласці ад засценка Шчэберакі [7; 76, с. 45]. Зараз ад яе застаўся толькі фрагмент мураваных гаспадарчых пабудоваў. Цікава, што пані М. Загорская на два дні раней да ўдзелу ў хрышчэнні Разаллі-Пелагеі Шчэберакі 9 верасня 1821 г. была хроснай на аналагічным уласным сямейным свяце. У сям'і Базыля і Алены Загорскіх нарадзіўся сын, названы Напалеонам-Эдвардам. Тут лішне казаць пра значэнне выбару такога імя для немаўляці, асабліва ў перыяд пасля паразы Банапарта і яго смерці ў маі 1821 г. Бо імя Напалеон было не столькі данінай павагі французскаму імператару, колькі з'яўлялася легальнай формай дэманстрацыі ўласных патрыятычных перакананняў Загорскіх [59].

Пазней, у перыяд жыцця ў засценку Курнікі Сцебуракі сталі суседзямі, а магчыма, арандатарамі ў Каліста Гурыновіча з Крыстынопаля. Гэты маёнтак увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры і нацыянальнага руху XIX ст. як месца, дзе некаторы час жыў і трагічна заўчасна памёр паэт і грамадскі



дзеяч Адам Каліставіч Гурыновіч (1869–1894). За год да смерці ён выдаў у Кракаве беларускай лацінкай нізку з амаль дзвюх сотняў песень, прыказак, загадак пад назвай «*Збор беларускіх рэчаў: з Вішнеўскай гміны, Жодзішскай парафіі…*», сабраных у час вакацый якраз у наваколлях бацькоўскага Крыстынопаля [10]. Так, па збегу абставінаў, дзякуючы А. Гурыновічу былі зафіксаваныя і ўвайшлі ў гісторыю ўзоры гаворкі і прыклады дасціпнага фальклору з гэтага кутка Беларусі, дзе з даўняга часу было родавае котлішча Сцебуракаў.

Пакуль гэта ўсе вынікі нашага шматгадовага даследавання. Але архіўныя росшукі працягваюцца, і, без сумневу, з'явяцца новыя крыніцы, якія, магчыма, дазволяць адказаць на тыя пытанні з гісторыі роду, што пакуль застаюцца рытарычнымі.

# Крыніцы


1. Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie (AGAD). F. AR. Dz. X. Sygn. 251. — Інвентар уладання Ганута 1673. — f. 1–4.
2. AGAD. F. AR. Dz. XXV. Sygn. 2217. — Інвентар уладання Лоск, 1620.
3. AGAD. F. AR. Dz. X. Sygn. 354. — Piotr Piotrowicz Kiszka. Krzywicze w powiecie oszmiańskim, 1544–1547.
4. Сцебурака, А. Беркаўская парафія: хроніка з'яўлення і знікнення / А. Сцебурака, Д. Лісейчыкаў // Вілейскі павет. Гісторыка-краязнаўчы гадавік. — Вып. 3. — 2017. — С. 8–14.
5. Dacewicz, L. Nazewnictwo kobiet w dawnym powiece mielnickim: XVI–XVII / L. Dacewicz. — Białystok: Dział Wydawnictw Filii UW w Białymstoku, 1994. — 295 s.
6. Карабанаў, А. К. Культавыя і гістарычныя валуны Беларусі / А. К. Карабанаў [і інш.]. — 2-е выд. — Мінск : Беларуская навука, 2022. — 404 с.
7. Dubowo / Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich — T. XV, cz. 1 — Warszawa, 1900. — S. 448.
8. Dziennik Urzędowy Województwa Wileńskiego. — 1926. — № 2. — S. 24.
9. Gajl, T. Herbarz Polski / Lista Nazwisk / Korab. — Рэжым доступу: http://gajl.wielcy.pl/herby_nazwiska.php?lang=pl&herb=Korab. — Дата доступу: 21.01.2022.
10. Hurynowicz, A. Zbiór rzeczy białoruskich: z gminy Wiszniewskiej, parafii Żodziskiej, pow. Święciańskiego, gubernii Wileńskiej / A. Hurynowicz // Osobne odbicie z T. 17, dz. 2 Zbioru wiadomości do Antropologii kraj. Akademii Umiejętności w Krakowie. — 1893. — 70 s.
11. Inwentarze guberni Szczeberskiej / Oprac. G. Krupiński. — Augustów: Stowarzyszenie Jamiński Zespół Indeksacyjny, 2018. — 474 s.
12. Jankowski, C. Powiat oszmiański: materjały do dziejów ziemi i ludzi / C. Jankowski. — Petersburg: nakł. wydawcy, 1896. — 391 s.
13. Krzywicze. Właścicielie ziemscy // Księga adresowa Polski (wraz z w. m. Gdańskiem) dla handlu, przemysłu, rzemiosł i rolnictwa. — Warszawa, 1928. — S. 2099.
14. Kurninki / Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. — T. IV. — Warszawa, 1883. — S. 925.
15. Laszuk, A. Zaścianki i królewszczyzny. Struktura własności ziemskiej w województwie podlaskim w drugiej połowie XVll wieku / A. Laszuk. — Warszawa: Wydawnictwo Instytutu Historii PAN, 1998. — 175 с.
16. Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka. — BF 21.08.17. — Рукапіс «Кніга метрык хросных парафіяльная царквы Іжанскай з 20.01.1770 — да 26.12.1778 г.».
17. Lietuvos valstybės istorijos archyvas (LVIA). — Ф. 525. — Воп. 8. — Спр. 309. — Люстрацыя Маркаўскага староства. 1798 г.
18. LVIA. Ф. 525. Воп. 8. Спр. 1039. — Інвентар часткі Маркаўскага староства, якая засталася ў Літоўскай губерні. 1798 г.
19. LVIA. Ф. 634. Воп. 4. Спр. 1. — Метрычныя кнігі грэка-каталіцкіх парафій Ашмянскага дэканата 1802–1826 гг.
20. LVIA. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 1557. — Люстрацыя Маркаўскага староства 1766 г. (копія 1798 г.).
21. LVIA. Ф. 11. Воп. 1. Спр. 1058. — Инвентари имений, староств, держав и деревень ВКЛ. Акт инвентаря Марковского староства. 1738 г. — f. 60–65.
22. LVIA. Ф. 11. Воп. 2. Спр. 132. — Інвентар Маркаўскага староства 11.08.1789 г.
23. LVIA. Ф. 1177. Воп. 1. Спр. 2918. — Тарыф падымнага падатку маёнткаў Залессе, Лучай, Маладэчна, Ганута. 1777 г.
24. LVIA. Ф. 1177. Воп. 1. Спр. 3053. — Інвентар уладання Ганута 1783 г.
25. LVIA. Ф. 1177. Воп. 1. Спр. 3252. — Інвентар уладання Ганута 1780 г.
26. LVIA. Ф. 1177. Воп. 1. Спр. 3254. — Інвентар уладання Ганута 1784 г.
27. LVIA. Ф. 1177. Воп. 1. Спр. 3262. — Інвентар уладання Ганута 1804 г.
28. LVIA. Ф. 1177. Воп. 1. Спр.3266. — Інвентар уладання Ганута 1814 г.
29. LVIA. Ф. 394. Воп. 6. Спр. 116. — Статистические сведения о имении Ганута с фольварками Заболоце, Рабиново и Храпачев Валенса Ржевуского. 27 июня 1847 г. — 96 арк.
30. LVIA. Ф. 515. Воп. 12. Спр. 810. — Акты люстрацыі павета Свянцянскага (Войстамская валасць).
31. LVIA. Ф. 515. Воп. 15. Спр. 219. — Рэвізскія сказкі Свірскага, Войстамскага і іншых парафій Завілейскага павета. 1811 г.
32. LVIA. Ф. 515. Воп. 15. Спр. 230. — Рэвізская сказка в. Субачы, якая дасталася па купчай крэпасці ад памешчыка Францішка Цывінскага Людвіцы Вазгірдавай. 1811 г. — Арк. 326 — 326 адв.
33. LVIA. Ф. 515. Воп. 15. Спр. 332. — Рэвізскія сказкі сялянаў маёнткаў на літары «А—Г». 1816 г.
34. LVIA. Ф. 515. Воп. 15. Спр. 437. — Рэвізская сказка. Вілейскі павет. Фальварак Субачы. Спіс дваранскі Клеменса Цішкевіча па закладным праве ад Людвікі Вазгірдавай. 1816 г. — Арк. 766.
35. LVIA. Ф. 515. Воп. 15. Спр. 51. — Рэвізскія сказкі Войстамскай парафіі Завілейскага павета. 1795 г.

36. LVIA. Ф. 515. Воп. 15. Спр. 639. — Рэвізскія і дадатковыя сказкі сялянаў маёнткаў на літары «Л—М» Завілейскайга, пазней Свянцянскага павета. 1834 г.
37. LVIA. Ф. 515. Воп. 15. Спр. 642. — Рэвізская сказка маёнтка Забалацце Валенса Лямберта Ржэвускага Завілейскага павета Віленскай губ. (засценак Іжа). 1850.
38. LVIA. Ф. 515. Воп. 15. Спр. 684. — Рэвізская сказка фальварка Субачы памешчыка Цішкевіча за 1834 г. — Арк. 294–296.
39. LVIA. Ф. 525. Воп. 2. Спр. 2847. — Геометрический инвентарь имения Войнялгово Свенцянского уезда. 1854 г. — 91 арк.
40. LVIA. Ф. 525. Воп. 2. Спр. 2860. — Подробный план имения Войнялгово Свенцянского уезда. 1850 г. Ч. III.
41. LVIA. Ф. 526. Воп. 3. Спр. 8645. — План в. Пукалы ў маёнтку Вайнялгава. 1869 г.
42. LVIA. Ф. 604. Воп. 1. Спр. 269. — Кніга візітацый грэка-ўніяцкай царквы ў Іжы 1754–1837 гг.
43. LVIA. Ф. 605. Воп. 18. Спр. 4. — Метрычныя кнігі праваслаўнай царквы ў м. Спягла, 1865.
44. LVIA. Ф. 634. Воп. 3. Спр. 21. — Перапіс насельніцтва Беркаўскага прыхода Ашмянскага павета. 26 траўня 1766 г.
45. LVIA. Ф. 634. Воп. 4. Спр. 1. — Метрычныя кнігі Іжанскай грэка-каталіцкай царквы 1812–1826 гг. — Арк. 278–388.
46. Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo wileńskie 1690 r. / oprac. A. Rachuba. — Warszawa, 1989. — 371 s.
47. Pietruski, O. Z. Elektorów Poczet kłórzy niegdyś głosowali na elektów Jana Kazimierza roku 1648, Jana III. roku 1674, Augusta II. roku 1697, i Stanisława Augusta roku 1764. — Lwów, 1845. — 447 s.
48. Pukały // Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. — Tom IX. — Warszawa, 1888. — S. 278.
49. Rymut, K. Nazwy miejscowe Polski: C–D / K. Rymut, B. Czopek-Kopciuch. — PAN, 1996. — 518 s.
50. Świderski, A. J. Dekanat świrski w 1784 r. w świetle opisów plebanów / A. J. Świderski. — Białystok, 2004. — 130 s.
51. Synodus Dioecesana Vilnensis: Ab Jllustrissimo, Excellentissimo ac Reverendissimo Domino D. M.J. Zienkowicz: Majestatis Academ: Soc: Jesu, 1744. — 194 p.
52. Голубеў, В. Ф. Аграрная рэформа Антонія Тызенгаўза на Беларусі ў другой палове XVIII ст. / В. Ф. Голубеў, І. Ф. Кітурка // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: вучэбна-метадычны зборнік. — Вып. 3. — Мінск, 2003. — С. 32–48.
53. Акты Виленской археографической комиссии: Инвентари старость, имений, фольварков и деревень за вторую половину XVIII века. — Том XXXV. — Вильна,1910. — 646 с.
54. Барыс, С. В. Нарачанка і яе берагі // С. В. Барыс, А. В. Рогач. — Мінск: Зміцер Колас, 2013. — С. 364. — 712 с.
55. Брэгер, Г. М. Архіў маёнткаў Падкрывічы і Усцінаўшчына са збораў Каверскіх у Бібліятэцы імя Гераніма Лапацінскага ў Любліне / Г. М. Брэгер // Архіварыус. — Мінск, 2014. — Вып. 12. — С. 5–14.
56. Грыгор'еў, М. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касцюшкі (1765–1794) // М. Грыгор'еў. [Каляровыя іл. А. Прыбылава., графіч. іл. М. Лазоўскага.] — Мінск: З. Салошкін, 1994. — 168 с.
57. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв. Владение Сморгонь / Центральный государственный исторический архив БССР в г. Минске. — Минск: Наука и техника, 1977. — 252 с.
58. Кісялёў, Г. Смак беларушчыны / Г. Кісялёў. — Мінск: Лімарыус, 2013. — 498 с.
59. Лісейчыкаў, Д. В. «З Напалеонам Бог, а Напалеон з намі!»: папулярнасць імя французскага імператара на землях былога Вялікага Княства Літоўскага ў XIX стагоддзі / Д. В. Лісейчыкаў // БГЧ. — 2019 — № 7. — С. 21–28.
60. НГАБ у Гародні. Ф. 1813. Воп. 1. Спр. 6. — Метрычныя кнігі Іжанскай царквы. 1867 г.
61. НГАБ у Гародні. Ф. 584. Воп. 1. Спр. 2115. — Кніга запісу актаў на ўвядзенне ў спадчыну і наноў набытыя маёнткі. 1853–1857 гг.
62. НГАБ у Гародні. Ф. 584. Воп. 1. Спр. 2131. — Кніга запісу купчых крэпасцяў (Вілейскі павятовы суд). 1857 г.
63. НГАБ у Гародні. Ф. 584. Воп. 1. Спр. 2296. — Аб уводзінах у спадчыну Франца Феліксавіча Цішкевіча пасля смерці памешчыка Калясанція Францавіча Цішкевіча. 1870 г.
64. НГАБ. КМФ-12. Воп. 1. Спр. 3033. — Інвентар Ганутры. 1674 г.
65. НГАБ. Ф. 319. Воп. 2. Спр. 3512. — Справа аб дваранскім паходжанні Шэмет-Палачанскіх, 1852 г. — 728 л.
66. Памяць: Вілейскі р-н: гіст.-дак. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / уклад. В. А. Коласава. — Мінск: Беларус. тэлеграф. агенцтва, 2003. — 702 с.
67. Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями, изданная Виленской Комиссией для разбора древних актов. — Ч. I. — Вильна: Типография А. Г. Сыркина, 1881. — 592 с.

68. Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. / Д Л. Похилевич. — Вильнюс, 1966. — 215 с.
69. Прахараў, А. Каменны шлях на нябёсы. Міфа-рытуальная семантыка пахавальнага знака з паўночнай Беларусі / А. Прахараў // Druvis. — Вып. 3. — Мінск, 2011. — С. 81–87.
70. Прохоров, А. А. О камнях у деревни Стебераки / А. А. Прохоров // Культурны ландшафт Вілейшчыны: матэрыялы Вілейскай рэгіянальнай навукова-практычнай канферэнцыі, 26–27 ліпеня 2003 г. — Мінск, 2004. — С. 108–116.
71. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (РДГА). Ф. 824. Воп. 2. Спр. 310. — Посемейный список прихожан Долгиновского деканата и Ошмянского повета 1765 г.
72. РДГА. Ф. 1350. Воп. 312. Спр. 89. — Дадатак да генеральнага межавання Вілейскага павета 1798 г.
73. РДГА. Ф. 823. Воп. 2. Спр. 46. — Метрычныя кнігі Іжанскай царквы 1787–1801 гг.
74. Лісейчыкаў, Д. В. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596–1839 гг. / Д. В. Лісейчыкаў. — Мінск: Беларусь, 2015. — 717 с.
75. Скурко, А. Царква, поўная трунаў: эпідэмія 1813 года пад Мядзелам / А.Скурко // Наша гісторыя. — 2020. — № 4. — С. 19–23.
76. Список волостей и сельских обществ по мировым участкам Виленской губернии 1874 г. — Вильна: Тип. А. Г. Сыркина, 1874. — 311 с.
77. Сцебурака, А. «Я, да жалю, не пан…» (Зямяне ўладання Ганута князёў Агінскіх) / А. Сцебурака // Вілейскі павет. Гісторыка-краязнаўчы гадавік. — Мінск, 2019. — С. 7–22.
78. Сцебурака, М. Субачы: прачытаў і паехаў / М. Сцебурака // Наша гісторыя. — 2020. — № 5. — С. 28.
79. Сцебяракі: вялікая гісторыя маленькай вёскі / І. Згрунда // RG. — 13 чэрвеня 2011. — Рэжым доступу: https://rh.by/ru/2011/06/13/stsebyaraki-vyalikaya-gistoryya-malenkaj-vyoski-shmat-fota/. — Дата доступу: 21.01.2022.
80. Уніяцкія цэрквы Вялікага Княства Літоўскага XVII ст.: матэрыялы генеральных візітацый / уклад. Д. В. Лісейчыкаў. — Мінск : НГАБ, 2021. — 320 с.



# Дадатак. Радавод





ВАСІЛЬ РЫГОРАВІЧ ШЧЭБЕРАКА (1781–1812?)
& АЛЕНА
МІКОЛА (1808–1878)
& ФРАНЦІШКА УЛАДЗІМІРАЎНА
(1811–1867)
ЮЗАФ-ЯН
(1805–1830)
ДАМІНІК-БАРЫС
(1812–?)
ГАННА-МАР'ЯНА
(1813–?)
ФЁКЛА (1846–?)
& ІВАН МАРКАВІЧ МІЦКЕВІЧ
з в. Будкі
ЛІЗАВЕТА (1848–?)
& МІКАЛАЙ ВАСІЛЕВІЧ ГАШКЕВІЧ
з в. Зарэчча
КАЦЯРЫНА
& АНТОН ІВАНАВІЧ ЯНЧЫК
з в. Малышак
АДЭЛЯ
& ШАСТАК ЛУКА МІКАЛАЕВІЧ
з в. Рагозіна
АГАТА (1832–?)
& ЗЯМКЕВІЧ СТАФАН
з м. Спяглы
АЛЕНА
ДАНІЛА*
(1840–1887)
МІКОЛА
КАСТУСЬ*




ДАНІЛА МІКАЛАЕВІЧ (1840–1887)
& ГАННА ЛЯВОНАВА
СЯРГЕЙ (святар)
ГЕОРГІЙ
(1934–1998)
ДАНІЛА (1869–1957)
& КАЦЯРЫНА ВОСІПАЎНА
ПЛОТНІКАВА (1870–1944)
АЛЕНА
(1892–?)
ПЕЛАГЕЯ
(1904–?)
МАРЫЯ
(1903–?)
ПАРАСКЕВА
(1898–?)
ПРАСКОЎЯ
& ЗАВАЦКІ ФРАНАК
ФАМА
(1865–?)
АНАСТАСІЯ
(1868–?)
КАЦЯРЫНА
АЛЯКСАНДР (святар),
забіты ў 1917 г.






# Змест

## Успаміны



## Гістарычны нарыс

**12+**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Сцебурака** Усевалад
**Сцебурака** Анатоль

# Сцебуракаў лёс

*Гісторыя роду*

Адказны за выпуск Г. Вінярскі
Рэдактар А. Спрытніч
Дызайн вокладкі В. Сцебурака
Вёрстка Л. Гарадзецкай
Карэктар А. Спрытніч

Падпісана да друку 17.03.2022. Фармат 60×84 1/16.
Друк лічбавы. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 17,73.
Ул.-выд. арк. 11,10. Наклад 250 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.